гандлі, вандроўках, сельскагаспадарчых працах, шлюбе. Тэматычныя луннікі былі прысвечаны адной ці некалькі тэмам. Часта ў іх вызначаліся добрыя і дрэнныя дні, прагназаваліся вынікі сну, лёс народжаных дзяцей[6]. Для ВКЛ тэндэнцыя была падобная. Тут мелі месца зборныя і тэматычныя спецыялізаваныя луннікі.

Гэты від крыніц адносяць да прагностыкаў разам з громнікамі, каляднікамі і іншымі тэкстамі[7]. Сапраўды, луннікі можна выкарыстоўваць для прагназавання, каб выбраць лепшы дзень для пачатку справы. Аднак больш паспяховым прагназаванне робіць яшчэ далучэнне метадаў электыўнай астралогіі. Гэта калі складаецца гараскоп, дзе ўлічваецца не толькі палажэнне Месяца, але і іншых планет.

*Характарыстыка лунніка*. Лунік зборнага характару ўтрымліваецца ў складзе рукапісу, які належаў Супрасльскаму Дабравешчанскаму манастыру. Сам рукапіс даўно ўжо вывучаецца ў гістарыяграфіі, але асноўным прадметам вывучэння быў твор „Арыстоцелевы варота" ці „Тайна тайных". Часта фігураваў у гістарыяграфіі як віленскі спіс ці зборнік[8].

Па палеаграфічных знаках рукапіс датуюць 60 гг. XVI ст., але па змесце даследчыкі адносяць да другой паловы XV ст.[9] Астралагічныя тэксты можна таксама аднесці да гэтага перыяду. У адным з тэкстаў згадваецца 1494 год як будучы год. Усяго ў складзе рукапісу 18 астралагічных тэкстаў, якія прысвечаны розным тэмам. Утрымліваецца два луннікі: спецыяльны і задыякальны. У дадзенай працы мы разглядаем толькі першы тып крыніц.

Пераклад тэкстаў, змешчаных у рукапісе звязваюць з дзейнасцю групы жыдоўскіх інтэлектуалаў у Кіеве ў другой палове XV ст.[10] Луннікі былі перакладзены з грэчаскай мовы. Яны ўтрымліваюцца ў складзе

6 L. S. Chardonnens, *Anglo-Saxon Prognostics*, p. 397, 399-400.

7 I. Taavitsainen, *Middle English Lunaries*, p. 23; L. S. Chardonnens, *Anglo-Saxon Prognostics*, p. 393.

8 А. Соболевский, *Переводная литература Московской Руси XIV-XVII веков: библиографические материалы*, Санкт-Петербург 1903, с. 419-423; М. Сперанский, *Из истории отреченных книг. IV: Аристотелевы врата, или Тайная тайных*, Москва — Санкт-Петербург 1908; W. Ryan, *The Old Russian Version of the Pseudo-Aristotelian „Secreta Secretorum"*, „The Slavonic and East European Review", 1978, no. 56 (2), p. 242-260; той жа, *The Onomantic Table in the Old Russian Secreta secretorum*, „The Slavonic and East European Review", 1971, vol. 49, no. 117, p. 603-606.

9 Н. Ивашина, Е. Руденко, *Манускрипт № 091/276К (Виленский сборник) из Национальной Библиотеки Беларуси*, „Latopisy Akademii Supraskiej", t. 7: *Dawna cyrylicka księga drukowana: twórcy i czytelnicy*, 2016, с. 71; О. Лицкевич, *Использование лунного календаря в ВКЛ*, „Беларуская даўніна", 2015, вып. 2, с. 116-121.

10 В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа и легенды*, т. 2: *К истории Лунника. Введение и славянские тексты. Дополнения к истории Громника и указатели к вып. 1 и 2*, Санкт-Петербург 1901, с. 44; W. Ryan, *The Old Russian*

астралагічных грэчаскіх твораў[11]. Пра гэта сведчыць нават змест. Напрыклад, згадваецца такая архаічная зява, неўласцівая на той час для ВКЛ, як рабства. У 10-ы дзень добра было купляць і прадаваць раба. Пра паходжанне з іншай кліматычнай зоны дае згадка пра вінаград у 5, 9, 10, 13 дні, калі было яго лепш садзіць і падразаць. Зразумела, што гэта было актуальна для цёплых краін, у тым ліку і для Візантыі. Сам пераклад быў зроблены не пазней 1483 г. Такі ж па змесце захаваўся луннік у складзе рукапісу „Книга зовомая приточник" (1483) з бібліятэкі Кіева-Міхайлаўскага манастыра. Яго тэкст быў надрукаваны[12], але сама крыніца страчана. Дата адпавядае меркаванню, што група працавала пры Міхаіле Алелькавічу, які быў пакараны за здраду ў 1481 г.[13] Адным з самых яркіх у групе перакладчыкаў быў Захарыя. Ён быў у складзе пасольства Міхаіла Алелькавіча ў Ноўгарадзе Вялікім у 1470-1471 гг. Гэта азначае, што пераклад мог быць зроблены ў перыяд 1470-1481 гг.

Аднак мог быць і другі шлях. Сярод кіеўскіх мітрапалітаў былі прыхільнікі астралогіі. Ісідар (1385/1390-1463) меў бібліятэку, у якой важную частку займалі кнігі філосафаў (Арыстоцеля, Сакрата, Платона і інш.), а таксама творы Пталамея, гараскопы, тлумачэнні аракулаў. Шырокіх поглядаў быў яго вучань Рыгор Балгарын[14]. У перакладах астралагічных твораў магло зацікавіцца духавенства.

*Version...*, p. 244; M. Taube, *The Kievan Jew Zacharia and the Astronomical Works of the Judaizers*, „Jews and Slavs", 1995, no. 3, p. 168-198; той жа, *The Fifteenth Century Ruthenian Translations from Hebrew and the Heresy of the Judaizers: Is There a Connection?*, [у:] *Speculum Slaviae Orientalis: Muscovy, Ruthenia and Lithuania in the Late Middle Ages*, Moscow 2005, p. 185-208; С. Темчин, *Схария и Скорина: Об источниках виленского ветхозаветного свода (F19-262)*, „Senoji Lietuvos literatūra", 2006, nr 21, p. 303-309.

11 *Catalogus codicum astrologorum graecorum*, vol. 3, Brussels 1901, p. 32-39; vol. 11, Brussels 1932, p. 157-162 (тут змешчаны луннік з характарыстыкай па днях, выкарыстаны імёны грэчаскіх багоў); I. L. Lydi, *Liber de ostensis et calendaria Graeca omnia*, Lipsiae 1897, p. 48-54; А. Пыпин, *Заметки по литературной археологии*, „Древности. Археологический вестник", 1867, с. 113-115; М. Андреева, *Политический и общественный элемент византийско-славянских гадательных книг*, „Byzantinaslavica", 1930, т. 2, с. 57; т. 3. 1931, с. 434; I. Ševčenko, *Remarks on the Diffusion of Byzantine Scientific and Pseudo-Scientific Literature amongthe Orthodox Slavs*, „The Slavonic and East European Review", 1981, vol. 59, no. 3, p. 321-345.

12 В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа*, с. 62-74.

13 A. Krupska, *Michał Olelkowicz*, „Polski Słownik Biograficzny", t. XXIII, Warszawa — Kraków — Wrocław — Gdańsk 1978, s. 745; K. Krupa, *Polityczne związki Giedyminowiczów z Nowogrodem Wielkim w latach 1430-1471*, „Przegląd Historyczny", 1993, nr 83/3, s. 289-306.

14 T. M. Manzano, *Astronomia, astrologia y literatura en la biblioteca del joven Isidoro de Kiev: a propysito del Escurialensis R I 14*, „Erytheia", 2015, vol. 36, p. 137-149.

Тэксты зборных луннікаў з Супрасля і Кіева вельмі падобныя, але апошні часам удакладняе тэкст першага. Звязана гэта з тым, што перапісаны ён быў амаль у той перыяд, калі паўстаў пераклад. Падобны па змесце луннік захаваўся ў рукапісах Троіцка-Сяргеевай лаўры[15], у зборніках з Кіева (XVIII ст.)[16], з Карэліі (XVII-XVIII стст., пачатак тэксту)[17].

Падобныя луннікі былі вядомы беларускім татарам. Яны ўтрымліваюцца ў складзе Хамаілаў XIX ст. Там адзначаліся дрэнныя і добрыя дні і гадзіны. Акрамя таго, уключаны луннік на 30 дзён, які мае шмат падабенства з луннікам, які мы аналізуем у артыкуле. Дні звязваюцца з Адамам, Евай і іншымі асобамі, але ўжо з ісламу. Таксама ёсць апісанне гадзін у адпаведнасці з планетамі[18]. На нашу думку гэтыя тэксты непасрэдна звязаны з тэкстамі, якія былі ўключаны ў супрасльскі рукапіс. Яны былі не толькі перапісаны, але і адаптаваны для татарскай грамады з улікам веравызнання. Даволі складана сказаць, калі гэта адбылося і ў якіх абставінах. Але гэта даволі цікавы факт пра распаўсюджанне тэкстаў. Аднак для Вялікага Княства Літоўскага гэта не выключная сітуацыя[19].

[15] Друкаваўся неаданаразова. Н. Тихонравов, *Памятники отреченной русской литературы*, т. II, Москва 1863, с. 388-395; *Космологические произведения в книжности Древней Руси*, ч. I: *Тексты геоцентрической традиции*, изд. подг. В. В. Мильков и С. М. Полянский, Санкт-Петербург 2008, с. 624-645; И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, Москва 2015, с. 569-588.

[16] В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа*, с. 125-129.

[17] Л. Харебова, *«Сокровенные» знания в рукописях из коллекции крестьян Корниловых*, „Кижский вестник. Петрозаводск", 2005, вып. 10, с. 149-153; В. М. Быкова, *Астролого-астрономические тексты в составе кижской рукописи КП-4183: проблемы текстологии,* [у:] *Актуальные проблемы развития музеев-заповедников: Тезисы докладов Всероссийской научно-практической конференции (Петрозаводск – Кижи, июнь 2006 г.)*, Петрозаводск 2006, с. 23-25; *Памятники книжной старины Русского Севера: коллекции рукописей XV-XX веков в государственных хранилищах Республики Карелия*, сост., отв.ред. и автор предисл. А. В. Пигин, Санкт-Петербург 2010, с. 342-345.

[18] M. M. Dziekan, *Czas święty i czas świecki w chamaile Aleksandrowicza: godziny i dni Niechsiowe?*, [у:] *Orientas Lietuvos Didžiosios Kunigaikštijos visuomenės tradicijoje: totoriai ir karaimai*, 2008, t. 6, p. 81-89; Г. Мишкинене, *Счастливые и несчастливые дни из хамаила Адама Радецкого (1888 г.)*, „Slavistica Vilnensis", 2017, nr 62, p. 97-115; I. А. Сынкова, *Каляндарна-астралагічныя тэксты з рукапіснай спадчыны беларускіх татараў*, [у:] *Берковские чтения — 2017. Книжная культура в контексте международных контактов. Материалы IV Международной научной конференции,* Минск 2017, с. 386-390 (выказваю Ірыне Сынковай шчырую падзяку за магчымасць карыстання артыкулам); Р. А. Симонов, *Календарно-астрологический текст белорусских татар в списке 1868 г. разъясняет некоторые славяно-русские магические традиции*, „Палеоросия. Древняя Русь во времени, в личностях, в идеях", 2017, вып. 8, с. 288-303.

[19] A. Shirin, *Oriental Borrowings in the Language of the Byelorussian Tatars*, „The Slavonic and East European Review", 1978, vol. 56, no. 2, p. 224-241.

Луннік мае назву „Луна же прояви бог изральтяном во пустыни пророком Моисеом, соблюдая их от всякого зла” [дадатак 1]. Ён дае характарыстыкі на 30 дзён. Параўнанне па змесце і структуры сведчыць пра яго блізкасць да так званага „Лунніка Давіда і Саламона”, але часам разыходзіцца ў дэталях. Назва Луннік Давіда і Саламона дадзена з манускрыпту VIII ст. (Codex Atheniensis 10). Трыяна Пабла датуе яго VI-VII стст. Мова тэксту — грэчаская. Луннік захаваўся ў розных спісах. Ён спалучае ў сябе язычніцкія і біблейскія традыцыі[20]. Першапачаткова ён быў звязаны з грэчаскімі багамі. Кожнаму дню Месяца адпавядаў грэчаскі бог: 7 дзень Апалона, 8 дзень Пасейдона, 24 дзень Марса і г.д. Пазней гэтыя дні былі адаптаваны да біблейскай гісторыі. Змест дзён застаўся, змянілася толькі назва. Кожны дзень адпавядаў біблейскай асобе ці сюжэту[21]. Такі ж Луннік быў вядомы ў сярэднявечнай Англіі. Там выяўлена пяць такіх тэкстаў. Іх змест падобны да таго, што меў месца ў ВКЛ. Ён утрымлівае на кожны дзень інфармацыю пра справы, якія трэба рабіць, хваробы, згубленыя рэчы, народжаных, пусканне крыві, сны[22]. Таксама мелі месца лацінскія пераклады. Сустракаецца назва адносна гэтага лунніка „Соннік прарока Данііла”[23]. Гэта сведчыць, што грэчаскія тэксты лунніка набылі шырокае распаўсюджанне ў розных краінах, а праз пераклады ўвайшлі ў культуру ВКЛ.

У большасці выпадкаў характарыстыка саміх дзён супадае ў розных тэкстах. Аднак, у нашым варыянце пададзена больш інфармацыі. Да таго ж яшчэ прыводзіцца часам інфармацыя пра гадзіны таго ці іншага дня. А гэта адсутнічае ў лунніку Давіда і Саламона. Улічваючы, што гэта перакладны твор, які неаднаразова перапісваўся, то літаральнага супадзення чакаць не прыходзіцца.

Па змесце спецыяльныя луннікі з біблейскімі сюжэтамі, хоць яны паходзяць з розных краін, але даволі падобныя. У іх закранаюцца тэмы сну, пушчання крыві, штодзённых спраў, выхавання дзяцей і інш. Інфармацыя па днях можа быць пададзена больш поўна ці скарочана.

[20] P. A. Torijano, *The Selenodromion of David and Solomon*, [у:] *Old Testament Pseudepigrapha: More Noncanonical Scriptures*, ed. R. Bauckham, J. Davila; A. Panayotov, vol. 1, Eerdmans 2013, p. 298-304.

[21] *Catalogus codicum astrologorum graecorum*, vol. 3, Brussels 1901, p. 32-40; vol. 11, Brussels 1932, p. 134-142; C. Franz, *Les présages lunaires de Virgile et les «Selenodromia»*, «LAntiquité Classique», 1933, t. 2, fasc. 2, p. 259-270; M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 11-13, 21-22; I. Taavitsainen, *Middle English Lunaries*, p. 93-96; P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 298-304.

[22] I. Taavitsainen, *Middle English Lunaries*, p. 97-101, 181, 196-223.

[23] M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 16-26, 138-143, 160-163.

Біблейская інфармацыя падаецца на самым пачатку. Пасля ідзе характарыстыка дня. Агульна адзначаецца які ён: добры, дрэнны, нейтральны і адпаведна даюцца рэкамендацыі, што трэба ці не трэба рабіць. Прагноз рабіўся на характар і лёс народжанага ў залежнасці ад полу, таксама вызначалася хада захворвання і сэнс сну.

Мы правялі параўнанне назваў дзён з тэксту з ВКЛ з іншымі вядомымі тэкстамі. Біблейскія сюжэты ідэнтычныя з тэкстам з Кіева-Міхайлаўскага манастыра[24]. З іншымі тэкстамі ёсць разыходжанне, што адзначана ў дужках побач. Біблейская гісторыя ў лунніку прадстаўлена наступным чынам: 1 дзень — створаны Адам, 2 — створана Ева, 3 — нарадзіўся Каін, 4 — нарадзіўся Авель, 5 — Каін здзейсніў грэх перад Богам, 6 — нарадзіліся Сіф і Няўрот (Німрод[25]), стралец і лавец, 7 — Каін забіў Авеля, 8 — нарадзіўся Махасаіль, 9 — нарадзіўся Ламех (Хам[26], Ной прынёс ахвяру Богу[27]), 10 — нарадзіўся Ной, 11 — нарадзіўся Сім, 12 — нарадзіўся Ламех (Хам[28]), 13 — нарадзіўся Лукавасій і Ной пасадзіў вінаград, 14 — Бог вывеў з турмы Іосіфа (нарадзіўся Ісак[29], Ной блаславіў Сіма[30]), 15 — Бог разбіў вежу (народы распаліся і атрымалі розныя мовы), 16 — Ной увайшоў у каўчэг (нарадзіўся Нахор[31]), 17 — Бог спаліў Садому і Гамору, 18 — нарадзіўся Ісаў, 19 — нарадзіўся Якаў (Якаў прывёў на ахвяру Ісака[32]), 20 — Ісак блаславіў Якава, 21 — прарок Самуіл блаславіў Саўла (Ісаў быў ушанаваны Ісакам[33]), 22 — нарадзіўся Іосіф, 23 — нарадзіўся Веніямін, 24 — нарадзіўся Фараон (Ісус Навін[34], Маісей[35]), 25 — Бог пакараў Егіпет

24 В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа*, с. 62-74.

25 У артыкуле дадзены пераклад лунніка на англійскую мову. Да кожнага біблейскага сюжэта змешчана спасылка на Біблію. P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 272.

26 Там жа, p. 273.

27 Там жа.

28 У лунніку два разы паўтараецца інфармацыя аб нараджэнні Ламеха — 9 і 12 дзень. У другім выпадку — памылка. И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, с. 576; C. Franz, *Les présages lunaires*, p. 263.

29 И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, с. 577.

30 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 273; C. Franz, *Les présages lunaires*, p. 263; M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 16.

31 И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, с. 578. P. A. Torijano, *The Selenodromion of David,* p. 273; C. Franz, *Les présages lunaires*, p. 263.

32 И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, с. 579; M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 17.

33 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 274; M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 17.

34 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 274; C. Franz, *Les présages lunaires*, p. 264.

35 M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 18.

(нарадзіўся Фараон[36]), 26 — Маісей раздзяліў мора жэзлам (Маісей нарадзіўся[37], жыды выйшлі з Егіпту[38]), 27 — Бог даў жыдам манну (жыды выйшлі з Егіпту[39]), 28 — прызваны Ісус Навін (Бог даў жыдам манну[40]), 29 — жыды прыйшлі на абетаваную зямлю (нарадзіўся Аўрам[41], нарадзіўся Самуіл[42]), 30 — нарадзіўся прарок Самуіл. Дні па назве лунніка ВКЛ супадаюць з назвамі дзён у іншых лунніках. Але ў розных тэкстах сустракаецца разыходжанне ў 9, 12, 14, 16, 19, 21, 23, 25, 26, 27, 28, 27 днях, што дадаткова пазначана ў спасылках.

Аналізуючы луннік з Кіева-Міхайлаўскага манастыра Уладзімір Перэтц вылучыў 47 даследчых пытанняў, на якія адказвае тэкст. Па сутнасці ён назваў усе тэмы, якія закраналіся ў лунніку[43]. Нямецкі даследчык Макс Фостэр вылучыў сем асноўных пытанняў да крыніцы: якія дзеянні добрыя ці дрэнныя ў пэўны дзень; ці будзе злоўлены збеглы; ці скрадзеныя або страчаныя рэчы вернуцца; якім будзе народжаны хлопчык ці дзяўчынка ў гэты дзень; ці вернецца да здароўя хворы; што азначае сон; ці добры дзень для пускання крыві? Іх прытрымлівалася пры даследаванні фінская даследчыца Ірма Таавіцайнен. Біблейскія матывы адносіць да дадатковага блоку[44]. Пытанні, якія ставілі да крыніцы замежныя даследчыкі, актуальныя і для лунніка з Супрасльскага манастыра.

Агульна ўсе дні падзяляюцца на добрыя (1, 2, 4, 6, 8, 9, 10, 11, 12, 14, 15, 16, 18, 19, 20, 22, 23, 26, 27, 28, 29, 30), дрэнныя (5, 7, 13, 17, 21, 24, 25) і небяспечныя (3). Акрамя таго, адзначаюцца дрэнныя гадзіны ў пэўным дні (1, 2, 3, 5, 8, 9, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 21, 23, 25, 26, 27, 28, 29). Гэтыя дні і гадзіны можна звязваць не толькі са спрыяннем ці не спрыяннем у побытавых справах, а таксама з магічнай практыкай і пусканнем крыві[45]. Добрыя дні для флебатаміі адзначаны толькі 1, 20. Зразумела, што за цыкл Месяца іх было значна болей. Перапісчык іх мог прапусціць ці інфармацыя пра іх была ўжо ўключана ў сам сэнс дня.

36 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 274; M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 18.
37 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 274.
38 M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 18.
39 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 275; M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 18.
40 P. A. Torijano, *The Selenodromion of David*, p. 275.
41 Там жа.
42 M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 19.
43 В. Н. Перетц, *Материалы к истории апокрифа*, с. 74-76.
44 M. Förster, *Vom Fortleben antiker Sammellunare*, p. 32-33; I. Taavitsainen, *Middle English Lunaries*, p. 97-110; L. S. Chardonnens, *Anglo-Saxon Prognostics*, p. 399-400.
45 L. S. Chardonnens, *The good and evill days*, p. 106-119.

Актуальнае было пытанне пра вяртанне страчанага. З ім часта прыходзілі да астролага. Для адказу на яго складалася спецыяльная харарная карта. Па ёй можа было адказаць ці знойдзецца рэч, або дзе яе шукаць. Луннік даваў магчымасць адказаць на пытанне ў залежнасці ад дня страты. Згубленыя рэчы ў 4, 6, 7, 9, 10, 13, 15, 23, 29 дні знойдуцца, а ў 12, 17 і 20 дні — страцяцца назаўсёды. Збеглы ў 1, 2, 3, 5, 6, 8 (з цяжкасцю), 9, 11, 14, 15, 18, 21, 26, 27, 28, 30 дні будзе вернуты, у 12, 13, 17 — не, а ў 7 і 29 дні — памрэ.

Адносна сноў былі вызначаны дні, калі яны здзяйсняюцца — 2, 3, 4, 10, 11, 13, 12 (калі дрэнны, то так і збудзецца), 14, 15, 17, 18, 20, 21, 22, 26, 27, 29; і не здзяйсняюцца — 7, 8, 9, 19, 24, 25, 28, 30; а невядомы вынік сну — 1, 23.

У кожны дзень падаваліся характарыстыкі адносна народжаных дзяцей. Пры чым асобна апісваліся хлопчыкі і дзяўчынкі. Адзначаліся не толькі рысы характару, але і далейшы лёс, хваробы, і нават знакі на целе. Напрыклад, народжаны ў другі дзень хлопчык будзе купец, плаваць па моры, разумным, са знакам на воку. Дзяўчынка таксама будзе вызначацца розумам.

Асноўная ўвага надавалася побытавым справам, як галоўнай сферы ўплыву Месяца. Зразумела, што прыведзены справы, якія былі актуальныя для таго часу. Змешчаны звесткі пра дні, з вызначэннем, што трэба ці не трэба рабіць. Наступнымі справамі было добра займацца: гандляваць (1, 8, 11, 16, 23, 27, 28), сеяць (1, 6, 8, 23, 27), садзіць (1, 4, 6, 8, 12, 23, 27), вучыць жывёлу[46] (1, 4, 10, 23, 29), кроіць штаны (1), ісці ў дарогу (1, 4, 12, 18, 19, 23, 30), па вадзе выпраўляцца ў дарогу (1, 4, 8, 10, 23, 28), шлюб браць (2, 4, 11, 13, 22, 23, 26, 27, 28), змовіць шлюб (18), віно пераліваць (2, 23), з асобамі пры ўладзе размаўляць (2, 9), зямлю купіць (2), будаваць (2, 4, 22, 29), вінаград саджаць (5), дзяцей аддаваць на вучобу (4, 8, 10, 16, 18, 22, 27, 28), зямлю араць (4), храм будаваць (4, 10, 11, 14, 23), ісці на вайну (6), лавіць рыбу (6), паляваць (6, 23), стрыгчы валасы (6), чысціць авечак і свіней (7), жывёлу купляць (8, 9), маліцца (9, 14), пазычаць (9), усе справы рабіць (10, 14, 19, 20, 22, 23, 27, 28, 29, 30), раба купіць і прадаць (10), у дом новы засяліцца (10), садзіць вінаград (10), рэзаць вінаград (12), жаць (10, 18), сеяць жыта (12), лячыць (14), даваць лекі (14), гліняны посуд рабіць (15), печы ставіць (15), палі паліць (15), паліць вапну (15), сёлы купляць (16), насенне купляць (18), калодзеж капаць (19), новую рэч апрануць (19), у полі працаваць (23), прымаць пасаду (24).

Былі дні, калі забаранялася садзіць сады (2), шлюб браць (3), коней часаць (4), лес рубіць (4), пачынаць справу (5, 13), дарыць (5), рабіць усе

[46] Маецца на ўвазе валоў прывучаць да ярма, коней пачынаць вучыць.

справы (7, 17, 21), стрыгчыся (7), гандляваць (3, 7, 12, 21), ісці ў дарогу (7, 17), саджаць (7, 16), па вадзе выпраўляцца ў дарогу (19), лячыць (21), новае адзенне апранаць (21), свіней і авечак чысціць (21). Добры для ўсяго злога быў 21 дзень. У некаторыях днях трэба было праяўляць асцярожнасць: пільнавацца крадзяжу (5), усяго берагчыся (7), пільнавацца зла (17). Праклён рэдка здзяйсняўся ў 1 дзень, а выступленне ў якасці ілжэсведкі сканчвалася супраць чалавека ў 24, 25 дні.

У лунніках шмат увагі надавалася штодзённым справам. Яны для звычайных людзей самыя актуальныя. Усім хочацца добрага ўраджаю, спрыяння ў гандлі, дарозе і іншых справах. Для людзей важна, каб гэта не займала шмат часу і не патрабавала звыш намаганняў. Жыццё звычайных людзей было прасякнута штодзённасцю. Шмат часу ішло на забеспячэнне жыццядзейнасці. Напрыклад, неўраджай ствараў пагрозу для жыцця. Выправа ў дарогу таксама прыносіла шмат небяспечных сітуацый. Не было абароны перад крадзяжом, рабаваннем, забойствам. Таму запатрабаванасць у такіх творах была. Яны давалі адносную ўпэўненасць.

Праўдзівасць змешчанай у лунніку інфармацыі спраўджвалася праз практыку і назіранні. Варта адзначыць, што рознага тыпу луннікі не страцілі сваю актуальнасць у сучаснай астралогіі. Але цяпер яны пабудаваны на іншых прынцыпах, а таксама з улікам асаблівасцей сучаснага грамадства. У іх улічваюцца фазы Месяца, дні Гекаты, сатанінскія дні[47].

*Высновы*. У Вялікім Княстве Літоўскім мелі распаўсюджанасць луннікі рознага тыпу, у тым ліку луннікі спецыяльнага тыпу тэматычнага і зборнага характару. Шырокае распаўсюджанне атрымаў луннік, перакладзены з грэчаскай мовы. Ён уваходзіць у групу 18 астралагічных тэкстаў, якія былі спецыяльна перакладзены. Тэкст з'яўляецца сведчаннем, што Вялікае Княства Літоўскае было ўключана ў тагачасныя працэсы па распаўсюджанні астралагічных ведаў і культурнай спадчыны Візантыйскай Імперыі. Для вывучэння перакладных тэкстаў ВКЛ гэта мае вялікую цікавасць. Таксама сведчыць пра вялікі абшар распаўсюджання гэтага тэксту лунніка: ад Англіі да ВКЛ.

Варта адзначыць, што луннікі карысталіся вялікай папулярнасцю. Тэксты выкарыстоўваліся для штодзённых спраў як астролагамі, так і аматарамі. Людзям заўсёды хацелася мець нейкую пэўнасць у жыцці, прадбачыць падзеі. Таму луннік меў практычнае значэнне, што прыцягвае да яго цікавасць.

[47] Гл. напрыклад: П. П. Глоба, *Лунная астрология*, Москва 1996.

## Дадатак 1. Луннік спецыяльны, другая палова XV ст.

Тэкст напісаны на старабеларускай мове. Пры транслітарацыі ў аснову пакладзены прынцып палітарнай іх перадачы. Разам з тым тэксты адаптаваныя сучасным алфавітам. Графічнае абазначэнне літар, што выйшлі з ужытку, замененае сучасным. Тэкст падзелены на словы і сказы, цітлы раскрытыя, вынасныя літары і склады ўстаўленыя ў радок і пададзеныя курсівам. Прапушчаныя літары ў словах пад цітламі адноўлены з улікам асаблівасцей правапісу старабеларускай мовы і заключаныя ў круглыя дужкі. У квадратных дужках змешчаны прапушчаныя перапісчыкам словы, адноўлены па тэксце з Кіева-Міхайлаўскага манастыра. Знакі прыпынку расстаўлены ў адпаведнасці з сучаснымі правіламі пунктуацыі. Тэкст падзелены на абзацы. У арыгінале загалоўкі тэкстаў, першыя літары, некаторыя знакі прыпынку напісаны чырвоным колерам, што вылучана тлустым шрыфтам. Надпісы на палях пазначаны ў спасылках. Друкуецца на падставе рукапісу: НББ № 091/276К.

[83 адв.]

**Лоуна же прояви Б(о)гъ изр(а)льтяно*м* во поустыни пр*о*р*о*ко*м* Моисео*м* соблюдая и*х* о*т* всякого зла. В**ъ 1 д(е)нь лоуны Ада*м* сотворенъ бы*с* Б(о)го*м* то*т* д(е)нь добръ и строенъ на все дело купити продати, и по воде плавати, и сеятву начинати, и са*ди*ти, и волы оучити, и на пря излазить, и порты кроити, и на поуть хо*ди*ти. Оухо*д* скоро обрящется погибшее. Недужныи з*д*равъ будуть. Боль скоро исцелееть. Аще ро*ди*тся моужескъ по*л* весело будеть и размяренъ всему, м(у)*д*ръ книжникъ и *до*лго

[84]

поживеть. Тако же и женескъ по*л*. Аще ро*ди*тся ч(и)*с*та, Б(о)гу бл(а)говерна и бл(а)годатна, моужу своему оуго*д*на яко взаи*м* дающи*м* Б(о)гу на д(у)ши своеи по[ко]ина будоу наложи спяще во оусте*х* и маеть м(у)дрость. И в сонме бядоу покоиница. А егда со*н* видить в ра*до*сть еи боудеть. Дани злое ре*д*ко збудется. Аще со*н* види*т*ь неизвестенъ. Ест болному стра*х* см(е)рти до 3 дни. Аще минеть во 1 д(е)нь исцелееть. До 9 часа кро*в* пущати. 1 ча*с* зо*л*.

**2** д(е)нь Лоуны. Ега*д* соз*д*ана бы*с* Евга о*т* ребра Адамова. То*т* д(е)нь добр на все начало брако*м* творити, хотящи*м* женитися и вино переливати, съ болшими бесе*до*вами и землю купити и семью, и *до*мы строити. Оухо*д* обрящется. А в маренъ д(е)нь со*до*въ не са*ди*ти. Аще ро*ди*тся моужескии по*л* кяпець будеть, по воде плавати, м(у)дръ будеть и разуменъ, знамя буде*т* на оце. Тако же и женескъ по*л* по томоу*ж* оучению. Ега*д* спить скоро оубу*ди*тся. Несонливь будеть. Сонъ аще ви*ди*тся не збутеся еи. А разболится боятися см(е)рти до 40 дни. Аще

минеть исцелиеть тя*ж*ко болевъ. Со*н* аще кто ви*ди*ть сбядется ему. Ча*с* ве зли 1, 2, 7.

**В**ъ 3 д(е)нь Лоуны Каинъ ро*ди*тся. То*т* д(е)нь опасливъ осуженя ра*ди* Каинова, блистися о*т* всего, ельма кля*т* е*ст,* да ни кяпити, ни продати, ни сеяти. Оухо*д* не обрящится. Аще сватба сотворися скоро разыится. Аще ро*ди*тся злоногъ будеть и худъвеклятвенъ и гневли*в*, ротни*к* бядеть и тя*ж*би*т*, м(у)дрьбоуи, хитръ всими делы

[84 адв.]

и рече*м* злы*м* поругаяся, огра*д* творити начне*т* и скупасти, и скупъ бядеть. Аще что оукрадеть нетвордо сия много напасти притерпить даря*д*ки. Старости доидеть не*до*бре оумреть. А кони теребити, гла*д*цы и быстры, а и стерпивыи. Тако же и женескъ по*л* дерза многи*м* люде*м* ходити начнеть и не будеть изменяющеся. Са*до*въ не творити. Сонъ збудеться явно. Аще разболится не исцелееть. 5 ча*с* зо*л*.

**В**ъ 4 д(е)нь Лоуны Авель родися. То*т* д(е)нь добръ на все земля арати и на пять хо*ди*ти, са*ди*ти и по вода плавати и куплю творити, до*м* ставити, хра*м* основати, на прю излазити, дети на оученїе давати, кони оучити и женити и дати. Разболевся 28 днїи лежить и исцелееть. Аще в болезнь леже оумр*е*ть или о два оустрабится. Тако женескъ по*л*. В тои же чинъ сонъ ви*ди*ть любо добръ любо ли*х* сбудется в то*м* дни. Аще в то*т* д(е)нь кленется не бядеть ему тоуне, а о*т* оутра до поудни сечи ле*с* и кони теребити, шерьсть мала, а неполохливы, а исходятся борзо, а потокъ не бываеть.

**В**ъ 5 д(е)нь Лоуны Каинъ принеся ж(е)ртву неправо Б(о)гови. То*т* д(е)нь зо*л*. Варове блюстися. Зачинати всего дела муже*м* разве и жонъ, оставляти добро, ни творити ничтоже, ни приносити дара никомуже, а винограды са*ди*ти, го*д* растоучь, а не червенъ. Добра ячмень сеяти, свиньи бити. Погибшее все обращется.

[85]

А ро*ди*тся моужескъ по*л* болно буде*т* и присяжни*к* и клятвепреступникъ тать. Аще коли жо*д*не оубежи*т* и свяжеться возратится п[о] 5 ле*т* нидобре оумр(е)ть аще не обратится о*т* злы*х* де*л*. Тое и женескъ по*л* горкою см(е)ртию оумреть за нетворите и злая дела. Тако же и с(о)н вемя те*ж* не боудеть. Аще кто разболится также болевъ исцелееть. А ча*с* ве 1, 3 злый.

**В**ъ 6 д(е)нь Лоу*ны* Сифъ ро*ди*тся и Невро*т* ро*ди*тся, стреле*ц* ро*ди*тся и ловець. В то*м* дни добро на воину поити и ловити рыбы и зверь стреляти и животиня всяку заклати, сеятва начинати и са*ди*ти, власы стрычи, тонки и кудрявы выростять. Погибе обрящется. Бра*к* творити, токмо свадбы не творити. Оухо*д* не оуидеть. Аще ро*ди*тся моужескъ по*л* разбоиникъ будеть и быстръ веле м(у)дръ. Тако бо не обрящется в не*м*.

Аще спить легко востанеть. Яко мине*т* 9 ле*т* крепо*к* будеть. Знамя има*т* на деснои руце. Тако женескъ по*л* чиста мяжоу своему годна во вси*х* деле*х* добры*х*. Аще разболится въ 7 д(е)нь исцелеть. 1 ча*с* зо*л*.

**В**ъ 7 д(е)нь Лоуны Каинъ оуби Авеля брата своего. То*т* д(е)нь блюстися всего не делати нистоже на пя*т* не ити, купля не сотворити. Погибшее обрящется. Главы своея не стрыжи. Са*ди*ти не *до*бро. А иже оуидеть оумреть. А ро*ди*тся моужескии по*л* варовить боуде*т*, памятливъ, книжникъ будеть, реснетивъ, приязнивъ, о*т* татбы погыбнеть, о*т* всякїя злобы оубежить. Знамяимыи на лицы такое

[85 адв.]

женескъ по*л* бл(а)говетоуюши во сонме моужу своему угодна. Знамя на деснои руце и на перся*х* на левои стране. Болезнена бядеть но о*т* болести исцелееть. С(о)нь не избываются. Начну*т* има вепри и овны чистити. 1 ча*с* зо*л,* а д(е)нь весь добръ.

**В**ъ 8 д(е)нь Ляны Махасаиль ро*ди*тся. То*т* д(е)нь добръ на все. Купити и продати, по воде плавати, в село похо*ди*ти, дворы ставити и строити. Иже оуидеть со многи*м* трудом обрящется. Малманы купити и четверножину купити, сеяти и са*ди*ти, и дети на оученїе давати. Разболевиися аще 15 днии. Иже не востанеть то оумреть. Аще ро*ди*тся моужескъ по*л* знае*м* бядет всеми. Семя бо на земли сеяти пачнеть. А плечи[48] оумножится ему. Многаж*ды* [в воде] оутопати имаеть знамя на деснои руце има*т*. Тако женескъ по*л* знамяимыи и в сонме*х* о десную пр(е)*с*ное и на велику по*л* зябоуде*т*. В ревность хо*ди*ти начнеть. Но о едином мужине скончается дни свои*х*. Созвестна будеть Б(о)гоу поручна. Со*н* илжа е*ст*. 6 ча*с* зо*л,* а д(е)нь весь добръ.

**В**о 9 д(е)нь Ляны Ламе*х* ро*ди*тся. То*т* д(е)нь добръ на все дело. М(о)литва творити, ко властителем прихо*ди*ти, взае*м* давати. Добро погибшее обрящется. Четверножине куопи. Оуход связанъ будет и приведенъ. Разболешися исцелееть. Аще ро*ди*тся моужескъ по*л* ветрогра*д* твороти начнеть, сады сада, спявая во всяко*м* деле добре до 8 ле*т*. Знамяимыи деснои руде и до 30 ле*т* пребяде*т* и разбогатеть

[86]

и скоро исцелевати начнеть. Тако женескъ по*л* хитра боудеть хоу*до*жество имущи, дающи на ползоу чистоу. Знамя имущина на руце има*т*. На части с(ы)ны веселие имуще. Сонъ аще ви*ди*ть хоудое и буде*т*. По*л* дни ча*с* зо*л*.

**В**ъ 10 д(е)нь Лоуны Нои родиться. То*т* д(е)нь добръ на все делати. Раба купити и продати, ско*т* оучити, дети на оученїе давати, виногра*д*

[48] Так у тэксце. Павінна быць — пчелы.

са*ди*ти, жатва творити, в до*м* новъ вселитися, хра*м* сотвори. Аще ро*ди*тся моужескъ по*л* долго живеть и бл(а)гопотребно да будеть добра но негоду и в силоуа во оусти. Такои женескъ по*л* добратворящи и весела на свете се*м*. Аще бяде*т* в недузе скоро исцелеть. А н*и*де кажеть оумре*т*. Сонъ аще кто види*т* въ 10 д(е)нь збудется. Погибшее обрящется. Весь д(е)нь добръ.

**В**о 11 д(е)нь Лоуны Си*м* родится. То*т* д(е)нь добръ по воде плавати и женитися, купити и продати, и храмы основати, и оухо*д* обрящется. Аще родится бл(а)го потребно оумно буде*т* и причесно, возрение*м*, студение*м* и м(у)дрѣ буде*т,* небедно скормить и *до*бре творить вопрошая, са*ди*ти начне*т* бчелы оумножится ему, пото*м* всякоу творити целбу начнеть. Тако и женьскїи по*л* моудра бядеть и чиста. Знамяимыи на лицы и на персе*х*. В недузе лежить и в веселии востанеть. Не*до*бре оумреть. Аще кто сонъ видить и 4 дне*х* збядется. А разболится не востанет 15 днии то оумреть. Весь д(е)нь добръ.

**В**ъ 12 д(е)нь Лоуны Ламе*х* ро*ди*тся о*т* него же работа бы*с* того дни ничто же куповати ни продати. А жито

[86 адв.]

сеяти, виногра*д* резати, на поу*т* поити, начинати са*ди*ти. Аще хто розболится то*м* дни, тои оудеть и не обрящется. А разболевыися аще до 15 дни не востанеть то скончется. Погибшее не обрящется. Аще ро*ди*тся злообразно бядеть приязни во всяко дело бл(а)готворити по*д*виженъ бяде, женоу приведеть. Знямя на деснои руце имать. Тако*и* женескъ по*л* знямя на *персех* имае*т*, добрю жизнию живе*т*. Егда болить скоро востане*т*. Аще минеть 15 днии любо живеть або оумре*т*. А хто со*н* видеть лжа е*ст*. Ве*с* д(е)нь добръ.

**В**ъ 13 д(е)нь Лоуны Лукавасии родися и виногра*д* насаженъ бы*с* Ноевъ. То*т* д(е)нь добръ творити не все, а не начинати никоегоже дела. Погибшее обрящется. Бра*к* творити. Оужникъ решится. Аще розболится до 18 дни боятис*.* Аще пр*е*иде*т* то востанет боль. Аще ро*ди*тся пъаница бядеть и м(у)дръ, смышле*н*, говорливъ и гордъ. Собе е*ди*ному оугожая во вси*х* рече*х* пагуба. Насле*ди* его да ни с прїятели сходится начнет. Тако и женескъ по*л* знаменоуется на м(у)дрость клеветную и гордость. Болети начнеть скоро востанеть. И тако со многою злобою безаконновъше со многими муже тело*м*. Аще разболится боятися смерти 14 дни. Аще мине*т* 18 дни исцелееть. Сонъ ча*с* за 10 дни збудется. 8 ча*с* зо*л*.

**В**ъ 14 д(е)нь Лоуны Б(о)г изведе Иосифа ис темници. То*т* д(е)нь м(о)л(и)тва творити и все дело делати, храмы ставити и

[87]

вра чеватися, ко властелем приходити, былие пити. Погибшее обрящется. Оуход скоро на пути имать. Разболевиися до 15 дни не стравиться то оумреть. Аще родится добръ нарочитъ купець, добыти имать добра, дерзъ, гордъ, самъ собе оугожая. Знамя имать окр(о)стъ носа. Скоро оумреть. Тако женескъ пол знамена есть в руце б(о)гата суща и тою злобою мужеи много возлюбити. Скоро оумр(е)ть. Аще сон хто видить въ 2 д(е)нь збядется. От 6 год(и)ня зол.

**В**ъ 15 д(е)нь Лоуны Б(о)г презре на зижющая столпъ. В том дни глиньныи сосуды творити, пещы ставити, тернїе палити, павиноу жещи, поля зажигати. Оуход обрящется. Иже зболится аще не востянет 16 днї и то оумреть. Изгибшее обрящется. Аще родится женескъ пол па гоубою знаменоуется и страны бл(а)годатныи и гостелюбець боудеть, но грехолюбець от железа и от воды. Тако и женескъ пол во истине начнеть ходити, чиста и мужоу оугодна. Носильна болить за 3 дни оумреть. Сна добра не видети еи. Аще сон видится збоудется еи. От 6 часа д(е)нь золъ.

**В**ъ 16 д(е)нь Лоуны Нои влезе в ковчегъ. Того дни и кяпити и продати, и неоуки оучити, села кяпити, оуход свяжется, а не садити. Аще родится ротникъ будеть, а гостебникъ, на лици знамя имать. Тако и жена всим люта ест. Знамянае деснои стране имат и болети имаеть. За 3 дни оумрет. Сон помедлевши збядется. А разболевшися

[87 адв.]

до 15 днеи востанеть. Смерти страх. 8 час зол.

**В**ъ 17 д(е)нь Лоуны Содом и Гоморъ запали Б(о)гъ. Того дни блюстися всего зла. Ни прязне на дела. На пят не ити. Погиблее не обрящется. Оуход оубегнеть. Аще родится приязнивъ бядеть не нездравъ принедруженъ и на все моудръ, книжник, риснотивъ, дерзъ, пагубя неследить. Тако и женескъ пол словеса оученїя во всих речех полезна ч(и)тас и б(о)гата и полезна бядет. Аще кто сон видить дни 8 збядется. До 6 час д(е)нь зол.

**В**ъ 18 д(е)нь Лоуны Исавъ родится. В тот день добро все делати и на жатвя ити, на брак свещатися, семи купити, и на пят ходити, по воде и по сухоу. Оуход обрящется. Детина на оучение давати. Аще родится храберъ бядет и речитсь и гордъ бядет. Разболевыися долго болить. Тако и жена слоужити имать во ч(е)сти и потомлячши и в в(е)ки носильна бядет. Бо(л)яще скоро исцееть. Аще кто сон видить в том дни збядется. До 6 часа день зол.

**В**ъ 19 д(е)нь Лоуны Яковъ родится. Того дни все добро творити на поут ити, и в новоую ризу облачится, а по воде не плавати. Кладези, источници копати добра. Аще родится м(у)дръ и добръ бядеть, известенъ, добро творя м(у)дреная в сонмех назнаменоуется речми

добрыми. Такои женескъ по*л* о*т*роки имети начнеть но о едино*м* муже нескончаеть днеи свои*х* и болезнена будеть, но балованием оустрабится. Оже разболится скоро исцелееть. Аще кто со*н* видить лжа е*ст*. До 6 часа

[88]

зо*л* д(е)нь.

**В**ъ 20 д(е)нь Лоуны Исакъ и Иякова бл(а)*с*(ла)ви. Сии д(е)нь бл(а)гъ на все дело. Оухо*д* на оно*м* месте оу жернова стареется. Погибшее не обрящется. Аще ро*ди*тся м(у)дръ боудеть но делы всими безуме*н*. Такои женескъ по*л* мужлюбица боудеть, болезна бядеть и оустраблятися начнеть. А хто разболится аще до 15 днеи не востанеть то миноу*т* 15 днии исцелееть. А хто со*н* ви*ди*ть по*д*ливо збядится. [А кро*в*] весь д(е)нь [пущаи].

**В**ъ 21 д(е)нь Лоуны Саоу*л* бл(а)*с*(ла)вен бы*с* Самоило*м* пророко*м*. Тот д(е)нь ничему же на потребя, но по*до*бенъ на все оурудїе злое. Ни кяпити, ни продати, ни врачеватися, ни в новя ризу облачитися, вепр и овны чистити. Оухо*д* обрящется. Аще разболится силно болит, но исцелееть, а инде каже*т* оумре*т*. Аще ро*ди*тся злоногъ, глоу*х*, свепъ бядеть. Знамя на зеницы бядеть. Но м(и)л(о)*с*тивъ и раз*у*менъ, добро творя всякому но силно ему бяде*т*. Ни на пользу дело но на оружие. Аще даеть не въсприиметь а вотме скоро обрящется. Ни женится в то*т* д(е)нь. Тако и жена ч(и)*с*та будеть и вселюбящи о е*ди*но*м* мужи скончаются, но осекливъ и вре*до*очива. Знамя има*т* за шиею или на персе*х* или на колене шяе*м*. То тя*ж*кое и бядеть. Коли болети начнеть, но борзо востанеть или скоро оумре*т*. А хто ви*ди*ть сонъ яве збузбядеться[49]. До 10 ча*с* д(е)нь зо*л*.

**В**ъ 22 д(е)нь Лоуны Иоси*ф* ро*ди*тся. То*т* д(е)нь добръ на все. Отро*к* на оученїе давати, сва*д*бы творити, домы строити, все делати. Аще ро*ди*тся много летъ нъ поживеть. Последи [88 адв.]

во великои ч(е)*с*ти бядеть. А жана оубога будеть. Болети начнеть скоро исцелееть. Разболится 16 днеи лежавъ исцелееть. А хто ви*ди*ть сонъ яве збудеться. Ве*с* д(е)нь добръ.

**В**о 23 д(е)нь Лоуны Веньямин ро*ди*тся. То*т* д(е)нь добръ на все. Орудїе, сва*д*бы творити и все делати, да бядеть жители сеяти и древо са*ди*ти, храмы основати, вино п*е*реливати и прочее творити, на нива*х* делати, ло*в*це*м* ловити, по воде плавати, о*т*хо*ди*ти, кяплю творити, волы оучити. Погибе обрящется. Оухо*д* имоу*т*. Аще розболится скоро оумреть. Аще ро*ди*тся м(у)*д*ръ буде*т*, полкоу бядеть волитель. Тако и жена м(у)*д*ра бядеть. Егда болети начнеть востанеть или скоро оумреть. Сонъ неизвестенъ. А до 3 ча*с* д(е)нь зо*л*.

[49] Так у тэксце.

**В**ъ 24 д(е)нь Лоуны Фарао*н* ро*ди*тся. Того дни добро ти в великїи санъ и ино*г*(о) дела блюстися все*г*(о). Иже оубежить от железа оумре*т* или со притчами обрящется. Аще кленется оу великою беду оупаде*т*. Аще ро*ди*тся лове*ц* и стрелецъ боудеть. Тако и жена до*б*ра бядеть, сонълива боудеть и ляже*т* как оумре*т*. А разболевшемуся см(е)рти до 21 д(е)нь. Аще минеть исцелееть. Сонъ илжа е*ст*. Д(е)нь всего зо*л*.

**В**ъ 25 д(е)нь Ляны Б(о)гъ пясти на Египе*т* казнь 12. То*т* д(е)нь страшенъ е*ст* и нестроенъ. Аще вонь кленется то*т* д(е)нь погибнеть сновебеднїи. Аще разболится тя*ж*ко боли*т* исцелеет. А иже ро*ди*тся скупъ бядет а храбръ, вознесется имя его въ бране*х* има*т* хо*ди*ти 25 ле*т*. [89] Тако и женескъ по*л* скяпо будеть. Ега*д* разболится пе тре*х* дне*х* явится помощь. Сонъ 9 д(е)нь збоудится. До 3 ча*с* д(е)нь зо*л*.

**В**ъ 26 д(е)нь Лоуны Моисеи роздели море жезломъ. Тотъ д(е)нь добръ свадбы творити. А иже и згубется на мокре месце обрящется. Сновево*до*ю обличаются. Аще ро*ди*тся бл(а)го живе*т*. Паметливъ бядеть, но болети има*т* водны*м* недуго*м* трудо*м*. Тако и жена. В то*т* чинъ слягоуще скоро оумреть. Оухо*д* обрящутся. Со*н* за 3 дни збядется. Разболевыися исцелееть. До 9го часа д(е)нь зо*л*.

**В**ъ 27 д(е)нь Лоуны Б(о)гъ пясти *жидом* манноу. В то*м* дни добро купити и продати и вся дела делати, и свадбы творити, сеяти и са*ди*ти, и де*ди*на на оученїе давати. Аще идеть изгоубится со прею обрящется. Древа са*ди*ти. Аще ро*ди*тся многолетенъ поживеть в добре. Та*к* и жена м(у)*д*ра бядеть и болна оустробится. А разболевшему стра*х* см(е) рти за 3 дни пото*м* исцелееть. Сонъ избоудется. О*т* 6 часа д(е)нь зо*л*.

**В**ъ 28 д(е)нь Лоуны грездновье [принесоша жидове стражие] ко Исоу*с* На*в*гину. То*т* д(е)нь добръ на все дело. Женитися, кяпити и продати, и дети на оученїе давати, оубо делоу и воды плавати. Оухо*д* обрящется. Аще разболится стра*х* см(е)рти за 9 днеи и пото*м* исцелееть. Аще ро*ди*тся многолетенъ будеть, добръ, нарочитъ и силенъ во вси*х* деле*х* и рече*х*. Токо и жены в тои же чинъ м(у)*д*ра бядеть. А сонъ несвершенъ. До 3 часа д(е)нь зо*л*.

**В**ъ 29 д(е)нь Лоуны *жидо*ве приидоша на землю обетованноую
[89 адв.]
То*т* д(е)нь добръ на все. Кони оучити и волы, домы строити. Оухо*д* на поути оумреть. Погибшее обрящется. Аще ро*ди*тся моужескъ полъ добръ будеть, паметливъ. Тако и жена м(у)*д*ра боуде*т* б(о)гата. Со*н* скоро збоудется. Разболевыися исцелееть. Снове добры. До 3го часа д(е)нь зо*л*.

**В**о 30 д(е)нь Лоуны Самои*л* [пророкъ] ро*ди*тся. То*т* д(е)нь добръ на все дело. На поу*т* ити. А разболится стра*х* см(е)рти до 15 днии. Ащеи преидеть исцелееть. А ро*ди*тся моуж добръ боуде*т* и бл(а)годатенъ. Тако и женескъ полъ кротка будеть, болести *ж* иметь, силна, но живъ

бядеть. Сонъ по 3 дни збоудется. Оухо*д* обрящется. Аще кто сонъ ви*ди*ть то лжа е*ст*, а не истинна.

**Літаратура**

Андреева М., *Политические и общественные элементы византийско-славянских гадательных книг*, „Byzantinaslavica”, 1930, т. 2, с. 47-73, 395-415; 1931, т. 3, с. 430-461; 1932.

Быкова В. М., *Астролого-астрономические тексты в составе кижской рукописи КП-4183: проблемы текстологии*, [у:] *Актуальные проблемы развития музеев-заповедников: Тезисы докладов Всероссийской научно-практической конференции (Петрозаводск — Кижи, июнь 2006 г.)*, Петрозаводск 2006, с. 23-25.

Глоба П. П., *Лунная астрология*, Москва 1996.

Ивашина Н., Руденко Е., *Манускрипт № 091/276К (Виленский сборник) из Национальной Библиотеки Беларуси*, „Latopisy Akademii Supraskiej”, t. 7: *Dawna cyrylicka księga drukowana: twórcy i czytelnicy*, 2016, с. 63-73.

*Космологические произведения в книжности Древней Руси*, ч. I: *Тексты геоцентрической традиции*, изд. подг. В. В. Мильков и С. М. Полянский, Санкт-Петербург 2008.

Лицкевич О., *Использование лунного календаря в ВКЛ*, „Беларуская даўніна”, 2015, вып. 2, с. 98-127.

Мишкинене Г., *Счастливые и несчастливые дни из хамаила Адама Радецкого (1888 г.)*, „Slavistica Vilnensis”, 2017, nr 62, p. 97-115.

Навукова-даследчы аддзел кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, НББ № 091/276К.

*Памятники книжной старины Русского Севера: коллекции рукописей XV-XX веков в государственных хранилищах Республики Карелия*, сост., отв. ред. и автор предисл. А. В. Пигин, Санкт-Петербург 2010, с. 342-345.

В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа и легенды*, т. 2: *К истории Лунника. Введение и славянские тексты. Дополнения к истории Громника и указатели к вып. 1 и 2*, Санкт-Петербург 1901.

Пыпин А., *Заметки по литературной археологии*, „Древности. Археологический вестник”, 1867, с. 113-115.

Симонов Р. А., *Календарно-астрологический текст белорусских татар в списке 1868 г. разъясняет некоторые славяно-русские магические традиции*, „Палеоросия. Древняя Русь во времени, в личностях, в идеях”, 2017, вып. 8, с. 288-303.

Соболевский А., *Переводная литература Московской Руси XIV-XVII веков: библиографические материалы*, Санкт-Петербург 1903.

Сперанский М., *Из истории отреченных книг*, т. IV: *Аристотелевы врата, или Тайная тайных*, Москва — Санкт-Петербург 1908.

Сынкова І. А., *Каляндарна-астралагічныя тэксты з рукапіснай спадчыны беларускіх татараў*, [у:] *Берковские чтения — 2017. Книжная культура в контексте международных контактов. Материалы IV Международной научной конференции*, Минск 2017, с. 386-390.

Темчин С., *Схария и Скорина: Об источниках виленского ветхозаветного свода (F19-262)*, „Senoji Lietuvos literatūra", 2006, nr 21, p. 303-309.

Тихонравов Н., *Памятники отреченной русской литературы*, т. II, Москва 1863.

Харебова Л., *«Сокровенные» знания в рукописях из коллекции крестьян Корниловых*, „Кижский вестник. Петрозаводск", 2005, вып. 10, с. 149-153.

Щавелева Н., *«Астрологическое зерцало» в молитвеннике XI в.* „Историко-астрономические исследования", 1994, вып. 24, с. 249-251.

*Catalogus codicum astrologorum graecorum*, vol. 3, Brussels 1901; vol. 11, Brussels 1932.

Chardonnens L. S., *Anglo-Saxon Prognostics, 900-1100: Study and Texts*, Leiden 2007.

Dziekan M. M., *Czas święty i czas świecki w chamaile Aleksandrowicza: godziny i dni Niechsiowe?*, [у:] *Orientas Lietuvos Didžiosios Kunigaikštijos visuomenės tradicijoje: totoriai ir karaimai*, 2008, t. 6, p. 81-89.

Förster M., *Vom Fortleben antiker Sammellunare im englischen und in anderen Volkssprachen*, „Anglia", 1944, nr 67/68, p. 1-171.

Franz C., *Les présages lunaires de Virgile et les «Selenodromia»*, „L'Antiquité Classique", 1933, t. 2, fasc. 2, p. 259-270.

Krupa K., *Polityczne związki Giedyminowiczów z Nowogrodem Wielkim w latach 1430-1471*, „Przegląd Historyczny", 1993, nr 83/3, s. 289-306.

Krupska A., *Michał Olelkowicz*, „Polski Słownik Biograficzny", t. XXIII, Warszawa — Kraków — Wrocław — Gdańsk 1978, s. 745.

Lydi I. L., *Liber de ostensis et calendaria Graeca omnia*, Lipsiae 1897.

Manzano T. M., *Astronomia, astrologia y literatura en la biblioteca del joven Isidoro de Kiev: a propysito del Escurialensis R I 14*, „Erytheia", 2015, vol. 36, p. 137-149.

Ryan W., *The Old Russian Version of the Pseudo-Aristotelian „Secreta Secretorum"*, „The Slavonic and East European Review", 1978, no. 56 (2), p. 242-260.

Ryan W., *The Onomantic Table in the Old Russian Secreta secretorum*, „The Slavonic and East European Review", 1971, vol. 49, no. 117, p. 603-606.

Shirin A., *Oriental Borrowings in the Language of the Byelorussian Tatars*, „The Slavonic and East European Review", 1978, vol. 56, no. 2, p. 224-241.

Svenberg E., *Lunaria et zodiologia Latina*, Stockholm 1963.

Ševčenko I., *Remarks on the Diffusion of Byzantine Scientific and Pseudo-Scientific Literature amongthe Orthodox Slavs*, „The Slavonic and East European Review", 1981, vol. 59, no. 3, p. 321-345.

Taavitsainen I., *Middle English Lunaries: A Study of the Genre*, Helsinki 1988.

Taube M., *The Fifteenth Century Ruthenian Translations from Hebrew and the Heresy of the Judaizers: Is There a Connection?*, [y:] *Speculum Slaviae Orientalis: Muscovy, Ruthenia and Lithuania in the Late Middle Ages*, Moscow 2005, p. 185-208;

Taube M., *The Kievan Jew Zacharia and the Astronomical Works of the Judaizers*, „Jews and Slavs", 1995, no. 3, p. 168-198.

Torijano P. A., *The Selenodromion of David and Solomon*, [y:] *Old Testament Pseudepigrapha: More Noncanonical Scriptures*, ed. R. Bauckham, J. Davila; A. Panayotov, vol. 1, Eerdmans 2013, p. 298-304.

Weinstock S., *Lunar Mansions and Early Calendars*, „The Journal of Hellenic Studies", 1949, vol. 69, p. 48-69.

**Summary**

**A Lunary from the Suprasl Monastery Manuscript**

Lunaries were very popular in different cultures. They were also used in the Grand Duchy of Lithuania to forecast different events, activities and phenomena from one new moon to the next. Each day was connected with a particular biblical theme. This particular lunary was translated from Koine Greek into Old Belarusian. It has been stored with other of astrological texts in the Suprasl Monastery Manuscript. The text was disseminated in the Grand Duchy of Lithuania and in other countries.

**Keywords:** lunary, astrology, Suprasl monastery, the Grand Duchy of Lithuania.

**Streszczenie**

**Lunarium specjalnego typu z Rękopisu Supraskiego**

Lunaria były bardzo popularne w różnych kulturach. Wykorzystywano je także w Wielkim Księstwie Litewskim do prognozowania różnych wydarzeń, czynności i zjawisk od jednego nowiu do następnego. Każdy dzień miał przypisany wątek biblijny. Prezentowane lunarium było przetłumaczone z greckiego koine na język starobiałoruski. Zachowało się wśród tekstów astrologicznych zamieszczonych w Rękopisie Supraskim. Świadczy to o zainteresowaniu bizantyńską wiedzą astrologiczną. Tekst tego lunarium rozpowszechniony był w Wielkim Księstwie Litewskim i w innych krajach.

**Słowa kluczowe:** Lunarium, astrologia, monaster w Supraślu, Wielkie Księstwo Litewskie.

**Natallia Sliż** — historyk, autorka czterech monografii i ponad 170 artykułów. Zainteresowania badawcze: historia rodziny szlacheckiej, historia małżeństwa szlacheckiego, historia Grodna w XVI-XVIII w., historia astrologii.

існавала да 1914 года, да пачатку Першай сусветнай вайны. За гэты час яна выдала 38 кніг з творамі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. У 1906 годзе выдавецтва выдала серыю з 15 ілюстраваных паштовых пісулек, як іх тады па-беларуску пачалі называць; яна стала самым раннім выданнем паштовак на роднай мове і першымі легальна выдадзенымі беларускімі паштоўкамі.

Пад здымкамі дзевяці паштовак гэтага выдання беларускі тэкстадначасова друкаваўся лацінскім і кірылічным шрыфтамі. У гэтай серыі былі надрукаваны тры паштоўкі з лацінскім шрыфтам — з партрэтамі Францішка Багушэвіча, Вінцука Марцінкевіча і Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага), а таксама тры паштоўкі з такімі ж самымі партрэтамі з надпісамі кірыліцай. Паштоўкі былі надрукаваны ў шэрым колеры, а чатыры, у тым ліку тры паштоўкі — „Янка Лучына (Іван Неслухоўски)", „Вясковая баба з Трыбушкоў" і „Дом Тадэуша Касцюшкі ў Марачоўшчыне" былі надрукаваны ў светла-карычневым колеры. На адрасным баку ўсіх паштовак меліся надпісы па-беларуску „Pocztowaja pisulka", „Почтовая пісулька" лацінкай і кірыліцай, а таксама гэты ж тэкст быў надрукаваны на літоўскай, польскай і расейскай мовах. Увесь бок, для адраса і пісьма, раздзялялі дзве вертыкальныя лініі з дэкаратыўнымі графічнымі элементамі на іх верхнім і ніжнім канцах. У правым верхнім вугле мелася рамачка для маркі з надпісам „Место для марки".

Усе паштоўкі адпавядалі дзяржаўным паштовым умовам легальнага выдання адкрытага пісьма, таму былі вольна ў продажы і пасылаліся па пошце без канверта. Па фармаце паштоўкі гэтай серыі былі не аднолькавыя. Паштовая пісулька з партрэтам Францішка Багушэвіча мела памер 14 x 9,1 сантыметра, паштоўка з партрэтам Вінцука Марцінкевіча — 14,3 x 9,5 см (яна была самай вялікай), а паштоўка „Парабковая дворная хата" — 13,8 x 9 см у гэтай серыі паштовых пісулек была найменшай па памеры. Пры выданні іх у друкарні не прытрымліваліся адзінага памеру, таму амаль кожная паштоўка па сваіх памерах на 2-3 мм адрознівалася адна ад другой.

З верасня 1906 года ў Вільні пачала выдавацца нелегальная газета „Наша доля". Газета друкавалася на беларускай мове з тэкстамі лацінскім і кірылічным шрыфтамі. Ужо ў № 1 за 1 верасня і ў № 2 за 15 верасня была змешчана першая інфармацыя пра выданне серыі паштовак Беларускай выдавецкай суполкай „Загляне сонца і ў наша ваконца". У аб'явах на стар. 8 пасля спісу аб продажы кніг ішоў пералік назваў 12 паштовых пісулек, якія таксама можна было купіць у галоўным складзе ў Пецярбургу (Васілёў востраў, 4-ая лінія, № 45, кв. 16).

У тым жа годзе з лістапада пачала выдавацца першая легальная беларуская газета „Наша Ніва", якая друкавалася як лацінкай, так і кірылічным шрыфтам. Газета ў сваіх аб'явах таксама пачала змяшчаць рэкламу аб продажы беларускіх кніг і паштовак. У газеце, выдадзенай лацініцай, у № 3 за 24 лістапада (7 снежня), у № 4 за 15 снежня і іншых нумарах, у аб'явах Беларускай выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца" быў змешчаны спіс тых жа самых 12 паштовых пісулек, што і ў „Нашай долі". Рэкламная інфармацыя пра выданні беларускіх кніг і паштовак пецярбургскай суполкі друкавалася і на вокладках некаторых кніжак таго часу. Яна была размешчана на ўнутранай вокладцы кніг, між іншым, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Адама Міцкевіча[2]. У надрукаваных спісах паштовых пісулек не было згадана, што паштоўкі з партрэтамі Францішка Багушэвіча, Вінцука Марцінкевіча і Янкі Лучыны былі выдадзены ў двух варыянтах — з тэкстам лацінскім і кірылічным шрыфтамі. Такім чынам, Выдавецкай суполкай „Загляне сонца і ў наша ваконца" была выдадзена серыя не з 12, а з 15 паштовых пісулек.

У 3 і 4 нумарах „Нашай Нівы" за 1906 год, выдадзеных кірылічным шрыфтам, даваўся паўтор спіска паштовак з запісам толькі дзесяці паштовак, але ў ім не хапае трох паштовак — „Торжышча ў Пухавічах", „Дзяўчаты з-пад Слуцка" і „Мужыкі з-пад Пухавічаў", якія былі ў спіску першых нумароў „Нашай долі" і „Нашай Нівы" надрукаванай лацінскім шрыфтам. Акрамя таго, у спіску замест назвы паштоўкі „Мужыкі з-пад Пухавічаў" запісана „Мужыкі з-пад Слуцка". Гэта была памылка, зробленая рэдакцыяй, бо далей, пачынаючы з № 8 за 1908 год, газета ўжо друкавала на сваіх старонках спіс серыі не з 10, а з 12 паштовак і дзе не было назвы паштоўкі „Мужыкі з-пад Слуцка", а мелася назва паштоўкі „Мужыкі з-пад Пухавічаў".

Пра выдавецкую суполку „Загляне сонца і ў наша ваконца", яе дзейнасць і выданне ёю кніг, друкавалася шмат інфармацыі ў публікацыях розных беларускіх даследчыкаў, але раней амаль нідзе не згадвалася пра выданне ёю беларускіх паштовак (паштовых пісулек). Першыя згадкі пра іх напісаў вядомы пісьменнік і даследчык беларускай літаратуры Сцяпан Александровіч у кнізе „Гісторыя і сучаснасць", а потым паўтарыў той самы тэкст у кнізе „Пуцявіны роднага слова"[3]. Разглядаючы выданні суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца", ён спачатку

[2] Я. Купала, *Жалейка*, Пецярбург 1908; Я. Колас, *Другое чытанне для дзяцей беларусаў*, Пецярбург 1910; А. Міцкевіч, *Пан Тадэўш*, Пецярбург 1908.

[3] С. Александровіч, *Гісторыя і сучаснасць*, Мінск 1968, с. 170-173; той жа, *Пуцявіны роднага слова*, Мінск 1971, с. 132.

даў пералік тых дзесяці паштовак з 3 і 4 нумароў „Нашай Нівы”, што друкаваліся кірыліцай, таму ён упісаў паштоўку „Мужыкі з-пад Слуцка”, такім чынам паўтараючы памылку рэдакцыі. Далей у публікацыі аўтар напісаў: „Праз некалькі год выйшла яшчэ звыш дзясятка” і даў другі спіс з трынаццаці паштовак, у які ўключыў паштоўкі „Мужыкі з-пад Пухавічаў”, „Торжышча ў Пухавічах” і „Дзяўчаты з-пад Слуцка”, якія былі выдадзены суполкай „Загляне сонца і ў наша ваконца” ў 1906 годзе і якія ўжо былі ў спісе „Нашай долі” і „Нашай Нівы” менавіта за гэты год.

Такія недакладнасці ў публікацыі С. Александровіча атрымаліся верагодна таму, што аўтар браў інфармацыю пра беларускія паштоўкі толькі з першых нумароў газеты „Наша Ніва”, друкаваных толькі кірыліцай. Верагодна, у яго не было магчымасці параўнаць інфармацыю пра паштоўкі ў „Нашай Долі”, а таксама ў выданнях „Нашай Нівы” кірылічным і лацінскім шрыфтамі. Складанасць у даследаванні магла быць з-за таго, што нідзе ў зборах бібліятэк не мелася поўнага збору нумароў „Нашай Нівы”, а яе асобныя нумары за розныя гады знаходзіліся ў фондах бібліятэк Беларусі, Расеі і Літвы. Інфармацыя пра першыя беларускія паштоўкі з такімі недакладнасцямі паўтарылася ў артыкуле Янкі Саламевіча ў часопісе „Маладосць”[4], а таксама ў іншых аўтараў пазнейшых публікацый, бо яны карысталіся толькі звесткамі з кніг С. Александровіча.

Серыя паштовак беларускай Выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца” была надрукавана ў сталіцы імперыі — Санкт-Пецярбургу, дзе выдавецкі бізнес і друкарская тэхніка былі на высокім узроўні. Таму якасць выдання гэтых паштовых картак адрознівалася ад выданняў правінцыяльных віленскіх выданняў. Паштовыя пісулькі былі надрукаваны на белай шчыльнай мелаванай паперы з добрымі выразнымі фотаздымкамі. Тыраж гэтай серыі невядомы, аднак наклад іх, верагодна, быў немалы, бо, як пісала „Наша Ніва” ў № 8 за 1908 год, яны прадаваліся не толькі на складзе суполкі, у Польскай кнігарні ў Санкт-Пецярбургу, але і ў Вільні ў рэдакцыі „Нашай Нівы”, а таксама ў кнігарнях М. Пясецкай-Шлапеліс і „Lietuwa”. Іх можна было купіць у кнігарнях: у Мінску — у В. Макоўскага, Віцебску — Калаўрот-Чэрвінскай, Гродне — В. Казлоўскага, Магілёве — Я. Х. Сыркінай, Гомелі — Я. Х. Сыркінай, Варшаве — Г. Гентэршвера і ў Слоніме ў Польскай кнігарні.

[4] Я. Саламевіч, *Выйшлі з светлага знання сяўбою*, «Маладосць», 1986, № 6, с. 165-166.

Паштоўкі выдання суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца”, якія захаваліся і прайшлі пошту, апавядаюць нам аб часе першага беларускага Адраджэння і нават нясуць нам інфармацыю пра саміх адраджэнцаў. Беларускія паштовыя пісулькі ў першую чаргу былі сродкам паштовай сувязі, таму набывалі і карысталіся імі ў перапісцы розныя людзі, у тым ліку і вядомыя беларусы таго часу. Аб гэтым апавядае паштовая пісулька з партрэтам Францішка Багушэвіча, адпраўленая 28 кастрычніка 1908 года з Вільні знакамітым беларускім дзеячам Антонам Луцкевічам у Мінск на адрас: вул. Хрышчэнская, 25, Канстанціну Баляслававічу Шпакоўскаму. Інжынер Канстанцін Шпакоўскі быў сябрам сям'і Луцкевічаў, а таксама з'яўляўся адным з заснавальнікаў „Беларускага выдавецкага таварыства” ў Вільні, сакратаром якога быў Янка Купала. У Мінску ў адным з двух дамоў сям'і Луцкевічаў К. Шпакоўскі здымаў кватэру. Пісьмо, якое напісана па-польску, гаворыць аб тым, што Антон Луцкевіч, як і многія беларусы, падчас кантактаў карыстаўся беларускай і польскай мовамі. Сама паштоўка нясе гістарычную інфармацыю; яна з былога Беларускага музея Івана Луцкевіча, мае яго штамп і нумар экспаната 08591. Пасля ліквідацыі музея яна трапіла ў фонд Віленскага этнаграфічнага музея.

## Крыніцы


*Адресная книга книготорговцев, издателей, торговцев нот, редакций газет и журналов в России на 1903-1904*, Санкт-Петербург 1903.

Александровіч С., *Гісторыя і сучаснасць*, Мінск 1968, с. 170-173.

Александровіч С., *Пуцявінамі роднага слова*, Мінск 1971, с. 132.

Гарбінскі Ю., *Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: перыёдыка, графічныя друкі. 1945-2005*, Нью-Ёрк 2009, с. 485-486.

Забочень М. С., *Филокартия (Краткое пособие-справочник)*, Москва 1973.

Илометс И., *Первые открытки Тарту, Выру и Таллина. Новые данные*, «Филокартия», 2014, № 5 (40).

Карский Е. Ф., *Белорусы*, т. 3, Петроград 1922, с. 155.

Колас Я., *Другое чытанне для дзяцей беларусаў*, Пецярбург 1910.

Купала Я., *Жалейка*, Пецярбург 1908.

Міцкевіч А., *Пан Тадэўш*, Пецярбург 1908.

„Наша Dоля”, № 1, 1.09.1906, с. 8; № 2, 15.09.1906, с. 8.

„Наша Ніва”, № 3, 24.11.1906; № 4, 2/15.12.1906; № 9, 2/15.03.1907; № 8, 11/24.03.1908; № 9, 25.04.1908; № 10, 9/22.05.1908; № 11, 22.05.1908.

Пумпуриньш Т., *Французско-иркутская серия 1893 г. Иркутск*, «Филокартия», 2011, № 1 (21).

Саламевіч Я., *Выйшлі з светлага знання сяўбою*, «Маладосць», 1986, № 6, с. 165-166.

Суша А. А., *Філакартыя*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 6, кн. 2, Мінск 2003, с. 33-34.

Тагрин Н., *Мир в открытке*, Москва 1978.

Целеш В., *Гарады Беларусі на старых паштоўках*, Мінск 1998 (перавыданні: 2001, 2005, 2014).

Целеш В., *Паштоўка. Якой ёй быць?*, «Мастацтва Беларусі», 1988, № 1 (61), с. 20-24.

Целеш В., *Первые рыжские открытки*, «Наука и техника», 1984, № 11.

„Nasza Niwa”, № 3, 24.11.1906; № 4, 2/15.12.1906; № 9, 2/15.12.1907; № 8, 11/24.03.1908.

Pumpuriņš T., *Ieskats Baltija izdoto ilustrēto pastkaršu vēsturē (1972–1894). 4. simpozijs par Latvijas pasta vēsturi, Daugavpili 2010. g. 31 jūlijā. Brošūra latviešu un vācu valodā*, Daugavpils – Hamburg: Harry v. Hofmann Verlag, 2010, 9.–21. lpp.

Telešs V., *Pirmās Rīgas atklātnes*, „Zinātne un tehnika”, 1984, nr 11.

https://kamunikat.org/

## Першыя выданні паштовак




1. Першая нямецкая ілюстраваная паштоўка (ліпень 1870 г.)




2. Першая французская ілюстраваная паштоўка (лістапад 1870 г.)




3. Першая неілюстраваная паштоўка Расейскай Імперыі. 1872 г.




4. Адваротны бок першай неілюстраванай паштоўкі Расейскай Імперыі. 1872 г.




5. Першая ілюстраваная паштоўка з выявай г. Мінска. 1899 г.




6. Адрасны бок паштоўкі з выявай г. Мінска. Прайшла пошту 20.03.1899 г.

## Першыя беларускія паштоўкі Выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца”. 1906 г.







7. Адрасны бок паштоўкі з надпісам на беларускай, літоўскай, польскай і расейскай мовах

8. Паштоўка з выявай Францішка Багушэвіча (лацінічны варыянт)







9. Адрасны бок паштоўкі з пісьмом Антона Луцкевіча. Прайшла пошту 28.10.2008 г.
10. Паштоўка з выявай Францішка Багушэвіча (кірылічны варыянт)







11. Паштоўка з выявай Вінцука Марцінкевіча (лацінічны варыянт)
12. Паштоўка з выявай Вінцука Марцінкевіча (кірылічны варыянт)

## Са збору Адама Мальдзіса




13. Шчарсуны ўзімку




14. Шчарсуны ўлетку




15. Дудар беларускі




16. Мужыкі з-пад Пухавіч (абрэзана)




17. Торжышча ў Пухавічах




18. Дзяўчаты з-пад Слуцка




19. Парабковая дворная хата (абрэзана)




20. Янка Лучына (лацінічны варыянт)




21. Янка Лучына (кірылічны варыянт)




22. Вясковая баба з Трыбушкоў




23. Дом Тадэвуша Касцюшкі ў Мерачоўшчыне

Аўтар выказвае ўдзячнасць за дапамогу ў зборы інфармацыі дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Запартыка, журналісту і заснавальніку інтэрнэт-бібліятэкі „Kamunikat" Яраславу Іванюку.

**Summary**

**First Belarusian Postcards**

The early history of postcards, or «open letters», is connected with developments in postal services in Europe, which took place in the second half of the nineteenth century. The first non-illustrated postcards were published in Austro-Hungary on 1 October 1869. Soon illustrated postcards appeared, which apart from postal features had a drawing or a photo. The first illustrated postcards in the world were published in Germany in July 1870, during Franco-Prussian war and in November 1870 the first postcards were published in France. Gradually, postcards started to be published all over the world. The first unillustrated postcards in the Russian Empire were published in 1872; they found their way also to Belarus. At the end of the nineteenth and beginning of the twentieth century, with the development of business and tourism many postcards were published with illustrations of cities and towns of Belarus in Russian, French, German and Polish.

Belarusian illustrated postcards are a very precious national legacy; these postcards were published in Belarusian by various Belarusian publishing houses and activists of the Belarusian national revival. They were not only the means of communication, but served a goal of the national revival, popularized Belarusian language, culture, art and history. The first Belarusian postcards were a series of «pisulki» (as they were called) published in St. Petersburg in 1906 by a publishing society «Zahlanie sonca i u naša vakonca». They were advertised in Belarusian newspaper *Naša Dola* and *Naša Niva* and also on covers of Belarusian books published at the beginning of the twentieth century. They have never been referred to later. They were first mentioned in the publications of Ściapan Aleksandrovič . After a long research, which has taken many years, the author of this paper, has discovered certain inaccuracies in the books of Aleksandrovič and in texts of other scholars writing about postcards published by «Zahlanie sonca i u naśa vakonca». This paper corrects these inaccuracies and presents the contemporary value of these artefacts.

**Keywords:** postcards, open letters, first Belarusian postcards, the publishing society «Zahlanie sonca i u naša vakonca».

**Streszczenie**

**Pierwsze pocztówki białoruskie**

Historia pojawienia się na świecie pocztówek, czyli listów otwartych, związana jest z rozwojem komunikacji pocztowej w Europie w drugiej połowie XIX wieku. Pierwsza nieilustrowana pocztówka została wydana w Austro-Węgrzech 1 października 1869 r. Następnie pojawiły się pocztówki ilustrowane, które oprócz atrybutów pocztowych miały rysunek lub zdjęcie. Podczas wojny francusko-pruskiej, w lipcu 1870 r. w Niemczech wydano pierwszą na świecie ilustrowaną pocztówkę, a w listopadzie 1870 r. pierwszą ilustrowaną pocztówkę wydrukowano we Francji. Stopniowo publikacja pocztówek rozprzestrzeniła się na wszystkie kraje świata. W Imperium Rosyjskim pierwsze nieilustrowane pocztówki wydano w 1872 roku, trafiły one także na teren Białorusi. Pod koniec XIX w., a zwłaszcza na początku XX w. wraz z rozwojem biznesu i turystyki wydano wiele ilustrowanych pocztówek z widokami miast i miasteczek Białorusi w języku rosyjskim, francuskim, niemieckim i polskim.

Bardzo cenną spuścizną narodową dla Białorusinów są białoruskie pocztówki — kartki pocztowe w języku białoruskim, które zostały wydane przez różne białoruskie wydawnictwa i działaczy białoruskiego ruchu odrodzeniowego. Były one nie tylko środkiem komunikacji, ale także służyły odrodzeniu narodowemu, popularyzowały język ojczysty, kulturę, sztukę i historię narodu białoruskiego. Pierwszymi białoruskimi pocztówkami była seria „pisulek” (jak je wtedy nazywano) wydana w 1906 roku w Petersburgu przez białoruskie towarzystwo wydawnicze „Zahlanie sonca i u nasza wakonca”. Do ich nabywania zachęcały ogłoszenia w białoruskich gazetach „Nasza Dola” i „Nasza Niwa”, a także na okładkach białoruskich wydawnictw książkowych na początku XX wieku. Później nigdzie o nich nie wspominano. Pierwsze wzmianki o białoruskich pocztówkach pojawiły się w publikacjach Sciapana Aleksandrowicza. Po wielu latach badań nad historią pocztówek białoruskich autor tego artykułu odkrył pewne nieścisłości w książkach S. Aleksandrowicza i innych późniejszych autorów, piszących o pocztówkach towarzystwa wydawniczego „Zahlanie sonca i u nasza wakonca”. Niniejsza publikacja koryguje te nieścisłości i opowiada o wartości tych artefaktów w naszych czasach.

**Słowa kluczowe:** odkrytki, pocztówki, widokówki, pierwsze pocztówki białoruskie, wydawnictwo „Zahlanie sonca i u nasza wakonca”.

**Wiaczka Cielesz** (Wiaczesław Cielesz) — artysta malarz, magister sztuki, regionalista, filokartysta, badacz historii pocztówek. Autor książek: *Мінск на старых паштоўках* (Мінск 1984), *Гарады Беларусі на старых паштоўках* (Мінск 2005), *Rīga. Senajās atklātnes* (Riga 1991), *Адсюль наш род, тут мой прычал* (Мінск 2013) i monografii *Baltkrievijas mākslinieki Latvijā. / Беларускія мастакі ў Латвіі. 1920-1991* (Riga 2020) w języku łotewskim i białoruskim. Autor publikacji w pracach zbiorowych, czasopismach i gazetach o historii i sztuce Białorusi i Łotwy. Mieszka w Rydze.

**Сяргей Чыгрын**
(Слонім)

## Гістарычны лёс слонімскіх бібліятэк

Бібліятэкі ўзніклі ў глыбокай старажытнасці як сховішчы пісьменнасці. У Асірыі і Вавілоне збіралі гліняныя і каменныя табліцы, у Старажытным Егіпце існавалі бібліятэкі пры храмах. Найбольш вядомая бібліятэка антычнага свету — гэта Александрыйская бібліятэка, заснаваная Пталамеем у III стагоддзі да нашай эры. Яна зберагла 700 тысяч адзінак.

У сярэднія вякі бібліятэкі існавалі пры манастырах, каралеўскіх і княжацкіх дварах, універсітэтах. Найбольш вядомыя бібліятэкі ў свеце — гэта Нацыянальная бібліятэка ў Парыжы з XIV стагоддзя, бібліятэка Брытанскага музея ў Лондане з 1753 года, Кангрэса ЗША ў Вашынгтоне з 1800 года і іншыя.

На Беларусі бібліятэкі вядомы з XI стагоддзя, пераважна пры цэрквах і манастырах, сярод іх — бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора. З XVI стагоддзя бібліятэкі існавалі ў Гродне, Полацку, Слуцку, Мінску, Магілёве. Большая іх частка была знішчана ў час шматлікіх войнаў і рэлігійных міжусобіц. Вядомыя асобы Беларусі Радзівілы, Сапегі, Храптовічы, Слізьні, Пуслоўскія, Чапскія таксама мелі прыватныя каштоўныя кнігазборы.

Слонімшчына з самага пачатку XVII стагоддзя славілася сваімі бібліятэкамі. Найперш, адметнымі ў гэтым плане былі Жыровічы. У 1709-1773 гадах у Жыровічах дзейнічала Базыльянская семінарыя. Пры ёй пачала арганізоўвацца вялікая бібліятэка, якая спрыяла арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ў семінарыі. У бібліятэцы захоўвалася шмат выданняў па дакладных навуках: „Геаметрыя” Клавія (Рым 1574), „Трыганаметрыя” Вітыніюса (Франкфурт-на-Одэры 1612) „Арыфметыка і геаметрыя” Метыюса (Лейдэн 1626), „Курс матэматыцы” Шофуса (Франкфурт-на-Одэры 1674) і іншыя. Таксама тут захоўваўся „Атлас” Г. Меркатора (Амстэрдам 1633), „Гісторыя Аляксандра Македонскага” Квінта Курцыя Руфа (Лейпцыг 1696), 4-томныя „Царкоўныя аналы” Ц. Баронія (Антверпэн 1589-1594) і іншыя[1]. Пры гэтым вядома, што ў 1743 годзе бібліятэка і манастырскі архіў у Жыровічах былі даручаны настаўніку „сінтаксімы”, які „павінны трымаць іх у парадку, быць

[1] *Матэрыялы XVI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў*, Мінск 2020, с. 43.

здольным і схільным да гэтай справы”. Адметна, што ў манастыры існавала практыка сумесных пазашкольных чытанняў кніг богаслужэбнага характару. Адпаведна загаду літоўскага правінцыяла Тэадора Канячэўскага ад 1 верасня 1743 года ўсе манахі і семінарысты ў Жыровічах штовечар павінны былі збірацца разам для чытання псалтыра настаўнікамі і студэнтамі класа філасофіі.

Пройдзе час і летам 1842 года праваслаўны біскуп Іосіф Сямашка (1798-1868) распачне ў Жыровіцкім манастыры спальванне ўніяцкіх старадрукаў. Напачатку кнігамі тапілі печы, потым пачалі паліць іх у вогнішчы на пляцы перад Успенскім саборам. На працягу пяці гадоў (1842-1857) па загадзе Сямашкі было спалена некалькі тысяч беларускіх уніяцкіх старадрукаў з Жыровіцкага манастыра, найперш з бібліятэкі Базыльянскай семінарыі.

Пра Яўгена Валатоўскага чуў даўно. Але сустрэцца з ім і пагутарыць так у жыцці і не пашчасціла. Калі я скончыў універсітэт, яго ўжо не было ў жывых. Ён памёр на 75-м годзе жыцця 7 лютага 1985 года ў Жыровічах, дзе і пахаваны на мясцовых могілках побач з жонкай Валянцінай Мікалаеўнай. А недалёка ад іх вечным сном спачывае яго бацька протаіерэй Васіль Валатоўскі (1878-1961).

Яўген Валатоўскі па тым часе быў вельмі адукаваным чалавекам. Добра ведаў рэлігію, гісторыю, найперш цікавіўся гісторыяй Жыровіцкага манастыра. Шмат гадоў ён быў вучоным сакратаром Жыровіцкай духоўнай семінарыі, а потым выкладчыкам Жыровіцкага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі. У Львове Яўген Валатоўскі нават абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Жорж Санд. Але Другая сусветная вайна перашкодзіла яму атрымаць усе неабходныя дакументы па сваёй абароне. А потым ён нікуды не лез, жыў і працаваў у Жыровічах.

Яўген Валатоўскі сябраваў і перапісваўся з многімі вучонымі з былога Савецкага Саюза, а таксама з Польшчы і Літвы. У добрых адносінах наш зямляк быў і з доктарам філалагічных навук Адамам Мальдзісам. Хоць рэдка, але яны сустракаліся, гутарылі. Валатоўскі не раз паказваў яму рэдкія выданні XVIII-XIX стагоддзяў са сваёй асабістай бібліятэкі. Дзе ўсё зараз — невядома. У Мінскай вобласці жыве дачка Валатоўскага Таццяна Яўгенаўна Лазоўская. Некалькі разоў тэлефанаваў ёй, прасіў даць хоць фотаздымак бацькі. Яна абяцала, але так пакуль сустрэцца з ёй не атрымалася.

Нядаўна былы выкладчык гісторыі з Жыровічаў Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі, прыгадаў Яўгена Валатоўскага і адзін цікавы факт з яго біяграфіі. Яўген Валатоўскі добра ведаў гісторыю Жыровічаў, лёс усіх жыровіцкіх скарбаў. Ён усё жыццё даследаваў і шукаў, дзе ў мурах Крыжаўзвіжанскай царквы ў Жыровічах знаходзяцца дакументы

кангрэгацый Базыльянскага ордэна, якія адбываліся ў Жыровіцкім манастыры ў XVII стагоддзі. Яўген Валатоўскі нават пісаў у Маскву, каб яму дазволілі пашукаць дакументы кангрэгацый. Але, атрымаўшы ліст ад Валатоўскага, з Масквы ў Жыровічы прыехаў генерал-лейтэнант КДБ Уладзімір Кураедаў, які з 1960 па 1965 гады быў старшынёй Савета па справах Рускай Праваслаўнай Царквы пры Савеце Міністраў СССР, а потым з 1965 да 1984 гады працаваў старшынёй Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР. Кураедаў у Жыровічах сустрэўся з Валатоўскім і груба папярэдзіў, каб ён нават і не думаў пра гэтыя дакументы і назаўсёды забыўся, дзе яны ляжаць.

У 1970-х гадах з Яўгенам Валатоўскім у Жыровічах сустракаўся прафесар Адам Мальдзіс, які пытаўся ў яго пра жыровіцкія арацыі. Але, напалоханы візітам Кураедава, Я. Валатоўскі адказаў, што ніколі не бачыў у семінарскай бібліятэцы ніякіх кангрэгацый. „Пасля закрыцця семінарыі ўсе кнігі былі перавезены ў Загорск, — сказаў Валатоўскі і дабавіў, — праўда, кажуць, што ў часы, калі пачалася ліквідацыя уніі, манахі дзесьці ў падвале замуравалі сваю бібліятэку, архіў і скарбніцу”. Дзе закапалі жыровіцкія скарбы, Яўген Валатоўскі не сказаў, хаця ён ведаў, але баяўся паказаць і расказаць. І дакументы ўніяцкіх кангрэгацый, і кнігі, і розныя ўніяцкія рэчы — гэта нацыянальныя скарбы Беларусі. І многія з іх па-ранейшаму захоўваюцца ў жыровіцкіх мурах.

У архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук захоўваецца мноства цікавых дакументаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да гісторыі Жыровічаў. У фондзе былога прафесара Жыровіцкай духоўнай семінарыі Пракопа Нілавіча Дабрахотава (Максімава) значацца 2492 адзінкі захавання збораў на польскай, лацінскай і старабеларускай мовах. Гэтыя сабраныя рарытэты Дабрахотаў вывез з Жыровіч яшчэ ў 1845 годзе.

У Нацыянальным дзяржаўным гістарычным архіве ў Львове даўно выяўлены звесткі пра кнігу ўліку прыхаджан, якія спавядаліся ў царкве ў Жыровічах у 1791-1800 гадах, справаздача аб праверцы бібліятэкі Жыровіцкага вучылішча ў XIX стагоддзі, справа аб папаўненні бібліятэкі ў Жыровічах (XIX стагоддзе) і справа пра ўніяцкія кнігі, канфіскаваныя ў Жыровічах. І гэты спіс можна працягваць...

Згадваючы пра гісторыю слонімскіх бібліятэк нельга не згадаць святара-асветніка з Жыровіч Івана Андрэевіча Хлябцэвіча (1857-1919) — бацьку Яўгена Хлябцэвіча (1884-1953) — беларускага нацыянальнага дзеяча, бібліятэказнаўца, бібліёграфа, літаратуразнаўца, кандыдата педагагічных навук (1947). У Жыровіцкім духоўным вучылішчы Іван Хлябцэвіч выкладаў грэцкую мову, потым латынь, геаграфію і арыфметыку. Адначасова ён загадваў бібліятэкай Жыровіцкага манастыра.

У гэтай бібліятэцы знаходзіліся на той час каштоўныя помнікі і рукапісы стараславянскага пісьменства, ды і сам Іван Андрэевіч адшукваў рэдкія выданні для бібліятэкі манастыра. А яшчэ Іван Хлябцэвіч займаўся ўпарадкаваннем бібліятэкі духоўнага вучылішча, а таксама склаў каталог усёй бібліятэкі Жыровіцкага манастыра. Кнігі займалі адметнае месца ў яго духоўным жыцці. І нават у лісце-тастаменце Іван Андрэевіч, як найвялікшы скарб, пералічвае кнігі са сваёй бібліятэкі.

Калі размова ідзе пра Жыровічы, нельга не згадаць і пра Жыровіцкае Евангелле. Да сярэдзіны XIX стагоддзя ў Жыровіцкім манастыры зберагалася Жыровіцкае Евангелле, вядомае таксама пад назвай „Евангелле Сапегі". Яно было створана клопатамі Льва Сапегі (1557-1633) — канцлера Вялікага Княства Літоўскага. Леў Сапега падараваў Евангелле Жыровічам 22 жніўня 1616 года. Падарунак быў уручаны на дзень асвячэння Успенскага сабора.

Рукапіс Жыровіцкага Евангелля складаецца з 404 аркушаў, вельмі багата ўпрыгожаны залатымі застаўкамі, мініяцюрамі, арнаментамі. Адчуваецца ўплыў візантыйскай мастацкай традыцыі. На 376-м і 377-м аркушах канцлер Леў Сапега зрабіў запіс аб ахвяраванні манастыру вялікай часткі яго Шылавіцкага маёнтка (па левым беразе Шчары), багатай царкоўнай рызы, срэбнай чашы і дыскаса, царкоўнага адзення. Надпіс быў зроблены на беларускай мове таго часу. Сёння Жыровіцкае Евангелле зберагаецца ў Навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

Наогул, Сапегі — гэта род, які пакінуў значны след у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Сапегі заўсёды любілі кнігі і мелі вялікія бібліятэкі. Іх кнігазбор з'яўляўся найбагацейшым у ВКЛ — нароўні з бібліятэкай Радзівілаў. Заснавальнікам сапегаўскага кнігазбору лічыцца сам Леў Сапега (1557-1633), помнік якому быў пастаўлены ў цэнтры Слоніма ў 2019 годзе. А сабраў Леў Сапега каля 3000 тамоў. На паліцах сапегаўскай бібліятэкі стаялі тамы Арыстоцеля і Вергілія, Ціта Лівія і Флявіяна Ведэцыя, Радардамскага і Авідыя... Давайце ўявім, як на загад падканцлера Аляксандра Міхала Сапегі бібліятэкар подбегам кіруецца ў кнігасховішча і прыносіць адтуль „Кароткія каментарыі да сусветнай гісторыі", выдадзеныя манахамі-картузіянамі ў 1564 годзе. А вунь і сам гаспадар схіліўся над томам Цыцэрона, каб зрабіць выпіску для амаль закончанай прадмовы Статута: „Яко Цыцеро поведзил, иж естесмо невольниками прав для того, абысьмы вольности уживати могли"[2]. Дарэчы, Статут Вялікага Княства Літоўскага набіраўся ў Слоніме, а друкавалі яго ў Вільні.

[2] М. Скобла, *Дзярэчынскі дыярыюш*, Мінск 1999, с. 38.

28 траўня 1760 года бібліятэкар Міхала Антонія Сапегі на загад гаспадара склаў „Рэестр кніг, якія знаходзяцца ў слонімскай бібліятэцы пана графа Сапегі, падканцлера Вялікага Княства Літоўскага". Іх налічвалася тады 193 назвы. Рэестр быў падзелены на тэматычныя раздзелы: Аб дзяржаве — 20 кніг, Гісторыя (43), Духоўныя кнігі (24), Медыцына (4), Слоўнікі (4), Паэзія (10).

Былі там і кнігі з такімі назвамі як „Статут Вялікага Княства Літоўскага", „Падарожжа Мікалая Радзівіла ў Палесціну", „Статут ордэна Базыльянаў" і іншыя. Але самымі каштоўнымі ў слонімскай філіі сапегаўскай бібліятэкі было тое, што ў рэестры прыгадваюцца інкунабулы — рукапісныя кнігі: „Манускрыпт на розных мовах", „Манускрыптдыскусія пра скаргі праваслаўныя".

Меў бібліятэку ў Слоніме ў сваёй „сядзібе муз" і Міхал Казімір Агінскі (1730-1800), якую ён стварыў у XVIII стагоддзі. Але гэта была музычная бібліятэка, дзе захоўваліся выданні, звязаныя з музыкай, збор папяровых твораў нямецкіх, італьянскіх, французскіх, польскіх кампазітараў, малітоўнікі, маральна-дыдактычныя выданні для моладзі. Справа ў тым, што ў 1777 годзе (магчыма раней) Міхал Казімір Агінскі купіў варштат у дамініканцаў і перавёз яго ў свой палац. Друкарня абслугоўвала яго ўласныя культурна-мастацкія інтарэсы. Яна выпускала лібрэта опер мецэната, разнастайную іншую музычную і асветніцкую літаратуру, якая зберагалася ў бібліятэцы палаца Агінскага.

Ад Сапегаў і Агінскага давайце завітаем да Слізьняў, якія мелі вялікі палац у Новадзявяткавічах. Яго ў сярэдзіне XIX стагоддзя пабудаваў Альфрэд Слізень у англійскім стылі.

У 1860 годзе Новадзявяткавічы наведаў славуты беларускі мастак Напалеон Орда і пакінуў нам у спадчыну намаляваны палац з тыльнага боку. Захаваўся і малюнак Конрада Чарноцкага, які друкаваўся ў ягонай манаграфіі пра род Мялешкаў[3].

Найбольш пацярпеў палац падчас Другой сусветнай вайны. А потым людзі расцягнулі цэглу, кафлю, дошкі і ўсё, што можна было сабе забраць. Але ў палацы некалі знаходзілася шмат дабра і скарбаў. Калі б яны зберагліся да сённяшніх дзён, то турысты ехалі б у Новадзявяткавічы штодзённа, каб толькі паглядзець на палац Слізняў і пахадзіць па яго шыкоўных пакоях. А я найперш захацеў бы пабываць у бібліятэцы Слізьняў, бо яна мела вялікі збор старых кніг. Кнігі збіраліся на працягу чатырох стагоддзяў. Іх налічвалася каля пяці тысяч. Там можна было

[3] K. Czarnocki, *Historie o Mieleszkach*, Warszawa 2008.

ўбачыць і Трэці Статут ВКЛ, Радзівілаўскую Біблію, творы Цэзара і Элерта, выданні езуітаў і многія іншыя фаліянты.

Пасля паўстання 1863 года царская ўлада пачала закрываць каталіцкія касцёлы. У снежні 1864 года расфармавалі бібліятэку касцёла бернардзінцаў у Слоніме. Рукапісы і многія кнігі касцёла апынуліся ў Віленскай цэнтральнай публічнай бібліятэцы. А касцельная бібліятэка ў Слоніме тады складалася з 2774 тамоў, пераважна старадрукаў. Поўны каталог кніг за 1798 і 1845 гады на сённяшні дзень захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. А ў Кракаве ў архіве айцоў канонікаў захоўваецца рукапісны (без сігнатуры) каталог бібліятэкі слонімскага кляштара канонікаў латэранскіх за 1705 год.

А цяпер завітаем у Альбярцін[4] да Пуслоўскіх у другую палову XIX — першую палову XX стагоддзя. Напрыклад, Войцех Пуслоўскі і яго сыны былі заўзятымі калекцыянерамі беларускай даўніны і кніг. Кнігазбор з некалькіх тысяч тамоў знаходзіўся ў асобнай вялікай зале, застаўленай навокал высокімі шафамі з чырвонага дрэва — дзевяць шаф было ў стылі Луі-Філіпа, тры ў стылі дырэкторыі, упрыгожаныя бронзамі. Некаторыя кніжкі, галоўным чынам польскія і італьянскія, сягалі XVII стагоддзя, далей ішлі кнігі XVIII стагоддзя, энцыклапедычныя выданні, старыя атласы і старыя карты колішніх польскіх зямель. Самым каштоўным быў багаты архіў, які ўцалеў з пажару папярэдняга двара — ён адносіўся да XV стагоддзя і датычыў усіх сем'яў, з якімі звязана было мінулае мясцовых маёнткаў. Сярод архіўных дакументаў былі пергаментныя каралеўскія наданні з подпісамі манархаў і пячаткамі, копіі Літоўскай метрыкі, карэспандэнцыя шэрагу пакаленняў, тастаменты, маёмасныя дакументы і іншыя. У бібліятэцы стаяў тэлескоп з усімі астранамічнымі прыборамі, а таксама два шары — зямны і нябесны Адамса з Лондана з 1880 года.

У 1996 годзе польская даследчыца Уршуля Пашкевіч знайшла ў Торуні каталог, дакладней інвентар кнігазбору з альбярцінскага палаца Пуслоўскіх (21 старонка ненумераваная). Усе кнігі былі пазначаны экслібрысам „Ex-librys Francisci Pusłowski"[5].

Лёс багатага і значнага кнігазбору Пуслоўскіх вельмі складаны, і пуцявіны яго заблытаў не менш складаны час. Цяпер кнігі з экслібрысамі, пячаткамі, штампамі вялікай сям'і Пуслоўскіх можна сустрэць у бібліятэках Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і далёкага замежжа.

4 Раней пасёлак, цяпер мікрараён Слоніма.

5 U. Paszkiewicz, *Rękopiśmienne inwentarze i katalogi bibliotek z Ziem Wschodnich Rzeczypospolitej*, Warszawa 1996, s. 12.

Напрыклад, у кнігазборы Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея прыватная калекцыя Пуслоўскіх адна з найбольш значных. Тут захоўваецца звыш шасці тысяч тамоў па самых розных галінах ведаў: філасофіі, тэалогіі, гісторыі, прыродазнаўстве. Яшчэ ў 1879 годзе Вандалін Пуслоўскі падараваў бібліятэцы Акадэміі мастацтваў у Кракаве 30 тамоў рукапісаў XVII-XVIII стагоддзяў, а таксама аўтографы, пісьмы і г.д.[6]

У XX стагоддзі на Слонімшчыне бібліятэк з'явілася вельмі шмат. Яны існавалі ў навучальных установах, у вайсковых часцях, у народных дамах, у сельскай мясцовасці, у храмах розных канфесій. Пра адну гістарычную бібліятэку хочацца нагадаць. Гэта — Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы.

У 1927 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка пры гуртку Таварыства беларускай школы вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра.

Польская паліцыя перашкаджала дзейнасці беларускіх грамадскіх арганізацый. Праіснаваўшы некалькі гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы была ліквідавана паліцыяй, а кнігі канфіскаваны.

У верасні 1939 года слаўную Купалаўскую бібліятэку ў вёсцы Вялікая Кракотка зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена ўжо гітлераўскім нашэсцем.

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана прызначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Дваццаць шэсць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы.

Шматгадовую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказвала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі.

У 2005 годзе бібліятэка ў Вялікай Кракотцы набыла новы статус і стала бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы. А ў 2007 годзе яна адзначыла сваё

[6] *Słownik pracowników książki polskiej,* Warszawa — Łódź 1986, s. 180.

80-годдзе. Але гэта быў апошні юбілей бібліятэкі ў Кракотцы. У 2008 годзе яе закрылі, а каштоўныя кнігі і фотаздымкі перадалі ў іншыя бібліятэкі Слонімшчыны, а таксама ў Сялявіцкую сельскую бібліятэку.

Хачу адзначыць, што ў 1927 годзе ў вёсцы Чамяры на Слонімшчыне таксама была адкрыта бібліятэка імя Якуба Коласа. Але яна вялікіх поспехаў і славы, як Вялікакракоцкая бібліятэка імя Янкі Купалы, не мела. Магчыма, на знайшлося ў Чамярах такога чалавека, як франтавік Аляксандр Іванавіч Жыткевіч у Вялікай Кракотцы.

Але традыцыі Чамяроўскай сельскай бібліятэкі ў 1966 годзе падхапілі вучні Чамяроўскай васьмігадовай школы. У сваю невялікую школьную бібліятэку яны пачалі збіраць кнігі з аўтографамі пісьменнікаў. На кнігах не было ніякіх штампаў і рэгістрацыйных знакаў, толькі цікавыя надпісы аўтараў.

Народны пісьменнік Беларусі Пятрусь Броўка прыслаў збор сваіх твораў у двух тамах. Максім Танк — таксама збор твораў у двух тамах і зборнік вершаў „Мой хлеб надзённы” з надпісам: „Дарагім сябрам — школьнікам Чамяроўскай школы ад шчырага сэрца”.

На кожнай кніжцы рука аўтара з цёплымі, задушэўнымі словамі. Янка Брыль быў прадстаўлены трыма кнігамі („Птушкі і гнёзды”, „Жменя сонечных праменняў” і на рускай мове „Выбранае”). На адной з іх можна было прачытаць: „На добры ўспамін дарагім землякам — чытачам Чамяроўскай школьнай бібліятэкі!”

Сярод прысланых кніг там былі выданні Івана Шамякіна, Івана Мележа, Ільі Гурскага, Алеся Звонака, Янкі Скрыгана, Міколы Хведаровіча, Рамана Сабаленкі, Паўла Кавалёва, Аляксея Зарыцкага, Пятра Прыходзькі, Міколы Аўрамчыка, Уладзіміра Корбана, Сяргея Дзяргая, Пімена Панчанкі, Міхася Калачынскага, Данілы Еўзікава, калектыўны зборнік твораў паэтаў былой Заходняй Беларусі „Сцягі і паходні”. Кніжачку вершаў нашага слаўнага земляка Валянціна Таўлая пад загалоўкам „Выбраныя творы” прыслалі з такім надпісам: „Ад дачкі і жонкі паэта і ад імя самога Валянціна”. На тытульнай старонцы рамана „Серадзібор” напісана: «Вучаніцам і вучням Чамяроўскай школы, каб любілі сваю Радзіму, каб для яе стараліся. Аўтар Піліп Пестрак”.

Антон Бялевіч на сваёй кнізе паэм „Рэха навальніц” напісаў верш:

*Вам, вучням школы Чамяроўскай,*
*Я шлю сардэчны свой прывет,*
*Віншую школу, вашу вёску*
*І вас, дзівосны веснацвет.*
*Хачу, каб вы былі як песня,*
*З душой праменнаю былі,*

*Каб вы маглі задумы здзейсніць,*
*Кавалі шчасце на зямлі.*

А Мікола Хведаровіч пісаў: „Жадаю вам поспехаў у вучобе і творчасці. Веру, што сярод вас ёсць вучні, якія будуць маімі паслядоўнікамі на ніве беларускай літаратуры". У Чамяроўскай школьнай бібліятэцы ў 1966 годзе ўжо налічвалася кала 40 кніг з аўтографамі. Дзе ўсё гэта сёння?.. Ды і даўно ўжо няма і Чамяроўскай васьмігодкі, і Чамяроўскай сельскай бібліятэкі імя Якуба Коласа...

Вісарыён Бялінскі некалі сказаў: „Найвялікшы скарб — добрая бібліятэка". На Слонішчыне за пяць стагоддзяў столькі было найвялікшых скарбаў, што нават немагчыма іх уявіць. Але тых каштоўных і дарагіх скарбаў ужо няма і не вернеш. Такі вось незайздросны гістарычны лёс слонімскіх бібліятэк і кнігазбораў.

**Summary**

**History of Libraries in the Słonim Region**

This paper is focused on the history of libraries in the region of Slonim from the beginnings of the seventeenth century. Žyrovičy was exceptional in this context as the theological seminary, run there by the Basilian Fathers in the period between 1709 and 1773, had a large library. In the years 1842-1847, upon the order of bishop Iosif Siamaška, the main executor of the liquidation of the Uniate Church, a few thousand of Uniate old prints held in the monastery in Žyrovičy, mostly from the Basilian seminary, were burnt. A copy of the edition of the Gospels, funded by the chancellor of the Great Duchy of Lithuania, Leu Sapieha, had been kept there till the middle of the nineteenth century. Michał Kazimier Ahinski had a library in Slonim in the eighteenth century. It held, among others, the collection of works of German, Italian, French and Polish composers. The Ślizień family had a library in their palace in Novadzieviatkovičy, a village near Słonim. There were around five thousand books in it, amassed over four centuries, among them such rare books as the Third Statute of the Grand Duchy of Lithuania, the Radziwiłł Bible, works of Julius Caesar and also Jesuit publications and many other folios. The Pusłowski family from Albertyn (which is now a district of Słonim) were also great book lovers. Their library had over six thousand volumes, in the second half of the nineteenth and the first of the twentieth century books from various fields of knowledge were kept there: philosophy, theology, history, natural sciences.

**Keywords:** Žyrovičy, the Basilian theological seminary, Leu Sapieha, Michał Kazimier Ahinski, the Third Statute of the Grand Duchy of Lithuania, the Radziwiłł Bible.

**Streszczenie**

**Historyczny los bibliotek słonimskich**

Artykuł poświęcony jest historycznym losom bibliotek na Słonimszczyźnie od początku XVII wieku. Pod tym względem wyróżniały się Żyrowicze, w których istniejące latach 1709-1773 seminarium bazylianów posiadało dużą bibliotekę. W latach 1842-1847 z rozkazu biskupa Józefa Siemaszki, głównego wykonawcy kasaty Cerkwi unickiej, spalono kilka tysięcy starych druków unickich z monasteru żyrowickiego, przede wszystkim z biblioteki bazyliańskiej. Do połowy XIX wieku w monasterze żyrowickim przechowywana była

Ewangelia, nadrukowana staraniem kanclerza Wielkiego Księstwa Litewskiego Lwa Sapiehy. Bibliotekę w Słonimiu w XVIII wieku posiadał Michał Kazimierz Ogiński. Znajdowały się w niej m.in. dzieła kompozytorów niemieckich, włoskich, francuskich i polskich. Bogatą bibliotekę w pałacu we wsi Nowe Dziewiątkowicze pod Słonimem posiadali Ślizieniowie. Zgromadzony przez cztery stulecia pięciotysięczny księgozbiór uświetniały takie białe kruki jak III Statut WKL, Biblia Radziwiłłowska, dzieła Cezara, a także publikacje jezuickie i wiele innych foliantów. Wielkimi miłośnikami książek byli także Pusłowscy z Albertyna (obecnie dzielnica Słonimia). W ich liczącej ponad sześć tysięcy woluminów bibliotece w drugiej połowie XIX i pierwszej połowie XX wieku przechowywano publikacje z różnych dziedzin wiedzy: filozofii, teologii, historii, nauk przyrodniczych.

**Słowa kluczowe:** Żyrowice, seminarium bazyliańskie, Lew Sapieha, Michał Kazimierz Ogiński, III Statut WKL, Biblia Radziwiłłowska, Ślizieniowe z Nowych Dziewiątkowicz, Pusłowscy z Albertyna.

**Siarhiej Czyhryn** — pisarz, dziennikarz, regionalista. Mieszka w Słonimiu. Autor około 80 książek o tematyce historycznej, regionalnej i literackiej. Bada historię regionu Słonimia, Zelwy, Zdzięcioła i wschodniej Białostocczyzny oraz losy Białorusinów za granicą w XX wieku. Ostatnio zajmuje się historią Zachodniej Białorusi, powojenną repatriacją Białorusinów z Białostocczyzny do BSRR i represjami okresu stalinowskiego.

**Віктар Корбут**
(Варшава)

## Гістарыяграфія першых беларускамоўных газет «Наша Доля» і «Наша Нива»

У 1906-1907 гг., завяршаючы перыяд рэвалюцыі, якая пачалася ў Расійскай імперыі ў 1905 г., у Вільні, культурным і эканамічным цэнтры Паўночна-Заходняга краю Расіі, у склад якога ўваходзіла асноўная тэрыторыя пражывання беларускамоўнага насельніцтва, было пачата выданне першых сродкаў масавай інфармацыі на беларускай мове — газет «Наша Доля» / „Nasza Dola” (1906 г.) і «Наша Нива» / „Nasza Niwa” (1906-1915 гг.)[1].

Гаворачы пра «Нашу Долю» і «Нашу Ниву» як пра першыя беларускія газеты, трэба зрабіць агаворку, што ў навуковай літаратуры існуюць розныя меркаванні, якія беларускія, беларускамоўныя выданні лічыць «першымі».

Часам таксама можна сустрэць відавочныя памылкі нават у аўтарытэтных даведачных выданнях, як, напрыклад, сцвярджэнне, што «першая газета на беларускай мове» — гэта «Наша Нива»[2]. «Наша

[1] Выкарыстоўваюцца арыгінальныя формы назваў выданняў у 1906-1907 гг.: «Наша Доля. Первшая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу. Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами»; «Наша Доля. Першая беларуская газета для весковаго и местоваго рабочаго народа. Выходзиць раз у тыдзень русскими и польскими литэрами»; „Nasza Dola. Pierszaja biełaruskaja hazeta dla wioskowaho i miestowaho raboczaho narodu. Wychodzić raz u tydzień polskimi i ruskimi literami” («Наша Доля», 1.12.1906, № 6, с. 1; „Nasza Dola”, 1.12.1906, Nr 6, s. 1); «Наша Нива. Першая беларуская газэта з рысунками. Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами»; „Nasza Niwa. Pierszaja biełaruskaja hazeta z rysunkami. Wychodzić raz u tydzień polskimi i ruskimi literami” («Наша Нива», 24.11/ 7.12.1906, № 3, с. 1; „Nasza Niwa”, 10/23.11.1906, Nr 1, s. 1). У цытатах з прац іншых даследчыкаў захоўваюцца тыя формы назваў газет, якія імі выкарыстаны. Таксама выкарыстоўваюцца арыгінальныя назвы іншых выданняў, захоўваюцца асаблівасці правапісу крыніц.

[2] *Газеты Беларусі. 1776-1975. Бібліяграфічны паказальнік*, скл. Л. М. Няхайчык, навук. рэд. В. У. Скалабан, Мінск 2003, с. 3; Т. Кабржыцкая, *Украінскія дарадцы першай беларускамоўнай газеты «Наша Ніва»*, [у:] Т. Кабржыцкая, *Дзве Радзімы — Україна і Беларусь — пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур*, Мінск 2011, с. 278.

Доля» ў гэтым кантэксце часам выпадае з поля зроку даследчыкаў, што ўплывае на ўзровень аргументаванасці іх вывадаў.

Даследчыкі карысталіся як рознай метадалогіяй, так і рознымі крыніцамі для вызначэння таго, калі пачалося выданне газет у Беларусі, якое выданне з'яўляецца першай газетай на беларускай мове.

Польскі даследчык гісторыі паўстання 1863-1864 гг. Агатон Гілер пісаў, што ў Беластоку

> [...] urządzono [...] *drukarnię tajemną białoruską* [тут і далей выдзелена А. Гілерам. — *В.К.*], w której drukowano pisemka dla ludu, jak *Opowiadanie Janka gospodarza z pod Wilna* po białorusku, *Hutorka* (rozmowa) i wiele odezw białoruskich [...]. Drukarnia ta tajemna była pierwszą drukarnią białoruską, a tajemne pisma, *pierwszemi perjodycznemi pismami białoruskiej literatury* — myśl polska ją zrodziła. Redaktorem tych pism był Konstanty Kalinowski, jeden z najszlachetniejszych mężów Litwy [...][3].

Польскі публіцыст Генрык Гершыньскі пісаў, што Валеры Урублеўскі „do współki z Konstantym Kalinowskim, swoim sąsiadem, [...] wydaje i rozpowszechnia pismo redagowane przez tego ostatniego «Mużyckuju Prawdu»"[4].

Віленскі губернатар Міхаіл Похвістнеў даносіў 10 кастрычніка 1862 г. міністру ўнутраных спраў Расійскай імперыі Пятру Валуеву аб распаўсюджванні «между крестьянами в виде периодического издания [...] печатных и рукописных экземпляров воззвания, писанного на белорусском простонародном наречии польскими литерами, под заглавием «Мужицкая правда»[5]. Архіепіскап Полацкі Васілій (Лужынскі) паведамляў 21 студзеня 1863 г. обер-пракурору Свяцейшага правячага сінода Аляксею Ахматаву аб распаўсюджванні ў Дрысенскім, Дзісенскім і Лепельскім паветах «рода газеты, революционным обществом в Вильне издаваемой на белорусском языке, „Мужицкая правда"». У дадатак архіепіскап называў яе «разрушительной газетой»[6].

Ва ўспамінах удзельніка паўстання 1863-1864 гг. А. Ягміна, надрукаваных на рускай мове ў 1892 г., расказваецца, што яму ў Брэсцкім

[3] *Historja powstania narodu polskiego w 1861-1864 r. przez A. Gillera*, t. 1; wyd. 2, Paryż 1867, s. 176.

[4] [H. Gierszyński], *Jeneral Walery Wróblewski*, Paryż 1900, s. 4.

[5] К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*, укл. Г. Кісялёў, Мінск 1999, с. 212.

[6] Тамсама, с. 213.

павеце «случалось подбирать послания какого-то Янка из Вильны к крестьянам»[7].

Жэнеўская газета «Колоколъ», якую выдавалі рускія публіцысты Аляксандр Герцэн і Мікалай Агароў, 1 мая 1863 г. апублікавала ўрыўкі з пецярбургскай газеты «Сѣверная пчела» пра «возмутительную брошюру „Мужицкая правда”»; «летучие листки [...] под названием „Мужицкая правда” (Muzyckaja prauda)», аўтар якіх, «называющий себя Яськом господарем (хозяином) из-под Вильна, подлаживаясь под говор белорусского простолюдина» заклікае «сражаться с москалями и освобождать отечество (batkouszczynu)». «Сѣверная пчела» Яську-гаспадара з-пад Вільні называла «польским патриотом»[8].

Прыведзеныя сведчанні сучаснікаў па-рознаму характарызуюць „Mużyckuju Praudu”: pismo; «воззвание»; «периодическое издание»; «род газеты»; «газета»; «летучие листки»; «брошюра».

У 1921 г. беларускі літаратуразнавец Максім Гарэцкі склаў спіс «болей вядомых беларускіх газэт і журналаў». У гэтым пераліку ідуць наступныя выданні (прыводзяцца назвы паводле Гарэцкага):

1) «Мужыцкая праўда», якую, паводле Гарэцкага, выдаваў Каліноўскі ў Беластоку ў 1863 г. (Гарэцкі не піша, газета гэта ці «журнал»);
2) «Гоман» — «нелегальная газэта»;
3) беларускія календары Слупскага 1892 і 1893 гг.;
4) беларускі каляндар Доўнар-Запольскага 1898 г.;
5) «Свабода» (1903 г.). Гарэцкі не ўдакладняе, газета гэта ці «журнал»;
6) «Беларусь» (Мінск, 1905 г.). Паводле Гарэцкага, выданне было закрыта «на першым нумары, пісана пабеларуску і памаскоўску». Гарэцкі не сцвярджае, газета гэта ці «журнал»;
7) «Наша Доля»;
8) «Наша Ніва»[9].

Магчыма, пад уплывам Гарэцкага, сваю перыядызацыю гісторыі беларускага друку прапанаваў у 1925 г. гісторык Аляксандр Шлюбскі. Ён пісаў, што «да апошняга часу ў шырокіх колах грамадзянства лічыцца, што першай беларускай газэтай была «Наша Доля», а другой — «Наша Ніва»[10]. Аднак Шлюбскі быў перакананы, што «Наша Ніва» ёсьць шостай па ліку і другой «штодзеннай беларускай газэтай». Відавочна, Шлюбскі зрабіў апіску, бо «Наша Нива» была штотыднёвым

[7] Тамсама.
[8] Тамсама, с. 213-214, 379.
[9] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*; выд. 2-е (папр.), Вільня 1921, с. 206.
[10] А. Шлюбскі, *Да гісторыі конфіскацыі «Нашай Нівы»*, «Полымя» 1925, № 4, с. 185.

выданнем. Таксама Шлюбскі датуе «Нашу Долю» 1906-1907 гг., аднак фактычна яе апошні нумар выйшаў у снежні 1906 г.

Паводле Шлюбскага, «першай газэтай на беларускай мове была паўстанчаская, рэволюцыйная „Мужыцкая Праўда" К. Каліноўскага, якая друкавалася ў Беластоку ў часы польскага паўстаньня (1861-63 г.)»; другой — «Гоман», які нелегальна друкаваўся на гэктографе ў Менску ў 1884 г.»; трэцяй — «Свабода», орган Беларускай Соцыялістычнай Грамады, якой у 1902 г. вышаў толькі адзін гэктографаваны №»; чацвёртай — «Беларусь», вышаўшая ў Менску ў 1905 г. на беларускай і маскоўскай мовах»; пятай — «Наша Доля»; і, нарэшце, толькі на шостым месцы стаіць «Наша Ніва». Гаворачы пра «Беларусь», Шлюбскі спасылаецца на Гарэцкага, аднак Гарэцкі «Беларусь» не называе «газэтай» і ўвогуле такое выданне больш нідзе не ўпамінаецца.

Літаратуразнавец Рамуальд Зямкевіч пярэчыў Шлюбскаму, заўважаючы, што ў 1884 г. у Мінску не выходзіла на беларускай мове газета «Гоман», а выходзіў па-руску «Гомонъ», які «нічога супольнага з беларусамі ня мае». Таксама Зямкевіч са спасылкай на адсутнасць мінскай газеты 1905 г. з назвай «Беларусь» у расійскіх бібліятэках, дзе ён яе шукаў, і на «старых людзей у Менску», якія сведчылі, «што такой газэты ня было», лічыў яе міфам[11].

Польскі беларусіст Сэвэрын Выслоух у 1930 г. хаця і называў „Naszu Dolu" „pierwszym tygodnikiem białoruskim", аднак „Mużyckuju Praudu" лічыў „pierwszym nielegalnym pismem białoruskim", а «Гомон» — „nielegalnym pisemkiem"[12].

Беларускі публіцыст Адам Станкевіч называў „Mużyckuju Praudu" «газэтай», а таксама «нашай першай часопісьсю», «тыповым беларускім пачаткава-народніцкім часапісам»[13]. У іншай працы гэты ж аўтар называў „Mużyckuju Praudu", «Гомон» і «Свабоду» беларускімі «часопісямі», «часапісамі», г.зн. перыядычнымі выданнямі[14]. Параўн. пол. *czasopismo*, слова, якое абазначае як часопіс, так і ўвогуле перыядычнае

11 А. Шлюбскі, *Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашае Долі»*, «Полымя» 1927, № 3, с. 204.

12 S. Wysłouch, *Białorusini na Ziemi Wileńskiej*, [у:] *Wilno i Ziemia Wileńska. Zarys monograficzny*, t. I, kom. red.: Z. Hartung [i in.], kom. nauk.: S. Kościałkowski [i in.], Wilno 1930, s. 250-251.

13 А. Станкевіч, *Кастусь Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасьці Беларусі*, [у:] А. Станкевіч, *З Богам да Беларусі. Збор твораў*, укл. А. Пашкевіч, А. Вашкевіч, Vilnius 2008, с. 223-229; A. Stankiewič, *Kastuś Kalinoúski. „Mużyckaja Prauda" i Ideja Niezależnaści Biełarusi*, Wilnia 1933.

14 А. Станкевіч, *Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня*, [у:] А. Станкевіч, *З Богам да Беларусі. Збор твораў*, укл. А. Пашкевіч, А. Вашкевіч, Vilnius 2008, с. 152-188; А. Станкевіч, *Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня*, Вільня 1935.

выданне[15]. Таксама, напрыклад, беларуская газета «Гоман», якая выходзіла ў Вільні ў 1916-1918 гг., называлася ў шапцы „Biełaruskaja wilenskaja czasopiś”[16].

Аднак у „Mużyckaj Praudzie”, адзначае Станкевіч, «не спатыкаем ані разу слоў „Беларусь”, „беларускі народ”. [...] Але край гэты і народ ягоны, хоць дужа агульна, дужа асьцярожна разважваецца як нешта асобнае і рознае ад Польшчы і палякаў»[17].

Беларускі публіцыст Антон Луцкевіч у 1911-1912 гг. «Гомон» лічыў «дужа радыкальнай беларускай газэцінай»[18], «нелегальной газеткой на белорусском языке»[19] (на самай справе — на рускай мове). У 1916 г. Луцкевіч меркаваў, што хаця першай легальнай беларускай газетай была «Наша Доля», аднак яна «першай у беларусоў не была», а ёй папярэднічаў «Гоман», які, паводле Луцкевіча выходзіў у Мінску ў канцы 1880-х гг., і «Свабода» — орган Беларускай рэвалюцыйнай грамады[20]. У 1934-1935 гг. Луцкевіч «Гомон» называў «часопісам» («часапісам»)[21]. Луцкевіч, трымаючы ў руках гэта выданне, адзначаў, што «паміма беларускага загалоўку — ён ад пачатку да канца быў пісаны па-расейску»:

> Яно й было зразумелым з увагі на тыя часы: часопіс быў прызначаны для беларускае інтэлігенцыі, а тая карысталася і ў сваім прыватным, і ў грамадзкім жыцьці мовай расейскай або польскай. Толькі ад пачатку 900-х гадоў пачынаецца ў гэтым перамена, і беларуская інтэлігенцыя, хоць далёка ня ўся і не адразу, пачынае карыстацца мовай беларускай, якая стаецца тым цэмэнтам, каторы змацоўвае еднасьць інтэлігенцыі — як узгадаванае ў расейскай, так і ў польскай культуры[22].

15 D. Hessen, R. Stypuła, *Wielki słownik polsko-rosyjski = Большой польско-русский словарь*, Warszawa — Москва 1967, s. 117.

16 „Homan”, 15.02.1916, Nr 1, s. 1.

17 А. Станкевіч, *Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня*, [у:] А. Станкевіч, *З Богам да Беларусі. Збор твораў*, укл. А. Пашкевіч, А. Вашкевіч, Vilnius 2008, с. 178.

18 А. Новіна, *На дарозі да новага жыцьця*, [у:] *Маладая Беларусь = Maładaja Biełaruś*, сэр. 1, сш. 1, Пецярбург 1912, с. 18.

19 А. Луцкевіч, *Белорусское движение*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 54.

20 І. Мелешка, *10-летні юбілей беларускай прэссы*, «Гоман», 24.10.1916, № 73, с. 2.

21 А. Луцкевіч, *Нарадавольцы-беларусы і іх орган «Гомон». К 50-лецьцю выхаду «Гомона»*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 195-209; А. Луцкевіч, *Нарадавольцы-беларусы і іх орган «Гомон» (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 210-217.

22 А. Луцкевіч, *Нарадавольцы-беларусы і іх орган «Гомон» (Да пытаньня пра эва-*

Луцкевіч, паводле заўвагі яго біёграфа Анатоля Сідарэвіча[23], у публікацыях 1921 і 1933 гг. „Mużyckuju Praudu” не называў газетай, аднак у 1924 г. называў „pismem” на беларускай мове[24], у 1934 г. — «адозвамі»[25]. Пол. *pismo* сярод розных значэнняў гэтага слова можа абазначаць часопіс, газету[26].

У 1933 г. Луцкевіч так асэнсоўваў характар „Mużyckaj Praudy”:

> У працах некаторых польскіх дасьледчыкаў аб польскім паўстаньні 1863 году часта можна спаткацца з заявай, што ведамы павадыр паўстаньня Костусь Каліноўскі выдаваў падчас паўстаньня беларускую газэту «Мужыцкая Праўда». Заява гэтая да нядаўных часоў паўтаралася і беларускімі адраджэнцамі, якія, стараючыся выкарыстаць для сваей акцыі ўсё, што гаварыла аб ранейшых праявах беларускага руху, вельмі даверчыва аднесьліся да гэтае запраўды ж рэвэляцыйнае весткі.

Луцкевіч звяртаў увагу на тое, што «гэныя друкі мелі адзін агульны назоў „Мужыцкая Праўда” і былі нумараваныя, дык стуль, пэўна, і паўстаў пагляд на іх як на газэту». Аднак пераконваў, «што газэтай „Мужыцкая Праўда” не была»:

> Гэта быў папросту цыкль адозваў пад адным агульным загалоўкам, зьмешчаным зьверху дробным друкам, з чарговымі нумарамі (як, дапрыкладу, у прыказах або цыркулярах улады). Кожны нумар зьмяшчаў у сабе толькі адну адозву і — нічога болей. Выходзілі яны непэрыядычна і наагул з газэтай ня мелі нічога супольнага: ніякіх вестак, ніякіх

*люцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 204.

23 А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і яго роля ў беларускім руху*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 8.

24 А. Луцкевіч, *Дыктатар Літвы (У шасьцідзясятую гадавіну сьмерці)*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 142.

25 А. Луцкевіч, *Нарадавольцы-беларусы і іх орган «Гомон». К 50-лецьцю выхаду «Гомона»*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 196; А. Луцкевіч, *Нарадавольцы-беларусы і іх орган «Гомон» (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 211.

26 D. Hessen, R. Stypuła, *Wielki słownik polsko-rosyjski = Большой польско-русский словарь*, Warszawa — Москва 1967, s. 676.

інфармацыяў лістоўкі гэтыя не давалі, зьмест жа адозваў меў на мэце падняць беларускае сялянства проці Масквы і здабыць ягоную прыхільнасьць для „польскага ронду” (гэтак Каліноўскі зьбеларушчыў ня вельмі ўдатна польскае слова „rząd”).

Характэрна, што сам жа Каліноўскі ў „Муж. Праўдзе” называе гэтыя лістоўкі сваімі пісьмамі, ня маючы ніякае прэтэнсіі да назову „газэты”. Разумеем, што для некаторых беларускіх дзеячоў, далёкіх ад навуковае працы і навуковага падыходу да вывучэньня нашае мінуўшчыны, вельмі прывабнай магла быць думка пашыраць у масах перакананьне, што беларусы ўжо 70 гадоў назад мелі сваю прэсу, якая, як ведама, для кожнага народу зьяўляецца ў пэўнай меры паказчыкам яго культурна-нацыянальнае дасьпеласьці. На жаль, пагляд на „Мужыцкую Праўду” як на газэту далёкі ад аб’ектыўнае праўды [...][27].

Лістоўка-цыркуляр, здаецца, было б больш-менш дакладным апісаннем характару „Mużyckaj Praudy”. Але дыскусіі аб гэтым выданні не спыняюцца.

С. Александровіч быў перакананы, што „Mużyckaja Prauda” — гэта «першая беларуская рэвалюцыйна-дэмакратычная газета», «а не адозва ці пракламацыя», пра што «сведчыць перыядычнасць, нумарацыя і агульная назва выдання, знешні выгляд (друкаваўся тэкст на абодвух старонках)». Аднак Александровіч, лічачы, што пра „Mużyckuju Praudu” як пра газэту сведчыць «выказванне самога К. Каліноўскага ў „Пісьме з-пад шыбеніцы”»[28], памыляецца. На самай справе ў пасланні „Do ludu białoruskiego. Pismo z pod szubienicy Konstantego Kalinowskiego” (назву „pismu” даў, мабыць, не Каліноўскі, а публікатар тэксту ў 1867 г. А. Гілер), пад „Gazetką” („I da naszaho kutka dalacieła wasza Gazetka i my jaje z uwahoj praczytali...” — так пачынаецца „Pismo...”) маецца на ўвазе выданне „Głos z Litwy”, якое выходзіла ў пачатку 1864 г. у Кёнігсбергу і куды было адрасавана пасланне (артыкул) Каліноўскага[29].

Беларускі літаратуразнавец Генадзь Кісялёў лічыў „Mużyckuju Praudu” «першай беларускай газетай», якая выдавалася Вінцэнты Канстанты Каліноўскім і яго сябрамі-паплечнікамі Феліксам Ражаньскім, Валерыем

[27] А. Луцкевіч, *Праўда аб «Мужыцкай праўдзе»*, [у:] А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, укл. А. Сідарэвіч; рэд. А. Ліс, Vilnius — Białystok 2009, с. 444.

[28] С. Х. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 29.

[29] К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*, укл. Г. Кісялёў, Мінск 1999, с. 16-17, 40, 302-303; *Historja powstania narodu polskiego w 1861-1864 r. przez A. Gillera*, t. 1; wyd. 2, Paryż 1867, s. 327.

Урублеўскім, Станіславам Сонгіным «найперш» на Гродзеншчыне «значнымі тыражамі (некаторыя нумары друкаваліся нават двойчы), нягледзячы на ўсе рэпрэсіі царскіх улад, распаўсюджвалася амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі, а таксама ў Літве і Латвіі (Латгаліі)»[30].

Польскі гісторык Юры Туронак да «беларускіх пазацэнзурных пэрыёдыкаў» адносіў „Mużyckuju Praudu" і «Гомон», «Свабоду» ж, выдадзеную ў снежні 1902 г. у Лябёдцы Лідскага павета (выдаўцы і аўтары: Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія, Алаіза Пашкевіч, Леан Малецкі, Вінцэнты і Антоні Валейкі), называў «часопісам», тыраж якога, аднак, быў знішчаны пры нявысветленых абставінах, праўдападобна, на месцы выдання — і, такім чынам, не распаўсюджаны[31].

Паводле сцвярджэння даследчыка гісторыі беларускай журналістыкі Сцяпана Говіна, выказанага ў 1980-я гг., газетная справа ў Беларусі пачалася з выхаду ў маі 1776 г. у Гродне польскамоўнай „Gazety Grodzieńskiej". З 1838 г. выдаваліся рускамоўныя «губернскія вѣдомости». Такім чынам, перыядычны друк у Беларусі пачынаўся на польскай мове, а затым развіваўся і на рускай. «Наша Доля» Говіным прызнаецца «першай легальнай г[азетай] на бел[арускай] мове». Аднак у той жа час ён сцвярджае, што «ў 1862-63 К. Каліноўскі выпускаў на бел[арускай] мове нелегальную г[азету] „Мужыцкая праўда"»[32].

У іншай публікацыі, у 1990-я гг., Говін аднёс пачаткі газетнай справы ў Беларусі да „Gazety Literackiej Wileńskiej", заснаванай у 1760 г. Віленскай акадэміяй, а ў 1794 г. перайменаванай у „Kuryer Litewski". Таксама гэты вучоны выказаў думку пра тое, што «першым нац[ыянальным] перыядычным органам была г[азета] „Мужыцкая праўда", якую выдавалі нелегальна ў 1862-63 К. Каліноўскі і яго паплечнікі»[33].

У 2000-я гг. Говін пісаў, што «перыядычныя выданні на Беларусі пачаліся з выпуску газет-аднадзёнак, якія выходзілі ў ВКЛ у 2-й пал. 16 ст. — пач. 17 ст.»[34].

30 К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*, укл. Г. Кісялёў, Мінск 1999, с. 12, 273.

31 Ю. Туронак, *Па сьлядох «Свабоды»*, [у:] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Vilnius 2006, с. 17-19.

32 С. В. Говін, *Газета*, [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т.*, т. 2: *Габой — Карціна*, рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) , Мінск 1985, с. 6.

33 С. В. Говін, *Газета*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.*, т. 2: *Беліцк — Гімн*, рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) , Мінск 1994, с. 448-449.

34 С. В. Говін, *Перыядычны друк,* [у:] *Беларуская энцыклапедыя. У 18 т.,* т. 18, кн. II: *Рэспубліка Беларусь*, рэд. кал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.), Мінск 2004, с. 436.

Рукапіснае выданне беларускіх народнікаў на рускай мове «Гомон», адбітае на гектографе, Говін называе «часопісам»[35].

Як відаць з прыведзеных меркаванняў розных даследчыкаў, якія мелі розныя веды і неаднолькавы доступ да першакрыніц, у гістарыяграфіі не склалася адзінага погляду на гісторыю беларускага перыядычнага друку. І таму, напрыклад, у каталогу віленскіх перыядычных выданняў 1760-1918 гг., складзеным літоўскай даследчыцай Ядвігай Казлаўскайтэ, знаходзім і „Mużyckuju Praúdu", і «Нашу Долю» з «Нашай Нівай». Прычым „Mużyckaja Praúda" апісваецца гэтай даследчыцай як „Nieleg. hazeta"[36], як быццам бы яна так называлася. Аднак гэта відавочная памылка. Хаця погляд на гэта выданне як на «газету» прысутнічае і сярод іншых літоўскіх[37], польскіх[38] гісторыкаў, якія даверыліся супярэчлівым даным гістарыяграфіі.

З гістарычнай перспектывы відавочна, што першымі *легальнымі* і *масавымі*, г. зн. даступнымі на ўсёй тэрыторыі Беларусі, *беларускімі газетамі на беларускай мове* былі «Наша Доля» і «Наша Ніва». Менавіта яны з'яўляліся і «першымі нацыянальнымі перыядычнымі органамі», карыстаючыся тэрмінам С. Говіна, бо яны сцвярджалі ідэю аб беларускай нацыі на беларускай мове і распаўсюджвалі яе сярод усіх беларусаў *польскімі* і *рускімі* літарамі, аб'ядноўваючы беларусаў — і католікаў («палякаў») і праваслаўных («рускіх») у адну *беларускую нацыю* (напрыклад, „Mużyckaja Prauda" выдавалася толькі польскімі літарамі, а «Гомон» — па-руску; „Mużyckaja Prauda" выступала за правы толькі «ўніяцкай веры»[39]).

У гэтым плане меў рацыю С. Говін, які пісаў:

> Бел. друк актывізаваўся пасля адмены ў 1905 забароны на беларускамоўнае кнігадрукаванне. Выйшлі першыя легальныя прагрэсіўныя газеты на бел.

[35] Тамсама.

[36] J. Kazlauskaitė, *Vilniaus periodiniai leidiniai, 1760-1918: bibliografinė rodyklė*, red. komis.: B. Butkevičienė (pirm.) ir kt., Vilnius 1988, p. 39.

[37] J. Žiugžda, *1863 metų sukilimas Lietuvoje*, [у:] *Lietuvos TSR istorija*, т. II: *Nuo 1861 iki 1917 metų*, red. kol.: J. Žiugžda (vyr. red.) [ir kt.], Vilnius 1963, p. 59; [V. Merkys], *Kapitalizmo raida. Darbininkų klasės susidarymas. Proletariato revoliucinio judėjimo pradžia (1861 m. — XIX a. pabaiga)*, [у:] *Lietuvos TSR istorija*, т. I: *Nuo seniausių laiku iki 1917 metų*, red. kol.: B. Vaitkevičius (ats. red.) [ir kt.]; 2-as leid., Vilnius 1986, p. 273-274.

[38] M. Kosman, *Historia Białorusi*, Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk 1979, s. 230.

[39] К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*, укл. Г. Кісялёў, Мінск 1999, с. 35-37.

мове «Наша доля» (1906) і «Наша ніва» (1906-1915), якія вялі барацьбу за бел. нац. ідэю, бел. дзяржаўнасць[40].

Разглядаць у сувязі з вышэйсказаным «Нашу Долю», а тым больш «Нашу Ниву» ў адным ключы з ранейшымі *спробамі* выдання перыёдыкі на беларускай мове было б апраўдана толькі жадаючы намацаць пачаткі беларускамоўнага друку ўвогуле.

«Наша Доля» і «Наша Нива» самі сябе называлі «першыми беларускими газэтами»: г.зн. іх заснавальнікі не бачылі ў мінулым папярэднікаў.

Кіруючыся прынцыпам гістарызму, трэба прызнаць, што пазнейшыя спробы даследчыкаў паставіць сапраўды першыя беларускія газеты на парадак ніжэй за іх рэальнае месца і ролю ў гісторыі ідуць у рэчышчы рэканструкцыі мінулага задняю датаю, а не адлюстравання рэальнага гістарычнага працэсу.

Разгледзім гістарыяграфію вывучэння першых беларускіх газет і інтэрпрэтацыі іх зместу — перш за ўсё за 1906-1907 гг., з акцэнтам на пытаннях нацыянальнай ідэнтычнасці. Пільная і падрабязная ўвага да гістарыяграфіі неабходна, паколькі яна адлюстроўвае прычыны, па якіх многія складаныя пытанні фарміравання беларускага нацыянальнага руху і ідэнтычнасці дагэтуль не знаходзілі свайго вырашэння, а нямала наадварот — заблытваліся і перакручваліся. У сваю чаргу, гістарыяграфія раскрывае не толькі гістарычнае, але і палітычнае значэнне першых беларускіх газет, што таксама абумоўлівала не заўсёды аб'ектыўны падыход да іх з боку розных вучоных, а асабліва, ідэалагізаваных публіцыстаў.

Бадай, першай «аўтабіяграфіяй» „Naszaj Niwy" з'яўляецца рэдакцыйны артыкул, які выйшаў у 1909 г. — „Ab biełaruskim nacionalnym adradzeńni"[41], як лічыцца, аўтарства Антона Луцкевіча[42]. У ім падводзіліся вынікі трох гадоў працы рэдакцыі. У артыкуле адзначана, што газета „pakazywaje biełarusu, szto jon taki samy *czeławiek* [курсіў артыкула. — *В.К.*] i hramadzianin swajho kraju, jak usie inszyje, szto mowa jaho usio nacionalnaje bahaćcie *(sic!)* maje wialikuju cenu, dyj biełaruski

40 С. В. Говін, *Перыядычны друк,* [у:] *Беларуская энцыклапедыя. у 18 т.*, т. 18, кн. II: *Рэспубліка Беларусь*, рэд. кал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.), Мінск 2004, с. 437.

41 *Ab biełaruskim nacionalnym adradzeńni*, „Nasza Niwa", 12/25.11. 1909, Nr 46, s. 667-668.

42 А. Луцкевіч, *Аб беларускім нацыянальным адрадзэньні*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius 2010, с. 38-39.

narod, pakryúdženy historyjej i ludźmi pawinien zaniać paczesnaje miejsce ú siamji bratnich nacij”[43]. „Nasza Niwa” напамінала:

> U kancy 1906 hodu u Wilni wyjszła ú świet i pierszaja biełaruskaja hazeta „Nasza Dola” [...]. [...] Ale „Nasza Dola” pażyła niadoúha. Jeszcze pierad śmierćciu jaje ú Wilni atkryłasia nowaja biełaruskaja hazeta „Nasza Niwa”, katoraja na pierszym miejscy pastawiła kulturno-nacionalnuju rabotu, jakuju wiadzie i ciapier[44].

У гэтай публікацыі прыводзілася статыстыка, якая дагэтуль выкарыстоўваецца вучонымі[45]:

> Za try hady żyćcia „Naszej Niwy” było u joj wydrukowano: 906 karespandencij z 489 roznych wiosak i miasteczak Biełarusi; 246 wierszoū — 61 pieśniara, i 91 apawiedańnie 36 roznych pisacieloū[46].

У тым жа 1909 г. А. Луцкевіч напісаў для часопіса «Московскій еженедѣльникъ» артыкул «Національное возрожденіе бѣлоруссовъ»[47], у якім гаварылася пра тое, што з'яўленне «Нашай Доли» выклікала «целый переворот в умах народа и безграничный восторг», а «Наша Нива» адрознівалася «от предшественницы менее „красным” оттенком» і імкнулася «не революционизировать, а дать народу политическое воспитание, поднять его культурный уровень». Гэты артыкул друкаваўся ў 1909 г. таксама ў чэшскім часопісе „Slovanský Přehled” і ў літоўскай газеце на польскай мове „Litwa”[48]. Таксама ў 1909 г. выйшаў артыкул Луцкевіча «Бѣлорусы» ў выдадзеным у Санкт-Пецярбургу зборніку «Формы національнаго движенія въ современныхъ государствахъ». У ім звярталася ўвага на тое, што «Наша Доля» з'яўлялася «последним проявлением яркого революционизма», а «Наша Нива» стала «главной выразительницей идеи национального возрождения

43 *Ab biełaruskim nacionalnym adradzeńni*, „Nasza Niwa”, 12/25.11.1909, Nr 46, s. 667.
44 Тамсама, s. 668.
45 Параўн.: Х. Імшэньнік, *«Наша Ніва» і дваццацігадовы юбілей беларускае пэрыодычнае прэсы*, «Полымя» 1926, № 7, с. 59; С. Х. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 221.
46 *Ab biełaruskim nacionalnym adradzeńni*, „Nasza Niwa”, 12/25.11.1909, Nr 46, s. 668.
47 Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka [далей: LMAVB], F. 21-336, l. 1 r — 19 r.: Антонъ Новина, *Національное возрожденіе бѣлоруссовъ*.
48 А. Луцкевіч, *Национальное возрождение белорусов*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 29, 268.

беларусов»[49]. Яшчэ ў адной працы А. Луцкевіч так сфармуляваў ролю беларускай прэсы:

> Постепенно вокругъ «Нашей Нівы» создается цѣлое народное движеніе», удакладніўшы, што «постепенно „Н. Н." становится как-бы выразительницей всё больше крепнущаго бѣлорусскаго народнаго движенія»[50].

Тут слова «народны» А. Луцкевіч выкарыстаў у польскім значэнні — замест паняцця «нацыянальны».

Яшчэ адзін артыкул Луцкевіч, пад псеўданімам Iwan Meleschka, апублікаваў у 1909 г. у венскім украінскім штомесячным часопісе „Ukrainische Rundschau". У гэтым тэксце пад назвай „Weissrussen und Polen" ён адзначыў негатыўную ролю віленскай газеты „Kurjer Litewski", якая ў 1907 г. імкнулася «дыскрэдытаваць вядучую беларускую газету „Nasza Niwa"» і ўвогуле знішчыць нованароджаную беларускую прэсу[51].

Такім чынам, з 1909 г. можна прасачыць паслядоўную рыторыку, згодна з якой выхад першых беларускіх газет азначаў пачатак эпохі «нацыянальнага адраджэння беларусаў». З гэтага часу тэрмін «адраджэнне» ў адносінах да беларускага нацыянальнага руху становіцца агульнаўжывальным у беларускім друку.

Да гісторыі першых беларускіх газет А. Луцкевіч зноў звярнуўся ў 1912 г. — у артыкуле «Бѣлорусское движеніе»[52]. У зборніку «Маладая Беларусь», які выйшаў у 1912 г., Луцкевіч адзначаў, што ў 1906 г. было зроблена «дзьве пробы даць беларусам сур'ёзную національную страву»: гэта адкрыццё ў Санкт-Пецярбургу Беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» і «ў Вільні пачала выхадзіць беларуская народная газэта «Наша Доля», а затым і «Наша Ніва», якая «пайшла ў народ і дайшла да яго»[53].

У 1916 г. А. Луцкевіч пад псеўданімам І. Мелешка апублікаваў у віленскай беларускай газеце «Гоман» артыкул «10-летні юбілей беларускай прэссы»[54], у якім канстатаваў, што «неяк непрыкметна, ціха прайшла

49 А. Луцкевіч, *Белорусы*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 36.

50 LMAVB. F. 21-337, l. 22 r.: Рукапіс артыкула А. Луцкевіча без аўтарскага подпісу і назвы.

51 I. Meleschka, *Weissrussen und Polen*, „Ukrainische Rundschau" 1909, Nr 8-9, s. 346.

52 А. Луцкевіч, *Белорусское движение*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 55.

53 А. Новіна, *На дарозі да новага жыцьця*, [у:] *Маладая Беларусь = Maładaja Biełaruś*, сэр. 1, сш. 1, Пецярбург 1912, с. 21-22.

54 І. Мелешка, *10-летні юбілей беларускай прэссы*, «Гоман», 24.10.1916, № 73, с. 2.

дзесятая гадаўшчына закладзін беларускай легальнай прэссы», бо «за спакойных часоў віленскіе беларусы з году ў год сьвяткавалі гэты дзень, збіраючыся на таварыскую бяседу»:

Цяпер жэ с-паміж старых супрацоўнікоў і асноўцоў «Нашай Долі» асталося ў Вільні надта мала людзей: адны з іх дагэтуль пакутуюць у Сібіры, іншые, уцёкшы з Расеі ад прасьледаваньня ураду, апынуліся нет ведама дзе, іншые зыйшлі ў магілу, патраціўшы свае сілы дзеля працы для свайго народу.

Луцкевіч напамінаў, што «з дзікай ненавісьцю накінуліся царавы слугі на гэту першую яркую праяву беларускаго нацыональнаго руху», аднак «„Наша Доля" адкрыла сабой эру шырокай нацыональнай беларускай работы, каторая с таго часу расла і шырылася з году ў год ажно да нашых дзён». Луцкевіч дадаваў, што следам за «Нашай Доляй» выйшла «Наша Нива», а за ёю газета „Biełarus", штомесячны сельскагаспадарчы часопіс «Саха», штоквартальнае выданне «Маладая Беларусь», штомесячны часопіс для моладзі «Лучынка», студэнцкі часопіс «Раніца» і, урэшце, газета «Гоман».

Гісторыя першых беларускіх газет знайшла адлюстраванне таксама ў радзе артыкулаў Луцкевіча ў 1920-я гг. (гл. далей). Усе яны каштоўныя як сведчанні аднаго з асноўных стваральнікаў беларускай прэсы.

У 1910 г. супрацоўнік «Нашай Нівы» Вацлаў Ластоўскі ў сваёй працы «Кароткая гісторыя Беларусі», якая спачатку ўбачыла свет на старонках гэтай газеты, а затым асобным выданнем, так апісваў пачаткі беларускай прэсы:

І калі ў 1905 гаду пазволено было выдаваць газэту, да работы приступіла адразу грамада сьведомых людзей, каб змагацца за національную будучыну і національную культуру с цьвёрдай верай, што 8-мільённы беларускі народ прачнецца з векавечнага сну [...][55].

Робячы факталагічную памылку — называючы 1906 г. пачаткам беларускай прэсы, Ластоўскі таксама не называў саміх газет — «Нашай Доли» і «Нашай Нивы».

У другім нумары за 1915 г. маскоўскага часопіса «Національныя проблемы» выйшаў артыкул вядомага ўжо на той час чытачам «Нашай Нівы» пісьменніка Максіма Багдановіча «Бѣлоруссы», у якім ён

[55] В. Ю. Ластоўскі, *Кароткая гісторыя Беларусі*, Мінск 1992, с. 103.

упамянуў аб выданні «первой легальной белорусской газеты „Наша доля”, ярко радикальной окраски»:

> Вскоре ее приостановили; но еще раньше появилась другая, более сдержанная газета «Наша ніва», сыгравшая в белорусском движении чрезвычайно крупную роль. [...]
> Как и по всей России, в Белоруссии начался многообещающий широкий процесс формирования народной интеллигенции. «Наша ніва» сделалась ее духовной выразительницей[56].

У 1915 г. у першым і другім нумарах маскоўскага часопіса «Украинская жизнь» выйшаў нарыс М. Багдановіча, які ў 1916 г. у Маскве таксама ўбачыў свет асобнай брашурай «Бѣлорусское возрожденіе». Аўтар звяртаў увагу на важны аспект:

> К белорусскому крестьянину, сжившемуся с мыслью, что он — хам, а его «мова» — хамская, «Наша ніва» печатно обратилась на этой «мове», вызывая в нем тем самым уважение и к ней, и к себе самому[57].

У 1916 г. у Вене на ўкраінскай мове выйшла праца Багдановіча «Білоруське відродження» практычна аналагічнага зместу[58].

Ураджэнец Брэст-Літоўска Стэфан Руднянскі (сапраўднае імя Саламон Рубінрот) у верасні 1915 г. у дадатку да нямецкай газеты „Vorwärts” — „Unterhaltungsblatt des Vorwärts” — апублікаваў нарыс „Weißrußland” («Беларусь»), у якім апісаў пачаткі беларускага нацыянальнага руху з 1902 г. у Санкт-Пецярбургу, утварэнне ў 1903 г. БСГ, рост руху ў сувязі з рэвалюцыяй 1905 г., заснаванне ў 1906 г. у Вільні легальных беларускіх газет «Наша Доля» і «Наша Нива», творчасць Якуба Коласа і Янкі Купалы[59]. Нарыс Руднянскага з’явіўся па гарачых слядах нямецкага наступлення на Расію ў Першую сусветную вайну, калі былі заняты Гродна і Вільня, і, паводле меркавання адкрывальніка гэтай публікацыі

56 М. Багдановіч, *Белорусы*, [у:] М. Багдановіч, *Поўны збор твораў. У 3 т.*, т. 3: *Публіцыстыка, лісты, летапіс жыцця і творчасці*, рэд. У. М. Конан, Мінск 1995, с. 123, 307.

57 М. Багдановіч, *Белорусское возрождение*, [у:] М. Багдановіч, *Поўны збор твораў. У 3 т.*, т. 2: *Мастацкая проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды*, рэд. М. І. Мушынскі, Мінск 1993, с. 275, 537.

58 М. Багдановіч, *Белорусы*, [у:] М. Багдановіч, *Поўны збор твораў. У 3 т.*, т. 3: *Публіцыстыка, лісты, летапіс жыцця і творчасці*, рэд. У. М. Конан, Мінск 1995, с. 404-405, 410.

59 S. Rudnianski, *Weißrußland*, „Unterhaltungsblatt des Vorwärts”, 14.09.1915, Nr 211.

расійскага гісторыка Ігара Барынава, стаў, праўдападобна, першай папулярнай публікацыяй на беларускую тэму ў Германіі.

Вывучэнне гісторыі «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» пачалося фактычна з 1909 г. з артыкулаў Антона Луцкевіча як у беларускім друку, так і ў выданнях на іншых мовах. «Наша Доля» паказвалася больш рэвалюцыйнай, чым «Наша Ніва», якой прыпісвалася перш за ўсё «культурна-нацыянальная» місія па фарміраванні беларускай інтэлігенцыі і прышчапленні беларускім сялянам павагі да іх мовы.

Выхад у свет першай беларускай газеты «Наша Доля» ў 1906 г., як пісаў С. Александровіч, заўважылі «ўсе віленскія рускія, польскія, літоўскія і яўрэйскія, а таксама некаторыя мінскія газеты»[60]. У той час, як адзначаў беларускі літаратуразнавец Уладзіслаў Дзяржынскі, «першыя, бадай, спробы крытычных артыкулаў, рэцэнзій і нататак аб фактах беларускае поэзіі нашаніўскае пары паяўляюцца ў 1908 г.»[61] Аднак польскі публіцыст і грамадскі дзеяч Леан Васілеўскі звярнуў увагу на першыя беларускія газеты ўжо ў 1907 г.[62]

У 1908 г. весткі пра «Нашу Ніву» ўжо дасягнулі ЗША. У газеце ўкраінскіх масквафілаў з Уілкс-Бэры (штат Пенсільванія) «Свѣтъ» была апублікавана карэспандэнцыя аб З'ездзе прагрэсіўнага славянскага студэнцтва ў Празе, на якім выступаў студэнт пецярбургскага Горнага інстытута імператрыцы Кацярыны II Абухоўскі, які паведаміў аб існаванні васьмімільённага беларускага народа, «и той народъ имѣе наветъ самостоятельную бѣлорусскую газету, издающуюся латинскими литерами и называющуюся „Nasza Niwa"». Невядомы аўтар «Свѣта» ў сувязі з гэтым іранічна задаваўся пытаннем: «А газета тая правда що дуже твердое доказатель[ство] самостойності бѣлорусского народа?!»[63].

У пачатку 1909 г. «Наша Ніва» магла канстатаваць:

60 С. Х. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX ст.*, Мінск 1971, с. 199.

61 У. Дзяржынскі, *Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў*, «Полымя» 1927, № 8, с. 139-140.

62 L. W., *Litwa i jej ludy*, Warszawa 1907; L. Wasilewski, *Litwa i Białoruś. Przeszłość — teraźniejszość — tendencje rozwojowe*, Kraków [1912]; L. Wasilewski, *Litwa i Białoruś. Zarys historyczno-polityczny stosunków narodowościowych*, Warszawa — Kraków 1925; B. Stoczewska, *Litwa, Białoruś, Ukraina w myśli politycznej Leona Wasilewskiego*, Kraków 2009, s. 183 і наст.

63 *Новая самостойная (?) народность*, «Свѣтъ», 23.07.1908, с. 5; цыт. паводле: В. Кіпель, *Беларусы ў ЗША*, навук. рэд. Н. Гардзіенка; 2-е выд., дап. і дапрац., Мінск 2017, с. 115.

Патроху пачынае шырыцца літэратура аб нашай нацыональнай справе. Ў рускіх, польскіх, украінскіх, чэшскіх і іншых газэтах усё часьцей пішуць а беларусах, аб іх нацыональным адрадзэньні[64].

На гэтым фоне вылучаюцца працы ўкраінскіх публіцыстаў Іларыёна Свянціцкага і Дмытра Дарашэнкі, якія выйшлі адпаведна ў Львове і Кіеве ў 1908 г.[65]

У пачатку 1909 г. праца Дарашэнкі ўбачыла свет на старонках «Нашай Нівы» ў перакладзе Янука Журбы (ён жа адзначаў з'яўленне ў друку і працы Свянціцкага)[66]. Дарашэнка пісаў пра тое, што „u Wilni s 1906 hodu paczała wychadzić biełaruskaja hazeta dla narodu «Nasza Dola», a jak jana zakryłasia, zjawiłasia druhaja — «Nasza Niwa», szto wychodzić i ciapier. U Minsku wyjszoú adzin numer biełaruskaj hazety ú rasiejskaj mowie «Голосъ Бѣлоруссіи», i jaje zakryli"[67]. Дарашэнка звязваў пачаткі творчасці Янкі Купалы з «Нашай Доляй» і «Нашай Нивай», а Коласа — з «Нашай Нивай»[68], хаця ўсё было дакладна наадварот. Апрача таго, Дарашэнка заўважыў паэтычную творчасць паэта Ізгура, які публікаваўся, паводле яго, у «Нашай Ниве»[69], хаця на самай справе — у «Нашай Доли».

Праца Дарашэнкі таксама публікавалася ў 1909 г. на старонках віленскай літоўскай газеты „Vilniaus žinios"[70].

Польскі публіцыст Вацлаў Роман Вэгнэровіч у аглядзе гісторыі беларускага нацыянальнага руху, апублікаваным у 1912 г., адзначаў з'яўленне «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» ў 1906 г. і актыўнасць „grupy rusifikatorów", якія пачалі выдаваць насуперак беларусам свае „gazetki". Паводле Вэгнэровіча, „«Nasza Niwa», jako wyrazicielka ruchu, stanęła przeto na gruncie ściśle ludowym, demokratycznym"[71].

[64] [Я. Журба], *Беларусы і іх нацыональнае адрадзэньне. Ад перакладчыка*, «Наша Ніва», 22.01/4.02.1909, № 4, с. 49.

[65] І. Святицький, *Відродженє білоруського пісьменства*, Львів 1908; Д. Дорошенко, *Білоруси і їх національне відродження. Відбиток з «Ради»,* Київ 1908.

[66] [Я. Журба], *Беларусы і іх нацыональнае адрадзэньне. Ад перакладчыка*, «Наша Ніва», 22.01/4.02.1909, № 4, с. 49.

[67] [D. Doroszenko], *Biełarusy i ich nacionalnaje adradzeńnie* „Nasza Niwa", 22.01/4.02.1909, Nr 4, s. 57.

[68] Тамсама, s. 60-61.

[69] Д. Дорошенко, *Білоруси і їх національне відродження. Відбиток з «Ради»,* Київ 1908, с. 31.

[70] А. Лапінскене, А. Мальдзіс, *Перазовы сяброўскіх галасоў: беларуска-літоўскае літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу*, Мінск 1988, с. 75; A. Lapinskienė, A. Maldzis, *Lietuvių-baltarusių literatūriniai ryšiai*, Vilnius 1989, p. 75.

[71] W. R. Wegnerowicz, *Młoda Białoruś*, „Świat Słowiański", styczeń 1912, R. VIII, t. I, s. 2, 6-8.

Прадстаўнікі заходнерускага руху, як, напрыклад, Дзмітрый Скрынчанка, які быў прыхільнікам русіфікацыі беларусаў і ўкраінцаў, лічыў беларускую прэсу вынікам развіцця руху «бялорусизма», пачаткі якога ён адносіць да 1860-х гг., калі «на польскія деньги» з'явіліся таварыствы, якія гуртавалі «бѣлорусскую большей частью уже окатоличенную и ополяченную интеллигенцію». А затым «появились „бялорускія" газеты и журнальчики», у прыватнасці, Скрынчанка ўпамінае «Нашу Ниву», з якой ён быў «хорошо знакомъ». Скрынчанка сцвярджае, што «эти изданія не имѣли распространенія; ихъ *даромъ* (выдзелена Д. Скрынчанкам. — *В.К.*) разсылали по селамъ»[72]. Ніжэй будзе паказана, што гэты погляд быў тэндэнцыйны.

Пазней дзве тэндэнцыі — да пазнання гісторыі першых беларускіх перыядычных выданняў, з аднаго боку, і да свядомага яе скажэння, з другога, будуць узмацняцца. Вакол іх сфарміруюцца фактычна два падыходы — навуковы і ідэалагізаваны — да вывучэння публіцыстычнай спадчыны беларускага руху.

З актыўным развіццём беларускага нацыянальнага руху ў перыяд пасля рэвалюцый 1917 г. у Расіі і са з'яўленнем перспектывы стварэння беларускай дзяржавы, гісторыя першых беларускіх газет стала разглядацца ў больш шырокім кантэксце. У працы «Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі», якая выйшла ў 1919 г. з мэтай абгрунтавання стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, яе аўтар — гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі коратка канстатаваў:

> Паяўленьне «Нашае Нівы», іменьні Янкі Купалы і іншых паэтаў, грамадзкая і літэратурная працы братоў Луцкевічаў і даўгога сьцягу іншых працаўнікоў і арганізацый становяць цэлую эпоху ў гісторыі разьвіцьця беларускае нацыянальнае сьвядомасьці[73].

Публіцыст і дзяржаўны дзеяч БНР Аляксандр Цвікевіч у 1919 г. выдаў працу «Беларусь», у якой упамінае газеты «Наша Доля» і «Наша Нива» ў сувязі з дзейнасцю ў 1905 г. Беларускай сацылістычнай грамады і ўвогуле «бѣлорусскаго революціоннаго движенія»[74].

72 Д. В. Скрынченко, *«Украинцы»*, Кіевъ 1916, с. 46.

73 М. В. Доунар-Запольскі, *Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі*; 2-е выд., Вільня 1919, с. 14.

74 А. Цвикевичъ, *Беларусь. Политическій очеркъ*, Берлинъ 1919, с. 15.

Педагог, гісторык, грамадскі дзеяч Усевалад Ігнатоўскі ў працы пра беларускі нацыянальны рух, напісанай у 1917-1918 гг. і выдадзенай у 1919 г., разглядаў «Нашу Долю» і «Нашу Ниву» як адзін газетны праект:

> У 1906-м годзе ў Вільні пачала выдавацца першая беларуская газэта, якую столькі часу чакала грамадзянства Беларусі. Зьявілася яна пад назвай «Наша Доля». Ня надта пашанцавала першаму беларускаму часапісу. Праз некалькі тыдняў «Наша Доля» зачынена ўрадам, але хутка яна ўваскросла пад другою назваю «Наша Ніва». [...]
> Наўкола рэдакцыі газэты сабралася шмат маладога народу, які шчыра працаваў над беларускай справай.

У. Ігнатоўскі ўпамінае Яна і Антона Луцкевічаў, Аляксандра Уласава, Мацея Крапіўку (Цётку)[75].

У «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі», які з 1919 г. да другой паловы 1920-х гг. вытрымаў некалькі выданняў у Вільні і Менску, Ігнатоўскі, разглядаючы першыя беларускія газеты ў кантэксце рэвалюцыі 1905 г. і наступных падзей, пісаў, што „«Грамадаўцы» заснавалі ў Вільні першую легальную газэту, спачатку пад назваю «Наша Доля», а потым, пасьля яе забароны, пад назваю «Наша Ніва». Рэволюцыйна-клясавыя ідэалы тут заменены ідэаламі нацыянальнымі. Соцыялізм заменен тут радыкалізмам, а часам проста лібэралізмам”[76].

У працы «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця» Ігнатоўскі выказваў думку, што «Наша Нива» „была правейшаю за «Нашу Долю»”:

> З класавым кірункам яна зусім парвала і стала на грунт адзінага нацыянальнага фронту. [...] Газета абвяшчае, што яна не будзе служыць «адным мужыком». [...] Безумоўна, газета ў апошнім выпадку далёка пайшла па шляху нацыянальнага фронту і дагаварылася да абсурду. [...] Паміж яе радкамі часта знаходзім мы здаровыя думкі. [...] Але ўдары рэакцыі зноў гоняць яе ў русла лібералізму[77].

[75] У. Ігнатоўскі, *Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі. (Лекцыі, чытаныя для студэнтаў Менскага Пэдагагічнага Інстытуту ў г. Яраслаўлі ў 1917-1918 року)*, Менск 1919, с. 74-76.

[76] У. Ігнатоўскі, *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*, 4-е выд., перароб., Менск 1926, с. 160; У. Ігнатоўскі, *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*, [у:] У. Ігнатоўскі, *Выбранае*, укл. Г. Запартыка, Мінск 2018, с. 157.

[77] У. Ігнатоўскі, *Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя. Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*, [у:] У. Ігнатоўскі, *Выбранае*, укл. Г. Запартыка, Мінск 2018, с. 358-359.

Цікава, што падобныя ідэалагізаваныя ацэнкі будуць даваць першым беларускім газетам вульгарныя сацыялагічныя крытыкі ў 1930-1960-я гг.

А. Луцкевіч удакладняў, што Ігнатоўскі ў сваёй працы «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця»[78] памыліўся, назваўшы кіраўнікамі «Нашай Доли» братоў Луцкевічаў і Іваноўскага, а сярод «дзейных удзельнікаў» — Уласава, членамі ж рэдакцыі — Яна Луцэвіча і Якуба Коласа. Бо ўсе вышэйпералічаныя асобы, апрача Луцкевічаў, у склад рэдакцыі «Нашай Доли» не ўваходзілі[79].

У 1920 г. выйшаў зборнік успамінаў пра Яна Луцкевіча, у якім рознымі аўтарамі, у тым ліку яго братам Антонам, была прадстаўлена роля Яна ў выданні «Нашай Доли» і «Нашай Нивы»[80].

Пісьменнік і літаратуразнавец Максім Гарэцкі, былы аўтар «Нашай Нівы», у сваёй працы «Гісторыя беларускае літаратуры», напісанай у 1919-1920 гг. у Вільні, якая ў 1920-я гг. вытрымала некалькі выданняў[81], вылучыў раздзел «Нашаніўская пара», які датаваў 1905-1915 гг., абгрунтоўваючы гэта наступным чынам:

> Нацыянальная, ці нашаніўская (ад назову газэты «Наша Ніва») пара пачалася з рэвалюцыі 1905-га года, калі беларускае друкаванае слова магло вольна пашырацца на ўлоньні свае айчызны.

Выхад у свет «Нашай Доли» Гарэцкі называе «сьвятам беларускага адраджэньня». Літаратуразнавец звярнуў увагу на тое, што «нумары „Нашай Долі" зрабіліся цяпер дарагой бібліяграфічнай рэдкасьцю»[82]. Гарэцкі піша, што «на вуліцах Вільні газэту бралі нарасхват, чыталі

[78] У. Ігнатоўскі, *Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту*, 2-е выд., стэрэотып., Менск 1926; У. Ігнатоўскі, *Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя. Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта,* [у:] У. Ігнатоўскі, *Выбранае*, укл. Г. Запартыка, Мінск 2018, с. 357-358.

[79] А. Шлюбскі, *Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашае Долі»*, «Полымя» 1927, № 3, с. 203.

[80] *Жыцьце і праца Івана Луцкевіча,* [у:] *Памяці Івана Луцкевіча ў першые ўгодкі яго сьмерці яго (20.VIII.1919 — 20.VIII.1920)*, Вільня 1920.

[81] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, Вільня 1920; М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*; выд. 2-е (папр.), Вільня 1921; М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, укл. Т. С. Голуб, Мінск 1992.

[82] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*; выд. 2-е (папр.), Вільня 1921, с. 132.

вялікімі кучкамі і плацілі часам вялікія грошы»[83]. Характарызуючы «Нашу Ниву», Гарэцкі пісаў, што яна

> гуртавала ля сябе ўсю сьвядомую Беларусь, і на яе страніцах вырасьлі літэратурныя іменьні ўсіх выдатнейшых сучасных беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў. [...]
> Першай прыметай нашаніўскай пары ў літэратуры ёсьць пераважнасьць нацыянальных элементаў і нацыяналістычных лёзунгаў і мотываў над усім-чыста іншым[84].

Гарэцкі змясціў кароткія біяграфіі асоб, якія публікаваліся ў першых беларускіх газетах: Якуба Коласа, Янкі Купалы, Алеся Гаруна. Першым жа ён адзначыў Яна Луцкевіча:

> Ян Луцкевіч, хоць сам блізка што і ня пісаў, зрабіў тымчасам вялікую работу ў гісторыі нашаніўскае літэратуры, быўшы ініцыятарам «Нашае Долі» і «Нашае Нівы», дабываўшы кошты на друкаваньне[85].

Пра Антона Луцкевіча (Антона Навіну) сказана, што ён «з сваім нябожчыкам-братам Янам Луцкевічам паклаў грунт нашаніўскай парэ»[86]. Асобна адзначана роля Алаізы Пашкевіч (Цёткі) у газеце «Наша Доля»: «за тую работу пацягнулі яе пад суд, дык яна ўцякла заграніцу, у Львоў»[87].

У 1922 г. у Петраградзе выйшла капітальная праца рускага філолага беларускага паходжання Яўхіма Карскага па гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX ст.[88] Адначасова ў ёй разглядалася і пытанне нараджэння беларускага нацыянальнага руху: у падраздзеле «Бѣлорусское движеніе» адлюстравана гісторыя газет «Наша Доля» і «Наша Нива», асобна разгледжана творчасць іх аўтараў — пісьменнікаў Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Яна Луцэвіча (Янкі Купалы), Канстанціна Міцкевіча (Якуба Коласа), Максіма Багдановіча У выданні былі змешчаны партрэты Я. Луцэвіча і К. Міцкевіча[89]. Гэта ўзаемасувязь гісторыі беларускай літаратуры і нацыянальнага руху, падкрэсленая Карскім, сведчыць пра тое, што трэба разглядаць абедзве з'явы не ў адрыве адна ад адной, а ва ўзаемасувязі.

[83] Тамсама, с. 133.
[84] Тамсама.
[85] Тамсама, с. 134.
[86] Тамсама, с. 204.
[87] Тамсама, с. 139.
[88] Е. Ѳ. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорусскаго племени. 3. Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922.
[89] Тамсама, с. 151-164, 219-321.

Карскі заўважаў, што „Наша Нива” «безъ стѣсненія указываетъ бѣлоруссамъ-католикамъ, что они не поляки; но въ то же время недостаточно ясно подчеркивается, что бѣлоруссы такая-же вѣтвь русскаго народа, какъ и великорусы и малорусы». Карскі з незадавальненнем адзначаў «нѣсколько холодное отношеніе» беларускай прэсы «къ главной народности въ государствѣ», г.зн. да велікарускай[90]. Аднак такіх адносін у газеце не адзначана. Выданне крытыкавала расійскія *ўлады*, а не рускі *народ*.

Тэматычна з працамі Гарэцкага і Карскага звязана хрэстаматыя беларускага грамадска-палітычнага дзеяча і літаратуразнаўца Ігната Дварчаніна па гісторыі беларускай літаратуры для беларускіх сярэдніх школ у Польшчы, выдадзеная ў 1927 г. Укладальнік падручніка прысвяціў увагу творчасці пісьменнікаў, якія пачыналі свой творчы шлях на старонках першых беларускіх газет[91]. Першы раздзел дапаможніка называецца «Нашаніўская пара», якая характарызуецца такім чынам: „гэты час лічыцца з дня выхаду першай з сталых беларускіх часопісаў: «Наша Доля», г.ё. з 14 верасьня 1906 г. і да восені 1915 г., г.ё. пакуль Беларусь ня была яшчэ разрэзана на двое ваенным фронтам і пакуль каля «Нашае Нівы» гуртаваліся ўсе сьвядомыя беларускія сілы”. Дварчанін падкрэсліваў, што «гэты назоў адносіцца ня толькі да прыгожага пісьменства, але і да ўсяго духовага беларускага жыцьця наагул». Дварчанін лічыў, што «Наша Ніва» мела «сялянскі», «ідэолёгічны характар»: «Наша Ніва» ішла па сьлядох «Нашае Долі». Далей укладальнік хрэстаматыі звяртаў увагу на тое, што «важнаю ад’знакаю *(sic!)* „Нашае Нівы” быў яе глыбокі патрыятызм. Любоў да бацькаўшчыны ставілася перад усім». Да «выдатнейшых дзеячаў, якія стаялі на чале ўсяе працы каля „Нашае Нівы”», Дварчанін адносіў братоў Луцкевічаў, Аляксандра Уласава, Антона Лявіцкага, Алаізу Пашкевіч[92] — г.зн. тых, хто стаяў ля вытокаў і быў першымі аўтарамі гэтага выдання і «Нашай Доли».

Адной з прац, у якой была зроблена спроба комплексна паказаць гісторыю беларускага нацыянальнага руху, і ў гэтым кантэксце разглядаліся першыя беларускія газеты, з’яўляецца кніга беларуса па паходжанні Фёдара Турука «Белорусское движение», выдадзеная ў 1921 г. у Маскве. Аднак газетам у ёй прысвечана літаральна некалькі абзацаў без грунтоўнага аналізу іх зместу[93].

[90] Тамсама, с. 163; цыт. паводле: У. Дзяржынскі, *«Бѣлорусы» Е. Ф. Карскага,* «Полымя» 1923, № 2, с. 129.

[91] І. Дварчанін, *Хрэстаматыя новай беларускай літэратуры (ад 1905 году). Для старэйшых клясаў беларускіх сярэдніх школ*, Вільня 1927.

[92] Тамсама, с. 7-9.

[93] Ф. Турук, *Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов. С приложением образцов белорусской нелегальной литературы, важнейших документов белорусских политических партий*

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Аляксандр Бурбіс у нарысе пра гісторыю Беларускай сацыялістычнай грамады ў 1903-1906 гг., актыўным членам якой ён быў, успамінаў пра выхад у 1906 г. «Нашай Долі», адзначаючы канфіскацыю пяці з шасці яе нумароў і канстатуючы:

> Арышты й ссылкі руйнуюць беларускія рэволюцыйныя організацыі, і астаткі ўцалеўшых працаўнікоў пачынаюць гуртавацца каля новай беларускай газэты ў Вільні «Наша Ніва»[94].

Менскі мовазнавец Мікалай Байкоў, які раней не быў звязаны з беларускім нацыянальным рухам, у 1923 г. пісаў, што «гурток „Нашае Нівы" можна прызнаць першым гуртком беларускіх інтэлігэнтаў. Але рэакцыя 1907-1914 гг. спыніла разьвіцьцё беларускага руху»[95]. Гэта думка, аднак, Байковым не была развіта і абгрунтавана.

Былы аўтар «Нашай Нивы» Зміцер Жылуновіч прысвяціў яе гісторыі некалькі артыкулаў. У нарысе пра беларускую літаратуру пачатку XX ст. ён пісаў у 1920 г.:

> 1905 г., помяж с падымам соцыялістычнаго руху, падняу да нябывалай вышы і рух нацыянальны. [...] Здаецца з гэтаго боку 1905 г. знарок і выпау дзеля таго, каб даць штырхач толькі беларускаму народу, які астауся пазадзя усіх на дарозя свайго нацыянальнаго будауніцтва. [...]
> Адчыняная у Вільні за змену зачынянай «Нашай Долі» вядомая «Наша Ніва» начала служыць ліхтарняю, да якой паляцелі з усіх куткоу высунутыя народам яго «гаравальнікі і апевайцы» думак[96].

У 1924 г. Жылуновіч адзначаў «супрацоўніцтва» ў «Нашай Доли» Цёткі, Каруся Каганца і Ядвігіна Ш., ролю «Нашай Нівы» ў творчасці гэтых і іншых пісьменнікаў:

*и национальных организаций и этнографической карты белорусского племени, составленной акад. Е. Ф. Карским*, Москва 1921, с. 16-18.

94 А. Бурбіс, *Беларуская Социялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903-1907 гг.)*, [у:] *Беларусь. Нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэволюцыйнага руху*, аг. рэд.: А. Сташэўскі, З. Жылуновіч, У. Ігнатоўскі, з дап. А. Смоліча, С. Некрашэвіча і Я. Пятровіча, Менск 1924, с. 181.

95 М. Байкоў, *Пытаньне беларускай культуры і шлях беларускай інтэлігэнцыі*, «Полымя» 1923, № 5-6, с. 100.

96 З. Жылуновіч, *Беларуская літэратура. (Нарысы і агляды). Лекцыя, чытаная у Беларускум Народнум Універсытэту у Маскве*, [у:] *Курс белоруссоведения. Лекции читанные в Белорусском Народном Университете в Москве летом 1918 года. С библиографическим указателем по каждому вопросу и с приложением этнографической карты белорусского племени акад. Е. Ф. Карского*, Москва 1918-1920, с. 265-266.

> Сваімі творамі, якія нумар ад нумару ўбіралі «Нашу Ніву», Янка Купала з Якубам Коласам нясупынна будзілі к жыццю і творчасьці маладыя сілы[97].

Жылуновіч разглядаў гісторыю «Нашай Нивы» ў 1927 г. у артыкуле прысвечаным жыццю і дзейнасці А. Бурбіса. Ён закранаў тэму развіцця беларускага нацыянальнага руху, дзейнасці Беларускай сацыялістычнай грамады, адзначаючы, што пасля задушэння рэвалюцыі ў 1906 г. «гуртаваньне рэштак сіл партыі [БСГ — *В.К.*] стала адбывацца вакол адчыненай тыднёвай беларускай газэты „Наша Ніва"». У той час «газэта „Наша Ніва", будучы органам Беларускае Социялістычнае Грамады, галоўную ўвагу аддавала высьвятленьню політычна-соцыяльных пытаньняў»[98].

З. Жылуновіч закранаў гісторыю «Нашай Нивы» і ў іншых публікацыях[99].

Руска-беларускі гісторык Уладзімір Пічэта звяртаў увагу на тое, што «рэволюцыя 1905 г. выклікала да жыцьця легальную пэрыодычную прэсу, якая мусіла адбіваць усе нацыянальна-культурныя й політычныя імкненьні беларускіх адраджэнцаў». Пічэта пісаў, што «Наша Доля» праіснавала нядоўга і была «зачынена»:

> Рэволюцыйна-нацыянальны напрамак, бязумоўна, ня мог спадабацца ўрадавай адміністрацыі, якая была вартаўнікам расійскага зямельнага капіталу і абаронцам прынцыпу неабасобленасьці беларуса ад велікаруса.

Пічэта лічыў, што «беларускі тыднёвік „Наша Ніва" ў эпоху сталыпінскай рэакцыі быў адзіным выяўнікам дум і інтарэсаў народнай масы»[100].

Былы супрацоўнік «Нашай Нівы» літаратуразнавец Хведар Імшэннік у сваіх успамінах падкрэсліваў, што «у „Нашай Ніве" пачалі сваю літаратурную дзейнасьць такія песьняры Беларусі, якія цяпер карыстаюцца

[97] З. Жылуновіч, *Беларускае пісьменства. Гістарычна-крытычны нарыс*, [у:] *Беларусь. Нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэволюцыйнага руху*, аг. рэд.: А. Сташэўскі, З. Жылуновіч, У. Ігнатоўскі, з дап. А. Смоліча, С. Некрашэвіча і Я. Пятровіча, Менск 1924, с. 298 і наст.

[98] З. Жылуновіч, *Алесь Бурбіс (Рэволюцыйная характарыстыка)*, «Полымя» 1927, № 2, с. 182.

[99] З. Жылуновіч, *Беларуская інтэлігенцыя ў гістарычным аспэкце*, «Полымя» 1926, № 6, с. 80; Ц. Гартны, *Дваццаць гадоў назад (Успаміны з мінулага)*, «Полымя», май 1929, с. 154-156.

[100] У. Пічэта, *Формы нацыянальнага й опозыцыйнага руху на Беларусі*, «Полымя» 1924, № 2 (10), с. 146-147.

славаю на ўвесь СССР і вядомы далёка па-замежамі *(sic!)* яго, як Янка Купала, Якуб Колас (ён сьпярша пачаў працу ў „Нашай Долі”), Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля, М. Багдановіч». Аўтар дадаваў, што „Наша Ніва” «зьбірала, згуртоўвала, апрацоўвала і ставіла на рэволюцыйны шлях беларускую моладзь, выбітных людзей Беларусі, з якіх шмат хто зьяўляецца цяпер ня толькі сябрамі ЎсеКП(б), але некаторыя знаходзяцца і на чале ўлады БССР»[101]. Імшэннік дадаваў:

> Кастрычнікавая рэвалюцыя вызваліла паднявольны беларускі народ, які ў Савецкай Беларусі мае сваю дзяржаўнасьць, аб чым толькі марыла «Наша Ніва»[102].

Імшэннік трапна заўважыў, што хаця „Наша Ніва” «ня ставіла перад сабою клясавага змаганьня», «нібыта не падзяляла на клясы беларусаў, а несла свой сьцяг змаганьня „ўсяму пакрыўджанаму народу”, мы ўсё-ж такі павінны заўважыць, што пакрыўджанымі на Беларусі наогул былі рабочыя і сялянства, асабліва бядняцка-серадняцкая кляса». Імшэннік напамінаў, што «культурнае разьвіцьцё беларусаў „Наша Ніва” разумела, як падвышэньне нацыянальнай сьвядомасьці, грамадзянскага пачуцьця і чалавечай гордасьці»[103].

Імшэннік падкрэсліваў:

> Рэволюцыя 1905 г. вырвала з рук царызму права беларуса на яго адраджэньне, яна спыніла жорсткую русыфікацыю краіны і дала магчымасьць Беларусі разьвіць свае творчыя сілы, паставіўшы на чале беларускасьці «Нашу Ніву»[104].

Імшэннік быў упэўнены, што «з усіх газэт Беларусі, выходзячых на розных мовах, „Наша Ніва”, была найболей радыкальнай і самай левай газэтай»[105].

У першай палове 1920-х гг. розныя гісторыкі, літаратуразнаўцы, публіцысты, у тым ліку былыя супрацоўнікі беларускіх газет, спрабавалі абагульніць веды аб іх гісторыі, але асновай для іх вывадаў з’яўлялася або іх суб’ектыўная памяць і погляды, або інфармацыя з ранейшых

101 Х. Імшэньнік, *«Наша Ніва» і дваццацігадовы юбілей беларускае пэрыодычнае прэсы*, «Полымя» 1926, № 7, с. 59-60.

102 Тамсама, с. 63.

103 Тамсама, с. 60.

104 Тамсама, с. 52.

105 Тамсама, с. 54.

публікацый. Прычым «Наша Доля» і «Наша Нива» ацэньваліся не толькі на падставе вывучэння іх зместу, але і ў залежнасці ад ідэалагічных прынцыпаў даследчыкаў.

У канцы 1910-х — першай палове 1920-х гг. склалася традыцыя разглядаць «Нашу Долю» і «Нашу Ниву» ў розных кантэкстах: і як органы Беларускай сацыялістычнай грамады, і як літаратурныя друкаваныя органы, на старонках якіх сфарміраваліся асобы класікаў беларускай літаратуры – Якуба Коласа, Янкі Купалы З аднаго боку, першыя беларускія газеты ўпісваліся ў кантэкст сацыялістычнага рэвалюцыйнага руху, з другога, рабіўся акцэнт на іх ролі ў беларускім нацыянальным руху. У вывучэнні гісторыі газет актыўны ўдзел прымалі як даследчыкі беларускай мовы і літаратуры, гісторыкі (Я. Карскі, Ф. Турук, М. Гарэцкі, І. Дварчанін, У. Ігнатоўскі), так і былыя супрацоўнікі «Нашай Нівы» (З. Жылуновіч, Х. Імшэннік). У. Ігнатоўскі, бадай, упершыню, выразна выказаў думку пра тое, што «Наша Доля» прапагандавала рэвалюцыйна-класавыя ідэалы, а «Наша Нива» — нацыянальныя, быццам бы парваўшы з класавымі ідэаламі і імкнучыся ў бок лібералізму.

У публікацыях ад 16 мая 1926 г. менскіх газет, органаў ЦК КП(б)Б «Звезда» і «Савецкая Беларусь», прысвечаных палітыцы беларусізацыі (убачылі свет паводле пастановы ЦК КП(б)Б як адказ на крытыку палітыкі беларусізацыі «Белорусом» з Полацка), гучаў заклік да тых, хто сумняваўся ў існаванні беларускай мовы, культуры і народа: «читателю следовало бы посмотреть «Нашу Ниву» — она много интересного скажет ему». Сімвалічна, што гэты тэкст — «Распоясавшийся шовинизм» — выйшаў з кабінетаў ЦК КП(б)Б, у ім жа цытавалася станоўчае выказванне Максіма Горкага пра «работу людей, сгруппировавшихся вокруг газеты „Наша Нива”», пра Янку Купалу і яго творчасць[106].

Трэба дадаць, што Янка Купала і Якуб Колас, пісьменнікі, чыя творчасць была звязана з «Нашай Нивай», атрымалі высокія званні. 28 мая 1925 г. ЦК КП(б)Б пагадзіўся з прысваеннем Купалу звання народнага паэта, а 15 кастрычніка 1926 г. — з прысваеннем гэтага звання Коласу[107].

«Большая советская энциклопедия», выдадзеная ў лютым 1927 г., упамінала аб тым, што «белорусская революционная интеллигенция в конце 1906 начала издавать легальную революционную газету „Наша доля”,

106 *Беларусізацыя. 1920-я гг. Дакументы і матэрыялы*, рэд. Р. П. Платонаў, У. К. Коршук, Мінск 2001, с. 218-219; *Имеет-ли белорусский народ свой язык и культуру?*, «Звезда», 16.05.1926, № 110, с. 3; *Ці мае беларускі народ сваю мову і сваю культуру?*, «Савецкая Беларусь», 16.05.1926, № 109, с. 3-4.

107 *Беларусізацыя. 1920-я гг. Дакументы і матэрыялы*, рэд. Р. П. Платонаў, У. К. Коршук, Мінск 2001, с. 137, 167.

после закрытия к-рой стала издавать газету „Наша нива”»[108]. Такім чынам, роля гэтых газет у гісторыі Беларусі у той час ацэньвалася высока.

Менскі публіцыст Ігнат Шыпіла апублікаваў матэрыялы, прысвечаныя суду над «Нашай Доляй», яе рэдактарам Іванам Тукеркесам, які адбыўся ў Віленскай судовай палаце 11 студзеня 1907 г. Шыпіла звярнуў увагу на асобу Аляксандра Пшчолкі, заходнерускага дзеяча, які ў якасці прысяжнага перакладчыка з беларускай мовы на рускую скажаў на судзе змест публікацый «Нашай Долі». Шыпіла ўспамінаў, як у пачатку 1924 г. Пшчолка спрабаваў уладкавацца ў менскую газету «Звезда»[109].

У той жа час з'явіўся рад грунтоўных даследаванняў па гісторыі першых беларускіх газет гісторыка Аляксандра Шлюбскага[110]. У сувязі з тым, што ў 1920-я гг. узнікла дыскусія аб ролі розных асоб у заснаванні, выданні і рэдагаванні «Нашай Долі», Шлюбскі супаставіў сведчанні Яна і Антона Луцкевіча, Францішка Умястоўскага, а таксама апублікаваў дадатковыя ўспаміны, якія атрымаў ад Антона Луцкевіча, Рамуальда Зямкевіча, Вацлава Ластоўскага і архіўны матэрыял па гісторыі газеты, а таксама бібліяграфію па гісторыі гэтага выдання, якая складалася к таму часу з публікацый Ф. Умястоўскага, А. Бурбіса, М. Гарэцкага, А. Луцкевіча, В. Самцэвіча, А. Смоліча, А. Сянкевіча, К. Езавітава і Р. Шукевіча-Траццякова[111]. Шлюбскі таксама адзначыў «вялікую патрэбнасьць у перавыданьні ўсіх нумароў газэты [«Нашай Долі». — *В.К.*] [...] для азнаямленьня з гэтым гістарычным выданьнем шырокіх грамадзкіх колаў»[112].

У 1920-я гг. убачыў свет рад літаратуразнаўчых прац пра «Нашу Долю» і «Нашу Ніву»[113] і іх аўтараў — Цётку[114], Каруся Каганца[115], Янку Купалу[116].

108 С. Агурский, *Белоруссия* [*Общественно-политическое движение в Б*[*елоруссии*] *(1861-1925)*], [у:] *Большая советская энциклопедия*, т. 5: *Барыкова — Бессалько*, общ. ред. Н. И. Бухарин [и др.]; гл. ред. О. Ю. Шмидт, Москва 1927, стб. 361.

109 І. Шыпіла, *Хто яны?*, «Савецкая Беларусь», 14.07.1926, № 157, с. 4-5; А. Шлюбскі, *Пшчолка і «Вражда из-за языка»*, «Савецкая Беларусь», 22.07.1926, № 164, с. 3-4.

110 А. Шлюбскі, *Да гісторыі конфіскацыі «Нашай Нівы»*, «Полымя» 1925, № 4, с. 185-189; А. Шлюбскі, *Да гісторыі конфіскацыі «Нашай Долі»*, «Звезда», 14.09.1926, № 210, с. 2; А. Шлюбскі, *Да гісторыі канфіскацыі «Нашай Долі»*, «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 4-5; А. Шлюбскі, *Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашае Долі»*, «Полымя» 1927, № 3, с. 199-206.

111 А. Шлюбскі, *Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашае Долі»*, «Полымя» 1927, № 3, с. 199-206.

112 А. Шлюбскі, *Да гісторыі конфіскацыі «Нашай Долі»*, «Звезда», 14.09.1926, № 210, с. 2.

113 У. Дзяржынскі, *Да пытаньня аб псыхолёгічным стылі нашаніўскае поэзіі*, «Узвышша» 1928, № 3, с. 122-139.

114 Я. Хлябцэвіч, *Цётка*, «Полымя» 1924, № 3 (11), с. 136-148.

115 М. Касьпяровіч, *Карусь Каганец (Да 10-й гадавіны сьмерці)*, «Маладняк» 1928, сш. 10, с. 67-102.

116 У. Дзяржынскі, *Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў*, «Полымя» 1927, № 8, с. 136-157.

6 верасня 1926 г. за подпісам сакратара ЦК КП(б)Б Аляксандра Крыніцкага была прынята пастанова Бюро ЦК КП(б)Б «Аб святкаванні 20-годдзя з дня выхаду першай беларускай газеты „Наша Доля”». У пастанове прагучалі дырэктывы, як трэба было асвятляць гісторыю газеты. Падкрэслівалася, што

> [...] газета была рассчитана на деревенский и городской рабочий народ. [...] Однако газета не имела постоянного направления, как и белорусское движение того времени. [...] Газета, безусловно, является мелкобуржуазной, но в условиях того времени революционной, нужной для революционного движения на селе.

Прапаноўвалася ў друку «поместить снимки — клише „Нашай долі” и статьи на темы юбилея», прачытаць рэфераты ў клубах работнікаў асветы і друкароў, правесці ўрачыстае пасяджэнне ў Інстытуце беларускай культуры, выстаўку беларускага перыядычнага друку за 20 год яго існавання ў Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы. За палітычнае кіраўніцтва гэтай работай быў адказны А. Ф. Адамовіч, загадчык аддзела друку ЦК КП(б)Б[117].

14 верасня 1926 г. у беларускіх савецкіх газетах выйшлі матэрыялы к 20-годдзю «Нашай Доли» з публікацыяй факсіміле (фотаздымкаў) першых дзвюх старонак першага нумара выдання рускімі літарамі і тэзісамі з пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 6 верасня 1926 г.

У рэдакцыйных артыкулах газеты «Звезда» адзначалася:

> «Наша Доля» выйшла 1-га верасьня 1906 году ў г. Вільні. З першых пяці нумароў былі канфіскаваны ўсе, акрамя другога. Пасьля чацьвёртага нумару «Наша Доля» была зачынена і ізноў дазволена *(sic!)* а пасьля шостага нумару была зачынена аканчальна. [...]
> Дваццаць год назад зьявілася на сьвет першая беларуская масавая газэта «Наша Доля». [...]
> «Наша Доля» пачала прамаўляць да беларускага селяніна і рабочага ў іх роднай мове, пачала асьвятляць ім шляхі грамадзкага жыцьця, клясавае барацьбы і нацыянальнага вызваленьня. [...]
> Тым-жа часам каля газэты была аб’яднана невялікая група інтэлігентаў і рабочых, якіх, як тады казалі на Віленскім *(sic!)* бруку, «можна ўсіх пасадзіць на аднэй канапе». [...]

[117] *Беларусізацыя. 1920-я гг. Дакументы і матэрыялы*, рэд. Р. П. Платонаў, У. К. Коршук, Мінск 2001, с. 158-159.

Цяпер мы бачым, як зьдзейсьніліся тыя ідэалы, што насіліся ў галовах закладчыкаў «Нашай Долі». Аб гэтым гавораць соцыяльнае вызваленьне, культурнае і політычнае адраджэньне Беларусі, рост і пашырэньне беларускага друку.

Ідэі «Нашай Долі» перамаглі праз тое, што правільна зразумелі тэндэнцыі гістарычнага разьвіцьця Беларусі [...].

Мова ня толькі зрабіла «Нашу Долю» зразумелай і блізкай для чытача селяніна і работніка. Беларуская мова з другога боку зьвязала цясьнейшымі вузламі тую інтэлігенцыю, якая пачала гуртавацца ля «Нашае Долі», з краем і народнай гушчай[118].

Артыкулы В. Самцэвіча, А. Шлюбскага, Змітрака Бядулі, Аркадзя Смоліча і А. Сянкевіча ў сувязі з «20-мі ўгодкамі беларускага пэрыядычнага друку» з'явіліся ў менскай газеце «Савецкая Беларусь»[119]. Сянкевіч пісаў:

Гісторыя руху кожнага народу ёсьць у некаторым стопні гісторыя яго культуры, а тым больш гэта правільна будзе, калі гаварыць аб пэрыядычным друку.

Асаблівую ролю друк граў у гісторыі раней прыгнечаных у царскай Расеі нацыяў. [...]

Беларускі друк нарадзіўся ў хвалях рэвалюцыйнай барацьбы — спачатку ён быў друкам праклямацыяў, адозваў [...] пакуль беларускі селянін і працоўны не дачакаўся таго часу, калі ён аб сваёй долі мог пэрыядычна чытаць на старонках «Нашай Долі». [...]

Пэрыядычныя радкі, якія заірдзелі рэвалюцыйным словам на старонках «Нашай Долі», паказалі, што нацыянальная сьвядомасьць, нацыян. рух, народжаны рэвалюцыяй, дасягнулі найвышэйшага стопню.

Аўтар рэзюмаваў:

Вось чаму, мы, дзеці Кастрычніка, які прынёс Беларусі нацыянальнае вызваленьне і даў ёй першы вольны друк, лічым юбілей «Нашай Долі»

[118] *«Наша Доля». 20-годзьдзе першае газэты на беларускай мове;* А. С. *Да юбілею «Нашай Долі»*, «Звезда», 14.09.1926, № 210, с. 1.

[119] В. Самцэвіч, *Праз 20 год*, «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 4; А. Смоліч, *Да юбілею «Нашай Долі»*, «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 4; А. Шлюбскі, *Да гісторыі канфіскацыі «Нашай Долі»*, «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 4-5; А. Сянкевіч, *Шэсьць нумароў*, «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 5; З. Бядуля, *Загінуўшыя на цяжкім шляху. (Да 20-ці гадовага юбілею нашага друку)*, «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 5.

сьвятам усяе Беларусі — сьвятам першага вольнага перыядычнага *(sic!)* друку.

Смоліч паўтарыў тэзісы з пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 6 верасня 1926 г. (гл. вышэй)[120].

Самцэвіч падкрэсліваў, што «першая беларуская газэта мела надзвычайна вялікую ролю, разбудзіўшы спаўшыя народныя сілы і вызваўшы іх да змаганьня за лепшую будучыну, за нацыянальнае адраджэньне і адраджэньне нацыянальнай культуры».

Змітрок Бядуля звярнуўся да біяграфій „тварцоў нашага культурнага адраджэньня часоў «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», якія згінулі за лепшы лёс беларускага працоўнага люду": Алаізы Пашкевіч, Каруся Каганца, Яна Луцкевіча, Аляксандра Бурбіса.

«Савецкая Беларусь», а таксама газета «Беларуская вёска» апублікавалі факсіміле першых дзвюх старонак першага нумара «Нашай Доли» рускімі літарамі.

«Беларуская вёска» надрукавала артыкул рэдактара газеты Радыёна Шукевіча-Траццякова[121], танальнасць якога адрознівалася ад артыкулаў у «Савецкай Беларусі». Шукевіч-Траццякоў адзначаў, што „Наша Доля" «сталай, вытрыманай рэволюцыйнай лініі [...] ня мела», «газэта, бязумоўна, была дробна-буржуазнай. Але ў той жа час яна была рэволюцыйнай». Журналіст дадаваў, што «з зачыненьнем „Нашай Долі" ярка-рэволюцыйны напрамак у беларускай літаратуры няпрыкметна слабее». Апрача таго, «Беларуская вёска» перадрукавала з «Нашай Доли» фельетон «Авечы агітатар»[122].

14 верасня 1926 г. у менскім клубе імя Карла Маркса (на рагу вул. Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса) Інстытут беларускай культуры супольна з Саюзам працаўнікоў асветы арганізаваў урачысты сход, прысвечаны 20-годдзю беларускага перыядычнага друку[123]. Сход адкрыў старшыня ІБК Усевалад Ігнатоўскі. З дакладам «„Наша Доля"

[120] Смоліч напамінаў, што вакол „Нашай Доли" «была аб'яднана невялікая група інтэлігентаў і рабочых, якіх, як тады казалі на Віленскім бруку, можна ўсіх пасадзіць на аднэй канапе». Апрача таго, Смоліч заўважаў, што беларуская мова «ня толькі зрабіла „Нашу Долю" зразумелай і блізкай для чытача селяніна і работніка. Беларуская мова з другога боку зьвязала цясьнейшымі вузламі тую інтэлігенцыю, якая пачала гуртавацца ля „Нашае Долі", з народнай гушчай».

[121] Р. Ш-Тр., *«Наша Доля»,* «Беларуская вёска», 14.09.1926, № 99, с. 1.

[122] *Авечы агітатор. (Паводле правапісу «Нашай Долі»),* «Беларуская вёска», 14.09.1926, № 99, с. 1; *Авечы агитатор,* «Наша Доля», 1.09.1906, № 1, с. 7; P. K., *Awieczy ahitator*, „Nasza Dola", 1.09.1906, Nr 1, s. 7.

[123] «Савецкая Беларусь», 14.09.1926, № 208, с. 4.

і 20-хгодзьдзе беларускага пэрыядычнага друку» выступіў Аляксандр Цвікевіч, які адзначыў: «Рэвалюцыйным асяродкам на тэрыторыі Беларусі была тады Вільня, адкуль ішло рэвалюцыйнае кіраўніцтва на ўсю Беларусь. З першымі праменьнямі рэвалюцыі тут нараджаюцца газэты на розных мовах, у тым ліку і беларуская «Наша Доля». Міхайла Грамыка прачытаў верш, прысвечаны 20-годдзю «Нашай Доли». У будынку ІБК (сучасны адрас вул. Рэвалюцыйная, 21) адбылося выступленне артыстаў Беларускага дзяржаўнага тэатра і таварыская вячэра[124].

Падчас «Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі», якая адбылася ў Менску 14-21 лістапада 1926 г. (там жа, дзе і мерапрыемствы к 10-годдзю «Нашай Доли» — у клубе імя Карла Маркса), адзін з асноўных дакладчыкаў мовазнавец Язэп Лёсік, бадай, упершыню ў навуцы звярнуў увагу на асаблівасці алфавіта, правапісу і граматыкі «Нашай Доли» і «Нашай Нивы»[125], а літаратуразнаўцы Міхаіл Петуховіч, Максім Гарэцкі і Іван Замоцін, а таксама пісьменнік Зміцер Жылуновіч абмеркавалі творчасць «песьняроў-нашаніўцаў»[126]. Петуховіч палемізаваў з тэзісам Жылуновіча аб тым, што «нашаніўская літаратура мела сялянскі» характар, звяртаючы ўвагу на тое, што «ў нашаніўскі пэрыод была досыць выразнай і плынь шляхецкая (Ядвігін Ш., Каганец )»[127]. А Замоцін выказаў думку пра тое, што нашаніўская ідэалогія ўзнікае «ўжо з рэволюцыі 1905 году», «калі пачынаецца творчасьць выдатных прадстаўнікоў зазначанага пэрыоду (Янка Купала, Якуб Колас, Цётка )». Замоцін называе гэты час «пэрыодам нашаніўскага рэнэсансу»[128].

У беларускім савецкім друку «Наша Нива» ўпаміналася таксама ў кантэксце параўнання са становішчам прэсы на беларускай мове ў Расійскай імперыі і БССР.

Так, у 1927 г., у артыкуле газеты «Чырвоная зьмена» пра «вечар друку» ва ўсё тым жа клубе імя К. Маркса, прымеркаваным да Дня друку, выхаду 2000-га нумара газеты «Савецкая Беларусь» і 15-годдзя газеты «Правда», так гаварылася пра «дарэволюцыйны час»:

[124] *Гістарычная гадавіна. (20-хгодзьдзе газэты «Наша Доля»)*, «Савецкая Беларусь», 16.09.1926, № 210, с. 6.

[125] [Я. Лёсік], *Да рэформы беларускага правапісу*, [у:] *Працы Акадэмічнае канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14-21 лістапада 1926 г.)*, рэд. С. Некрашэвіч і Ў. Ігнатоўскі, Менск 1927, с. 194-195, 198, 200.

[126] *Працы Акадэмічнае канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14-21 лістапада 1926 г.)*, рэд. С. Некрашэвіч і Ў. Ігнатоўскі, Менск 1927, с. 321, 328, 369-370, 373, 377, 384.

[127] Тамсама, с. 377.

[128] Тамсама, с. 384.

> Тыя нешматлікія беларускія газэты, якія існавалі ў нас кароткі час да рэволюцыі («Наша Ніва»), прасьследаваліся царскім урадам за тое, што гаварылі масам праўду[129].

У 1927 г. у менскім друку ўбачылі свет іншыя публікацыі, у якіх разглядалася гісторыя «Нашай Доли»[130].

16 снежня 1929 г. у Беларускай акадэміі навук мовазнавец Іосіф Воўк-Левановіч выступіў з дакладам, у якім закраналася пытанне паходжання лексікі мовы «Нашай Нивы» (быў апублікаваны толькі ў 2010 г.)[131].

Да гісторыі першых беларускіх газет у сувязі з 20-годдзем іх выхаду ў свет звярталіся таксама па-за межамі БССР. У Вільні выйшлі два артыкулы Антона Луцкевіча (без подпісу) у газеце «Народная справа»[132]. Луцкевіч сцвярджаў, што «толькі *14 верасьня 1906 году выйшла ў Вільні першая беларуская легальная часопісь* [тут і далей курсіў А. Луцкевіча. — *В.К.*], і толькі з гэнага мамэнту пачала істнаваць і ў нас свая прэса». Антон Луцкевіч сцвярджаў, што «ініцыятыва выдаваньня легальнае беларускае часопісі выйшла ад *Івана Луцкевіча*» ўлетку 1906 г., на канферэнцыі Беларускай сацыялістычнай грамады ў Вільні. Праект быў падтрыманы аднагалосна. «Нашу Долю» А. Луцкевіч назваў «газэтай, ярка выявіўшай адраджэнскі ідэал і ўсю пранікнутую духам рэвалюцыі»[133].

Трэба заўважыць, што А. Луцкевіч пры кожнай магчымасці падкрэсліваў ролю свайго брата Яна як ініцыятара выдання «Нашай Доли»[134]. У 1928 г. ён удакладняў, што гэта было звязана з прапановай Я. Луцкевіча на канферэнцыі БСГ 3-4 чэрвеня 1906 г. «распачаць яўную легальную працу»:

129 Язэп, *Трайное сьвята. Аб баўгарскай мове і адным юбілеі. На вечары друку ў клюбе імя Карла Маркса*, «Чырвоная зьмена», 18.05.1927, № 54, с. 4.
130 І. Харэвіч, *Беларуская мова, як социяльна-клясавы раздражняльнік*, «Полымя» 1927, № 1, с. 154.
131 І. Воўк-Левановіч, *Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы*, „Arche” 2010, Nr 11, с. 374-376.
132 *1906 — 14/IX — 1926*, «Народная справа», 15.09.1926, № 17, с. 1; А. Луцкевіч, *1906 — 14/IX — 1926*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 162-163; *«Наша Ніва» (23-га лістапада 1906 г. — 23-га лістапада 1926 г.)*, «Народная справа», 23.11.1926, № 37, с. 1; А. Луцкевіч, *«Наша Ніва» (2-га лістапада 1906 г. — 2-га лістапада 1926 г.)*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 164-165.
133 *1906 — 14/IX — 1926*, «Народная справа», 15.09.1926, № 17, с. 1.
134 А. Луцкевіч, *Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 154.

Іван і тут кінуў думку аб патрэбе друкаваньня легальнае беларускае газэты — ведама, у грамадаўскім духу. Прапазыцыя Івана была прынята аднагалосна, у выніку чаго праз пару месяцаў і нарадзілася «Наша Доля», замененая пасьля «Нашай Нівай». [...] Скажу толькі, што адгэтуль рэдакцыя «Н. Д.» і «Н. Н.» зьяўляецца фактычным цэнтрам ня толькі Грамады, якая фармальна як быццам замірае, але і ўсяго беларускага адраджэнскага руху — яго «генэральным штабам»[135].

Гаворачы пра «Нашу Ниву», А. Луцкевіч падкрэсліваў, што яна «дала сваё імя цэламу пэрыяду ў гісторыі нашае адраджэнскае літэратуры»:

[...] яна была тым адзіным месцам, дзе нашы маладыя паэты мелі магчымасьць выступаць публічна з сваімі вершамі [...].
Тут была галоўная кузьня беларускае адраджэнскае ідэалёгіі [...][136].

Пра гісторыю першых беларускіх газет Луцкевіч пісаў у 1920-я гг. увогуле досыць часта[137].

У віленскім часопісе «Беларуская культура», які выйшаў у 1927 г., быў апублікаваны агляд гісторыі беларускага друку — „Ад «Нашае Долі» да «Беларускае Культуры»", які, праўда, пачынаўся з „Mużyckaj Praudy". Тут прыводзіўся фрагмент успамінаў Ф. Умястоўскага пра «Нашу Долю» (без упамінання прозвішча аўтара, які быў названы «рэдактарам» газеты). Часопіс адзначаў, што «з вялікай радасьцю спатканая народам, *«Наша Доля»* (тут і далей выдзелена рэдакцыяй часопіса. — *В.К.*), была задушана тымі-ж самымі рукамі, якія задушылі першага рэдактара — Кастуся Каліноўскага»:

*«Мужыцкая Праўда»* і *«Наша Доля»* — гэта першыя праменьні сярод цемры няволі. [...]

135 А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў (1903-1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, Беларуская Сацыялістычная Грамада*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 184-185; [А. Сідарэвіч], *Камэнтары*, [у:] А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010, с. 300.

136 *«Наша Ніва» (23-га лістапада 1906 г. — 23-га лістапада 1926 г.)*, «Народная справа», 23.11.1926, № 37, с. 1.

137 А. Шлюбскі, *Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашае Долі»*, «Полымя» 1927, № 3, с. 201-203; *Жыцьце і праца Івана Луцкевіча*, [у:] *Памяці Івана Луцкевіча ў першые ўгодкі сьмерці яго (20.VIII.1919 — 20.VIII.1920)*, Вільня 1920, с. 5-27.

> Значэньне *«Нашае Нівы»* ў гісторыі беларускага адраджэньня аграмаднае, бо гэта была школа нацыянальнага ўсьведамленьня, кузьня, у якой тварыліся першыя цэннасьці нашае беларускае культуры[138].

20-я гадавіна беларускай прэсы адзначалася таксама беларусамі ў Латвіі. Так, у рыжскай газеце «Голас беларуса» за 15 верасня 1926 г. на першай старонцы было змешчана віншаванне: «Беларускае грамадзянства і усіх сваіх калегау, працаунікоу беларускае прэсы, шчыра вітаемо з 20-ымі угодкамі нашае легальнае прэсы». У перадавіцы сцвярджалася, што першай беларускай газетай была «Мужыцкая праўда», якую выдаваў

> [...] знамяніты беларускі рэвалюцыянэр-паўстанец Кастусь Каліноўскі ў 1863 годзе. [...] Толькі Расійская Рэвалюцыя 1905 году дала беларусам права зноў друкаваць кнігі і газэты ў сваей роднай мове.
> 14 вераcьня 1906 году ў Вільні, па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Івана Луцкевіча, выйшла першая легальная беларуская газэта «Наша Доля»[139].

Аўтарам гэтай публікацыі, скарэй за ўсё, з'яўляўся фактычны рэдактар і выдавец газеты «Голас беларуса» Канстанцін Езавітаў[140].

20-годдзе першых беларускіх газет стала стымулам для асэнсавання іх гісторыі. «Наша Доля» была таксама ацэнена палітычна: беларускімі камуністычнымі ідэолагамі яна лічылася дробнабуржуазным і рэвалюцыйным выданнем. У тагачасным друку падкрэслівалася важнасць з'яўлення першай газеты на беларускай мове. У кантэксце гісторыі «Нашай Долі» разглядаліся ва ўзаемадзеянні рэвалюцыйны і беларускі нацыянальны рухі. У той жа час з'явіліся чарговыя публікацыі А. Луцкевіча, які падкрэсліваў ключавую ролю свайго брата Я. Луцкевіча як заснавальніка беларускамоўнай прэсы, а яе функцыю як цэнтра, «генеральнага штаба» беларускага руху.

Сярод публікацый 1920-х гг. па гісторыі першых беларускіх газет вылучаюцца таксама сведчанні ўдзельнікаў і відавочцаў іх выдання: Францішка Умястоўскага[141], Аляксандра Уласава[142], Рамуальда Зямкевіча[143], Эдварда Будзькі[144].

138 *Ад «Нашае Долі» да «Беларускае Культуры»*, падаў В., «Беларуская культура» 1927, № 1, с. 38-39.
139 *20 угодкі легальнае беларускае прэсы*, «Голас беларуса», 15.09.1926, № 20 (38), с. 1.
140 Інфармацыя Ежы Гжыбоўскага (Варшава).
141 Дзядзька Пранук, *Аб «Нашай Долі»*, «Беларусь», 17.12.1919, № 47; 18.12.1919, № 48; К., *Праўда аб «Нашай Долі»*, «Беларускі дзень», 7.03.1927, № 1, с. 3-5;

Гэта тэма турбавала і спецслужбы Рэспублікі Польшча, у асяроддзі якіх у 1928 г. была напісана праца, прысвечаная гісторыі беларускага нацыянальнага руху, у якой, аднак, першым беларускім газетам было прысвечана ўсяго некалькі абзацаў без якіх-небудзь каштоўных звестак[145].

Сярод польскіх вучоных таго часу на значэнне першых беларускіх газет у гісторыі беларускага нацыянальнага руху звярнуў увагу Сэвэрын Выслоух. У 1930 г. ён падкрэсліваў:

> [...] zasadnicze znaczenie dla ruchu białoruskiego miało ukazanie się we wrześniu 1906 roku pierwszego tygodnika białoruskiego p.t. „Nasza Dola", redagowanego przez Franciszka Umiastowskiego. [...]
> Jego miejsce zajmuje nowy tygodnik o charakterze mniej radykalnym politycznie „Nasza Niwa", pismo wychodzące bez przerwy aż do wybuchu wojny europejskiej. „Nasza Niwa" staje się ośrodkiem całego narodowego ruchu białoruskiego, kierowanego przez „Hromadę"[146].

1920-я гг. сталі ключавым этапам у даследаванні першых беларускіх газет. З аднаго боку, непасрэдныя ўдзельнікі іх выдання пакінулі ўспаміны, з другога боку, даследчыкі — літаратуразнаўцы, гісторыкі — паспелі апублікаваць каштоўныя архіўныя дакументы і іншыя матэрыялы, якія дагэтуль не страцілі сваёй вартасці.

З сярэдзіны лета 1929 г. абазначылася новая тэндэнцыя ў адносінах да асвятлення гісторыі першых беларускіх газет у савецкім друку. Навуковы падыход змяніўся ідэалагічным[147].

13.03.1927, № 2, с. 2-4; Ф. Умястоўскі, *Праўда аб рэдагаваньні «Нашае Долі» (Адказ на пісьмо С. Барывоя)*, «Беларускі дзень», 24.12.1927, № 40, с. 2-4 [рэдактарам-выдаўцом «Беларускага дня» быў Ф. Умястоўскі].

142 А. Уласаў, *Успамін*, «Сын беларуса», 20.08.1924, № 29, с. 1-2; А. Уласаў, *Якуб Колас і «Наша ніва» (успаміны)*, [у:] *На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі*, укл. Б. І. Сачанка, Мінск 1994, с. 70-74.

143 А. Шлюбскі, *Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашае Долі»*, «Полымя» 1927, № 3, с. 203-205.

144 А. Будзька, *Успаміны пра Івана Луцкевіча*, [у:] *Памяці Івана Луцкевіча ў першые ўгодкі сьмерці яго (20.VIII.1919 — 20.VIII.1920)*, Вільня 1920, с. 40-41.

145 Sztab Generalny — Oddział II, *Krótki zarys zagadnienia białoruskiego*, Warszawa 1928; *Кароткі нарыс беларускага пытаньня*, Мінск 2009, с. 41-42.

146 S. Wysłouch, *Białorusini na Ziemi Wileńskiej*, [у:] *Wilno i Ziemia Wileńska. Zarys monograficzny*, t. I, kom. red.: Z. Hartung [i in.], kom. nauk.: S. Kościałkowski [i in.], Wilno 1930, s. 251.

147 А. Сталевіч, *Беларускі нацыянал-фашызм. Яго вытокі, тэорыя і практыка*, Менск 1930; С. Я. Вольфсон, *«Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму*, т. 1, ч. 1, Менск 1931; *Дыскусія аб «Нашай Ніве»*, рэд. В. Сэрбэнта, Менск 1932.

27 чэрвеня 1929 г. старшыня Цэнтральнай кантрольнай камісіі ВКП(б) Уладзімір Затонскі на пасяджэнні ЦК КП(б)Б выступіў з дакладам «Аб даследаванні практыкі нацработы ў БССР», у якім бязлітасна крытыкавалася папярэдняя нацыянальная палітыка ў БССР, якая, праўда, ажыццяўлялася паводле ўстановак з Масквы. З гэтага пачалася хваля рэпрэсій у адносінах да беларускай інтэлігенцыі, якая была звязана ў тым ліку з супрацоўніцтвам многіх беларускіх дзеячаў з рэдакцыяй газеты «Наша Нива»[148].

27 ліпеня 1929 г. у газеце «Зьвязда» быў апублікаваны перадавы артыкул «Аб правым ухіле ў КП(б)Б па нацыянальным пытаньні»[149]. У ім гаварылася аб абвешчаным XV з'ездам ВКП(б) «узмацненьні сацыялістычнага наступленьня», барацьбе з «клясавым ворагам-кулаком і нэпманам», а таксама аб неабходнасці «ўзмацненьня тэмпу беларусізацыі». У той жа час бачылася «небясьпека беларускага нацыяналізму», бо «ён мае значную базу на вёсцы ў асобе ўзмацнеўшага за годы НЭП'у кулака, а ў горадзе — шавіністычную верхавіну, галоўным чынам, старой беларускай інтэлігенцыі». Якія гэта мела адносіны да першых беларускіх газет? Справа ў тым, што адно з абвінавачванняў гучала ў адрас З. Жылуновіча і было звязана якраз з «Нашай Нивай»:

> І сапраўды, навошта было патрэбна т. З. Жылуновічу («Полымя» № 10 за 1928 г., № 4 за 1929 г.) і яго аднадумцам, праз дваццаць год, у 1929 г., ідэалізаваць і ўваскрашаць «залаты век» „Нашай Нівы" з яе кулацка-буржуазнай праграмай падтрыманьня сталыпінскіх хутароў, з яе пропаведзьдзю нацыянальна-буржуазнага адзінства?

Даваўся адказ:

> Гэта патрэбна таксама польскаму фашызму і яго прыслужнікам беларускім нацыянал-фашыстым з Заходняй Беларусі (Луцкевіч, Астроўскі).

Тут жа змяшчалася спасылка на артыкул «Зямельная справа на Беларусі» (так у «Зьвязьдзе») у шостым нумары «Нашай Нивы» за 1906 г.[150],

[148] А. Маркава, *Шлях да савецкай нацыі. Палітыка беларусізацыі (1924-1929)*, Мінск 2016, с. 249 і наст.; *Беларусізацыя. 1920-я гг. Дакументы і матэрыялы*, рэд. Р. П. Платонаў, У. К. Коршук, Мінск 2001, с. 21 і наст.

[149] *Аб правым ухіле ў КП(б)Б па нацыянальным пытаньні*, «Зьвязда», 27.07.1929, № 169, с. 1.

[150] Войцех, *Зямельная справа у Беларуси (Прадаўжэнне)*, «Наша Нива», 14/27.12.1906, № 6, с. 3-4. Аўтарам артыкула з'яўляўся Антон Луцкевіч.

у якім прапаноўвалася скасаваць законы, якія не дазвалялі свабодна купляць і прадаваць зямлю.

Такім чынам, «Наша Нива» станавілася аб’ектам жорсткай крытыкі партыйных ідэолагаў, а антыгероямі — яе былыя супрацоўнікі і аўтары – А. Луцкевіч, З. Жылуновіч

Жылуновіч быў вымушаны апраўдвацца. Яшчэ ў маі 1929 г. Зміцер Жылуновіч ва ўспамінах пра «Нашу Долю» і «Нашу Ниву», якую ён пачаў чытаць у 1908 г., пісаў, што апошняя мела «лева-опозыцыйны напрамак». Пры гэтым Жылуновіч сведчыў, што газету выпісвалі «некаторыя лібэральныя паны», фельчар, але сяляне-беднякі, ён і яго «таварышы», бралі чытаць газету ў фельчара, бо проста не мелі грошай на падпіску, а сам Жылуновіч падпісаўся толькі «з першае свае палучкі»[151].

Сведчанні Жылуновіча цалкам супадаюць з тэарэтычнымі развагамі М. Гроха, які піша пра тое, што ўвогуле для селяніна любой нацыянальнасці ў любой тагачаснай імперыі — ці Расійскай, ці Аўстра-Венгерскай — „prenumerata gazet i czasopism nie była wcale tania i mógł sobie na to pozwolić raczej człowiek należący do warstw średnich”[152]. Адпаведна, арыентацыя «Нашай Нивы» на «мужыкоў» сутыкалася з цяжкім доступам іх да газеты — па розных прычынах, сярод якіх і матэрыяльныя.

Аднак у канцы 1930 г. Жылуновіч быў вымушаны адысці ад фактаў і ўласных успамінаў і падпарадкавацца дырэктывам. Ён крытыкаваў уласны артыкул «Два бакі беларускага руху»[153], у якім на ўсе лады скланяецца «беларуская нацыя», «беларуская культура», «ідэя адраджэньня беларускага народу». Выносіцца з архіву Бел. соц. грамада, якой прыпісваецца няўсвойная *(sic!)* ёй рэволюцыйнасьць. Узводзіцца ў радыкальны орган буржуазна-нацыяналістычная «Наша ніва»[154]. Для параўнання — цытата з артыкула Жылуновіча 1923 г.:

> Кніжкі й адозвы «Беларускай Соцыялістычнай Грамады», якая з 1906 г. абагульніла беларускі нацыянальна-соцыялістычна-культурны рух, зрабілі вялікую працу для распаўсюджваньня рэволюцыйна-соцыялістычных ідэй сярод беларускага сялянства й, нават, сярод мястэчковых рамесьнікаў. Ды беларуская газэта «Наша Ніва» пад выглядам

151 Ц. Гартны, *Дваццаць гадоў назад (Успаміны з мінулага)*, «Полымя», май 1929, с. 154-156.

152 M. Hroch, *Małe narody Europy. Perspektywa historyczna*, Wrocław — Warszawa — Kraków 2003, s. 148.

153 З. Жылуновіч, *Два бакі беларускага руху*, «Полымя» 1923, № 3-4, с. 69-74.

154 З. Жылуновіч, *Нацыянал-дэмократы за «працай» (1920-1928 гг.)*, «Маладняк» 1930, кн. 12, с. 138.

> культурнай газэты зьяўлялася самай радыкальнай газэтай ня толькі ў Беларусі, а і ўва ўсёй Расіі[155].

Розныя ацэнкі Жылуновічам адной з'явы агаляюць праблему аб'ектыўнага асвятлення гісторыі першых беларускіх газет у той перыяд.

Алесь Некрашэвіч, загадчык Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, у канцы 1929 г. крытыкаваў «фашыста» Антона Луцкевіча і «контр-рэвалюцыйны нашаніўскі рух», што было невыпадкова ў сувязі з тым, што Луцкевіч працягваў сваю грамадскую дзейнасць сярод беларусаў у Польшчы (Заходняй Беларусі)[156].

Кніга Антона Сталевіча (сапр. Леапольд Родзевіч, які пачынаў творчы шлях у 1912 г. на старонках «Нашай Нівы»[157]) «Беларускі нацыянал-фашызм. Яго вытокі, тэорыя і практыка», якая выйшла ў Менску ў 1930 г., амаль цалкам была прысвечана крытыцы «беларускага буржуазна-нацыянальнага руху пэрыяду „Нашай Нівы"».

Сталевіч пісаў:

> Замест закрытай царскім урадам радыкальнай газэты народніцкага тыпу «Наша Доля», аднаўленае кіраўніцтва адраджэнцкім рухам пачынае ў канцы 1906 г. выдаваць лібэральную газэту «Наша Ніва», якая існуе да заняцьця нямецкім войскам Вільні ў 1915 г.
> За ўвесь час ад 1906 г. да Лютаўскай рэвалюцыі беларускі нацыяналістычны рух абмяжоўваўся выданьнем газэты «Наша Ніва», некаторых брошур [...][158].

Далей аўтар сцвярджаў:

> Для беларускага буржуазна-нацыянальнага руху пэрыяду «Нашай Нівы» найбольш характэрным зьяўляецца яго барацьба супроць гегемоніі пролетарыяту, непрызнаваньне клясавай барацьбы, беларускі шовінізм. [...]

155 З. Жылуновіч, *Два бакі беларускага руху*, «Полымя» 1923, № 3-4, с. 70.
156 А. Некрашэвіч, *Беларускі нацыянал-фашызм і яго сабрат беларускі нацыянал-дэмократызм*, «Бальшавік Беларусі» 1929, № 10-12, с. 85.
157 М. А. Варвашэвіч, *Родзевіч Леапольд*, [у:] *Беларускія пісьменнікі: біябібліяграфічны слоўнік. У 6 т.*, т. 5: *Пестрак — Сяўрук*, рэд. кал.: І. Э. Багдановіч, рэд. А. І. Мальдзіс, Мінск 1995, с. 153.
158 А. Сталевіч, *Беларускі нацыянал-фашызм. Яго вытокі, тэорыя і практыка*, Менск 1930, с. 8.

> Нацыяналістычны лёзунг поэты Багушэвіча «ня чурайцеся свае мовы, каб ня ўмерці» быў «пуцяводнай зоркай», быў ударным лёзунгам ва ўсёй дзейнасьці нашаніўцаў [...][159].

У гэтым Сталевіч не памыляўся, але лозунг не мог быць «нацыяналістычны», бо Багушэвіч не быў беларускім нацыяналістам.

Сталевіч рэзюмаваў:

> За нашаніўскі пэрыод, які займае час ад спаду рэволюцыі 1905 г. да Лютаўскай рэволюцыі, буржуазна-нацыянальны рух, ідучы пад шыльдай нацыянальна-адраджэнцкага, крысталізуе ідэалы беларускай буржуазіі, выхоўвае беларускія культурныя сілы — кадры беларускай нацыяналістычнай інтэлігенцыі, якая павінна стаць правадыром «прабуджаючагася беларускага народу»[160].

Сталевіч паказвае, што падчас рэвалюцыйных падзей 1917 г. «склікаюцца зьезды беларускіх дзеячоў», на якіх «самы актыўны ўдзел прымаюць гадунцы „Нашай Нівы"»:

> Нашаніўскія ідэолёгі выходзяць на шырокую політычную арэну, яны заклікаюць сялянскія масы на барацьбу супраць бальшавікоў, як «маскоўскай навалы», яны організуюць сваю барацьбу праз скліканьне так зван. усебеларускага зьезду 1917 г.[161]

Паводле Сталевіча, «Наша Нива» — гэта не толькі газета, але і сінонім беларускага нацыянальнага руху, які працягваўся і пасля спынення выхаду газеты ў 1915 г.:

> Беларуская інтэлігенцыя ў падаўляючай большасьці выхоўвалася «Нашай Нівай» і політычна ўсьведамлялася ў беларускім нацыяналістычным руху[162].

Апошні вывад трэба прызнаць у значнай ступені правільным. І сапраўды, «Наша Нива» стала генератарам беларускага руху і па сутнасці ім самім.

159 Тамсама, с. 12-13.
160 Тамсама, с. 20.
161 Тамсама, с. 22-23.
162 Тамсама, с. 35.

Сталевіч вылучыў тых, хто «парваўшы з нацыяналістычнай спадчынай „Нашай Нівы”», ператвараўся «ў вагні клясавай барацьбы ў стойкіх рэволюцыянэраў, як, напрыклад, відныя нашаніўцы Бурбіс, а пасьля Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі»[163]. Аднак гэтыя асобы не працавалі ў «Нашай Ніве», што яшчэ раз паказвае: газета набыла ў той час значэнне сіноніма ўсяго беларускага руху, стала часткова ўспрымацца як вобраз — у адрыве ад рэальнага прататыпа. У той жа час пералічаным асобам Сталевіч супрацьпастаўляе «ў Зах. Беларусі нац.-фашызм, пад правадырствам Луцкевіча», які меў прамыя адносіны да «Нашай Нівы»[164].

Увогуле ж, рыторыка Сталевіча не падмацавана фактамі, яна напоўнена штампамі і лозунгамі. Усё гэта не толькі закрывала поле для дыскусій, але і не давала магчымасці пісаць пра «Нашу Ниву» інакш як у гэткім бескампрамісным негатыўным кантэксце.

У аналагічным духу вытрыманы апублікаваны ў 1930 г. асобнай брашурай тыражом сем тысяч экзэмпляраў даклад А. Гаруновіча на сходзе менскага актыву ЛКСМБ, прачытаны ў сярэдзіне таго ж года, — «Супроць нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў розных колераў» з вялікім раздзелам «Сапраўдны твар Беларускай соцыялістычнай грамады і „Нашай Нівы”»[165].

Гаруновіч разглядае «Нашу Ниву» як «буржуазна-лібэральную» газету, а таксама як «організацыю», якая была пераемніцай «дробнабуржуазнай» БСГ і папярэдніцай «беларускага нацыянал-дэмократызму». Гаруновіч таксама называе „Нашу Ниву” «часопісам беларускіх нацыяналістычных элемэнтаў», «кіраўніком беларускага нацыянальнага адраджэньня», «рупарам гэтага нацыяналістычнага руху», які «меў контррэволюцыйны характар» і «ня меў масавага характару»[166].

Гаруновіч, падагульняючы свае развагі, сцвярджаў:

> Нашаніўскі пэрыод меў сваёй соцыяльнай падставай шляхту, кулацтва, заможную частку беларускага сялянства. [...]
> Такім чынам разбураецца легенда пра героічнае змаганьне «Нашай Нівы» за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне працоўных Беларусі[167].

[163] Тамсама.
[164] Тамсама, с. 37.
[165] А. Гаруновіч, *Супроць нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў розных колераў*, Менск 1930.
[166] Тамсама, с. 3-4, 12-13, 18.
[167] Тамсама, с. 18.

Гаруновіч, відавочна, усведамляў тэндэнцыйны характар сваёй публіцыстыкі:

> Нацыянал-дэмократы скардзяцца, а заходня-беларускія нацыянал-фашыстыя «выюць» на нашую партыю, якая выступае проці ўсяго «ісьцінна-беларускага» і «чэрніць» дзейнасьць «Нашай Нівы»[168].

Сакратарыят Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў у 1930 г. выступіў з рэзалюцыяй, у якой таксама закраналася «Наша Нива»:

> Беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў бязьмежна абурана дзейнасьцю контррэволюцыйнай організацыі беларускіх нацыянал-дэмократаў. [...]
> Яны, прыхільнікі столыпінскай політыкі ў мінулым, у часы «Нашай Нівы», выслаўлялі гэту эпоху і імкнуліся зноў установіць прыватную ўласнасьць і вярнуць зямлю памешчыкам і кулаком, а фабрыкі — капіталістым[169].

Літаратурны крытык Лукаш Бэндэ, выступаючы 24 мая 1930 г. у Беларускай акадэміі навук з дакладам «да 25-годзьдзя літаратурна-мастацкай дзейнасьці Янкі Купалы», гаворачы пра творчасць паэта да 1908 г., заяўляў, што

> Купала, папаўшы ў асяродзьдзе нашаніўцаў, адарваўся па сутнасьці ад тых мас, якіх аплакваў у сваіх песьнях, а ў сілу гэтага ня прымкнуў да жывой рэволюцыйнай практыкі працоўных мас [...]. [...]
> „За ніякія справы ні разу ня судзіўся", — кажа пра сябе Купала ў сваёй аўтобіографіі. І гэта праўда. „Наша Ніва", як і яе ўдзельнікі, стаяла ў старане ад рэволюцыі, а таму судзіць іх было незавошта[170].

Крытыка Купалы за яго працу ў «Нашай Ниве» не спынялася яшчэ доўгі час. У 1932 г., к 50-годдзю паэта, ён абвінавачваўся ў тым, што ў яго творчасці на старонках газеты, якая называлася «буржуазна-рэакцыйным

168 Тамсама, с. 13.

169 *Прэч контррэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмократызм, агентуру імпэрыялістычнага фашызму (Рэзолюцыя сэкратарыяту БелАПП ад 1-XII-30 г.)*, «Маладняк» 1930, кн. 12, с. 3.

170 Л. Бэндэ, *Шлях поэты (Да 25-годзьдзя літаратурна-мастацкай дзейнасьці Янкі Купалы)*, «Полымя» 1930, май-чэрвень, с. 218.

органам», «ідэя нацыянальнага вызваленьня» быццам бы змянялася «містыфікаваным нацыяналізмам»[171].

Сярод вульгарна-сацыялагічнай крытыкі «нацыянал-дэмакратызму» вылучаецца праца Сямёна Вальфсона «„Навука” на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму». Калі прапагандысцкае паняцце «нацыянал-дэмакратызм» у ёй замяніць навуковым паняццем «беларускі нацыянальны рух», то Вальфсон у некаторых месцах зрабіў трапныя назіранні, напрыклад, аб тым, што «раньняя, „падрыхтоўчая” фаза нацдэмократызму» — гэта 1890-я — пачатак 1900-х гг., а другая фаза — «так званы „нашаніўскі пэрыод”», «фаза „нашаніўскага адраджэнцтва”»[172]. Вальфсон нават пісаў, што «ў „нашаніўскі пэрыод” нацдэмократызм меў і свой дадатны бок»:

> Ён заключаўся ў тым, што «нашаніўцы» так ці іначай адбівалі нездаволеньне рэжымам прыгнечаньня, што яны прадстаўлялі адно з выяўленьняў таго буржуазнага нацыяналізму прыгнечанай нацыі, наяўнасьць у якім «агульна-дэмократычнага зьместу супроць прыгнечаньня» Ленін падкрэсьліваў, і на неабходнасьць падтрымкі якога Ўладзімер Ільліч указваў у полеміцы з Розай Люксэмбург[173].

Увогуле ж, Вальфсон у іншым месцы сваёй працы працягваў упамінаць газету ў крытычным тоне: маўляў, «на зары нацдэмократызму» яна давала «ўстаноўку», што «ўсе беларусы — гэта родныя браты, [...] адзін суцэльны народ»[174].

У 1932 г. ва ўсесаюзным часопісе «Советская этнография» ўбачыў свет сугучны публікацыі Вальфсона артыкул беларускага этнографа Мікалая Нікольскага «Установки и методы белорусской нацдемовской этнографии», у якім закранута «Наша Нива» і «нашенивское течение», якое «оказалось чрезвычайно популярным среди сельского учительства и других слоев мелкобуржуазной интеллигенции, которая стала идеализировать белорусского селянина вообще»[175]. Нікольскі праводзіў паралель паміж «откровенно кулацким поэтом Богушевичем, и соглашательской „Нашей нивой”» па пытанні «об единстве белорусского

171 Красьнеўскі, *50-ці гадовы шлях Янкі Купалы*, «Чырвоная Беларусь» 1932, № 17, с. 11.

172 С. Я. Вольфсон, *«Навука» на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму*, т. 1, ч. 1, Менск 1931, с. 8.

173 Тамсама, с. 8-9.

174 Тамсама, с. 44.

175 Н. М. Никольский, *Установки и методы белорусской нацдемовской этнографии*, «Советская этнография» 1932, № 4, с. 6.

народа»[176]. Гэтыя сцвярджэнні, аднак, не знаходзяць пацвярджэння ў публіцыстыцы газеты 1906-1907 гг., што сведчыць аб тым, што рабіць абагульненні па ўсім перыядзе выхаду «Нашай Нивы» з'яўляецца памылковым падыходам.

У 1932 г. выйшла фактычна першая манаграфія пра «Нашу Ниву». Гэта быў даклад гісторыка Дзяніса Дудкова, з якім ён выступіў 14 студзеня 1931 г. на пасяджэнні Таварыства гісторыкаў-марксістаў Беларусі, які быў апублікаваны ў другім выпуску зборніка таварыства пад рэдакцыяй Віталя Сярбенты. Даклад быў дапоўнены дыскусіяй, якая адбылася 14, 18 і 26 студзеня 1931 г., у якой выступілі гісторыкі Міхаіл Югаў, Майсей Поташ, Канстанцін Кернажыцкі і Ян Віткоўскі (выступленне апошняга не было апублікавана)[177].

Разгледзім некаторыя аспекты той дыскусіі. Дудкоў паведамляў, што раней гісторыкі-марксісты не займаліся вывучэннем зместу «Нашай Нивы». Выключэнне складаў Поташ, які апублікаваў артыкул у газеце «Зьвязда» (Дудкоў не даў на яго спасылкі). Сам Дудкоў яшчэ ў пачатку 1930 г. аддаў у рэдакцыю часопіса «Полымя» артыкул аб поглядах «Нашай Нивы» на сталыпінскую рэформу, аднак рэдактар часопіса Менскі не апублікаваў яго, бо, маўляў, Дудкоў «Амэрыкі не адкрывае». Аднак Дудкоў кіраваўся тым, што «нашаніўская легенда жыве, што нацыянал-дэмократы яшчэ не разьбіты, і барацьба з імі — рэч тэрміновая»[178].

Дудкоў лічыў, што ў 1906 г., у перыяд задушэння рэвалюцыі, „былыя грамадаўцы сконцэнтраваліся спачатку вакол газэты «Наша Доля», пасьля яе закрыцьця — вакол газэты «Наша Ніва»"[179]. Дудкоў адзначаў, што «Наша Доля» лічыць памешчыкаў спрадвечнымі ворагамі беларускага селяніна, і ўсё ж прыходзіў да вываду, што «беларускі нацыянальны рух у часе „Нашай Долі" пачынае здаваць рэшткі рэвалюцыйных позыцый, шукае глебу да згодніцтва з пануючай клясай»[180]. Гэта былі галаслоўныя сцвярджэнні, нягледзячы на спробы Дудкова іх абгрунтаваць.

Нашаніўцаў Дудкоў называў інтэлігенцыяй, якая «была напалохана паражэньнем рэволюцыі і кінулася ў бок ад яе»[181], а што да складу рэдакцыі «Нашай Нивы», то лічыў, што яна «ўключыла і супрацоўнікаў

[176] Тамсама, с. 9.
[177] *Дыскусія аб «Нашай Ніве»*, рэд. В. Сэрбэнта, Менск 1932.
[178] Тамсама, с. 3-4.
[179] Тамсама, с. 7.
[180] Тамсама, с. 9-10.
[181] Тамсама, с. 7.

„Нашай Долі” пасьля яе закрыцьця». Але не называў імён. Даследчык сцвярджаў, што «„Наша Ніва” так прыстасавалася да легальных умоў, што праіснавала і ў гады рэакцыі і далей — да 1915 году»[182].

У той жа час Дудкоў цалкам слушна гаворыць пра тое, што «знаёмства з „Нашай Нівай” і дае магчымасьць характарызаваць той нацыянальны рух, які мы называем нашаніўскім»[183].

Далей Дудкоў крытыкаваў ацэнкі «Нашай Нивы» Х. Імшэннікам і З. Жылуновічам, якія лічыў «найбольш тыповымі ў ацэнцы нашаніўскага пэрыоду», у выніку чаго, маўляў, «шмат гадоў у сьценах Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту і Беларускай акадэміі навук тварылася і шырылася легенда аб нашаніўскім пэрыодзе»[184].

На наступных старонках сваёй працы Дудкоў абгрунтоўваў «лібэральна-буржуазны характар „Нашай Нівы”[185], а таксама сцвярджаў, што з першага нумара газета быццам бы адмовілася ад «рэволюцыйнай тактыкі», што нашаніўцы «зусім мала цікавяцца пролетарыятам», «для іх інтарэсаў клясаў ня існуе, а інтарэсы нацыі наогул», «з першых крокаў усё прадана за легальнасьць, за „спакойную” культурна-нацыянальную працу ва ўмовах існаваньня монархічнага ладу», а «галоўнымі задачамі нашаніўцаў былі: абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў і экономічнае і культурнае „адраджэньне” Беларусі»[186]. Апошняе сцвярджэнне не супярэчыць фактам.

У працы Дудкова вылучаны раздзел «Нашаніўцы аб нацыянальна-культурным „адраджэньні” Беларусі». Вучоны пісаў, што «нацыянальны беларускі рух, як і рух сярод іншых нацыянальнасьцяй былой імпэрыі, асаблівага ажыўленьня дасягнуў пасьля рэволюцыі 1905 г.», а «нашаніўцы першым пытаньнем у нацыянальна-культурнай рабоце паставілі „адраджэньне” мовы». Дудкоў гэту праблему вырашаў у традыцыйным для сябе ключы — канстатуючы факт і каменціруючы з «патрэбным» акцэнтам:

> Нашаніўцы ставяць сабе за мэту з мовы цёмных сялян выкаваць мову культурнай нацыі. Супроць гэтай мэты нічога ня можна сказаць. Але мы хочам падкрэсьліць тое, што пастаноўка пытаньня аб «адраджэньні» мовы мела ў нашаніўцаў наскрозь нацыяналістычны характар. [...]

[182] Тамсама, с. 11.
[183] Тамсама.
[184] Тамсама, с. 11-13.
[185] Тамсама, с. 14 і наст.
[186] Тамсама, с. 18-21.

З «адраджэньня» беларускай мовы і пачынаецца задача абуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці беларуса, аб чым нашаніўцы пісалі з самага пачатку [...][187].

Нельга пагадзіцца з меркаваннем Дудкова, што ў «нацыянальным змаганьні» нашаніўцы спрабавалі «выкапаць прадоньні паміж беларускай і іншымі нацыямі»[188].

У той жа час Дудкоў справядліва заўважае, што «беларускай школы нашаніўцы дабіваюцца ад Думы і ўраду, шмат пішуць аб гэтым», аднак бачыць у гэтым «буржуазны нацыяналізм»[189].

Дудкоў таксама крытыкаваў публіцыстыку газеты па праблеме беларусізацыі рэлігійнага жыцця[190].

Вучоны прыходзіў да вываду, што

[..] нашаніўцы ня былі прыхільнікамі рэволюцыйнай барацьбы за вызваленьне Беларусі з-пад нацыянальнага і палітычнага ўціску. [...] Нашаніўскі рух каваў і гартаваў ня кадры для ЦК КП(б)Б, ня кадры для Кастрычніцкай рэвалюцыі, як гэта даказвалі нацыянал-дэмократы, а кадры будучых азьвярэлых ворагаў савецкай Беларусі[191].

Сярод гэтых «ворагаў» Дудкоў называў А. Луцкевіча, Р. Астроўскага, І. Цвікевіча, Я. Лёсіка, В. Ластоўскага, сярод якіх не ўсе былі звязаны з «Нашай Нивай». Такім чынам, Дудкоў не пазбягае жангліравання рознымі данымі для стварэння сваёй тэорыі: у часы «Нашай Нивы» не было ні ЦК КП(б)Б, ні БССР.

З іншага боку, трэба пагадзіцца з меркаваннем М. Югава, што «тав. Дудкоў [...] прагледзеў усю „Нашу Ніву”, паспрабаваў аналізаваць яе». Той жа Югаў заўважыў, што Дудкоў «у асобных месцах некалькі мэханічна падышоў да ацэнкі „Нашай Нівы”», перааацаніў «рэакцыйную ролю» газеты. Югаў справядліва адзначаў:

Ці магчыма параўноўваць нацыянал-лібэралізм «Нашай Нівы» з нацыянал-лібэралізмам Струве, які адмаўляў нацыянальны рух ня толькі ў Беларусі, але і на Ўкраіне? Вядома, немагчыма.

187 Тамсама, с. 33-35.
188 Тамсама, с. 36.
189 Тамсама, с. 38-39.
190 Тамсама, с. 40-43.
191 Тамсама, с. 57-58.

> Нацыянал-лібэралізм расійскі і нацыянал-лібэралізм прыгнечанай нацыі — рэчы зусім розныя і іх трэба разьмяжоўваць[192].

Аналагічнай думкі прытрымліваўся падчас дыскусіі і Поташ, які дадаваў, што, паводле Дудкова, «атрымліваецца што „Наша Ніва" — гэта нацыянал-дэмократычная газэта, пры гэтым у сучасным сэнсе»[193]. Гэта, натуральна, было не так.

Увогуле, Югаў, бадай, быў адзіным удзельнікам дыскусіі, які спрабаваў аб'ектыўна — наколькі гэта было магчыма ў тагачасных умовах — падысці да разгляду «Нашай Нивы». Ён лічыў, «што калі Беларусь была колёніяй царызму, дык значыць мы павінны ў пэўнай ступені і нацыянальны рух беларускай інтэлігенцыі [...] разглядаць як рух, які зьяўляўся нейкай бацылай, што садзейнічала разбурэньню царызму», а «Янка Купала ды іншыя беларускія поэты нашаніўскага пэрыоду і амаль уся беларуская літаратура абуджалі нацыянальныя пачуцьці, [...] ня гралі ролі ў консолідацыі імпэрыі. Гэта, па-мойму, прогрэсыўная рыса», і «немагчыма разглядаць політычную програму „Нашай Нівы" без разгляду об'ектыўнага сэнсу нацыянальнага руху сярод прыгнечаных народаў у эпоху панаваньня прыгоньніцтва наогул і ў прыватнасьці ў Беларусі»[194]. Урэшце, Югаў рэзюмаваў, што нашаніўскі рух не быў рэакцыйны, хаця яго тактыка была контррэвалюцыйная[195].

Поташ звярнуў увагу на тое, што «нацыянальна-вызваленчы рух, у першую чаргу рух беларускага сялянства, быў бязумоўна прогрэсыўным зьявішчам», а «Наша Ніва» была «опозыцыйным рухам супроць царызму і чорнасоценцаў. Але гэта быў нацыянальны рух антырэволюцыйнай групоўкі, ідэолёгія якой была рэакцыйнай на ўсе 100 проц.»[196].

У 1934 г. гісторык Васіль Шчарбакоў крытыкаваў гісторыка Самуіла Агурскага за тое, што «рэфармісцка-нацыяналістычная плыня, якая групавалася вакол гэтых двух газет [«Нашай Доли» і «Нашай Нивы». — *В.К.*], у тав. Агурскага прадстаўлена, як інтэлігенцка-рэволюцыйны рух»[197].

1929 г., такім чынам, стаў часам перагляду падыходаў да гісторыі першых беларускіх газет у беларускім савецкім дыскурсе.

192 Тамсама, с. 58-60.
193 Тамсама, с. 68.
194 Тамсама, с. 95.
195 Тамсама, с. 98.
196 Тамсама, с. 85.
197 В. К. Шчарбакоў, *Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі*, Менск 1934, с. 98.

Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу тое, што «Наша Доля» нават проціпастаўлялася «Нашай Ниве» — і гэта тэндэнцыя захавалася на наступныя дзесяцігоддзі. Так, 25 верасня 1929 г. Аляксандр Сянкевіч, член Сакратарыята ЦК КП(б)Б, загадчык аддзела друку, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б, рэктар Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі імя У. І. Леніна (а ў 1906 г., дарэчы, — адзін з удзельнікаў, разам з К. Міцкевічам, нелегальнага настаўніцкага з'езда ў в. Мікалаеўшчыне цяперашняга Стаўбцоўскага раёна[198]), у дыскусіі з пісьменнікам Міхасём Зарэцкім выразна разрозніваў дзве першыя беларускія газеты:

> Усім вядома, што «Наша Ніва» была лібэральнай газэтай, інакш-бы яны не існавала праз гады рэакцыі, вядомы і той факт, што газэта «Наша Доля» іменна за рэвалюцыйныя тэндэнцыі была хутка зачынена царскімі сатрапамі[199].

«Наша Доля» таксама інтэрпрэтавалася як радыкальная народніцкая газета. «Наша Нива» абвяшчалася кулацка-буржуазным, буржуазна-ліберальным, буржуазна-нацыяналістычным, контррэвалюцыйным выданнем. Была зроблена спроба штучна падзяліць задняй датай супрацоўнікаў газеты на розныя ідэйна-палітычныя групы, робячы аднаго з фактычных кіраўнікоў рэдакцыі А. Луцкевіча «нацфашыстам». Хаця ён быў адной з ключавых фігур у абодвух выданнях, а яго брат Ян іх заснавальнікам. У той жа час акцэнтавалася ўвага на тым, што «Наша Нива» была органам беларускага нацыянальнага руху, які ацэньваўся пераважна адмоўна. А З. Жылуновіч, напрыклад, быў вымушаны адмовіцца ад ранейшых станоўчых поглядаў на «Нашу Ниву». Крытыкаалася нават імкненне «Нашай Нивы» распрацаваць беларускую літаратурную мову як «нацыяналістычнае» (Д. Дудкоў). Аднак былі спробы разгледзець «Нашу Ниву» ў духу тэорыі У. Леніна як орган друку прыгнечанай царызмам нацыі, што магло гучаць як частковае апраўданне яе як гістарычнай з'явы, аднак з агаворкай, што ўсё роўна нашаніўскі рух быў быццам бы антырэвалюцыйны і рэакцыйны (С. Вальфсон, М. Югаў).

Зразумела, чаму «Наша Нива» з той пары на доўгі час атрымала негатыўную афарбоўку ў савецкім ідэалагічным дыскурсе, і стала

198 С. Галоўка, *Скрыжалі лёсу Алеся Сянкевіча*, «Беларуская думка» 2018, № 3, с. 48.

199 *За генэральную лінію партыі. Шырэй разгорнем самакрытыку, яшчэ мацней сцэмэнтуем нашы рады для жорсткай барацьбы з правым ухілам, з нацыянал-дэмакратызмам і шавінізмам. Прамова т. Сянкевіча на сходзе партактыву Фрунзаускага райену* (sic!), «Савецкая Беларусь», 25.09.1929, № 219, с. 2.

немагчымым вывучэнне спадчыны газеты ў строга навуковым рэчышчы ў наступныя дзесяцігоддзі[200].

У верасні 1939 г. на беларускіх тэрыторыях даваеннай Рэспублікі Польшча, якія заняла Чырвоная Армія, органамі НКУС БССР былі арыштаваны былыя вядучыя супрацоўнікі «Нашай Нивы» Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў. Хаця яшчэ 28 верасня 1939 г. Луцкевіч на сходзе інтэлігенцыі Вільні вітаў вызваленне ад «панскага іга». Зварот былых калег Уласава — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, накіраваны 26 красавіка 1940 г. да першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі, не ўратаваў былога рэдактара «Нашай Нивы». Ён памёр у зняволенні 11 сакавіка 1941 г., Луцкевіч — у сакавіку 1942 г.[201]

Такім чынам, ахвярамі савецкай улады сталі не толькі ідэі першых беларускіх газет, але і іх выдаўцы і заснавальнікі.

Невыпадкова ў 1941-1944 гг. у беларускай прэсе, якая выдавалася ва ўмовах нямецкай акупацыі, «Наша Нива» ўпаміналася ў станоўчым святле, як і ўвогуле беларускі нацыянальны рух пачатку XX ст. Гэта было адначасова і формай апазіцыйнага мыслення ў адносінах да папярэдняга перыяду, калі першыя беларускія газеты кляйміліся адмоўнымі характарыстыкамі. Характэрным прыкладам, які адлюстроўвае мысленне перыяду 1941-1944 гг., з'яўляўся рэпартаж з Беларускага музея ў Слоніме, заснавальнікам і загадчыкам якога з'яўляўся Язэп Стаброўскі. Адна з зал гэтага музея была «прысьвечана адраджэньню Беларусі». Тут былі змешчаны партрэты, фотаздымкі Цёткі, Яна Луцкевіча:

> У іншай вялікай шкляной шафе сабрана шмат беларускіх часапісаў і журналаў з розных гадоў на чале з гадавіком «Нашай Нівы»[202].

200 Аналагічныя працэсы адбываліся таксама на Украіне, дзе публіцысты, гісторыкі павінны былі каяцца і абвінавачваць — сябе і іншых у «грахах» мінулага, звязанага з дзейнасцю ў радах нацыянальнага руху. Колькасць такіх тэкстаў імкліва расла. Сітуацыя ва ўкраінскай гістарыяграфіі змянілася толькі ў 1950-1960-я гг., але і над гісторыкамі таго часу навісала «траўматычная» спадчына 1930-х гг. (А. В. Ясь, *«Покаянные» и «обличительные» тексты украинских историков первой половины 1930-х гг. как способ организации культурного пространства тоталитарного общества*, [у:] *Советские нации и национальная политика в 1920-1950-е годы. Материалы VI международной научной конференции. Киев, 10-12 октября 2013 г.*, Москва 2014, с. 247-255).

201 *«Вызваленыя» і заняволеныя. Польска-беларускае памежжа 1939-1941 гг. у дакументах беларускіх архіваў*, навук. рэд. А. Смалянчук, Мінск 2021, с. 37-38, 239-240.

202 І. М., *Слонімскі музэй*, «Новы Шлях» 1943, № 19 (31), с. 13.

Перыяд 1941-1944 гг. не прынёс новых падыходаў да вывучэння першых беларускіх газет і не аказаў фактычна ніякага ўплыву на гістарыяграфію.

Публіцыстыка «Нашай Долі» і «Нашай Нивы», якая закранала права беларусаў на свабоднае развіццё сваёй мовы, культуры і ідэнтычнасці, не станавілася тэмай спецыяльных даследаванняў у савецкай навуцы. Гісторыя газет аналізавалася, але фрагментарна, з цэнзурнымі абмежаваннямі, выкліканымі наступствамі ідэалагічных дырэктыў 1929-1930-х гг.

Праўда, у 1945 г. былі спробы рада публіцыстаў рэабілітаваць «Нашу Ниву». Так, Міхась Ларчанка пазітыўна ацэньваў газету ў сувязі з працай у ёй Янкі Купалы: «„Наша Ніва" нагадвае сабой энцыклапедыю Беларусі часоў рэволюцыі 1905-07 гг.»[203]. Удава Янкі Купалы — Уладзіслава Луцэвіч — характарызавала пазнейшы перыяд гісторыі газеты ў сувязі з гісторыяй знаходжання Купалы ў Вільні. Яна пісала:

> Не было амаль ніводнага нумара газеты «Наша Ніва» ці часопіса, дзе б не друкаваліся творы Якуба Коласа і Янкі Купалы. Іх творы як бы пераклікаліся[204].

«Наша Ніва» ў гэты час характарызавалася пераважна станоўча, што было звязана з пэўнай лібералізацыяй нацыянальнай палітыкі савецкай улады ў апошнія гады Другой сусветнай вайны.

У 1946 г. Юльян Пшыркоў выступіў з артыкулам, у якім вярнуўся да ацэнак як беларускага нацыянальнага руху, так і гісторыі беларускай прэсы, якія былі прыняты да 1929 г.[205] Ён напамінаў пра выхад у 1906 г. спачатку «Нашай Долі», а затым «Нашай Нивы», а апошняй надаваў «выключна вялікую ролю» ў «гісторыі барацьбы нашага народа за стварэнне сваёй дзяржаўнасці, за стварэнне народнай нацыянальнай літаратуры і культуры». Даследчык тлумачыў, што паколькі „Наша Нива" «пачала выходзіць у перыяд спаду рэволюцыі, таму аб рэволюцыйных заявах не магло быць і рэчы». Таксама ён адзначаў, што газета «не была органам якой-небудзь палітычнай партыі з строга-акрэсленай праграмай», не ўпамінаючы пра яе сувязь з Беларускай сацыялістычнай грамадой. Пшыркоў, бадай, перабольшваў, называючы „Нашу Ниву" «масавай газетай» і параўноўваючы яе з рускім часопісам «Современникъ», які рэдагаваў пісьменнік Мікалай Някрасаў.

203 М. Ларчанка, *Янка Купала — вялікі асветнік*, «Беларусь» 1945, № 6, с. 24.
204 В. Луцэвіч, *Янка Купала ў Вільні*, «Беларусь» 1945, № 6, с. 26-27.
205 Ю. Пшыркоў, *Янка Купала — рэдактар «Нашай Нівы»*, «Беларусь» 1946, № 5-6, с. 31-33.

Фактычна Пшыркоў адмаўляў усе ранейшыя адмоўныя ацэнкі газеты. Напрыклад, ён сцвярджаў: «Газеце не ўласцівы быў нацыяналістычны ўхіл». Аргументуючы, ён спасылаўся ў гэтым і іншых выпадках на меркаванне мовазнаўца Яўхіма Карскага. Пшыркоў падкрэсліваў: «Вялікая станоўчая дзейнасць газеты звязана непасрэдна з дзейнасцю вялікага нашага паэта Янкі Купалы».

Аднак ацэнка «Нашай Нівы» рэзка змянілася ў 1948 г., што было звязана з агульнымі тэндэнцыямі ў грамадска-палітычным жыцці СССР: чарговай хваляй барацьбы з «нацыяналізмам» і, у прыватнасці, адпаведнымі пастановамі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б за 1947-1948 гг. па пытаннях літаратуры і мастацтва[206].

У 1948 г. па заданні ЦК КП(б)Б гісторыкамі БССР былі падрыхтаваны «Тезисы об основных вопросах истории БССР»[207]. У іх адзначалася: «Революция 1905-1907 гг. дала сильный толчок национально-освободительному движению угнетенных народов царской России, в числе их и белорусского народа». Канстатаваўся наступны факт: «Царское правительство и накануне буржуазно-демократической революции и во время ее проводило политику национального угнетения, задерживающую экономическое и культурное развитие Белоруссии. Царизм не допускал существования школ с преподаванием на белорусском языке, преследовал белорусскую печать».

У тэзісах сцісла сказана пра першыя крокі беларускага нацыянальнага руху ў той перыяд:

> Требования об устройстве белорусских школ поступали от крестьян и интеллигенции, преимущественно учителей. В 1905-1906 гг. в Белоруссии появилась учебная литература на родном языке (буквари, книги для чтения). Печатались на белорусском языке брошюры и листовки революционного содержания. В 1906 г. в Белоруссии выходила газета революционно-демократического направления «Наша доля», закрытая на 6 номере царским правительством.
>
> В годы революции (1905-1907 гг.) значительного развития достигла белорусская художественная литература революционно-демократического направления, представители которой — Я. Купала, Я. Колас, А. Цётка

206 *Тэзісы па асноўных пытаннях гісторыі беларускай літаратуры*, ч. 1: *Дарэвалюцыйная беларуская літаратура*, скл. В. Барысенка, І. Гутараў, «Полымя» 1949, № 2, с. 112.

207 *Тезисы об основных вопросах истории БССР (материалы для преподавателей, лекторов и докладчиков)*, ч. 1: *История белорусского народа до Великой Октябрьской социалистической революции. В порядке обсуждения*, «Известия Академии наук БССР», май-июнь 1948, № 3, с. 89-90, 128-131.

призывали белорусское крестьянство к борьбе против социального и национального угнетения.

Дзейнасць «легальной белорусской газеты „Наша Нива"» разглядалася павярхоўна. У тэзісах сказана, што вакол «Нашай Нивы» групіравалася Беларуская сацыялістычная грамада, якая разглядалася як «незначительная националистическая интеллигентская группа», што «не была связана с широкими народными массами». Гаварылася пра тое, што гэта была група асоб, якія «отстаивали программу национально-культурной автономии, включив в нее требование перевода богослужения в церкви на белорусский язык, и осуждали борьбу рабочего класса против буржуазии и борьбу крестьянства против помещиков и кулаков». Пры гэтым у тэзісах спрабавалі спалучыць ідэалагічныя догмы свайго часу з фактамі гістарычнай рэчаіснасці:

Либерально-националистическое (громадовское) направление определяло политическое лицо газеты «Наша Нива». Но наряду с этим в «Нашей Ниве», как единственной легальной белорусской газете того времени, принимали участие и представители революционно-демократической интеллигенции во главе с Я. Купала *(sic!)* и Я. Коласом.

У 1948-1949 гг. літаратуразнавец Васіль Барысенка падрыхтаваў крытычныя заўвагі і тэзісы па пытаннях гісторыі беларускай літаратуры[208]. Характэрна, што ў 1948 г. ён адкрыта крытыкаваў артыкулы ў часопісах «Беларусь» і «Полымя», якія выйшлі ў «пасляваенныя гады» і маюць «сур'ёзныя нацыяналістычныя памылкі і ідэалагічныя скажэнні», а ў прыватнасці, творчасць М. Ларчанкі, як складальніка хрэстаматыі для VIII класа сярэдніх школ БССР па беларускай літаратуры. У школьнай праграме, выдадзенай у 1946 г., разглядаліся газеты «Наша Доля» і «Наша Нива» ў сувязі з «уздымам нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі». Барысенка таксама крытыкуе выступленне Юльяна Пшыркова, які ацаніў «нашаніўскую літаратуру» як «адзіную па сваёй ідэйнай накіраванасці»[209]. Барысенка, пішучы, што «ў разгар

208 З. *(sic!)* Барысенка, *Аб некаторых пытаннях гісторыі беларускай літаратуры*, «Полымя» 1948, № 2, с. 108-121; *Тэзісы па асноўных пытаннях гісторыі беларускай літаратуры*, ч. 1: *Дарэвалюцыйная беларуская літаратура*, скл. В. Барысенка, І. Гутараў, «Полымя» 1949, № 2, с. 112-125.

209 Ю. Пшыркоў, *Янка Купала — рэдактар «Нашай Нівы»*, «Беларусь» 1946, № 5-6, с. 31-33.

рэвалюцыі 1905-1907 гг. выступілі ў беларускай літаратуры Я. Купала і Я. Колас», а таксама «Элаіза Цётка» і Максім Багдановіч, што ў гэты час адбыўся «выхад на арэну гістарычнай дзейнасці вялікага беларускага народа, абуджанага бурнымі падзеямі рэвалюцыі», ставіць Купалу і Коласа «на чале рэалістычнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку ў беларускай літаратуры». У той жа час Барысенка сцвярджае: „«Поветрие» нацыяналізма захапіла пэўную частку «нашаніўскай» літаратурнай інтэлігенцыі". Да прадстаўнікоў «буржуазна-нацыяналістычнай літаратуры» Барысенка залічвае Алеся Гаруна, крытыкуючы Пшыркова, які, «насуперак ісціне, залічвае Ал. Гаруна да „купалаўскага" напрамку». Барысенка фактычна прызнае, што стала сапраўднай прычынай такой яго ацэнкі:

> Зусім не выпадкова, што такія «нашаніўцы», як Я. Купала, Я. Колас, Зм. Бядуля, становяцца пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі на пазіцыі совецкай літаратуры і назаўсёды звязваюць свой лёс з лёсам соцыялізма, а такія былыя «нашаніўцы, як Власт, Гарун, А. Навіна апынуліся ў лагеры нацыяналізма[210].

Аднак, калі карыстацца тэрміналогіяй Барысенкі, у 1919-1920 гг., а іменна — падчас польскай акупацыі часткі тэрыторыі Беларусі, усе нашаніўцы былі ў адным, антысавецкім, лагеры: Купала, Бядуля, Власт, Гарун, Навіна (А. Луцкевіч).

У 1949 г. В. Барысенка і І. Гутараў упамянулі, што «ў Беларусі 1 верасня 1905 года выходзіць на беларускай мове першая легальная беларуская газета „Наша доля". Амаль кожны нумар газеты канфіскоўваўся паліцыяй. На шостым нумары [які вышаў *(sic!)* 1 снежня 1905 г. *(sic!)*] газета была закрыта ўрадавай цэнзурай». Такім чынам, аўтары зрабілі сур'ёзную памылку, «перанёсшы» час выхаду газеты з 1906 на 1905 г.[211] «Наша Нива» ж абвяшчалася «газетай буржуазна-ліберальнага напрамку»:

> Кіраўніцтва газеты прапаведавала шкодную нацыяналістычную тэорыю бяскласавасці беларускага народа. [...]

[210] З. *(sic!)* Барысенка, *Аб некаторых пытаннях гісторыі беларускай літаратуры*, «Полымя» 1948, № 2, с. 108, 112-113, 115.

[211] *Тэзісы па асноўных пытаннях гісторыі беларускай літаратуры*, ч. 1: *Дарэвалюцыйная беларуская літаратура*, скл. В. Барысенка, І. Гутараў, «Полымя» 1949, № 2, с. 120.

> Купала і Колас змагаліся супроць здрадніцкай устаноўкі нацыяналістычных кіраўнікоў «Нашай нівы» на прымірэнне класавых супярэчнасцей у беларускай нацыі[212].

Такая інтэрпрэтацыя гісторыі газеты рэчаіснасці не адпавядала: гэта была падгонка пад тагачасныя ідэалагічныя догмы гістарычных фактаў, а па сутнасці іх перакручванне, скажэнне. Аднак, як бачым, у тагачасным навуковым і ідэалагічным дыскурсе рабіліся спробы вывесці па-за нашаніўскі кантэкст Янку Купалу і Якуба Коласа. На гэтым фоне вылучаецца праца літаратуразнаўца Васіля Івашына пра творчасць Купалы перыяду 1905-1907 гг., што ўбачыла свет у 1953 г.[213]

Творчасць аўтараў, звязаных з «Нашай Доляй» і «Нашай Нивай», адлюстравана гісторыкам Канстанцінам Шабунем у калектыўнай манаграфіі па гісторыі БССР, што была выдадзена Акадэміяй навук БССР у 1954 г. Шабуня пісаў, што «первое печатное стихотворение» Якуба Коласа „появилось в сентябре 1906 г. в белорусской газете «Наша доля». С тех пор стихи поэта печатались довольно часто в «Нашей доле» и в «Нашей ниве»"[214]. Далей аўтар тэндэнцыйна сцвярджаў:

> Органом белорусских буржуазных националистов фактически была газета «Наша нива», выходившая в Вильно на белорусском языке с конца 1906 до середины 1915 г. [...]
> «Наша нива» была единственно газетой, издававшейся на белорусском языке. Поэтому Тётка, Богданович, Бядуля, Купала, Колас и другие демократические писатели вынуждены были печатать в ней некоторые свои художественные произведения. Однако это не меняло буржуазно-националистического направления «Нашей нивы».
> Белорусские буржуазные националисты всячески боролись против революционно-демократического направления творчества Янки Купалы и Якуба Коласа и других поэтов-демократов [...]. [...]
> Поддерживая царизм и отвергая революцию, «Наша нива» призывала возложить все надежды на улучшение жизни на Государственную думу [...]. [...]

212 Тамсама, с. 121.

213 В. В. Івашын, *Янка Купала: творчасць перыяду рэволюцыі 1905-1907 гг.*, Мінск 1953.

214 К. И. Шабуня, *Культура и просвещение в Белоруссии в начале XX в. (1900-1914 гг.)*, [у:] *История Белорусской ССР*, т. 1, ред. В. Н. Перцев, К. И. Шабуня, Л. С. Абецедарский, Минск 1954, с. 455.

Пытаясь затемнить классовое сознание пролетариата и трудящегося крестьянства, белорусские буржуазные националисты проповедовали через «Нашу ниву» и другие издания лозунг внеклассовой, «единой» национальной культуры[215].

У той жа час Шабуня дадаваў, што «Купала, Колас, Богданович и другие демократические писатели боролись за утверждение общенационального народного языка в литературе»[216]. Аднак не адзначаецца, што гэта магло адбывацца толькі з дапамогай беларускамоўнай прэсы, сярод заснавальнікаў якой была, напрыклад, Алаіза Пашкевіч (Цётка). Наадварот, факты перакручваліся, і Цётка паказвалася як быццам бы вымушаная публікавацца ў беларускіх газетах[217].

У 1956 г. літаратуразнаўцы Ю. Пшыркоў[218] і М. Ларчанка[219], як і ў 1945-1946 гг., зноў паспрабавалі рэабілітаваць «Нашу Ниву».

Ларчанка «ў парадку абмеркавання» паставіў пытанне аб пераглядзе ацэнак некаторых фактаў і з'яў гісторыі беларускай літаратуры пачатку XX ст.», у прыватнасці, газет «Наша Доля» і «Наша Нива», якія аказаліся «шкоднымі пад пяром нашых некаторых гісторыкаў»[220].

Публікацыя Ларчанкі ў пачатку 1957 г. была заўважана газетай беларускіх эмігрантаў у Мюнхене «Бацькаўшчына», якая адзначала, што «ў савецкай Беларусі газэта „Наша Ніва" не карысталася добрай славай. Аб ёй пісалі шмат і парознаму, аднак найчасьцей адмоўна. Не рэгабілітаваная яна поўнасьцяй і да гэтага часу, аднак гаворыцца аб ёй ужо зусім іншым тонам»[221].

Беларускі эміграцыйны літаратуразнавец Станіслаў Станкевіч называў Ларчанкаву спробу рэабілітацыі «Нашай Нивы» ў 1956 г. першай[222], мабыць, не ведаючы пра папярэднюю.

215 Тамсама, с. 464-465.
216 Тамсама, с. 466.
217 Пра фальсіфікацыю фактаў у «Истории Белорусской ССР» 1954 г. гл.: С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 91-115.
218 Ю. Пшыркоў, *Глыбей вывучаць гісторыю літаратуры*, «Літаратура і мастацтва», 28.07.1956.
219 М. Ларчанка, *Некаторыя пытанні гісторыі беларускай літаратуры*, «Літаратура і мастацтва», 17.11.1956, № 47, с. 2-4.
220 Тамсама, с. 3.
221 *Рэгабілітацыя «Нашае Нівы»*, «Бацькаўшчына» 1957, № 1-2, с. 7.
222 С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 105-108.

Аднак захады Ларчанкі ў 1957 г. выклікалі як рэзкую рэакцыю Л. Абецадарскага і Л. Сідарэнкі на старонках мінскай газеты «Звязда»[223], так і ўзважаную рэакцыю Д. Палітыкі ў маскоўскай «Литературной газете»[224].

Абецадарскі і Сідарэнка ўбачылі ў артыкуле Ларчанкі «аб'ектыўна шкодныя тэндэнцыі»:

> М. Ларчанка не задаволен і тым, што беларускую газету «Наша ніва», якая выдавалася з 1906 па 1915 гг., гісторыкі ахарактарызавалі як газету буржуазна-нацыяналістычную.
> Пад яго пяром «Наша ніва» набывае зусім іншую якасць. Не адмаўляючы нацыяналістычны характар публіцыстыкі «Нашай нівы», М. Ларчанка лічыць, што група пісьменнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку (Я. Купала, Я. Колас, Цётка) і прагрэсіўных пісьменнікаў-патрыётаў (М. Багдановіч, З. Бядуля, Я. Журба, К. Буйла і іншыя), якія таксама друкавалі там свае творы, надавала газеце дэмакратычны характар, рабіла яе «прагрэсіўнай, патрэбнай і карыснай».

Абецадарскі і Сідарэнка, калі змякчыць іх рыторыку, фармальна мелі рацыю, адзначаючы: «Самі беларускія нацыяналісты заяўлялі, што „Наша ніва” была іх штабам». Таксама Абецадарскі і Сідарэнка прызнавалі, што «беларускія пісьменнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку» вымушаны былі публікавацца ў гэтай газеце, «бо іншай газеты на беларускай мове не было». Аднак гэта думка не была развіта ў кірунку высвятлення прычынна-выніковай сувязі паміж узнікненнем беларускага нацыяналізму — нацыянальнага руху і першых беларускіх газет. Зрэшты, такая задача і не стаяла.

Абецадарскі і Сідарэнка карысталіся не гістарычнымі фактамі, а ідэалагічнымі штампамі аб тым, што «творчыя шляхі Я. Купалы і Я. Коласа не былі гладкімі. На гэтых шляхах былі і ідэалагічныя памылкі. І, бясспрэчна, што гэтыя памылкі абумоўлены шкодным уплывам гаспадароў „Нашай нівы” — беларускіх буржуазных нацыяналістаў». „Але намеры гаспадароў «Нашай нівы» («шляхцюкоў», як іх называў Я. Купала) не ўдаліся”, — рэзюмавалі крытыкі на старонках «Звязды».

223 Л. Абэцэдарскі, А. Сідарэнка, *За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый*, «Звязда», 12.01.1957, № 10, с. 2-3.

224 Д. Политыко, *Сегодняшний день белорусской критики*, «Литературная газета», 14.03.1957, № 32, с. 3.

Д. Палітыка, адзначаючы, што М. Ларчанка „не соглашается с установившейся оценкой газеты «Наша нива» как органа, служившего белорусским буржуазным националистам", і крытыкуючы Ларчанку за некрытычны падыход да спадчыны пісьменнікаў Алеся Гаруна, Каруся Каганца і Ядвігіна Ш., лічыць рад думак беларускага літаратуразнаўца вартымі «серьезного внимания»: «Поэтому мы не можем согласиться с „проработочным" тоном выступления Л. Абецедарского и А. Сидоренко».

Абецадарскім і Сідарэнкам быў раскрытыкаваны не толькі сам Ларчанка, але і газета «Літаратура і мастацтва», якая надрукавала яго артыкул. Апрача таго, 18-19 сакавіка 1957 г., на трэцім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня праўлення Пятрусь Броўка паўшчуваў Ларчанку за тое, што той, «хоча ён гэтага ці не, імкнецца не заўважыць некаторых шкодных з'яў, якія былі ў літаратуры»[225], не канкрэтызуючы, што менавіта мае на ўвазе пад гэтымі «з'явамі».

У сваёй прамове на з'ездзе Ларчанка уступіў у палеміку з артыкулам Абецадарскага і Сідарэнкі: «Прызнаўшы сваю памылку ў ацэнцы дзейнасці А. Гаруна, ён, аднак, адстойваў сваю пазіцыю адносна „Нашай нівы"». Пісьменнік Кандрат Крапіва вырашыў абысці вострыя вуглы дыскусіі, заявіўшы, што «як артыкул М. Ларчанкі, так і артыкул Л. Абэцэдарскага і А. Сідарэнкі ў поўнай меры не вырашаюць закранутага пытання». Крапіва выказаў уласную думку:

> Я думаю, наогул, што пастаноўка пытання аб нашаніўскім перыядзе ў беларускай літаратуры няправільная. Гэты тэрмін не з'яўляецца правамерным. Правільней было-б гаварыць аб развіцці беларускай літаратуры ў перыяд ад першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905-1907 гг. да Кастрычніцкай рэвалюцыі. «Наша ніва» не ахоплівае сабой ні часу, ні аб'ёму той літаратуры, якая выдавалася ў гэтыя гады. «Нашу ніву» трэба разглядаць не як літаратурны працэс, а як газету.

Пісьменнік Пятро Глебка заявіў, што «нельга лічыць „Нашу ніву" прагрэсіўнай толькі за тое, што на яе старонках часам друкавалі свае творы дэмакратычныя беларускія пісьменнікі»[226]. Гэтыя выказванні

[225] *Становішча беларускай савецкай літаратуры пасля XX з'езду КПСС і яе задачы. Даклад старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Петруся Броўкі*, «Літаратура і мастацтва», 20.03.1957, № 23, с. 4.

[226] *На пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі*, «Літаратура і мастацтва», 23.03.1957, № 24, с. 2.

не мелі на мэце прааналізаваць «Нашу Ниву», а, здаецца, надаць крытыцы Ларчанкі мякчэйшы тон.

Зноў Ларчанка быў раскрытыкаваны 12 лютага 1959 г. на чацвёртым з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР — Броўкам і першым сакратаром ЦК КП(б)Б Кірылам Мазуравым[227].

У другім выданні першага тома «Истории Белорусской ССР», што ўбачыла свет у 1961 г., як адзначае С. Станкевіч, былі захаваны і пашыраны дагматычныя ацэнкі «Нашай Нивы»[228]. Іх аўтарам быў адзін з рэдактараў кнігі Канстанцін Шабуня. «Нашу Долю» ён ахарактарызаваў як «буржуазно-либеральное» выданне. Гісторык сцвярджаў, што «на страницах „Нашей нивы" националисты открыто выступали с осуждением революционно-демократических поэтов, которые писали о тяжелой жизни народных масс». З кантэксту вынікае, што да супрацьлеглых лагераў быццам бы належалі, у прыватнасці, з аднаго боку, Каганец і Гарун, а з другога, Купала і Колас:

> Произведения революционных демократов вопреки желаниям политических руководителей «Нашей нивы» будили в народных массах протест против социального и национального гнета.

Паводле Шабуні, палітычнымі краўнікамі «Нашай Нивы» была «группа буржуазных националистов, которые после роспуска БСГ перешли к легальной работе». Шабуня лічыў, што „Наша Нива" «повторяла давно разгромленные марксистами взгляды легальных народников о ведущей роли интеллигенции в обществе и призывала интеллигенцию „оплатить долг", т.е. возглавить национально-культурное буржуазное движение». Шабуня не спрабуе разабрацца ў тым, чым адрозніваліся ідэі на старонках газеты ў розныя перыяды яе выдання. Аднак гады выхаду «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» ўключаны ў апошні раздзел першага тома «Истории Белорусской ССР» — «Важнейшие даты истории Белоруссии»[229].

У той жа час часцей сталі з'яўляцца публікацыі пра «Нашу Долю», што фактычна стала прарывам у доўгім маўчанні пра газету з канца

[227] «Літаратура і мастацтва», 13.02.1959, 18.02.1959; С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 107-108.

[228] С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Ніва» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 91-115.

[229] *История Белорусской ССР*, т. 1, ред. кол.: Л. С. Абецедарский, В. Н. Перцев, К. И. Шабуня, Минск 1961, с. 603-607, 650.

1920-х гг. У 1958 г. газета «Советская Белоруссия» паведаміла аб знаходцы ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР першага нумара газеты: «Обнаруженный экземпляр является единственно сохранившимся ее оттиском. [...] Найденный номер представляет большой библиографический интерес». Паведамлялася, што ў газеце «излагается революционная программа» і быў апублікаваны верш Якуба Коласа «Наш родны край»[230].

У пачатку 1962 г. пісьменніца і літаратуразнавец Лідзія Арабей на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» апублікавала артыкул «Новае аб „Нашай долі"». Арабей сцвярджала, што «„Наша доля" бачыла класавае размежаванне беларускага народа», «выступала супраць нацыянальнай абмежаванасці, за саюз у рэвалюцыйнай барацьбе працоўных усіх нацый»: «Гэта была першая газета, якая загаварыла з селянінам на яго роднай мове і загаварыла аб тым, што больш за ўсё яго хвалявала». Арабей асабліва адзначала ролю газеты ў творчасці Якуба Коласа і Цёткі, публікавала дакументы па гісторыі газеты з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Літоўскай ССР і Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва г. Ленінграда[231].

Трэцюю спробу рэабілітацыі «Нашай Нивы» можна датаваць 1963 г., калі Мікола Верабей выступіў з артыкулам на тэму ленініяны на старонках «Нашай Нівы», закранаючы адну з публікацый газеты за 1913 год[232]. Верабей прыйшоў да вываду: «Напэўна, у рэдакцыі былі людзі, якія падзялялі марксісцкія думкі». Сапраўды, марксістам з'яўляўся, напрыклад, Антон Луцкевіч[233]. А паводле Змітра Жылуновіча, «кіраўніцтва „Нашай Ніваю" цалком знаходзілася ў руках соцыял-дэмократаў, як: А. Навіна, Ян Луцкевіч, А. Бурбіс , і вялікая большасьць пісьменьнікаў нашаніўцаў таксама належалі да гэтае партыі»[234]. Аднак гэтага меркавання беларускага савецкага пісьменніка, дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, якім быў Жылуновіч, датаванага 1927 г., не

230 *Найден первый номер первой белорусской газеты*, «Советская Белоруссия», 5.02.1958, № 30.

231 Л. Арабей, *Новае аб «Нашай долі»*, «Літаратура і мастацтва», 23.01.1962, № 7.

232 М. Верабей, *Ленінскі твор на старонках газеты «Наша ніва». Да гісторыі марксісцкай эканамічнай думкі ў Беларусі ў эпоху імперыялізму*, «Полымя» 1963, № 2, с. 132-136.

233 А. Сідарэвіч, *Мысьліцель, ідэоляг, арганізатар*, [у:] А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, укл. А. Сідарэвіч; рэд. А. Ліс, Vilnius — Białystok 2009, с. 27-29.

234 *Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14-21 лістапада 1926 г.)*, рэд. С. Некрашэвіч і Ў. Ігнатоўскі, Менск 1927, с. 373.

прызнавала савецкая навука ў 1963 г. Верабей жа развэжаў на аснове гістарычных фактаў:

> Такім чынам, калі ў даследаванні «Нашай нівы» кіравацца вядомымі ленінскімі ўказаннямі, што легальны друк дарэвалюцыйнага часу быў не партыйны, бо партыйнасць была забаронена, што ў той час непазбежныя былі своеасаблівыя саюзы, фальшывыя прыкрыцці, вымушаныя недагаворкі, і таму частка артыкулаў друкавалася толькі дзеля таго, каб захаваць існаванне газеты, то ў многім зменіцца ўяўленне аб «Нашай ніве», аб яе грамадска-палітычнай дзейнасці[235].

Аднак выступленне ў друку М. Вераб'я выклікала адмоўную рэакцыю Л. Абецадарскага і яго аднадумцаў[236]. Публікацыя Вераб'я была названа «ошибочной»:

> Ведь вопрос о классовом и политическом облике газеты «Наша Нива» в литературоведческой и исторической литературе следует считать решенным. Это газета либерально-буржуазного националистического направления. Попытки отдельных литературоведов приписать «Нашей Ниве» революционно-демократические заслуги в свое время были подвергнуты решительной критике в печати. [...]
> То обстоятельство, что в «Нашей Ниве» сотрудничали Я. Купала, Я. Колас, Т. Гартный и другие белорусские писатели демократического лагеря [...] не меняет общего политического лица этой газеты. Писатели демократического лагеря вынуждены были печатать свои произведения в «Нашей Ниве», потому что она являлась единственной легальной газетой на белорусском языке. [...]
> Газета «Наша Нива» являлась штабом и легальным органом Белорусской социалистической громады (БСГ) [...].
> Подлинными руководителями «Нашей Нивы» являлись лидеры БСГ — Антон и Иван Луцкевич, А. Власов, В. Ивановский[237].

[235] М. Верабей, *Ленінскі твор на старонках газеты «Наша ніва». Да гісторыі марксісцкай эканамічнай думкі ў Беларусі ў эпоху імперыялізму*, «Полымя» 1963, № 2, с. 134, 136.

[236] Л. Абецедарский, О. Ефремова, Е. Корнейчик, К. Шабуня, *Вопреки историческим фактам. Об одной ошибочной статье журнала «Полымя»*, «Коммунист Белоруссии» 1963, № 5, с. 64-69.

[237] Тамсама, с. 64, 68.

Абецадарскі і яго калегі, відавочна, слаба былі знаёмы з гісторыяй газеты, бо Іваноўскі не з’яўляўся яе кіраўніком.

У красавіку 1963 г. на рэспубліканскай нарадзе ідэалагічных работнікаў член ЦК КПБ і акадэмік Акадэміі навук БССР Цімафей Гарбуноў раскрытыкаваў артыкул Вераб’я як «крупную ошибку» і «возмутительный» учынак:

> Я не буду повторять партийную печать, где «Наша Нива» характеризуется как либерально-буржуазная газета. [...]
> Руководители «Нашей Нивы» были буржуазными националистами — Антон и Иван Луцкевичи, они являлись выходцами из помещиков и в период социалистической революции закономерно очутились в лагере контрреволюции[238].

Аднак ужо ў 1964 г. у маскоўскім выданні, прысвечаным 400-годдзю рускага кнігадрукавання, Гарбуноў выступіў з цалкам супрацьлеглымі выказваннямі. Ён упамянуў аб выхадзе першай беларускай газеты «Наша Доля», а пасля яе закрыцця (у гэткай інтэрпрэтацыі) — «Нашай Нивы»:

> В истории борьбы белорусского народа за создание своей государственности, а также за создание народной национальной литературы и культуры «Наша Нива» сыграла важную роль. Она стремилась нести идеи национальной свободы и независимости в среду своих читателей, стала центром белорусской литературы, на ее страницах печатались Янка Купала, Якуб Колас, Змитрок Бядуля, Максим Богданович, Алесь Гарун и др. Как устанавливает исследователь белорусской литературы Ю. Пширков, творчество большинства писателей-«нашенивцев» имело ярко очерченный демократический характер. [...]
> Если учесть, что большинство народа было неграмотно, а польская и русская интеллигенция не принимала участия в этой газете, то можно сделать вывод, что почти каждый грамотный белорус старался сотрудничать в газете. [...]
> Правильно будет оценить «Нашу Ниву» как союзника большевистской печати в те времена.

У якасці ілюстрацый да артыкула Ц. Гарбунова публікавалася першая старонка першага нумара «Нашай Нівы» за 1910 г. і тытульны

[238] *Противоречивые суждения по одному вопросу*, «Коммунист Белоруссии» 1964, № 9, с. 74.

аркуш выдання «Першы беларускі календар „Нашае Нівы” на 1910 год»[239].

Прыклады артыкулаў Д. Палітыкі і Ц. Гарбунова ў маскоўскім друку паказваюць, што там было больш магчымасцей аб’ектыўна адлюстраваць пытанні гісторыі Беларусі і, у прыватнасці, беларускай літаратуры і нацыянальнага руху, чым у мінскіх выданнях.

Неўзабаве, аднак, з’явіўся ананімны артыкул у часопісе «Коммунист Белоруссии», у якім была звернута ўвага на «противоречивые суждения» Гарбунова, выказаныя ў 1963 і 1964 гг.[240]

У 1964 г. С. Станкевіч канстатаваў, што асуджэнні «Нашай Нивы» ў тагачасным беларускім савецкім друку «былі сфармуляваныя яшчэ ў часы г.зв. культу асобы Сталіна й мелі ўсе характэрныя азнакі гэтага культу» і «ў дачыненьні да „Нашай Нівы” й нашаніўства партыя яшчэ цьвёрда стаіць на сталінскіх пазыцыях». Станкевіч прадбачыў:

> Гэтая справа нагэтулькі важная й для гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня, нагэтулькі прынцыповая й ключавая, а ўсе партыйныя асуджэньні «Нашай Нівы» й нашаніўства нагэтулькі тэндэнцыйныя й ненавуковыя, што пытаньне перагляду дачыненьняў да «Нашай Нівы», трэба спадзявацца, напэўна будзе ўзноў пастаўленае на парадку дня[241].

Трэба адзначыць, што з 1920-х гг. «Наша Доля» амаль не крытыкавалася савецкімі ідэолагамі і прапагандыстамі, пра яе часцей пісалі і амаль заўсёды ў канструктыўным ключы, што звязана з выразна сацыялістычным кірункам публіцыстыкі выдання і меншай увагай да нацыянальных праблем.

З другой паловы 1960-х гг. назіраюцца настойлівыя спробы беларускіх даследчыкаў, перш за ўсё літаратуразнаўцаў, вярнуцца да традыцый 1920-х гг. і аб’ектыўна вывучыць гісторыю і «Нашай Доли» і «Нашай Нивы».

[239] Т. С. Горбунов, *Книгопечатание в Белоруссии конца XIX — начала XX вв.*, [у:] *400 лет русского книгопечатания. 1564-1964*, т. 1: *Русское книгопечатание до 1917 года. 1564-1917*, ред. кол.: М. П. Ким [и др.], отв. ред. А. А. Сидоров, Москва 1964, с. 565-567.

[240] *Противоречивые суждения по одному вопросу*, «Коммунист Белоруссии» 1964, № 9, с. 74-75.

[241] С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 115.

У 1966 г. даследчык з Вільні Міхаіл Смолкін і М. Біч зрабілі спробы аб’ектыўна прадставіць на старонках часопіса «Полымя» гісторыю «Нашай Долі» і «Нашай Нівы»[242].

Смолкін справядліва заўважаў: «Пра «Нашу ніву» больш спрачаліся, чым яе вывучалі. Калі б вывучалі больш, то, магчыма, і спрачаліся б менш»[243]. Карыстаючыся дакументамі з фондаў Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР і Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў г. Ленінградзе і публікацыямі ў «Нашай Ниве» перш за ўсё за 1906-1907 гг., рэканструяваў ён сапраўднае ідэйнае аблічча газеты. Смолкін таксама звярнуўся да біяграфіі Марціна Кухты, які друкаваў «Нашу Ниву», аднак не адзначыў яго літоўскага паходжання, а таксама перабольшыў, называючы яго «энтузіястам беларускага друку, прадаўжальнікам справы Георгія Скарыны»[244]. На самай справе Кухта быў дзеячам літоўскага руху.

Смолкін лічыў „Нашу Долю” «больш радыкальнай» за «Нашу Ниву», але заўважаў паміж імі «пэўную агульнасць»: „Яе не магло не быць, таму што ўся нешматлікая група супрацоўнікаў «Нашай долі» — і сярод іх Якуб Колас і Цётка — перайшла ў «Нашу ніву»”.

Віленскі даследчык лічыў няправільным тэзіс аб быццам бы рэакцыйнасці «Нашай Нивы», якая ставілася ранейшымі даследчыкамі ў залежнасць ад перыяду рэакцыі, у які выходзіла газета[245]. Смолкін лічыў, што пад уплывам «увагі цэнзуры» „Наша Нива” ўлічыла «сумны вопыт» „Нашай Доли”: «стала больш гнуткая, менш прамалінейная»[246]. Аднак гэта датычыла сацыяльных пытанняў. Смолкін не змог не аддаць даніну свайму часу: «Апроч артыкулаў радыкальнага характару, апазіцыйных да царскага рэжыму, можна нагадаць і артыкулы іншага характару, артыкулы ліберальныя, нацыяналістычныя»[247]. Аднак не прывёў прыкладаў «нацыяналістычных» артыкулаў. Зрэшты, такіх і не было.

М. Біч у артыкуле, прысвечаным 60-годдзю «Нашай Доли», упэўнена выказаўся пра тое, што гэта газета, а таксама „Наша Нива” «паклалі

242 М. Смолкін, *Плямы царскай цэнзуры. Па матэрыялах архіваў*, «Полымя» 1966, № 3, с. 162-170; М. Біч, *У змаганні за лепшую долю. Да 60-годдзя газеты «Наша доля»*, «Полымя» 1966, № 8, с. 132-138.

243 М. Смолкін, *Плямы царскай цэнзуры. Па матэрыялах архіваў*, «Полымя» 1966, № 3, с. 162.

244 Тамсама, с. 165.

245 Тамсама.

246 Тамсама, с. 166.

247 Тамсама, с. 170.

пачатак гісторыі найшоўшага нацыянальнага друку, адкрылі новы этап у развіцці беларускага нацыянальнага руху». Аднак Біч быў, відавочна, вымушаны паддацца пэўным ідэалагемам, што відаць з яго наступнага сцвярджэння:

> Да часу выхаду «Нашай долі» ў БСГ узмацніліся буржуазна-ліберальныя тэндэнцыі. Менавіта гэтым тлумачыцца тое, што носьбіт іх Ф. Умястоўскі, прадстаўнік кадэцкіх грамадаўцаў, увайшоў у склад рэдакцыі першай легальнай беларускай газеты.

У той жа час гісторык намацаў сутнасць тых працэсаў, якія адбываліся ў той час, якія з'яўляюцца актуальнымі ў вывучэнні першых беларускіх газет і сёння: «Масавы нацыянальны рух нельга ўявіць без развітага нацыянальнага друку»[248]. Праўда, на старонках тагачаснага друку ўсё яшчэ гучалі тэзісы пра «дарэвалюцыйных буржуазна-нацыяналістычных фальсіфікатараў гісторыі на старонках „Нашай Нівы"» — напрыклад, у працы Л. Абецадарскага ў 1969 г.[249]

У тым жа годзе з поглядамі Абецадарскага і іншых салідарызаваўся гісторык Яфрэм Карнейчык[250]. У працы пра фарміраванне беларускай нацыі ён прысвяціў вялікую ўвагу падзеям рэвалюцыі 1905-1907 гг., дзейнасці Беларускай сацыялістычнай грамады. «Нашу Долю» ён разглядаў як выданне БСГ — «адзіную легальную беларускую газету», якая «служыла трыбунай для палітычных выступленняў прадстаўнікоў абодвух напрамкаў у беларускім нацыянальным руху: буржуазна-дэмакратычнага і буржуазна-ліберальнага», «газета не стала сцяганосцам рэвалюцыйнай сялянскай барацьбы», «аднак у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху „Наша доля" адыграла станоўчую ролю. Яна з'явілася пачатковай ступенню ў развіцці легальнага беларускага друку, што садзейнічала прабуджэнню ў народзе нацыянальнай самасвядомасці»[251].

«Нашу Ниву» Карнейчык характарызаваў як «орган» БСГ, «далёкі ад рэвалюцыйнасці, дзейнасць якога была накіравана на «культурна-нацыянальнае адраджэнне беларускай нацыі». Карнейчык не пагаджаўся са спробамі «некаторых літаратуразнаўцаў прыпісаць „Нашай ніве" рэвалюцыйна-дэмакратычныя заслугі» і лічыў газету «буржуазнай», якая кіравалася «буржуазна-нацыяналістычным прынцыпам [...] у адносінах

248 М. Біч, *У змаганні за лепшую долю. Да 60-годдзя газеты «Наша доля»*, «Полымя» 1966, № 8, с. 133-134.
249 Л. Абецадарскі, *У святле неабвержных фактаў*, Мінск 1969, с. 98.
250 Я. І. Карнейчык, *Беларуская нацыя. Гістарычны нарыс*, Мінск 1969, с. 11.
251 Тамсама, с. 195-198.

да беларускага народа, ігнаруючы яго класавы састаў», «несла ў масы дурман буржуазнага нацыяналізму»[252].

У той жа час Карнейчык прызнаваў за „Нашай Нівай” «важную ролю ў прабуджэнні ў беларускім народзе, асабліва ў колах беларускай інтэлігенцыі, нацыянальнай самасвядомасці. Газета таксама адыграла пэўную станоўчую ролю ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы — вельмі важнага фактару ў развіцці беларускай культуры»[253].

У «Гісторыі Беларускай ССР», выдадзенай у 1972 г., прызнавалася:

> Моцны штуршок нацыянальнаму руху і развіццю беларускай культуры дала рэвалюцыя 1905-1907 гг. Пасля рэвалюцыі ўзнік беларускі перыядычны друк, пачалі выдавацца кнігі на беларускай мове, развівацца мастацкая літаратура[254].

У параўнанні з папярэднімі манаграфіямі па гісторыі Беларусі акцэнты ў гэтай працы былі зрушаны ў бок адлюстравання аб’ектыўных фактаў:

> Буйной падзеяй у нацыянальным руху на Беларусі з’явілася стварэнне легальнага беларускага друку. У верасні 1906 г. у Вільні пачала выходзіць газета на беларускай мове «Наша доля». Неафіцыйнымі рэдактарамі газеты былі кіраўнікі БСГ І. Луцкевіч, Ф. Умястоўскі, Цётка. «Наша доля» як адзіная легальная беларуская газета служыла трыбунай як для рэвалюцыйна-дэмакратычнага, так і для буржуазна-ліберальнага кірунку ў нацыянальным руху.

Падкрэслівалася, што хаця «„Наша доля” не стала паслядоўным рэвалюцыйна-дэмакратычным органам, яна адыграла станоўчую ролю ў развіцці беларускага нацыянальнага руху»[255].

У той жа час сцвярджалася, што «буржуазныя нацыяналісты не маглі стаць паслядоўнымі барацьбітамі за свабоду нацыі» і «звялі задачы нацыянальнага руху да культурна-нацыянальнага „адраджэння беларускага народа” ў рамках тагачаснага ладу»[256].

Аўтары калектыўнай манаграфіі «Гісторыя Беларускай ССР» адзначалі, што «актыўныя і кіруючыя кадры Грамады згрупаваліся вакол

252 Тамсама, с. 201-202, 207.
253 Тамсама, с. 216-217.
254 *Гісторыя Беларускай ССР. У 5 т.*, т. 2: *Беларусь у перыяд капіталізму (1861-1917 гг.)*, рэдкал.: К. І. Шабуня (гал. рэд.), Мінск 1972, с. 12.
255 Тамсама, с. 423-424.
256 Тамсама, с. 12.

рэдакцыі газеты „Наша ніва”, якая стала цэнтрам ліберальна-буржуазнага нацыянальнага беларускага руху». У той жа час выданне памылкова называла «ідэйнымі кіраўнікамі і выразнікамі» „нацыянальна-вызваленчага руху рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку” «найбуйнейшых прадстаўнікоў беларускай літаратуры — Цётку, Я. Купалу і Я. Коласа»[257], бо ў беларускім руху не было розных кірункаў, а яго лідарамі былі браты Ян і Антон Луцкевічы. У той жа час у «Гісторыі Беларускай ССР» выказвалася думка пра тое, што «на ліберальных пазіцыях знаходзіліся беларускія буржуазныя нацыяналісты, якія групаваліся вакол газеты „Наша ніва”. Да гэтага лагера належалі пісьменнікі і публіцысты А. Луцкевіч, А. Уласаў, Л. Гмырак, Ядвігін Ш., І. Луцкевіч, В. Іваноўскі »[258]. Іваноўскі, аднак, не ўваходзіў у склад рэдакцыі «Нашай Нівы».

Гісторык Мікалай Сташкевіч упамінаў пра сувязь БСГ з «Нашай Нівай»: «У 1907 годзе пасля спаду рэвалюцыйнага руху партыя распалася. Рэшткі яе згрупаваліся вакол газеты „Наша ніва”»[259].

У школьных падручніках 1960-1980-х гг. па гісторыі Беларусі можна было сустрэць імёны пісьменнікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, Максіма Багдановіча і іншых, але без згадкі «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», затое з упамінаннем расійскіх бальшавіцкіх выданняў таго часу — «Искры» і іншых: «Революция 1905-1907 гг., пробудившая народные массы Белоруссии, способствовала подъему белорусской литературы»[260].

У сучаснай беларускай гістарыяграфіі існуе меркаванне, што ў 1960-1980-я гг., даследчыкі пісалі пра „Нашу Ніву” «з мэтай яе „рэабілітацыі” і вызначэння яе месца ў расійскім рэвалюцыйным руху»:

> Літаратуразнаўцы намагаліся давесці, што газета была левым выданнем і ў сваёй ідэалогіі набліжалася да бальшавікоў, а таксама, што ў нашаніўстве існавалі дзве плыні: «рэвалюцыйна-дэмакратычная», якая ў асноўным складалася з пісьменнікаў і паэтаў, ды «буржуазна-ліберальная»

[257] Тамсама, с. 420.

[258] Тамсама, с. 553.

[259] М. Сташкевіч, *Непазбежнае банкруцтва (з гісторыі палітычнага краху нацыяналістычных партый у Беларусі. 1917-1925 гг.)*, Мінск 1974, с. 12.

[260] Л. С. Абецедарский, М. П. Баранова, Н. Г. Павлова, *История БССР. Учебное пособие для учащихся средней школы*, ред. Л. С. Абецедарский; изд. 7-е, Минск 1968, с. 124; Л. С. Абецадарскі, М. П. Баранава, Н. Г. Паўлава, *Гісторыя БССР. Падручнік для вучняў сярэдняй школы*, рэд. П. Ц. Петрыкаў; выд. 10-е (11-е), Мінск 1986 (1987), с. 128-129.

— ідэолагі выдання. У той жа час афіцыйныя гісторыкі ў асноўным крытыкавалі нашаніўцаў за класавую і нацыянальную абмежаванасць. [...] Агульным было тое, што, як першы, так і другі бакі разглядалі адзін ці некалькі асобных аспектаў беларускай ідэалогіі «нашаніўскага перыяду», а не імкнуліся паказаць яе цалкам, на фоне іншых нацыянальных рухаў і палітычных падзей[261].

З гэтым назіраннем трэба пагадзіцца. Варта дадаць, што адсутнасць увагі да дэталей з боку тагачасных беларускіх савецкіх гісторыкаў, у адрозненне ад літаратуразнаўцаў, сведчыць пра іх нежаданне глыбока пазнаваць гісторыю беларускага руху, што, зрэшты, было ўскладнена ўмовамі тагачаснай пануючай ідэалогіі, калі патрабаваліся ацэнкі той або іншай з'явы згодна з пэўнымі догмамі, а не вывучэнне аб'ектыўных фактаў. У працах жа літаратуразнаўцаў, як адзначаў філосаф Уладзімір Конан, у іх даследаваннях «паступова аднаўляліся дыферэнцыраваная і аб'ектыўная ацэнкі літаратурна-мастацкай спадчыны і перыядычнага друку 1905-1917 гадоў»[262].

Літаратуразнавец Рыгор Семашкевіч у даследаванні, прысвечаным жыццю і дзейнасці Браніслава Эпімаха-Шыпілы і звязанай з ім пецярбургскай Беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», заўважаў, што калі ў Вільні пачала выходзіць газета «Наша Нива», «у суполкі з'явілася неблагая саюзніца ў сэнсе пашырэння беларускага друкаванага слова, што адкрывала большыя перспектывы справы». Семашкевіч упамінаў, што ў «Нашай Ниве» з'яўляліся аб'явы суполкі[263]. Пра гэта пісаў і С. Александровіч[264].

С. Александровіч у сваёй працы па гісторыі беларускага друку, у тым ліку першых беларускіх газет, выдадзенай у 1971 г.[265], у ацэнцы «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» фактычна вярнуўся да таго навуковага дыскурсу, які існаваў ў БССР да сярэдзіны 1929 г. Паводле даследчыка, «„Наша Доля" — гэта спроба стварэння сялянскай газеты рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку». Ацэньваючы «Нашу Ниву»,

261 *Беларускі нацыянальны рух: асноўныя напрамкі развіцця*, [у:] *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы*, навук. рэд. В. В. Яноўская, Мінск 2006, с. 95.

262 У. Конан, *Пачатак, які не забудзецца. Да 80-годдзя газет «Наша доля» і «Наша ніва»*, «Мастацтва Беларусі» 1986, № 9, с. 22.

263 Р. М. Семашкевіч, *Браніслаў Эпімах-Шыпіла*, Мінск 1968, с. 41-42.

264 С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова*, «Полымя» 1967, № 8, с. 211.

265 С. Х. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971.

вучоны падкрэсліваў, што з яе з’яўленнем «звязана значнае ажыўленне беларускага кнігадрукавання і журналістыкі ў Вільні і Мінску», газета «шмат зрабіла для абуджэння нацыянальнага ўсведамлення беларускага народа». Важным быў вывад вучонага пра тое, што «газета выкрывала каланіяльную палітыку царызму, выступала, праўда, не заўсёды паслядоўна супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, за брацтва і дружбу паміж народамі». Праўда, Александровіч быў вымушаны аддаць даніну ідэалагічнаму дыскурсу: «„Наша ніва” — з’ява складаная, у пэўнай ступені супярэчлівая і гістарычна абмежаваная»; «не стала і не магла стаць газетай універсальнай, якая задавальняла б інтарэсы і запатрабаванні ўсіх слаёў беларускага грамадства»[266].

Творчасць аўтараў «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» з 1960-х гг. да нашага часу разглядаецца ў калектыўных манаграфіях па гісторыі беларускай літаратуры[267].

Нельга не заўважыць яшчэ адной тэндэнцыі ў пасляваеннай гістарыяграфіі БССР: даследчыкі не маглі прама спасылацца на працы аўтараў 1920-х гг., многія з якіх былі рэпрэсаваны. У сувязі з гэтым у іх работах няма зносак на работы папярэднікаў, што, аднак, не значыць, што яны не карысталіся іх публікацыямі.

У артыкулах пра першыя беларускія газеты ў «Беларускай савецкай энцыклапедыі» М. Біч адзначаў, што «Наша Доля» — гэта «першая на бел. мове легальная газета, якая выдавалася групай членаў дробнабурж. нацыянальнай партыі *Беларуская сацыялістычная грамада*». Пра «Нашу Ниву» Бічом сказана, што яна ўтворана «кіруючай групай дробнабуржуазнай нацыянальнай партыі *Беларуская сацыялістычная грамада*», а «ў час рэдагавання А. Уласавым [...] прапагандавала нацыяналістычныя ідэі адасобленасці жыцця беларусаў». У той жа час Біч канстатаваў, што «з выданнем „Н. н.” многія беларускія пісьменнікі атрымалі магчымасць друкаваць свае творы на бел. мове»[268].

266 Тамсама, с. 200-204.

267 *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. У 2 т.*, т. 2: *Літаратура XIX — пачатку XX ст.*, рэд. кал.: В. В. Барысенка, Мінск 1969; *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 т.*, т. 1: *1901-1920 гг.*, рэд. кал.: У. В. Гніламёдаў, Мінск 1999; А. А. Карп, *Беларуская літаратурная крытыка нашаніўскага перыяду*, [у:] *Нарысы па гісторыі беларускага літаратуразнаўства*, навук. рэд. Г. М. Кісліцына, Мінск 2023, с. 129-155; Т. Б. Мацюхіна, *Навукова-тэарэтычнае асэнсаванне літаратурнага працэсу ў крытыцы і публіцыстыцы першай трэці XX стагоддзя (на прыкладзе творчасці М. Гарэцкага, В. Ластоўскага, А. Луцкевіча)*, [у:] *Нарысы па гісторыі беларускага літаратуразнаўства*, навук. рэд. Г. М. Кісліцына, Мінск 2023, с. 156-186.

268 М. В. Біч, *«Наша доля»*, [у:] *Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. У 12 т.*,

У канцы 1960-х — 1980-х гг. важкі ўклад у асэнсаванне спадчыны «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» зрабіў філосаф Уладзімір Конан[269]. Яшчэ ў 1968 г. Конан падкрэсліваў, што «дэмакратычныя пісьменнікі і публіцысты праз „Нашу ніву" тэарэтычна абгрунтоўвалі нацыянальную спецыфіку ў мастацтве, гістарычнае права беларускага народа на родную мову», працягваючы традыцыі Францішка Багушэвіча[270].

Пасляваенны перыяд у вывучэнні першых беларускіх газет характарызаваўся змаганнем двух падыходаў: навуковага пазнання і ідэалагічна абумоўленай крытыкі. Пасля перыяду 1930-х гг., калі асабліва «Наша Нива» жорстка крытыкавалася, у 1945-1946 гг. з'явіліся першыя публікацыі са станоўчай ацэнкай газеты, падкрэслівалася яе роля ў рэвалюцыі 1905-1907 гг. (М. Ларчанка, Ю. Пшыркоў). Аднак з 1947-1948 гг. «Наша Нива» ацэньвалася як ліберальна-нацыяналістычнае, буржуазна-ліберальнае выданне, якое быццам бы адмаўляла рэвалюцыю, з якім быццам бы вымушаны былі супрацоўнічаць рэвалюцыйна-дэмакратычныя пісьменнікі Цётка, Я. Купала, Я. Колас і іншыя. У 1956 г. літаратуразнаўцы Ю. Пшыркоў і М. Ларчанка, а ў 1960-я гг. М. Верабей, С. Александровіч, гісторыкі М. Біч, М. Смолкін спрабавалі зноў рэабілітаваць «Нашу Ниву». Аднак гісторыкі Л. Абецадарскі, К. Шабуня, Я. Карнейчык і іншыя адстойвалі ранейшыя догмы пра тое, што газета была буржуазна-нацыяналістычнай, буржуазна-ліберальнай, далёкай ад рэвалюцыйнасці, а супрацоўніцтва «рэвалюцыйна-дэмакратычных» аўтараў з ёю называлася вымушаным. Пры гэтым прызнавалася роля газеты ў фарміраванні беларускай нацыянальнай свядомасці і беларускай літаратурнай мовы.

У той жа час «Наша Доля» ўпаміналася як у станоўчым ключы як рэвалюцыйнае выданне, орган беларускага нацыянальнага руху, больш радыкальны за «Нашу Ниву», так і крытычна, як буржуазна-дэмакратычны, буржуазна-ліберальны орган друку.

З 1970-х гг. узмацняецца тэндэнцыя да прызнання «Нашай Нивы» складанай з'явай, якая адыграла значную ролю ў працэсе нацыянальнага ўсведамлення беларускага народа (С. Александровіч), але ў той жа час прапагандавала нацыяналістычныя ідэі (М. Біч).

т. VII. *Манцякі — Паддубічы*, рэд. кал.: П. У. Броўка (гал. рэд.), Мінск 1973, с. 462; М. В. Біч, *«Наша ніва»*, [у:] *Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. У 12 т.*, т. VII. *Манцякі — Паддубічы*, рэд. кал.: П. У. Броўка (гал. рэд.), Мінск 1973, с. 462.

269 У. Конан, *Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917-1934 гг.)*, Мінск 1968, с. 24-36; В. Конон, *Демократическая эстетика Белоруссии (1905-1917)*, Минск 1971.

У 1986 г., калі ў беларускім савецкім друку адзначалася гадавіна выхаду ў свет першых беларускіх газет, У. Конан напамінаў, што «на розных этапах гісторыі» роля гэтых газет «у развіцці беларускай грамадскай думкі, літаратуры і культуры ацэньвалася неадназначна, нярэдка нават з супрацьлеглых пазіцый»:

> Сёння навуковая ацэнка грамадска-палітычнай пазіцыі «Нашай нівы» і яе літаратурна-мастацкай праграмы ў агульным адноўлена, хоць, на жаль, і цяпер няма комплекснага даследавання ўсіх аспектаў яе дзейнасці.

Такім чынам, прызнавалася, што ранейшыя ацэнкі «Нашай Нивы» не заўсёды грунтаваліся на фактах.

Конан таксама звяртаў увагу на тое, што «Наша ніва» была задумана як універсальнае выданне, што спалучае функцыі газеты і штотыднёвага часопіса: «У цэнтры ўвагі газеты апынуліся беларуская літаратура і мова». Аднак У. Конан усё ж мусіў агаварыцца, што «грамадска-палітычная пазіцыя „Нашай нівы" была супярэчлівая і неадназначная, залежала ад канкрэтнай сітуацыі, светапогляду рэдактараў і аўтараў, сумяшчала рэвалюцыйна-дэмакратычную і буржуазна-ліберальную скіраванасць»[271]. У гэтых словах яшчэ адчуваецца водгалас розных ідэалагічных догм, якія ўплывалі на ацэнку першых беларускіх газет у 1930-1970-я гг.

У сярэдзіне 1980-х гг. з'яўленне легальнага друку на беларускай мове і першай беларускамоўнай газеты «Наша Доля» лічылася «вялікай рэвалюцыйнай заваёвай працоўных Беларусі», «важным этапам у развіцці грамадскай думкі і літаратуры Беларусі». «Наша Нива» разглядалася як «другая беларуская газета», «адзіная легальная газета на беларускай мове»[272].

270 У. Конан, *Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917-1934 гг.)*, Мінск 1968, с. 26.

271 Варта адзначыць, што ў артыкуле Конана таксама публікаваліся малюнкі Міколы Купавы з выявамі будынкаў Вільні, дзе размяшчаліся рэдакцыі газет «Наша Доля» і «Наша Нива» з даўнімі і сучаснымі адрасамі, якія ўдакладніў загадчык сектара Літаратурнага музея Якуба Коласа Генадзь Тумас (сапр. Яўген Тумас). Гэта было важкім укладам у вывучэнне гісторыі гэтых выданняў (У. Конан, *Пачатак, які не забудзецца. Да 80-годдзя газет «Наша доля» і «Наша ніва»*, «Мастацтва Беларусі» 1986, № 9, с. 20-24).

272 Н. Б. Ватацы, *Выданні на беларускай мове*, [у:] *Кніга Беларусі. 1517-1917. Зводны каталог*, скл. Г. Я. Галенчанка, навук. рэд. С. Х. Александровіч, Мінск 1986, с. 197.

У навуковай літаратуры «Наша Нива» разглядалася ва ўсё больш шырокім кантэксце. Напрыклад, публікаваліся даныя, згодна з якімі з 1906 г. у тайных руска-беларускіх школах, якія з'явіліся ў выніку рэвалюцыі 1905 г., «Наша Нива» выкарыстоўвалася як навучальная літаратура[273].

Такім чынам, з 1960-х гг. у беларускай савецкай навуцы, пераважна сярод літаратуразнаўцаў, абазначыўся сталы кірунак да аб'ектыўнага даследавання першых беларускіх газет. Аднак яшчэ былі абмежаваны магчымасці глыбокага разгляду ўзаемазвязанага працэсу развіцця беларускага друку і нацыянальнага руху.

У адрозненне ад беларускіх савецкіх вучоных, польскія былі менш абмежаваны цэнзурай. У адзін час з працамі С. Александровіча выйшлі артыкулы польскага гісторыка Аляксандры Бергман пра «Нашу Ниву» і Антона Луцкевіча[274]. У БССР у той час імя Луцкевіча было забаронена згадваць у станоўчым ключы.

Адзін абзац першым беларускім газетам прысвяціў у сваёй абагульняючай працы па гісторыі Беларусі, выдадзенай у 1979 г., Марцэлі Косман[275].

Пэўны ўклад у гістарыяграфію зрабіў гісторык Юры Туронак, які грунтоўна вывучыў перадумовы ўзнікнення і дзейнасць пецярбургскай Беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», перыяд, які папярэднічаў выхаду першых беларускіх газет[276]. Таксама Туронак прысвяціў значную ўвагу дзейнасці Вацлава Іваноўскага, які супрацоўнічаў з першымі беларускімі газетамі.

Гісторык Юзаф Хлябоўчык лічыў, што падчас рэвалюцыі 1905-1907 гг., якую ён называў «вясной народаў» Расіі, „w warunkach białoruskich, które cechował [...] szczególnie niski stopień zaawansowania rozwojowego, jedynym centrum kierowanego nadal i wyłącznie przez Hromadę, życia narodowego stało się pismo «Nasza Niwa»; było ono następcą założonego we wrześniu 1906 r. w Wilnie tygodnika «Nasza Dola»"[277].

273 *Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г.*, рэд. кал.: М. А. Лазарук (адк. рэд.), Мінск 1984, с. 351.

274 A. Bergman, *Białoruski tygodnik „Nasza Niwa" (10 XI 1906 – 7 VIII 1915)*, „Kwartalnik Historyczny" 1972, t. LXXIX, z. 3, s. 563-582; A. Bergman, *Antoni Łuckiewicz (1884-1946): szkic biograficzny*, „Przegląd Historyczny" 1974, t. LXV, z. 4, s. 667-695.

275 M. Kosman, *Historia Białorusi*, Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk 1979, s. 270.

276 Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Vilnius 2006, с. 14-267.

277 J. Chlebowczyk, *Między dyktatem, realiami a prawem do samostanowienia. Prawo*

Вучоныя з Украіны і Літвы з канца 1960-х гг. спарадычна звярталіся да беларуска-ўкраінскіх і беларуска-літоўскіх сувязей на старонках «Нашай Доли» і «Нашай Нивы»[278].

Варта асобна разгледзець артыкул украінскай даследчыцы Таццяны Кабржыцкай. У 1969 г. яна называла „Нашу Ниву" «яскравим представником демократичного друку дореволюційної Білорусії», больш памяркоўнай, чым «Наша Доля». Даследчыца падкрэслівала, што „Нашай Ниве" «чужий дух національной» обмеженості, винятковості»[279].

Кабржыцкая звярнулася да беларуска-ўкраінскіх сувязей на старонках «Нашай Нивы» яшчэ раз у 2010-я гг., будучы ўжо беларускай вучонай, аднак чамусьці назвала яе першай беларускамоўнай газетай[280].

Польскія і ўкраінскія гісторыкі былі пазбаўлены тых ідэалагічных абмежаванняў, які не дазвалялі беларускім савецкім даследчыкам аб'ектыўна разгледзець некаторыя аспекты гісторыі «Нашай Доли» і «Нашай Нивы». Так, вучоныя ў ПНР (А. Бергман, Ю. Туронак) маглі даследаваць біяграфіі А. Луцкевіча, В. Іваноўскага, што было немагчыма ў БССР.

Адным з найважнейшых даследаванняў на Захадзе, у якім была адлюстравана гісторыя першых беларускіх газет, стала праца ўраджэнца Падольскай губерні (цяпер ва Украіне), эмігранта з Расійскай імперыі Нікаласа (Мікалая) Вакара „Belorussia. The Making of a Nation", якая ўбачыла свет у Кембрыджы ў 1956 г.[281], але першы варыянт якой пад назвай «Беларусы» быў напісаны яшчэ ў 1939 г. у Парыжы[282]. У кнізе Вакара выдзелены асобны раздзел „The *Naša Niva* Period", у якім ён адзначыў, што беларускі нацыяналізм у рэвалюцыйныя 1905-1906 гг. пацярпеў паражэнне, аднак у той час быў легалізаваны беларускі друк, і ў 1906 г. у Вільні выйшла газета «Наша Доля», якую змяніла «Наша Нива». Апошняя займала вельмі тактоўную (*tactful*) пазіцыю, або

*do samookreślenia i problem granic we wschodniej Europie Środkowej w pierwszej wojnie światowej oraz po jej zakończeniu*, Warszawa 1988, s. 33.

278 Т. В. Кобржицька, *Україністика в «Нашай ніве»*, «Українське літературознавство» 1969, вип. 6, с. 93-100; Т. Кабржыцкая, *Украінскія дарадцы першай беларускамоўнай газеты «Наша Ніва»*, [у:] Т. Кабржыцкая, *Дзве Радзімы — Україна і Беларусь — пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур*, Мінск 2011, с. 278-286; [V. Merkys], *Buržuazinių demokratinių revoliucijų laikotarpiu*, [у:] J. Jurginis, V. Merkys, A. Tautavičius, *Vilniaus miesto istorija nuo seniausių laikų iki Spalio revoliucijos*, Vilnius 1968, p. 369-370; А. Лапінскене, А. Мальдзіс, *Перазовы сяброўскіх галасоў: беларуска-літоўскае літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу*, Мінск 1988, с. 64 і наст.; A. Lapinskienė, A. Maldzis, *Lietuvių-baltarusių literatūriniai ryšiai*, Vilnius 1989, p. 63 і наст.

талерантны нацыяналізм (*tolerant nationalism*), раней, паводле Вакара, невядомы ў рэгіёне, у адносінах да рускіх, палякаў, літоўцаў і іншых нацыянальнасцей. Адзначыўшы сярод аўтараў газеты Янку Купалу і Якуба Коласа, Вакар дадаў, што многія пісьменнікі, якія публікаваліся ў «Нашай Ниве», былі «ліквідаваны» ў савецкі час. Але, паводле Вакара, 1906-1917 гг. — перыяд «Нашай Нивы», або «Адраджэнне», тым не менш, пакінуў глыбокі след (*indelible mark*) у беларускай культуры: у гэты час адбывалася фарміраванне нацыянальнай памяці (*national memory*) і стымуляванне працэсу нацыянальнай самаідэнтыфікацыі (*national self-determination*), вызначэнне нацыянальнай мэты (*national goal*) і выхаванне асоб, якія маглі б узяць на сябе нацыянальнае лідарства (*national leadership*)[283]. Вакар, як бачым, фактычна вызначыў ключавыя даты ў гісторыі беларускага «Адраджэння» — 1906 і 1917 гг., звязаўшы іх з дзейнасцю «Нашай Нивы», хаця яе выхад быў спынены ў 1915 г., аднак, вядома, не была спынена работа звязаных з ёю дзеячаў.

У публікацыях пасляваенных беларускіх эмігрантаў на Захадзе, светапогляд некаторых з якіх склаўся ў выніку беларускай патрыятычнай агітацыі падчас нямецкай акупацыі ў 1941-1944 гг.[284], прасочваецца кірунак, які аформіўся ў беларускім друку яшчэ раней: у Заходняй Беларусі (у складзе Польшчы). Пра «Нашу Ниву» пісалі мовазнавец Ян Станкевіч[285], літаратуразнавец Станіслаў Станкевіч[286], святар Аляксандр Надсан[287] і іншыя.

279 Т. В. Кобржицька, *Україністика в «Нашай ніве»*, «Українське літературознавство», 1969, вип. 6, с. 93.

280 Т. Кабржыцкая, *Украінскія дарадцы першай беларускамоўнай газеты «Наша Ніва»*, [у:] Т. Кабржыцкая, *Дзве Радзімы — Украіна і Беларусь — пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур*, Мінск 2011, с. 278.

281 N. P. Vakar, *Belorussia. The Making of a Nation. A Case Study*, Cambridge, Massachusetts 1956.

282 Е. Кодин, *Н. П. Вакар и начало американского послевоенного белорусоведения*, [у:] *История и историография: объективная реальность и научная интерпретация: сборник научных статей по материалам международной научной конференции, посвященной 140-летию со дня рождения академика В. И. Пичеты*, редкол.: А. Д. Король (гл. ред.) [и др.], Минск 2018, с. 54.

283 N. P. Vakar, *Belorussia. The Making of a Nation. A Case Study*, Cambridge, Massachusetts 1956, p. 87-91.

284 J. Turonek, *Białoruś pod okupacją niemiecką*, Warszawa–Wrocław 1989; J. Grzybowski, *Białoruski ruch niepodległościowy w czasie II wojny światowej*, Warszawa 2021.

285 Я. Станкевіч, *Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1912-1915). Нашаніўцы, людзі й плыні (Да 50-ых угодкаў выхаду «Нашае Нівы»)*, «Бацькаўшчына» 1957, № 6, 7, 9, 10, 11-12.

286 С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 91-115.

Я. Станкевіч адзначаў, што «нашаніўства» — гэта «шырака закроенае й праводжанае» газетай „Наша Нива” «нацыянальнае ўсьведамляньне» беларусаў[288].

С. Станкевіч называў „Нашу Ниву” «вядучым органам беларускага нацыянальнага адраджэньня». Паводле вучонага, газета «фактычна кіравала гэтым рухам», з'яўлялася «фактычным органам палітычнае партыі — Беларускае Сацыялістычнае Грамады»[289].

Літаратуразнавец і публіцыст Антон Адамовіч у брашуры пра Яна Луцкевіча, выдадзенай у 1983 г. у Нью-Ёрку, сцвярджаў, што «найвыдатнейшым, гістарычным вычынам Беларускае Сацыялістычнае Грамады было [...] заініцыяванае й зарганізаванае тым-жа Іванам Луцкевічам заснаваньне беларускае прэсы ў постаці газэтаў „Наша Доля” й „Наша Ніва”», і «каб ня Іван Луцкевіч, „Наша Ніва” не магла-б выходзіць рэгулярна ад 1906 па 1915 год»[290].

Амерыканскі даследчык беларускага паходжання Ян (Янка) Запруднік звяртаўся да «Нашай Нивы» не раз[291]. У яго працы «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях», якая выйшла ў 1990-я гг. па-англійску і па-беларуску, у раздзеле «Узнікненне і ўвасабленне беларускай нацыянальнай ідэі» змешчаны падраздзел «„Наша Ніва” і літаратурнае адраджэнне»[292].

«Нашу Ниву» даследавалі і іншыя вучоныя на Захадзе, напрыклад, брытанскі літаратуразнавец Арнольд МакМілін[293].

У 1976-1977 гг. маскоўскі вучоны беларускага паходжання Аляксей Каўка напісаў палемічны трактат «Письмо русскому другу» ў абарону беларускай мовы, які быў апублікаваны Згуртаваннем беларусаў у Вялікай Брытаніі ў Лондане ў 1979 г. У ім Каўка як адну з вех у гісторыі

[287] A. Nadson, *Naša Niva*, „The Journal of Byelorussian Studies” 1967, vol. I, Nr 3, p. 184-206.

[288] Я. Станкевіч, *Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1912-1915). Нашаніўцы, людзі й плыні (Да 50-ых угодкаў выхаду «Нашае Нівы»)*, «Бацькаўшчына» 1957, № 11-12, с. 3.

[289] С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі*, «Запісы» 1964, кн. 3, с. 91, 102.

[290] А. Адамовіч, *«Як дух змаганьня Беларусі» (да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча)*, New York 1983, c. 14, 16.

[291] J. Zaprudnik, *Byelorussia's Representatives in the Second State Duma (20 Feb. — 2 June, 1907)*, „The Journal of Byelorussian Studies” 1975, vol. III, Nr 3, p. 229-243.

[292] J. Zaprudnik, *Belarus: At a Crossroads in History*, Boulder 1993; Я. Запруднік, *Беларусь на гістарычных скрыжаваннях*, Мінск 1996, c. 78-79.

[293] A. B. McMillin, *A Revival Revived: Some Recent Primary Publications from the 'Naša Niva' Period*, „The Journal of Byelorussian Studies” 1981, vol. V, Nr 1, p. 47-50.

беларускай мовы адзначаў выхад «в 1906 г. усилиями небольшой группы мелкошляхетских инетеллигентов-белорусов *(sic!)*» першых газет на беларускай мове «Наша Доля» і «Наша Нива», «не без раздражения встреченные тогдашней русофильствующей и полонофильствующей публикой как нечто надуманное и противоестественное»[294].

Гаворачы пра публікацыі эміграцыйных даследчыкаў, варта згадаць таксама працу Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША», у якой прысвечана пэўная ўвага адлюстраванню тэмы эміграцыі беларусаў за мяжу ў пачатку XX ст., у тым ліку ў ЗША, на старонках газеты «Наша Нива»[295].

Падсумоўваючы можна адзначыць, што на Захадзе ў другой палове XX ст. былі зроблены спробы аб'ектыўна разгледзець першыя беларускія газеты ў кантэксце развіцця беларускага нацыянальнага руху (Н. Вакар), нацыянальнай літаратуры (А. МакМілін). Беларускія эміграцыйныя аўтары падкрэслівалі значэнне «Нашай Нивы» як органа беларускага руху (Я. Станкевіч, С. Станкевіч, А. Адамовіч).

У СССР і Беларусі магчымасць вярнуцца да аб'ектыўнага вывучэння гісторыі першых беларускіх газет з'явілася толькі ў пачатку 1990-х гг., з адменай цэнзурных абмежаванняў і ідэалагічнага дыктату.

Беларускія гісторыкі Ігар Чаквін і Павел Церашковіч у 1990 г. на старонках маскоўскага часопіса «Советская этнография» звярнулі ўвагу на тое, што ў пачатку XX ст. «средства распространения национальной этнокультурной информации были развиты еще слабо. До 1912 г. периодическая печать была фактически представлена единственным еженедельником «Наша нива»[296].

А. Каўка ў 1991 г. у аглядзе «беларускага вызваленчага руху», характарызуючы падзеі і наступствы рэвалюцыі 1905-1907 гг., адзначаў, што ў гэты час «мацнее ўзаемасувязь асветніцкіх і палітычных, легальных і нелегальных напрамкаў і формаў вызваленчага руху дзякуючы газетам „Наша Доля", „Наша Ніва"», а з «кансалідацыйнага гледзішча надзвычай істотнаю была дзейнасць „Нашае Нівы" — па сутнасці легальнага асяродка сталення і гуртавання літаратурных, наогул культурна-асветніцкіх адраджэнчых сілаў»[297].

[294] *Letter to a Russian Friend. A 'Samizdat' Publication from Soviet Byelorussia*, London 1979, p. 20.

[295] В. Кіпель, *Беларусы ў ЗША*, навук. рэд. Н. Гардзіенка; 2-е выд., дап. і дапрац., Мінск 2017, с. 113-115.

[296] И. В. Чаквин, П. В. Терешкович, *Из истории становления национального самосознания белорусов (XIV — начало XX в.)*, «Советская этнография» 1990, № 6, с. 50.

[297] А. Каўка, *Беларускі вызваленчы рух. Спроба агляду*, «Спадчына» 1991, № 5, с. 8.

У 1993 г. М. Біч мог адкрыта правесці рысу пад папярэднім перыядам у вывучэнні першых беларускіх газет:

> У 30-х гадах бальшавіцкія ідэолагі ацанілі «Нашу Ніву» як кулацкае, буржуазна-ліберальнае, нацыяналістычнае выданне і фактычна выкраслілі з гісторыі. А пазней некаторыя савецкія «гісторыкі» нават далучалі яе да чарнасоценна-акцябрысцкага лагера. Узапраўды ж газета была цэнтрам беларускага нацыянальнага руху[298].

«Наша Доля» характарызавалася Бічом як «першая легальная беларуская дэмакратычная газета»[299].

З 1990-х гг. «Наша Нива» разглядалася вучонымі пераважна ў ключы, які сфармуляваў Біч:

> Завяршальны этап барацьбы за грамадскае прызнанне існавання беларускай нацыі і яе права на самавызначэнне звязаны з утварэннем і дзейнасцю першай нацыянальнай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады. У перыяд рэвалюцыі 1905-1907 гг. пад яе кіраўніцтвам разгарнуўся даволі шырокі рэвалюцыйна-дэмакратычны і нацыянальна-культурны, адраджэнскі рух. У 1907-1915 гг. цэнтрам апошняга з'яўлялася легальная штотыднёвая газета «Наша ніва». Яна адыграла выключную ролю ў барацьбе з русіфікацыяй і паланізацыяй беларускага народа, у далейшай распрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі, яе тэарэтычным абгрунтаванні, у распаўсюджанні (*sic!*) нацыянальнай самасвядомасці як асновы кансалідацыі нацыі, у выхаванні і згуртаванні нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, у развіцці нацыянальнай (літаратурнай) мовы і культуры, у адраджэнні гістарычнай памяці народа[300].

Біч дадаваў, што «Наша Нива» пратэставала супраць падзелу беларусаў «па веравызнанні на „рускіх" і „палякаў", супрацьстаўляла гэтай палітыцы прапаганду нацыянальнай свядомасці і еднасці ўсіх беларусаў — і праваслаўных, і католікаў»[301].

298 М. Біч, *75. Чаму час нашага Адраджэння пачатку XX стагоддзя называецца «нашаніўскім кругабегам»?*, [у:] *100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*, укл. І. Саверчанка, З. Санько, Мінск 1993, с. 61.

299 М. Біч, *71. Калі паўстала першая беларуская палітычная партыя?*, [у:] *100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*, укл. І. Саверчанка, З. Санько, Мінск 1993, с. 57.

300 М. Біч, *Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь*, «Беларускі гістарычны часопіс» 1993, № 1, с. 16.

301 М. В. Біч, *Беларусь у перыяд буржуазна-дэмакратычных рэвалюцый. Ба-*

У 2005 г. Біч фактычна паўтарыў тое, што пісаў у першай палове 1990-х гг.[302] Гэта не ўносіла нічога новага ў пазнанне сутнасці і зместу першых беларускіх газет, але спрыяла ўзмацненню цікавасці да іх.

Важнай падзеяй стала факсімільнае перавыданне «Нашай Доли» і «Нашай Нивы», але толькі выданняў рускімі літарамі, у 1991-2009 гг.[303]

Гісторыя «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» ў 1980-2000-я гг. знаходзіла адлюстраванне ў энцыклапедычных даведніках[304]. Аднак, напрыклад, у энцыклапедыі «Беларуская мова», якая выйшла ў 1994 г., змешчаны артыкул «Наша ніва»[305], але адсутнічае артыкул «Наша доля». Праўда, у іншым месцы энцыклапедыі адзначаецца, што «з 1906 г. пачынаецца гісторыя беларускай легальнай прэсы, калі ў Вільні выходзіць „Наша доля"»[306].

«Аднаўленне» выдання ў Вільні ў маі 1991 г. групай беларускай інтэлігенцыі газеты пад назвай «Наша Ніва», якая абʼявіла сябе пераемніцай выдання пачатку XX ст. (заснавальнікі Павел Жук, Людвіка

*рацьба за нацыянальнае адраджэнне*, [у:] *Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч.*, ч. 1, рэд. кал.: М. П. Касцюк, Мінск 1994, с. 434.

302 М. Біч, *Рэвалюцыя 1905-1907 гг. у Беларусі*, [у:] *Гісторыя Беларусі. У 6 т.*, т. 4: *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII — пачатак XX ст.)*, рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.), Мінск 2005, с. 343-344.

303 *«Наша доля». Факсімільнае выданне*, Мінск 1991; *«Наша ніва». Факсімільнае выданне*, вып. 1: *1906-1908*, Мінск 1992; вып. 2: *1909*, Мінск 1996; вып. 3: *1910*, Мінск 1998; вып. 4: *1911*, Мінск 2003; вып. 5: *1912-1915, 1920*, Мінск 2009.

304 У. М. Конан, *«Наша доля»*, [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т.*, т. 4: *Накцюрн — Скальскі*, рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.), Мінск 1986, с. 53-54; У. М. Конан, *«Наша доля»*, [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т.*, т. 4: *Накцюрн — Скальскі*, рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.), Мінск 1986, с. 54-55; У. Конан, *«Наша ніва»*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.*, т. 5: *М — Пуд*, рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.), Мінск 1999, с. 313-314; У. Конан, *«Наша ніва»*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.*, т. 5: *М — Пуд*, рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.), Мінск 1999, с. 314-316; С. В. Говін, *Газета*, [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т.*, т. 2: *Габой — Карціна*, рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.), Мінск 1985, с. 6; С. В. Говін, *Газета*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.*, т. 2: *Беліцк — Гімн*, рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.), Мінск 1994, с. 449; С. В. Говін, *Перыядычны друк,* [у:] *Беларуская энцыклапедыя ў 18 т.*, т. 18, кн. II: *Рэспубліка Беларусь*, рэд. кал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.), Мінск 2004, с. 437; У. М. Казбярук, А. М. Макарэвіч, *Літаратура пачатку 20 ст.*, [у:] *Беларуская энцыклапедыя ў 18 т.*, т. 18, кн. II: *Рэспубліка Беларусь*, рэд. кал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.), Мінск 2004, с. 603-605.

305 Г. К. Усціновіч, *«Наша ніва»*, [у:] *Беларуская мова: энцыклапедыя*, рэд. А. Я. Міхневіч; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.), Мінск 1994, с. 384-386.

306 А. І. Жураўскі, М. Р. Прыгодзіч, *Гісторыя беларускай літаратурнай мовы*, [у:] *Беларуская мова: энцыклапедыя*, рэд. А. Я. Міхневіч; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.), Мінск 1994, с. 153.

Кардзіс, выдавец П. Жук, аўтары Сяргей Дубавец [пазней — галоўны рэдактар], Сяргей Шупа, Сяргей Харэўскі і іншыя)[307], паспрыяла яшчэ большай цікавасці да спадчыны газеты. На старонках «новай» „Нашай Нівы" перадрукоўваліся артыкулы са «старой». Гэта было фактычна першым вопытам публікацыі арыгінальных тэкстаў гэтага выдання ў той час. У сувязі з выхадам «новай» „Нашай Нівы" сацыёлаг Алена Гапава разважала:

> Воссозданная в 1991 г., газета задумывалась как духовное продолжение первой «Нашай нівы», что издавалась белорусскими интеллектуалами в Вильно после Первой русской революции, когда запрет на белорусский язык был фактически снят. Создатели той газеты [...] видели ее средством пробуждения «свядомасці» (самосознания) угнетенного народа. Газета легитимировала «мужицкое наречие» как язык культуры [...]. Новая «НН» была призвана сыграть ту же культурную роль в консолидации постсоветской белорусской нации, что и ее предшественница, заговорив с ней на том же языке [...][308].

Да гісторыі «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» як часткі гісторыі беларускага нацыянальнага руху, прэсы на беларускай мове звяртаецца ўсё больш даследчыкаў, разглядаючы гэтыя выданні ў кантэксце іншых з'яў беларускага грамадска-палітычнага і культурнага жыцця пачатку XX ст.[309]

307 *Ад рэдакцыі*, «Наша Ніва» 1991, № 1, с. 5.

308 Е. Гапова, *О политической экономии «национального языка» в Беларуси*, [у:] *Белорусский формат: невидимая реальность. Сборник научных трудов*, отв. ред. А. Р. Усманова, Vilnius 2008, с. 30.

309 П. І. Навойчык, *«Наша ніва» і нацыянальнае пытанне*, [у:] *Беларуская літаратура: рэспубліканскі міжведамасны зборнік*, вып. 20, Мінск 1992, с. 20-29; М. В. Біч, *Беларусь у перыяд буржуазна-дэмакратычных рэвалюцый. Барацьба за нацыянальнае адраджэнне*, [у:] *Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч.*, ч. 1, рэд. кал.: М. П. Касцюк, Мінск 1994, с. 418-421, 428-435; Т. Бэрд, *«Наша Ніва» як крыніца меркаванняў пра талерантнасць*, [у:] *Беларусіка = Albaruthenica*, кн. 3: *Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне*, рэд. А. Мальдзіс, Мінск 1994, с. 186-191; Л. Довнар, *Роль Вильни в возрождении белорусской печати в начале XX века: идейные и персональные связи*, „Knygotyra", Vilnius 2009, t. 52, с. 197-210; Н. А. Зубчонак, *Беларуская журналістыка ў перыяд станаўлення нацыянальна-дэмакратычнага руху (1906-1916 гг.): дапаможнік для студэнтаў Інстытута журналістыкі*, Мінск 2010; *Філасофія нацыянальнай медыяпрасторы (да 110-годдзя выхаду газет «Наша доля» і «Наша ніва»): матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, 21 кастрычніка 2016 г., Мінск*, Мінск 2016; *Янка Купала і «Наша*

Аднак «Нашай Долі» прысвячалася менш увагі. На гэтым фоне вылучаецца артыкул Юрыя Залоскі, які ўважліва прааналізаваў структуру выдання і звярнуў увагу на асаблівасці яго мовы[310].

*ніва». Да 90-годдзя выдання газеты «Наша ніва». Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Мінск, 7-8 кастрычніка 1996 г.*, рэдкал.: Ж. Дапкюнас [і інш.], Мінск 1996; Н. Пяткевіч, *Віленская беларуская літаратура «Нашаніўскага» перыяду*, [у:] *Vilniaus kultūrinės gyvenimas ir Petras Vileišis. Mokslinės konferencijos „Vilniaus kultūrinės gyvenimas ir Petras Vileišis", įvykusios 2001 m. sausio 24 m., papildyta medžiaga*, sud. A. Lapinskienė, Vilnius 2001; П. В. Васючэнка, *Гісторыка-культурныя падмуркі «нашаніўства»*, [у:] *Час. Журналістыка. Крытыка. Матэрыялы рэспубліканскіх навуковых чытанняў,* Мінск 2002, с. 16-17; В. М. Самусевіч, *«Наша ніва» ў лагасферы нацыянальнай культуры*, «Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Сер. 4. Філалогія. Журалістыка. Педагогіка» 2002, № 2, с. 86-91; П. Р. Абрамовіч, *Літаратурна-мастацкая крытыка ў «Нашай ніве»: праблемы, крытэрыі, жанры*, «Роднае слова» 2001, № 10, с. 97-98; Т. М. Маракуліна, *Публіцыстыка «Нашай нівы» (1906-1915): тэматычны і жанрава-камунікацыйны аспекты,* «Роднае слова» 2007, № 3, с. 27-29; Т. Студзенка, *«Наша Ніва» (1906-1915) і яе чытач: вопыт яднання*, «Беларуская думка» 2010, № 1, с. 110-115; У. Ляхоўскі, *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)*, Vilnius — Białystok 2012, с. 40-41; В. А. Лабачэўская, *Зберагаючы самабытнасць. З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі*, Мінск 1998, с. 140-151; Т. В. Воронич, *«Цемнякі», «брухарэзы» и «наша паліцыя» — правонарушения на страницах газеты «Наша Нива» (1906-1915)*, [у:] *«Долгий XIX век» в истории Беларуси и Восточной Европы. Исследования по новой и новейшей истории*, Санкт-Петербург 2022, с. 382-405; Н. У. Скок, *Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў на старонках газеты «Наша ніва»*, [у:] *Материалы исследований молодых ученых и аспирантов*, науч. ред. М. В. Мащенко, Могилев 1995, с. 88-91; А. Мяснікоў, *Была ў «Нашай Нівы» свая ніва...*, «Беларуская думка» 2006, № 11, с. 165-170; А. Яскевіч, *Нашаніўскае адраджэнне: станаўленне класічнага нацыянальнага стылю*, [у:] *Янка Купала і Якуб Колас і дзяржаўна-культурнае будаўніцтва*, навук. рэд. М. А. Тычына, Мінск 2007, с. 193-222; М. М. Забаўскі, *Дзяржаўная дума на старонках газеты «Наша ніва» ў 1906-1915 гг.: да 100-годдзя расійскага парламентарызму і «Нашай нівы»*, «Беларускі гістарычны часопіс» 2006, № 11, с. 25-33; И. В. Шардыко, *К вопросу о политической направленности газеты «Наша Ніва» в начале XX в.*, [у:] *Романовские чтения — 13: сборник статей международной научной конференции, посвященной 105-летию Могилевского государственного университета имени А. А. Кулешова, 25-26 октября 2018 г., г. Могилев*, редкол.: А. С. Мельникова [и др.], Могилев 2019, с. 62-63; В. А. Белазаровіч, *Карэспандэнты штотыднёвіка аб значэнні «Нашай нівы»*, [у:] *Гісторыя Беларусі ў XX стагоддзі. Памяці прафесара Івана Коўкеля = History of Belarus in XX century. In memory of the professor Ivan Koukel: зборнік навуковых артыкулаў*, навук. рэд. А. Горны, Гродна 2017, с. 10-13; *Беларуская газета «Наша ніва»*, [у:] *Матэрыялы па гісторыі Беларусі*, гал. рэд. М. П. Касцюк, Мінск 1997, с. 129-133.

310 Ю. Залоска, *Газета «Наша доля» (1906): культуралагічны аспект выдання*,

Гісторык Павел Церашковіч прааналізаваў геаграфічнае размеркаванне карэспандэнтаў «Нашай Нивы» і сувязь гэтага фактару з працэсам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і кансалідацыі беларусаў[311].

Гісторык Аляксандр Смалянчук асвятліў адносіны да «Нашай Нивы» і беларускага нацыянальнага руху польскіх газет, якія выдаваліся ў Беларусі і Літве[312]. Гэты ж даследчык звярнуў увагу на тое, што публіцысты „Нашай Доли" «шукалі формы паяднання беларускай ідэі з сацыялістычнай». Смалянчук выказаў меркаванне, што ў пачатку XX ст. «дамінуючым варыянтам нацыянальнай ідэалогіі стаўся этнічна-моўны варыянт, які паслядоўна прапагандавала і адстойвала „Наша Ніва"», і гэты варыянт быў характэрны для іншых этнічных супольнасцей Цэнтральна-Усходняй Еўропы, якія ў канцы XVIII — XIX стст. не мелі ўласных дзяржаў, — літоўцаў, палякаў [313]

Гісторык Анатоль Сідарэвіч апублікаваў зборы твораў Антона Луцкевіча, у тым ліку яго публіцыстыку на старонках «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» і артыкулы па гісторыі гэтых газет і беларускага нацыянальнага руху[314].

Даследчык гісторыі беларускай журналістыкі Алег Слука, разглядаючы «Нашу Долю», выказаў думку аб тым, што на старонках гэтага выдання «пачынаецца фарміраванне сучаснай публіцыстыкі з характэрнымі нацыянальнымі рысамі». Паводле Слукі, «1906 г. для беларускага народа вызначальны. Фактычна гэта пачатак новага стагоддзя ў развіцці сучаснай беларускай гісторыі і культуры. У гэтым годзе пачала выходзіць газета „Наша ніва"»[315].

У апошні час з'яўляецца ўсё больш інтэрпрэтацый перыяду «Нашай Нівы». На ролю «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» ў «Беларускім Адраджэньні» звярнуў увагу беларускі філосаф Ігар Бабкоў:

«Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія» 1993, № 3, с. 70-72.

311 П. В. Терешкович, *Этническая история Беларуси XIX — начала XX в. в контексте Центрально-Восточной Европы*, Минск 2004, с. 177-180.

312 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917 г.*; 2-е выд., дапрац., Санкт-Петербург 2004, с. 342 і наст.

313 А. Смалянчук, *Беларускі нацыянальны рух у сучаснай гістарыяграфіі: праблемы, пошукі, дасягненні*, «Гістарычны альманах» 2006, т. 12, с. 134.

314 А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, укл. А. Сідарэвіч; рэд. А. Ліс, Vilnius — Białystok 2009; А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius — Białystok 2010.

315 А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка. Вучэбны дапаможнік. У 3 ч.*, ч. 1, Мінск 2000, с. 171, 173.

Першыя беларускія тэксты (праклямацыі, адозвы, чытанкі, інфармацыі ў «Нашай Долі» і «Нашай Ніве») беларускія ня толькі паводле мовы, але й дыскурсіўна імітуюць голас беларускага вяскоўца. Гэткім чынам ствараецца ўражаньне, што яны ня проста напісаныя для вяскоўца, але запісаныя паводле словаў самога вяскоўца[316].

Сацыялінгвіст Ніна Мячкоўская выкарыстоўвае сінанімічныя паняцці «нашаніўскае адраджэнне» і «Першае нацыянальнае адраджэнне» як характарыстыкі беларускага руху, які знаходзіўся «в оппозиции к Империи» і спрабаваў «пробудить национально-культурное самосознание белорусов»[317]. Мячкоўская звязвае «нашаніўскае адраджэнне» з Віленскай і Гродзенскай губернямі: даследчыца перакананa, што па гэтай прычыне «тон в движении задавали белорусы-католики». Вучоная ацэньвае вынікі, як яна піша, «любительского „нашаніўскага" возрождения» як «более чем скромные», але дадае, што без імпульсаў гэтага руху не было б стварэння беларускай дзяржаўнасці: Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь[318].

Аднак у некаторых працах па гісторыі беларускага нацыянальнага руху і нацыяналізму «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» прысвечана зусім мала ўвагі або нават ніякай[319], што зніжае іх вартасць, паколькі без пазнання і адлюстравання гісторыі гэтых газет немагчыма правільна ацаніць форму і змест беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст.

Праблематыкай нацыянальнай ідэнтычнасці на старонках «Нашай Нивы» цікавілася Вольга Самусевіч, звяртаючы асаблівую ўвагу на першыя гады выдання газеты[320]. Валерый Талкачоў аналізаваў ролю газеты «Наша Нива» ў фарміраванні і распаўсюджванні беларускай нацыянальнай ідэі[321].

316 І. Бабкоў, *Генэалёгія беларускай ідэі. Зь лекцыяў для Беларускага Калегіюму*, „Arche" 2005, № 3, с. 153.

317 Н. Б. Мячкоўская, *Мовы і культуры Беларусі: нарысы*, Мінск 2008, с. 153.

318 Тамсама, с. 217.

319 А. Кравцевич, А. Смоленчук, С. Токть, *Белорусы: нация Пограничья*, Vilnius 2011; J. Prokopiuk, *Etnos i tożsamość. Białoruski proces narodotwórczy*, Toruń 2013; У. Ляхоўскі, А. Чарнякевіч, *«А хто там ідзе?» Беларускі рух на мяжы XIX і XX стагоддзяў і пачаткі ідэі незалежнасці Беларусі*, „Arche" 2017, № 4, с. 5-112.

320 В. Самусевіч, *Канцэптуалізацыя ў газеце «Наша Ніва»: субсфера «нацыянальнае жыццё»*, [у:] *Філасофія нацыянальнай медыяпрасторы (да 110-годдзя выхаду газет «Наша доля» і «Наша ніва»): матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, 21 кастрычніка 2016 г., Мінск*, Мінск 2016, с. 168-172.

321 В. Талкачоў, *Газета «Наша Ніва» ў фарміраванні і распаўсюджванні беларускай нацыянальнай ідэі*, [у:] *Філасофія нацыянальнай медыяпрасторы (да*

Гісторыя «Нашай Доли» і «Нашай Нівы» ў кантэксце развіцця беларускага нацыянальнага руху атрымала аб'ектыўнае асвятленне ў сучасных падручніках для школ і ВНУ Беларусі па гісторыі краіны[322]. «Значную ролю ў фарміраванні беларускай нацыянальнай ідэі адыграла газета „Наша ніва"», — гаворыцца, напрыклад, у вучэбным даможніку для дзявятага класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі Рэспублікі Беларусь[323]. Аднак у некаторых школьных дапаможніках пра першыя беларускія газеты няма нават згадкі, хаця ўпамінаюцца дзеячы, звязаныя з грамадска-палітычнай і літаратурнай дзейнасцю таго перыяду[324].

Аўтары падручніка «Гісторыя Беларусі» пад рэдакцыяй Я. Новіка і Г. Марцуля, зацверджанага Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусі ў якасці падручніка для студэнтаў ВНУ, лічаць, што рэвалюцыя 1905-1907 гг. спрыяла «ажыўленню права на легальны беларускі друк», а «Наша Нива» стала цэнтрам «легальнага нацыянальна-культурнага руху»:

> Пад уплывам сацыяльна-эканамічнай праграмы БСГ «Наша ніва» заставалася выданнем, арыентаваным на абарону правоў і свабод беларускага працоўнага народа [...], яўрэйскай беднаты. [...]
> «Наша ніва» гуртавала вакол сябе аўтараў усіх веравызнанняў і кірункаў, якія выступалі за нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі. [...] Такім чынам, дзейнасць газеты адыгрывала важную ролю ў справе кансалідацыі беларускай нацыі, развіцця яе мовы і культуры і асабліва ў фарміраванні самасвядомасці беларусаў. Магчыма, менавіта яна ўпершыню ахапіла ўвесь край паняццем «Беларусь»[325].

*110-годдзя выхаду газет «Наша доля» і «Наша ніва»): матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, 21 кастрычніка 2016 г., Мінск*, Мінск 2016, с. 134-139.

322 С. В. Марозава, У. А. Сосна, С. В. Паноў, *Гісторыя Беларусі. Канец XVIII — пачатак XX ст. Вучэбны даможнік для 9 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання*, рэд. У. А. Сосна; 2-е выд., дап. і перагледж., Мінск 2011, с. 122, 147-149; Е. Н. Сувалова, *«Наша ніва» — центр национального движения*, [у:] *История общественных движений и политических партий: учебное пособие*; 2-е изд., испр. и доп., Минск 2005, с. 84-86.

323 С. В. Марозава, У. А. Сосна, С. В. Паноў, *Гісторыя Беларусі. Канец XVIII — пачатак XX ст. Вучэбны даможнік для 9 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання*, рэд. У. А. Сосна; выд. 2-е, дап. і перагледж., Мінск 2011, с. 149.

324 *Гісторыя Беларусі. XIX — пачатак XXI ст. Вучэбны даможнік для 11 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання*, рэд. Я. К. Новік, Мінск 2009.

325 Я. К. Новік, Г. С. Марцуль, І. Л. Качалаў, Л. Я. Антонава, В. Э. Загарульская, З. І. Зуева, В. У. Лютава, Н. Я. Новік, У. Я. Парфянкоў, В. А. Цяплова, *Гісторыя*

Згадваючы таксама «Нашу Долю», «Гісторыя Беларусі» пад рэдакцыяй Яўгена Новіка і Генадзя Марцуля замацоўвала ў чытачоў думку аб тым, што «дзесяцігоддзе „Нашай нівы" называюць „нашаніўскім перыядам" у гісторыі беларускага нацыянальнага руху»[326].

Выйшла некалькі грунтоўных прац, дзе разглядаецца мова газеты «Наша Нива»[327], але ў сувязі з агульнымі задачамі гэтых даследаванняў перыяд 1906-1907 гг. вывучаўся недастаткова ўважліва. Мове ж «Нашай Доли» спецыяльнага даследавання дагэтуль прысвечана не было.

У 1996 г. Павел Навойчык абараніў дысертацыю «„Наша ніва" і літаратурна-грамадскі працэс на Беларусі пачатку ХХ ст.»[328]. У ёй ён выказаў некалькі каштоўных думак. Даследчык дакладна сфармуляваў, што «асуджэнне „Нашай нівы" ў 30-70-я гады было неаб'ектыўным, абумоўлена нарастаннем тэндэнцыйнага ідэалагічнага ціску на даследчыкаў літаратуры з боку цэнтральнага апарату камуністычнай партыі і яе прадстаўнікоў у афіцыйнай навуцы» і «толькі з падзеннем камуністычнага таталітарызму» стала магчыма «поўная і канчатковая рэабілітацыя „Нашай нівы"». Апрача таго, «адносіны да „Нашай нівы" ў розныя перыяды гісторыі Савецкай Беларусі з'яўляліся своеасаблівым барометрам грамадска-палітычнай атмасферы ў краіне, выяўлялі ступень нацыянальнай самасвядомасці і свабоды асобы, а таксама адносіны афіцыйнай улады да нацыянальнай культуры»[329].

Кнігу пра «Нашу Ниву» апублікаваў Віталь Лукін — у 2000 г.[330] Наступнай манаграфіяй пра газету стала праца Андрэя Унучака — яна выйшла ў 2008 г. і стала працягам яго ранейшых публікацый[331]. Унучак

*Беларусі: Падручнік. У 2 ч.*, ч. 1: *Ад старажытных часоў — па люты 1917 г.*, рэд. Я. К. Новік, Г. С. Марцуль, Мінск 2003, с. 362-363.

326 Тамсама, с. 363, 401.

327 І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч, *Гісторыя беларускай літаратурнай мовы*, т. II, Мінск 1963, с. 118-154; *Мова «Нашай Нівы» (1906-1915). Варыянтнасць. Сінанімія*, рэд. В. П. Лемцюгова, Мінск 2005; *Мова «Нашай Нівы» (1906-1915). Семантыка. Стылістыка*, рэд. В. П. Лемцюгова, Мінск 2014; *Слоўнік мовы «Нашай нівы». 1906-1915. У 5 т.*, т. 1-4: *А-Я*, укл. А. М. Анісім, рэд. В. П. Лемцюгова, Мінск 2003-2019; M. K. Prenner, *Die Sprache der Zeitung Naša Niva im Zeitraum 1906-1915*, *Masterarbeit*, Wien 2016 [машынапіс]; M. K. Prenner, *„Naša Niva" na skrzyżowaniu kultur: dowody na różnych płaszczyznach języka gazety*, „Acta Albaruthenica" 2018, t. 18, s. 225-243.

328 П. І. Навойчык, *«Наша ніва» і літаратурна-грамадскі працэс на Беларусі пачатку ХХ ст. 10.01.01 — беларуская літаратура. Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук*, Мінск 1996.

329 Тамсама, с. 2, 15.

330 В. С. Лукін, *«Наша ніва» — цэнтр нацыянальна-культурнага адраджэння (1906-1915): вучэбны дапаможнік*, Мінск 2000.

331 А. Унучак, *«Наша ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906-1915)*, Мінск 2008;

канстатаваў, што, «як гэта ні парадаксальна, дэталёвага і сістэмнага вывучэння нашаніўскай дзейнасці гісторыкамі не было праведзена да гэтага часу. Публіцыстыка „Нашай нівы" не была прадметам асобнага гістарычнага даследавання. „Першай беларускай газетай з рысункамі" ў першую чаргу цікавіліся філолагі, філосафы, публіцысты, якія займаліся мастацкай літаратурай, публікацыямі класікаў, літаратурнай крытыкай і г. д.»[332].

Унучак выказаў рад важных думак:

> Ідэолагі нашаніўскага руху ўпершыню ўзяліся за дэталёвую тэарэтычную распрацоўку *беларускасці* [выдзелена А. Унучакам — *В.К.*]. На паласах «Нашай нівы» былі выразна сфармуляваныя мэты нацыянальнага руху, акрэслена гістарычная і духоўная пераемнасць з папярэднікамі, прапанавана беларуская нацыянальная канцэпцыя развіцця 5 губерняў «Паўночна-Заходняга краю» Расійскай імперыі.
> Без вывучэння «нашаніўства» нельга зразумець шмат якія падзеі з гісторыі Беларусі XX ст. [...]
> У той час у «Паўночна-Заходнім краі» Расійскай імперыі выходзіла шмат газет, якія мелі значна большую частату выхаду і непараўнальна большыя за «Нашу ніву» наклады. Але яны не здолелі зрабіць такога ўплыву на фарміраванне беларускай нацыі, як «першая беларуская газета з рысункамі»[333].

У працы Унучака звяртаюць на сябе ўвагу раздзелы «„Наша ніва" і праблемы фарміравання беларускай нацыянальнай ідэі», «„Наша ніва" і шляхі выбару грамадска-палітычнага развіцця Беларусі. Ідэйная

А. Унучак, *«Нашаніўства» і «заходнерусізм»: да пытаньня ідэйнай барацьбы за беларускую інтэлігенцыю на пачатку 20 ст.*, «Гістарычны альманах» 2006, т. 12, с. 108-122; А. Унучак, *«Наша Нива» и белорусское национальное движение начала XX в.*, „Acta humanitarica universitatis Saulensis" 2011, t. 12, c. 172-180; А. Унучак, *«Наша ніва» і ідэйнае выхаванне беларускай інтэлігенцыі*, «Беларускі гістарычны часопіс» 2005, № 4, с. 16-22; A. Unuczak, *Litwini na łamach prasy białoruskiej na początku XX stulecia*, [у:] *Między Rusią a Polską. Litwa. Od Wielkiego Księstwa Litewskiego do Republiki Litewskiej*, red. J. Grzybowski, J. Kozłowska, Warszawa 2014, s. 229-235; А. В. Унучек, *Национально-государственная идея на страницах газеты «Наша Ніва» (1906-1915 гг.)*, [у:] *История белорусской государственности. В 5 т.*, т. 2: *Белорусская государственность в период Российской империи (конец XVIII — начало XX в.)*, отв. ред. Н. В. Смехович, А. В. Унучек, Е. Н. Филатова, Минск 2019, с. 333-349.

332 А. Унучак, *«Наша ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906-1915)*, Мінск 2008, с. 4.

333 Тамсама, с. 4-5.

барацьба з „заходнерусізмам” і польскім нацыяналізмам»[334]. Аднак яны займаюць ўсяго каля сарака старонак, а значная частка іх аб’ёму прысвечана агульным пытанням развіцця беларускага руху[335]. Публіцыстыка 1906-1907 гг. разглядаецца ў рабоце Унучака не цэласна, літаральна ў некалькіх абзацах — у кантэксце іншых, але далёка не ўсіх тэкстаў, якія выходзілі да 1915 г.

Гісторыя «Нашай Долі» і «Нашай Нивы» разглядалася ў навуковых і навукова-папулярных працах Генадзя Сагановіча, Захара Шыбекі, Уладзіміра Арлова, Пятра Чыгрынава[336].

У друку сустракаюцца і іншыя публікацыі, аўтары якіх не знаёмы глыбока з гісторыяй першых беларускіх газет, таму робяць неабгрунтаваныя вывады. Прыкладам гэтага з’яўляецца публіцыстыка гісторыка Ігара Марзалюка, які беспадстаўна заяўляе, што «со времен „Гомона” и до времени создания „Нашай Нівы” белорусское движение развивалось в первую очередь как антипольское, основным врагом и оппонентом этого движения был польский национализм. Ставка делалась на сотрудничество, в первую очередь с политической элитой России». Не мае рацыі Марзалюк, сцвярджаючы, што часопіс „Гомон” «заклаў асновы той парадыгмы палітычнай арыентацыі і разумення будучыні беларускай нацыі, якая з пэўнымі мадыфікацыямі захоўваецца і сёння», што «Гомон», як ён піша, «стварыў нацыянальны праект». Даследчык свядома спрашчае ход гістарычных падзей, ігнаруе храналогію і факты, якія не ўпісваюцца ў яго канцэпцыю, якая заключаецца ў наступным сцвярджэнні:

> Усе канцэпцыі эпохі «Нашай Нівы» і палітычныя праграмы Беларускай сацыялістычнай грамады паўтаралі асноўныя моманты праграмы «Гомана»: самабытнасць беларускай нацыі плюс федэралізм у складзе Расійскай імперыі[337].

334 Тамсама, с. 96-139.
335 Тамсама, с. 98, 122-123.
336 У. Арлоў, Г. Сагановіч, *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862-1918). Падзеі. Даты. Ілюстрацыі*, Vilnius 1999; Г. Сагановіч, *Крытыка гістарыяграфіі БССР часоў адлігі ў друку беларускай эміграцыі*, „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich = Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў” 2017, Nr 3, с. 225-226; У. Арлоў, З. Герасімовіч, *Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя*, [б.м.] 2003, с. 288, 298-303; У. Арлоў, *Імёны Свабоды*; 4-е выд., дапрац. і дап., [б.м.] Радыё Свабода 2020; *Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы = The History of the Belarusian Nation and State*, рэд. кал.: У. Арлоў, Мінск 2001, с. 22; З. Шыбека, *Нарыс гісторыі Беларусі (1795-2002)*, Мінск 2003, с. 156-168; Z. Szybieka, *Historia Białorusi. 1795-2000*, Lublin 2002; П. Г. Чигринов, *Белорусская история: научно-популярный очерк*, Минск 2010, с. 583-586.
337 И. Марзалюк, *А хто там ідзе?*, «Советская Белоруссия», 21.06.2014, с. 14-15;

publicist, Belarusian activist and librarian, showed above all a broad picture of some events from the life of simple, rural communities of selected villages of the former counties of Bielsk and Białystok.
**Keywords:** *Nasha Niva, Наша Ніва*, the journalistic legacy of Jauhien Chlabcevič (Eugeniusz Chlebcewicz).

**Змест**

**Публіцыстычная спадчына Яўгена Хлябцэвіча на старонках газеты „Наша Ніва"**

Артыкул прадстаўляе публіцыстычную спадчыну Яўгена Хлябцэвіча, прадстаўніка беларускай інтэлігенцыі „нашаніўскага перыяду" на старонках газеты „Наша Ніва". Хлябцэвіч, як выдатны публіцыст, беларускі дзеяч і бібліятэказнаўца выяўляе ў сваіх допісах шырокі вобраз жыцця простых сялян выбраных вёсак былых Бельскага і Беластоцкага паветаў.
**Ключавыя словы:** „Наша Ніва", публіцыстычная спадчына Яўгена Хлябцэвіча.

**Adrian Kuprianowicz** — mgr filologii białoruskiej (Uniwersytet w Białymstoku), autor kilkunastu publikacji naukowych oraz popularno-naukowych, m.in.: *Церковно-приходское обучение на территории православного прихода Вознесения Господня в Клейниках* (2018), *Dzieje parafii prawosławnej pw. Wniebowstąpienia Pańskiego w Klejnikach od XIX do połowy XX wieku* (2018), *Культурно-просветительская деятельность Иоанна, Евгения и Владимира Хлебцевичей на территории православного прихода Вознесения Господня в Клейниках в начале XX века* (2020).

**Сяргей Ёрш**
(Мінск)

## Невядомае пра сям'ю Гальяша Ляўковіча

Паэт, публіцыст, перакладчык, бібліяфіл, краязнаўца Гальяш Ляўковіч (псеўданім Гальяш Леўчык) нарадзіўся ў Слоніме 20 ліпеня 1880 года. Упершыню дакладнае месца і дату апублікаваў у 1927 годзе Ігнат Дварчанін. Для яго „Хрэстаматыі новай беларускай літэратуры" Ляўковіч напісаў аўтабіяграфію[1]. „Паслаў быў яму сваю біяграфію з фатаграфіямі сваімі — няхай там у Вільні будзе, бо як умру, то й так усё прападзе", — прыгадваў ён пазней[2]. Да гэтага часу некалькі сказаў з гэтага ліста вандруюць па публікацыях даследчыкаў, якія не змаглі знайсці нічога новага пра жыццё слонімца да яго ад'езду ў Варшаву ў 1904 годзе.

Адкуль з'явілася версія пра нараджэнне Гальяша Ляўковіча не ў Слоніме, а ў Шэйпічах на цяперашняй Пружаншчыне? Магчыма, з працы Адольфа Клімовіча, у якой ёсць кароткая даведка пра слонімца. У ёй чытаем: „Радзіўся ў 1880 годзе ў в. Шэйпічы, Слонімскага павету"[3]. Шэйпічы (Шайпякі) згадваў Дварчанін, але як родную вёску бацькі Г. Ляўковіча, з якой ён пераехаў у Слонім[4]. Тым не менш, Шэйпічы, як месца нараджэння Гальяша Ляўковіча, дагэтуль згадваецца ў шэрагу публікацый. У іншых месцам нараджэння называецца Слонім, але адначасова дадаецца, што „паводле іншых крыніц — в. Шэйпічы" (якіх крыніц, не ўдакладняецца). Так піша Алесь Бельскі. Да таго ж ён называе дзіўную дату нараджэння — 7 жніўня 1880 года[5]. Гэтая ж дата прысутнічае ў кнізе Івана Здановіча. Ён жа піша: „Нарадзіўся ў вёсцы

[1] І. Дварчанін, *Хрэстаматыя новай беларускай літэратуры*, выпуск III: *Алесь Гарун, Зьмітрок Бядуля, Канстанцыя Буйла і Гальляш Леўчык*, Вільня 1927, с. 286.

[2] Г. Леўчык, *Доля і хлеб: Выбраныя творы*, Мінск 1980, с. 139.

[3] А. Клімовіч, Матэрыялы да біяграфічнага слоўніка дзеячоў беларускай культуры і нацыянальнага руху, Цэнтральная навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадміі навук Беларусі, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, фонд 5, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 193.

[4] І. Дварчанін, *Хрэстаматыя новай беларускай літэратуры*, с. 286.

[5] *Гальяш Леўчык*, [у:] *Скрыжалі памяці: З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. У 3 кн.*, кн. 2, уклад., біягр. давед. пра аўт. і камент. А. Бельскага, Мінск 2005, с. 271.

Шэйпічы (былы Слонімскі павет...)... Неўзабаве сям’я пераехала ў Слонім”[6]. Зноў жа крыніца такой непраўдзівай інфармацыі не пазначаецца. Гэта бібліяграфічны слоўнік „Беларускія пісьменнікі”. Там змешчана фантастычная дата нараджэння Гальяша Ляўковіча: 29.7 (7.8).1880[7].

Нам удалося сабраць звесткі пра Ляўковіча і яго сям’ю паводле метрычных кніг прыходскіх касцёлаў у Ружанах і Слоніме[8]: пра бацьку, маці, дзядоў і бабуль, сясцёр і братоў.

Ляўковічы жылі ў вёсцы Горныя Шайпякі (Шэйпякі) пад Ружанамі. Побач былі яшчэ Шайпякі Дольныя. Цяпер гэта адна вёска, якая знаходзіцца ў Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці. Самы вядомы яе ўраджэнец — беларускі оперны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі (1900-1981).

13 чэрвеня 1879 года ў Горных Шайпяках памёр „ад старасці” селянін Юрый Ляўковіч. Яму было 82 гады. Ён пакінуў сыноў Міхала, Людвіка і дачку Анелю. На той час была жывая яго жонка Канстанцыя з Беляўскіх. Юрый і Канстанцыя Ляўковічы — гэта дзядуля і бабуля Гальяша Ляўковіча, а Міхал — яго бацька. Атрымліваецца, што гэтага свайго дзеда Гальяш не ведаў.

Што дагэтуль было вядома пра бацьку Гальяша Ляўковіча? Амаль нічога. Даследчыкі згадвалі, што Міхал Ляўковіч быў кавалём. Прынамсі пра гэта піша Уладзімір Калеснік[9]. „Малазямельнік, які не нажыў у роднай вёсцы такога дабра, якое б прывязала яго ды адвяло думкі ад пошукаў шчасця-долі ў шырокім свеце”, — выказвае здагадку ён. Насамрэч матываў пераезду магло быць больш.

Пра Анелю Ляўковіч звестак няма, а Людвік Ляўковіч, відаць, пражыў усё жыццё ў Шайпяках. Брат быў у царскай арміі, калі Людвік у траўні 1862 года ажаніўся. Яго абранніцай стала Тэрэса (Тэрэзія) Эйсмант. Іх шлюб быў зарэгістраваны ў Міжэрыцкім касцёле ў Ваўкавыскім павеце (цяпер Міжэрычы — аграгарадок у Зэльвенскім раёне Гродзенскай вобласці), прыхаджанкай якога была Тэрэса, дачка Мацвея і Ганны Эйсмантаў, жыхароў вёскі Міжэрычы (у той час — Мендзыржэча, Межырэч). Ёй на той час было 18 гадоў, Людвіку — 24 (атрымліваецца, што ён верагодна быў 1838 года нараджэння). У метрычнай кнізе падкрэсліваецца, што Л. Ляўковіч і яго бацькі „свабоднага сасловія”.

[6] І. Здановіч, *Рупліўцы беларускага нацыянальнага адраджэння з Пружаншчыны: Грамадска-літаратурны даведнік*, Пружаны 2003, с. 54.

[7] З. Мельнікава, *Леўчык Гальяш*, [у:] *Беларускія пісьменнікі: Бібліяграфічны слоўнік. У 6 т.*, т. 4, Мінск 1994, с. 33.

[8] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі у г. Гродна, ф. 478 і 1034, іх фотакопіі даступныя на сайце familysearch.org

[9] У. Калеснік, *Даніна сэрца*, [у:] Г. Леўчык, *Доля і хлеб*, с. 4.

Міхал Ляўковіч упершыню ажаніўся 21 чэрвеня 1870 года. Яго абранніцай была 19-гадовая Валерыя Мізгер, дачка Сымона і Агаты (з Савіцкіх) са Слонімшчыны. Міхала Ляўковіча ў метрычнай кнізе называюць „падафіцэрам” (у далейшым — адстаўным унтэр-афіцэрам). І гэта тлумачыць, чаму ён позна стварыў сям'ю — у 37 гадоў. Унтэр-афіцэры набіраліся з салдат, якія пасля заканчэння працяглай тэрміновай службы выказалі жаданне застацца ў царскай арміі „па найму”. Цяпер іх бы назвалі „кантрактнікамі”.

Пра год нараджэння бацькі Гальяша Ляўковіча паведамляў толькі краязнаўца Уладзімір Шундрык. Ён пісаў пра знойдзены ў 1960-я гады на Лабазоўскіх могілках у Слоніме помнік на магіле, „на пастаменце якога прымацавана бронзавая пласцінка з надпісам па-беларуску: „Міхал Ляўковіч 1830-1899”[10]. Знаходку помніка аўтару гэтых радкоў засведчыў у 2000 годзе краязнаўца і археолаг Васіль Супрун. Ён быў з Шундрыкам і зрабіў здымак помніка. На жаль, надпіс на ім не бачны. Рабіліся спробы адшукаць помнік зноў, але пакуль няўдалыя.

Аднак з запісаў у метрычных кнігах, якія былі намі выяўленыя, вынікае, што насамрэч Міхал Ляўковіч нарадзіўся дзесьці ў 1833-1834 гадах. А ці дадкладна расчыталі надпіс на помніку Шундрык і Супрун? Безумоўна, патрэбны далейшыя пошукі запісаў аб нараджэнні і смерці Міхала Ляўковіча. Пакуль жа маем толькі прыблізную дату — пачатак 1830-х гадоў [1830-1834].

Сямейнае жыццё было нядоўгім. 20 верасня 1871 года ў вёсцы Балты (Слонімскі раён) падчас родаў Валерыя Ляўковіч (Мізгер) памерла. Ёй было толькі 20 гадоў. У метрычнай кнізе Ружанскага прыходскага касцёла не пазначана, што дзіця выжыла...

Міхал Ляўковіч стаў удаўцом. Тады ён і вырашыў перабрацца ў Слонім, а не перад нараджэннем Гальяша, як пісалі многія даследчыкі.

3 кастрычніка 1872 года ў слонімскім касцёле св. Андрэя „адстаўны падафіцэр” Ляўковіч узяў шлюб з Сафіяй Каўшун, дачкой слонімскіх мяшчан Аўгусціна і Мар'яны (з Кодзікаў). 17 жніўня 1873 года ксёндз вікарый Іосіф Навіцкі ахрысціў Еву, дачку Міхала і Сафіі Ляўковічаў. Відаць, роды былі цяжкія. Дзяўчынку вырашылі пахрысціць у той жа дзень. Ужо 23 жніўня 1873 года 19-гадовая Сафія Ляўковіч ад пасляродавых ускладненняў памерла.

Дзяўчынка выжыла. Далейшы яе лёс пакуль адсачыць не атрымалася. Магчыма, што яе ўзяла на выхаванне сям'я Каўшуноў. Яны страцілі любімую дачку, але апякаваліся ўнучкай.

[10] У. Шундрык, *Гальяш Леўчык*, [у:] *Золак над Шчарай. Літаратурна-публіцыстычны зборнік членаў Слонімскага літаб'яднання*, Слонім 1994, с. 79.

Міхал Ляўковіч зноў стаў удаўцом. У Слоніме ў той час ён ужо мусіў мець свой дом і справу. Магчыма, і сапраўды трымаў кузню. Ляўковіч не губляў сувязі з Горнымі Шайпякамі, дзе жылі бацькі і брат.

1 лютага 1876 года „адстаўны ўнтэр-афіцэр" Міхал Ляўковіч ажаніўся трэці раз. Яго жонкай стала 25-гадовая Марыяна (у запісе пра шлюб — Марыя) Мешэдар, дачка Густава і Кацярыны. Іх шлюб у Слонімскім прыходскім касцёле зарэгістраваў ксёндз Ян Невяроўскі. У метрычнай кнізе пазначана, што Марыя — замежніца, аднак падданства не пазначана. Сярод сведкаў прысутнічаў брат Міхала, Людвік Ляўковіч.

Даследуючы метрычныя кнігі Слонімскага прыходскага касцёла розных гадоў, удалося высветліць, што Кацярына Мешэдар (Страхоўская), бабуля Гальяша Ляўковіча, мела саксонскае падданства. Каралеўства Саксонія са сталіцай Дрэздэнам з 1871 года ўваходзіла ў склад Германскай імперыі. Сын жа Кацярыны і Густава, Люцыян Мешэдар, які таксама жыў у Слоніме, у 1889 годзе пазначаўся як прускі падданы (у ранейшыя гады ў метрычных кнігах яго называлі „замежнікам"). Прускае каралеўства з 1871 года таксама было часткай Германскай імперыі. Такім чынам з боку маці ў Гальяша Ляўковіча былі нямецкія карані, пра што ён, відаць, нікому не расказваў.

У Міхала і Марыяны Ляўковічаў было пяць дзяцей: тры сыны і дзве дачкі (магчыма, што інфармацыя ўсё ж няпоўная). На жаль, выжылі не ўсе. Першай нарадзілася Сафія — 28 кастрычніка 1877 года. У 1879 годзе ў Слоніме яна памерла ад хваробы.

20 ліпеня 1880 года ў Слоніме нарадзіўся Гальяш. Хрысцілі яго 27 ліпеня ў Слонімскім прыходскім касцёле. У рускамоўным запісе ў метрычнай кнізе яго назвалі „Ільёй". Хроснымі былі Казімір Каўшун і Юстына Бранцэвіч. Бацьку на гэты раз назвалі „адстаўным унтэр-афіцэрам Ражанскай воласці".

Спадзяемся, гэты запіс у метрычнай кнізе спыніць выдумкі пра нараджэнне Гальяша Ляўковіча на Ружаншчыне, а таксама згадкі ў публікацыях памылковых дат нараджэння.

9 студзеня 1883 года ў сям'і Ляўковічаў нарадзіўся сын Юльян. Ён памёр „ад скарлаціны" ва ўзросце 1 год 10 месяцаў. 18 траўня 1886 года нарадзілася Эмілія. У запісе ў метрычнай кнізе Ляўковічаў упершыню называюць „мяшчанамі горада Слоніма". 13 лютага 1888 года ў Слоніме нарадзіўся Станіслаў, брат Гальяша. Даных пра яго лёс пакуль не выяўлена.

Які быў лёс слонімскіх Мешэдараў? Маці Марыяны, бабуля Гальяша, памерла ў Слоніме 8 верасня 1888 года ў 80 гадоў. Густаў Мешэдар, яе муж, памёр раней. На 1888 год жылі іх дзеці Люцыян, Марыяна, Аляксандра і Эмілія. Апошняя выяўленая намі згадка пра Люцыяна,

сына Густава, Мешэдара адносіцца да 1905 года. Яго згадалі ў спісе слонімскіх мяшчан. Там ёсць і брат памерлай другой жонкі Міхала Ляўковіча Сафіі, Станіслаў, сын Аўгусціна, Каўшун[11].

Гальяш Ляўковіч згадваў толькі пра сястру Эмілію, якая жыла ў Слоніме і ў міжваенны час. Магчыма, што толькі яна і выжыла з яго братоў і сясцёр, а іншыя памерлі ў дзяцінстве. У адным з сваіх вершаў ён пісаў:

*Ніхто ня знае... проч магіл,*
*Што траўкай-мохам зарастаюць,*
*Што столькі сумных дум хаваюць*
*Нязбытых дум, прапаўшых сіл...*



Эмілія Ляўковіч, сястра Гальяша, каля дома ў Слоніме, у якім яны нарадзіліся.

[11] *Список лицъ, имѣющихъ право участія... въ выборѣ гласныхъ Слонимской городской думы на четырехлѣтіе 1906-1909 годы. Дворянъ и мѣщанъ християнъ*, «Гродненскія губернскія вѣдомости», 26.07.1905, № 53, *Отдѣлъ оффиціальный.*



Магіла Міхала Ляўковіча на могілках у Слоніме. Фота 1960-х гадоў



Гальяш Ляўковіч.
Слонім, 1904 г.

**Summary**

**Unknown Facts from the History of the Family of Haljaš Laukovič**

This article presents unknown facts about biography of Haljaš Laukovič (alias — Haljaš Leučyk, 1880-1944), a Belarusian poet, journalist, translator, bibliophile and regionalist. Record books in the parish churches in Ružany and Słonim have been researched and new information (still not complete) about his family has been revealed. It turns out that the poet's father was a non-commissioned officer in the Russian army. He had moved to Słonim from Ružany region a lot ealier than it had been supposed so far. Haljaš was born in the third marriage of Michał Laukovič. His mother was a foreigner — she had come from the German empire. Almost all of Haljaš Laukovič's siblings died in childhood, a tragedy which was reflected in his writings.

**Keywords:** Haljaš Laukovič, family, Belarusian literature.

**Streszczenie**

**Nieznane fakty z dziejów rodziny Haliasza Lewkowicza**

Artykuł jest poświęcony nieznanym kartom w biografii białoruskiego poety, publicysty, tłumacza, bibliofila, regionalisty Haliasza Lewkowicza (pseudonim — Haliasz Leuczyk, 1880-1944). W księgach metrykalnych kościołów parafialnych w Różanie i Słonimiu udało się znaleźć informacje o jego rodzinie (nadal niepełne). Okazuje się, że ojciec poety był emerytowanym podoficerem armii carskiej. Do Słonimia przeniósł się z Różańszczyny dużo wcześniej, niż sądzono do tej pory. Haliasz urodził się w trzecim małżeństwie Michała Lewkowicza. Matka była cudzoziemką — pochodziła z Cesarstwa Niemieckiego. Prawie wszyscy bracia i siostry Haliasza Lewkowicza zmarli w dzieciństwie, a ta tragedia znalazła odzwierciedlenie w jego twórczości.

**Słowa kluczowe:** Haliasz Lewkowicz, rodzina, literatura białoruska.

**Siarhiej Jorsz** — historyk, dziennikarz. W ostatnich latach wyspecjalizował się w badaniach dziejów rejonu słonimskiego obwodu grodzieńskiego. Autor (wraz z Siarhiejem Czyhrynem) pracy *Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны. 1916-2016* (Mińsk 2016). Badacz twórczej spuścizny zachodniobiałoruskich poetów Jazepa Wilkouszczyka (wraz z S. Czyhrynem) i Nikifora Żalby.

**Ганна Славіна**
(Беласток)
**ORCID 0000-0003-2607-1213**

## Праблема міжнароднага прызнання ўрадаў БНР у 1920 годзе паводле дакументаў Нацыянальнага архіва Эстоніі[1]

Міжнароднае прызнанне інстытуцый Беларускай Народнай Рэспублікі ў постаці абвешчаных у сакавіку 1918 года часовых органаў улады — Рады Рэспублікі і Народнага Сакратарыята — з самага пачатку сутыкнулася з праблематыкай „набыцця дзяржаўнага жыцця ў варунках вайны"[2]. Большая частка беларускай этнічнай тэрыторыі знаходзілася ў той час пад акупацыяй нямецкай арміі, якая і лічыла сябе адзінай выканаўчай уладай у краі. Фронт Першай сусветнай вайны падзяліў беларускія землі на заходнюю і ўсходнюю часткі. Народны Сакратарыят БНР пад кіраўніцтвам Язэпа Варонкі застаўся ў акупаваным Мінску, дзе знаходзілася камандаванне і штаб-кватэра 10-ай нямецкай арміі. Акупацыйныя ўлады не забаранялі функцыянаванне заканадаўчага і выканаўчага асяродкаў БНР, але і не прызнавалі іх цалкам за дзяржаўныя асяродкі. Вырашэнне беларускага пытання залежала ад умоў Брэсцкага мірнага пагаднення і ад палітыкі Савецкай Расіі[3]. Абвяшчэнне 10 ліпеня 1918 года Канстытуцыі Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі (РСФСР), як федэрацыі нацыянальных суб'ектаў[4], агітацыя з боку бальшавікоў, а таксама падтрымка Чырвонай Арміі на ўсход ад лініі фронту стварылі ўмовы, пры якіх апрача абвешчанай БНР паўстала „Беларусь — Савецкая

[1] Нацыянальны архіў Эстоніі [Eesti Rahvusarhiiv (далей: RA)], створаны ў 2016 г. пры аб'яднанні Эстонскага гістарычнага архіва і Эстонскага дзяржаўнага архіва, захоўвае шэраг дакументаў, якія тычацца дзейнасці інстытуцый Беларускай Народнай Рэспублікі, доступ да якіх можна атрымаць здальнена. Спасылкі, размешчаныя ў гэтым артыкуле будуць адпавядаць форме, прынятай да абазначэння архіўнай крыніцы ў RA: напачатку будзе пададзены даведачны код Нацыянальнага архіва (RA), пасля чаго калекцыя (ERA), а затым фонд, серыя і нумар запісу, выкананыя лічбамі, раздяляюцца кропкай.

[2] M. Dornfeldt, E. Seewald, *Die Beziehungen zwischen Deutschland und Belarus 1916-1925*, Кора 2019, с. 38.

[3] Тамсама, с. 44-45.

[4] Ю. Кукушкин, О. Чистяков, *Очерк истории Советской Конституции*, Москва 1987, с. 239-241.

Рэспубліка”[5]. 30 снежня 1918 года ў Смаленску, які не быў акупаваны нямецкай арміяй, І з’езд Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі прыняў пастанову аб граніцах Беларускай Рэспублікі[6], а 1 студзеня 1919 года Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі, пад кіраўніцтвам старшыні Часовага ўрада Змітро Жылуновіча, дэклараваў атрыманне паўнамоцтваў у якасці ўрада Беларускай Савецкай Незалежнай Рэспублікі[7] ад І з’езда КП(б)Б і Саветаў Беларусі[8].

Наступілі таксама змены ў арганізацыі Народнага Сакратарыята, які ад лістапада 1918 года пачаў насіць назву Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, ажыццяўляючы ўрадавыя паўнамоцтва на пачатках парламенцкай адказнасці да канчатковага вызначэння спосабу праўлення[9]. Старшынёй Рады Народных Міністраў БНР і міністрам замежных спраў быў прызначаны Антон Луцкевіч. Першапачаткова ў склад урада ўвайшлі прадстаўнікі толькі беларускіх сацыялістычных партый, якія дамагаліся хутчэйшага склікання Устаноўчага Сейма Беларусі[10]. Але пачатак працы Мірнай канферэнцыі ў Парыжы 18 студзеня 1919 года некалькі змяніў намаганні ўрада БНР, які рушыў справу міжнароднага прызнання БНР. Ужо 22 студзеня ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі на імя старшыні Парыжскай мірнай канферэнцыі Жоржа Клемансо быў накіраваны Мемарандум, у якім паведамлялася пра шматвяковы гістарычны шлях беларускага народа і этнічна-гістарычныя межы беларускай тэрыторыі, на якой пражывала большасць насельніцтва краіны. Кіруючыя органы таксама былі прадстаўлены ў тэксце Мемарандума, з якога вынікала, што найвышэйшая ўлада Беларусі — Рада Усебеларускага з’езду — была выбрана народнымі дэпутатамі на дэмакратычных асновах і перададзена Радзе Народных Міністраў. Урад БНР прасіў дапусціць Беларускую

[5] *Маніхвэст Часоваго Работніча-Селянскаго Савецкаго Правіцяльства Беларусі*, „Весткі часоваго работніча-селянскаго Радаваго (Советского) Ураду Беларусі”, нядзеля 19 студзеня (января) 1919 г., № 1.

[6] В. Снапковский, *Государственные границы Беларуси: сб. документов и материалов в двух томах*, сост.: В. Снапковский [и др.], Минск 2012, т. 1, с. 74-75.

[7] Урад Беларускай Савецкай Незалежнай Рэспублікі — адна з назваў рэспублікі, якія сустракаюцца ў тэксце Маніхвэста 1 студзеня 1919 г.

[8] Т. Довнар, *Историческое развитие белорусского конституционализма*, [у:] *Конституции Республики Казахстан — 15 лет: Материалы Междунар. науч.-практ. конф., Минск 10 сентября 2010 г.*, Минск 2010, с. 56-57.

[9] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі: у 2 кн.*, уклад. С. Шупа, Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага 1998 (далей: Архівы БНР), т. 1, кн. 1, № 1137, с. 295-296.

[10] Тамсама, с. 302-309.

дэлегацыю на канферэнцыю і аказаць падтрымку будаўніцтву нацыянальнай дзяржавы[11].

На пачатку беларусы не атрымалі запрашэння да ўдзелу ў Парыжскай мірнай канферэнцыі і не маглі лічыць на якое-небудзь міжнароднае прызнанне, але палітычныя погляды арганізатараў канферэнцыі неўзабаве змяніліся. Гэта было адзначана нават польскай дэлегацыяй, якая была вымушана змяніць план сваёй першапачатковай тэрытарыяльнай праграмы на ўсходзе Еўропы. Польскі палітычны дзеяч і дыпламат Эразм Пілтц у сваім звароце да старшыні Камітэта па справах тэрыторыі апісваў гэта наступным чынам:

> Яшчэ нядаўна стаўленне французскага ўрада да гэтых нацыянальнасцяў было зусім іншым, да таго ж яно было вельмі разнастайным, яно было ў адносінах да некаторых непрыязным, у адносінах да іншых узаемным або негатыўным [...]. Сёння прадстаўнікі гэтых народаў знаходзяцца ў Парыжы афіцыйна, лічацца ўпаўнаважанымі пасланнікамі. Даюцца ім далёка ідучыя абяцанні[12].

Беларуская Дэлегацыя (франц. — *Delegation de la Ruthénie Blanche*) здолела прыступіць да ўдзелу ў Мірнай канферэнцыі ў красавіку-траўні 1919 года, размясціўшыся ў гатэлі Метраполія, які знаходзіўся ў Парыжы, будынак 37 па Першай вуліцы Франсуа (37, rue François Ier)[13]. Праз некаторы час на бланках дэлегацыі з'явілася дадатковае словазлучэнне Дэмакратычная Рэспубліка, у выніку чаго сфарміравалася назва — *Дэлегацыя Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі*, і змяніўся адрас дэлегацыі: 24, Rue Bayard, Paris VIII° (tél. passy 19-62)[14]. Старшынёй дэлегацыі з'яўляўся старшыня Рады Міністраў і міністр замежных спраў Антон Луцкевіч. Акрамя яго ў Парыжы працаваў нядаўна прызначаны міністр абароны палкоўнік Яўген Ладноў. Адзначыць належыць, што іншыя ўдзельнікі Беларускай дэлегацыі не ўваходзілі ў склад урада[15].

[11] Архівы БНР, № 1170, т. 1, кн.1, с. 327; RA, ERA.1619.1.21, л. 4-15, л. 17-21, пераклады Мемарыяла на рускую і ангельскую мовы.

[12] Archiwum Akt Nowych w Warszawie (далей: AAN), zesp. 390, sygn.18: Akta Erazma Piltza, c. 14.

[13] RA, ERA. 1619.1.21., л. 16: Ліст кіраўніка Дэлегацыі БНР Антона Луцкевіча кіраўніку Эстонскай Дэлегацыі 26 траўня 1919 г.

[14] RA, ERA. 1619.1.21: Дакументы, адрасаваныя Эстонскай Дэлегацыі на Мірнай канферэнцыі ў Парыжы , л. 1-3 (знаходзяцца там візітныя карткі А. Азнабішына, К. Кандратовіча і Л. Баркова).

[15] RA, ERA. 1619.1.21, c. 25: La composition de la délégation Blanc-Ruthénienne. Paris, June 1919.

У той самы час урад БНР імкнуўся рэалізаваць магчымасць і наладзіць стасункі з бліжэйшымі суседзямі, м.інш. Літвой. 14 траўня 1919 года мандат паўнамоцнага прадстаўніка ўрада БНР на правядзенне перамоў з урадам Літвы атрымаў сакратар Рады Рэспублікі Пятро Крэчэўскі[16]. Але на канферэнцыі Луцкевіч быў зацікаўлены праектам федэратыўнай дзяржавы з палякамі, дзеля чаго выехаў з Парыжа ў Варшаву[17]. Генерал ад інфантэрыі былой Расійскай імператарскай Арміі Кіпрыян Кандратовіч, які таксама ўвайшоў у склад Беларускай дэлегацыі, узяў кірунак на стварэнне праекта ваеннаабарончага саюза паміж Чорным і Балтыйскім морамі, чым вельмі зацікавіліся ўдзельнікі Мірнай канферэнцыі ў Парыжы ад Эстоніі[18]. Праект ваеннага саюза быў падрыхтаваны і накіраваны дэлегатам ад Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Украіны, а пазней трапіў і да фінаў[19]. У жніўні 1919 года з'явіўся праект палітычнага пагаднення паміж Беларускай Народнай Рэспублікай і Украінскай Народнай Рэспублікай[20].

Многія краіны Еўропы ў 1919 годзе выразілі згоду на знаходжанне дыпламатычных місій і прадстаўніцтвы БНР, што патрабавала стварэння агульнага кіруючага асяродка. Разам з тым, амаль увесь гэты год праца Рады Рэспублікі не вялася. Толькі ў астатняй дэкадзе верасня, пасля ўваходу польскай арміі ў Мінск, было прапанавана „аднаўленне на тэрыторыі Беларусі, занятай польскімі войскамі, чыннасці дзяржаўных органаў Беларускай Народнай Рэспублікі — Рады Рэспублікі і яе Урада"[21]. Але ж і гэты палітычны праект закончыўся трагічна. 13 снежня 1919 года на надзвычайным сходзе была створана Найвышэйшая Рада, у якую ўвайшлі Янка Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кузьма Цярэшчанка, Язэп Лёсік і Аляксандр Уласаў. Найвышэйшая Рада прызначыла Кабінет Міністраў, якім даручыла кіраваць А. Луцкевічу[22]. У той жа самы дзень на сесіі Рады Рэспублікі была выбрана Народная Рада, якая складалася з П. Крэчэўскага, Васіля Захаркі, Палуты Бадуновай, Язэпа

[16] Архівы БНР, № 1270, т. 1, кн. 1, с. 376-378.

[17] Я. Міранові‌ч, *Праблема беларускай дзяржаўнасці на мірнай канферэнцыі ў Парыжы*, [у:] *1917 год у гістарычных лёсах Беларусі. Зборнік матэрыялаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі Мінск, 30 лістапада — 1 снежня 2017 г.*, Мінск 2017, с. 55.

[18] RA, ERA. 1619.1.4, л. 5-8: Генерал Кандратовіч. Парыж, 21 траўня 1919 года. Сакрэтна.

[19] RA, ERA. 1619.1.21, л. 26-27: Сакрэтна. Праект. Парыж, 1 чэрвеня 1919 года.

[20] Архівы БНР, № 1290, т. 1, кн.1, с. 389-390.

[21] Архівы БНР, № 1360, т. 1, кн. 1, с. 433-435.

[22] Архівы БНР, № 1561, т. 1, кн. 1, с. 530-536.

Мамонькі, Навума Козіча. Старшынёй урада, які сфарміравала Народная Рада, стаў Вацлаў Ластоўскі[23]. Такім чынам, прадстаўнікі БНР сфарміравалі дзве Рады, кожная з якіх прызначыла свой Кабінет Міністраў. А. Луцкевіч амаль адразу выехаў у Польшчу, дзе з пачатку 1920 года праводзіў працу эміграцкага ўрада. Народная Рада і ўрад В. Ластоўскага ў лютым 1920 года апынуліся спачатку ў Берліне, а затым трапілі ў Коўна[24]. У Парыжы пытаннямі Беларускай дэлегацыі займаўся толькі палкоўнік Ладноў.

Архіўныя дакументы, апублікаваныя разам з гэтым артыкулам, адлюстроўваюць праблематыку існавання двух урадаў БНР на эміграцыі, і найперш адсутнасць накіраванай дзейнасці абодвух палітычных груп на ўзаемнае прымірэнне і агульную працу. Прыкладам таму можа быць постаць Я. Ладнова, які без яго згоды быў абраны міністрам закардонных спраў кабінета В. Ластоўскага[25], але падтрымліваў палітычны кірунак А. Луцкевіча і сталыя зносіны з астатнім, атрымаўшы паўнамоцтва Надзвычайнага Паўнамоцніка ўрада Найвышэйшай Рады пры Урадзе Францыі[26]. Акрамя таго, у лютым 1920 года, калі А. Луцкевіч атрымаў адмову на дазвол выехаць з Варшавы ў Парыж, палкоўнік Ладноў рабіў усе магчымыя крокі, каб інфармаваць еўрапейскія краіны і спрыяць прыезду Луцкевіча ў Францыю. Тэкст пратэсту і звароту да дыпламатычных прадстаўнікоў дзяржаў Антанты ў Польшчы, якія складаў А. Луцкевіч на пачатку зімы 1920 года, раней былі апублікаваны з перакладам на беларускую мову[27]. Арыгінальны французскі тэкст з пасведчаннем згоднасці арыгіналу за подпісам палкоўніка Я. Ладнова і яго суправаджальны ліст друкуюцца ўпершыню. Так, 24 лютага 1920 года палкоўнік Ладноў накіраваў да старшыні Эстонскай дэлегацыі ў Парыжы наступны зварот:

> Паважаны Спадар Прэзідэнт,
>
> Маю гонар перадаць вашаму Правасхадзіцельству копію пратэсту старшыні нашай дэлегацыі ў Парыжы, спадара Антуана Луцкевіча, Старшыні Савета Міністраў і міністра замежных спраў Беларусі[28], а таксама

[23] Архівы БНР, № 1577, т. 1, кн. 1, с. 543-544.

[24] Я. Мірановіч, *Праблема беларускай дзяржаўнасці*, с. 55.

[25] Архівы БНР, № 1577, т. 1, кн. 1, с. 544.

[26] Архівы БНР, № 1577, т. 1, кн. 1, с. 588-589; тамсама № 1695, с. 593-595; № 1860, с. 664-668.

[27] Архівы БНР, № 1836, т. 1, кн. 1, с. 652-653; тамсама № 1896, с. 678.

[28] Пры перакладзе на беларускую мову выкарыстана змястоўнае значэнне назвы *Беларусь*; у арыгінале прыведзеных ніжэй тэкстаў дакументаў сустрака-

мемарандум Беларускай дэлегацыі на мірнай канферэнцыі, які тычыцца прызнання незалежнасці Беларускай дзяржавы і яго законных патрабаванняў.

Прашу прыняць, Спадар Старшыня, запэўніванні ў маёй высокай павазе.

За старшыню дэлегацыі,

Палкоўнік Ладноў"[29].

У сваіх лістах да Луцкевіча палкоўнік Ладноў абяцаў накіраваць такія звароты разам з пратэстам „куды толькі будзе магчыма"[30]. Але эстонскі напрамак у той час быў не самы лепшы для зваротаў пра дапамогу. На пачатку лютага 1920 года Эстонія і РСФСР падпісалі мірнае пагадненне. Эстонцы былі занятыя будаваннем сваёй будучыні, а паведамленне пра мір з Расіяй не адразу стала шырока вядомай навіной. Першым з двух прэм'ераў прызнанне незалежнасці Эстонскай Рэспублікі выказаў В. Ластоўскі разам з Кастусём Езавітавым і Аляксандрам Вальковічам, якія ў той час працавалі на балтыйскім кірунку. 7 красавіка 1920 года ў сваім *Lettre de creance*[31] яны пісалі:

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі ад імя беларускага народа, прызнае незалежнасць Эстонскай Дэмакратычнай Рэспублікі і шчыра жадае росквіту Эстонскай дзяржаве, выказваючы ўпэўненасць у тым, што два суседніх народа Эстоніі і Беларусі заўсёды будуць падтрымліваць самыя сяброўскія адносіны.

В. Ластоўскі

Старшыня Савета Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

К. Езавітаў

Міністр Замежных Спраў.

А. Вальковіч

Часовы кіраўнік канцылярыі Савета Міністраў[32].

юцца розныя французскамоўныя формы: *Republique Democratique de la Russie (Ruthénie) Blanche* ; *Russie-Blanche* ; *Blanc-Russien* ; *République Démocratique Blanche-Ruthénienne* ; *Ruthénie-Blanche* ; *Blanc-Ruthénien* ; *République Démocratique de la Ruthénie Blanche* ; *République Démocratique de la Ruthénie Böanshe*, якія заменены не даслоўным тлумачэннем, але толькі сэнсавым.

29 RA, ERA. 957.11.274, p. 49.

30 Архівы БНР, № 1860, с. 664.

31 Раней апублікаваны пад назвай *„Грамата"* на беларускай мове ў: Архівы БНР, № 1975, с. 715. Тэкст некалькі адрозніваецца ад французскага *Lettre de creance*.

32 RA, ERA. 1622. 1. 68, p. 1.

Ліст з прызнаннем незалежнасці Эстоніі трапіў да адрасата, але Беларусь не была далучана да ліку краін, якія прызналі Эстонію дэ-факта і дэ-юрэ, калі складалася адпаведнае паведамленне да Лігі Народаў аб прызнанні эстонскага суверэнітэту з боку еўрапейскіх краін[33]. Але гэта не стала перашкодай да імкнення ўсталяваць адносіны з краінамі Балтыі і стаць удзельнікамі саюза, магчымасць існавання якога абмяркоўвалася 29 ліпеня 1920 года ў Латвіі на Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў. На канферэнцыю прыбылі прадстаўнікі Польшчы, Фінляндыі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, а таксама дэлегацыі Украінскай Народнай Рэспублікі[34]. Урад В. Ластоўскага таксама накіраваў сваіх дэлегатаў. Тэкст паўнамоцтва Беларускай дэлегацыі на Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў, адрасаваны прэзідэнту Канферэнцыі ў перакладзе на беларускую мову друкуецца ніжэй:

Спадар Прэзідэнт,
Урад Беларускай Народнай Рэспублікі даручыў спадару Я. Чарапуку, перакладчыку В. Пігулеўскаму, інжынер-механіку С. Мінцу і інжынеру А. Галавінскаму прадстаўляць Беларусь на Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў у Рызе.
Урад Беларускай Народнай Рэспублікі ўпэўнены, што Канферэнцыя Балтыйскіх дзяржаў, якая складаецца з прадстаўнікоў усіх дружалюбных і суседніх краін, з мэтай абароны агульных інтарэсаў і на прынцыпах справядлівасці, прызнае і падтрымае волю народа Беларусі да яго суверэнітэту і палітычнай незалежнасці.
Прашу прыняць, спадар Прэзідэнт, выраз маёй высокай павагі.
Подпіс: Ластоўскі.
Старшыня Савета Міністраў і намеснік
міністра замежных спраў[35].

Прадстаўнікі БНР не дасягнулі сваіх мэт падчас Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў, паколькі ў жніўні 1920 года ў Рызе былі пачаты мірныя перагаворы паміж РСФСР, Савецкай Украінай і Польшчай. Літва і Латвія да таго часу ўжо падпісалі мірныя дамовы з РСФСР, і беларускае пытанне прыняло другое значэнне. Канчаткова справа ўдзелу

[33] RA, ERA. 1622. 1. 68, p. 2-3.
[34] RA, ERA. 957.11.672, л. 5: R.D.U, Ministre des Affaires Etrangères 28 Juillet 1920, Plein-Pouvoir.
[35] RA, ERA. 957.11.672, л. 7: République Démocratique de la Russie Blanche. Ministère des Affaires étrangères. 29 Juillet 1920. No 376.

Беларускай дэлегацыі ў Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў, а таксама ў іх Саюзе вырашылася 23 жніўня, калі літоўская дэлегацыя прагаласавала супраць удзелу Беларускай дэлегацыі ў канферэнцыі. Абгрунтаванне такога рашэння было складзена да палітычнай камісіі канферэнцыі на нямецкай мове, пераклад якога прыводзіцца ніжэй:

> Дэклярацыя літоўскай дэлегацыі
> адносна прадстаўнікоў Беларусі.
>
> З прычыны таго, што Беларусь яшчэ не ўтварыла дэ-факта дзяржавы і што меркаваны ўрад Беларусі, ад імя якога пададзена заява аб далучэнні да Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў, павінна разглядацца толькі як яе палітычная група, а не як дэ-факта дзяржава, літоўская дэлегацыя не можа галасаваць за ўдзел дэлегацыі Беларусі ў Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў.
> 19/VIII.1920. (Подпіс) Доктар Ю. Шаўліс[36].

Належыць таксама адзначыць, што Дэкларацыяй аб Незалежнасці 31 ліпеня 1920 года была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі, незалежнасць і суверэннасць якой былі прызнаны 16 студзеня 1920 года падчас падпісання Саюзнай умовы з РСФСР. Кіраўніцтва РСФСР цалкам змяніла погляды на справы Беларускай Народнай Рэспублікі, выказала катэгарычнае непрызнанне ўрада В. Ластоўскага і адмовілася ад перамоў з прадстаўніком урада БНР В. Захаркай, накіраваным у Маскву[37]. Крызіс, які цягнуўся паміж прадстаўнікамі БНР на эміграцыі ў 1920 годзе адлюстраваны ў ніжэйпрыведзеных архіўных дакументах.

**Summary**

**The Problem of Recognizing of the Governments of the Belarusian People's Republic, in 1920 According to Documents from the National Archives of Estonia**

This article presents the issues of the functioning in exile in 1920 of the two governments of the Belarusian People's Republic, formed as a result of a political split in mid-December 1919. The material is based on archival documents stored in the National Archives of Estonia.

**Keywords:** The Belarusian People's Republic, the Belarusian delegation, the Baltic States, government recognition, political groups.

[36] RA, ERA. 957. 11. 672, p. 16.
[37] А. Чернякевич, *БНР. Триумф побежденных*, Минск 2018, с. 177.

**Streszczenie**

**Problem międzynarodowego uznania rządów BRL w 1920 roku w świetle dokumentów z Archiwum Narodowego Estonii**

Niniejszy artykuł odzwierciedla problemy funkcjonowania na emigracji dwóch rządów Białoruskiej Republiki Ludowej w 1920 roku, powstałych w wyniku rozłamu politycznego w połowie grudnia 1919 roku. Materiał oparty jest na dokumentach archiwalnych przechowywanych w Archiwum Narodowym Estonii.

**Słowa kluczowe:** Białoruska Republika Ludowa, delegacja białoruska, kraje bałtyckie, uznanie rządu, grupy polityczne.

**Hanna Slavina** — magister historii i prawa, doktorantka Szkoły Doktorskiej Nauk Humanistycznych Uniwersytetu w Białymstoku. Swoje zainteresowania badawcze skupia wokół historii nowożytnej, podmiotów stosunków międzynarodowych i prawa Białorusi oraz historii państw poradzieckich.

## Дакументы:
## Суправаджальны ліст палкоўніка Ладнова старшыні Эстонскай дэлегацыі на Мірнай канферэнцыі ў Парыжы за 24 лютага 1920 (Парыж)

DELEGATION
DE LA
REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE
DE LA RUSSIE (Ruthénie) BLANCHE Paris , le 24 Février 1920 .

24. Rue Bayard , Paris VIII°
TéL . PASSY 19-62
№116

Monsieur le Président ,

J'ai l'honneur de transmettre ci-inclus à Votre Excellence copie de la protestation du Président de notre Délégation à Paris , Monsieur Antoine Loutskievitch, Président du Conseil des Ministres et Ministre des Affaires Etrangères de la Russie-Blanche, ainsi qu'un mémoire de la Délégation de la Russie-Blanche à la Conférence de la Paix, concernant la reconnaissance de l' indépendance de l'Etat Blanc-Russien et ses revendications légitimes .

Veuillez agréer, Monsieur le Président , l'assurance de ma plus haute considération .

Pour la Président de la Délégation ,
Le Colonel : Ladnoff

A Son Excellence
Monsieur le Président de la Délégation
Esthonienne.

DÉLÉGATION
DE LA
RÉPUBLIQUE DÉMOCRATIQUE
DE LA RUSSIE (RUTHÉNIE) BLANCHE

24, RUE BAYARD, PARIS VIII°.
TÉL. PASSY 13-62.

№116

49

Paris, le 24 Février 1920.

Monsieur le Président,

J'ai l'honneur de transmettre ci-inclus à Votre Excellence copie de la protestation du Président de notre Délégation à Paris, Monsieur Antoine Loutskievitch, Président du Conseil des Ministres et Ministre des Affaires Etrangères de la Russie-Blanche, ainsi qu'un mémoire de la Délégation de la Russie-Blanche à la Conférence de la Paix, concernant la reconnaissance de l'indépendance de l'Etat Blanc-Russien et ses revendications légitimes.

Veuillez agréer, Monsieur le Président, l'assurance de ma plus haute considération.

Pour le Président de la Délégation,
Le Colonel: Ladnoff

A Son Excellence
Monsieur le Président de la Délégation
Esthonienne.

RA, ERA. 957.11.274, p. 49.

**Пасведчаная палкоўнікам Ладновым копія звароту старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча да дыпламатычных прадстаўнікоў Францыі, Англіі, Італіі і Румыніі ў Варшаве (люты 1920 г.)**

Copie.

Aux Ambassadeurs de France, d'Amérique , d'Angleterre d'Italie et de Roumanie auprès du Gouvernement Polonais à Varsovie.

Pendant mon séjour à Paris comme Président de la Délégation du Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne à la Conférence de la Paix, j'avais une entrevue avec l'ancien Président du Conseil des Ministres de Pologne – Monsieur Paderevski au sujet des rapports entre les Etat de la Pologne et la Ruthénie-Blanche, liés avec l'occupation d'une partie du territoire de la Ruthénie-Blanche par l'armée polonaise.

Le résultat de ces pourparlers fut l'invitation de venir à Varsovie, qui m'a été transmise par l'Ambassade polonaise au nom de Monsieur Paderevski, parti de retour à Varsovie. J'ai reçu cette invitation vers le 15 Août 1919.

L'Ambassade polonaise conformément à l'ordre donné par Monsieur Paderevski a posé le visa diplomatique sur mon passeport diplomatique, donné par mon Gouvernement.

Après avoir obtenu les visas français, suisse et tscheco-slovaque, je suis parti à la fin du mois d' Août en Pologne.

A Varsovie pendant l'entrevue avec le sous-secrétaire d'Etat – Monsieur Skrzynski, remplaçant alors Monsieur Paderevski retourné à Paris, ainsi que pendant quelques audiences officielles chez le Chef d'Etat Monsieur Pilsoudski, je continuais les pourparlers, commencés avec Monsieur Paderevski.

A le dernière audience le 3 Janvier 1920 au Belvedère Monsieur Pilsoudski m'a déclaré, qu' une réponse positive aux questions posées par moi, il ne pourra me donner qu'après le retour de Paris du nouveau Ministre des Affaires Etrangères - Monsieur Patek, qui devait arriver vers la mi-janvier . Après cette audience j'ai reçu un télégramme urgent de la Délégation Blanche-Ruthénienne à la Conférence de la Paix, qui me rappelait à Paris et apprenant en même temps, que l'arrivée de Monsieur Patek se retarde, j'ai résolu de retourner à Paris le plus tôt possible.

Le 9 Janvier Monsieur le Ministre de France à Varsovie a posé le visa diplomatique après avoir reçu l'autorisation de son Gouvernement.

Je ne suis adressé ensuite au Ministère des Affaires Etrangères de Pologne pour obtenir le visa polonais, ais sous divers prétextes on me remettait de viser mon passeport ou de me donner un document équivalent.

Enfin le 5 Février après le retour Monsieur Patek le Ministère m'a déclaré, qu'il refuse absolument de me donner la permission de la Pologne.

Ce refus du Gouvernement Polonais, ayant évidemmat pour but de me priver de la possibilité d'éclairer les Gouvernements de l'Entente sur la question blanche-ruthénienne à la veille de sa solution, ne peut être considéré que comme une provocation et abus de confiance envers moi du Gouvernement Polonais, qui m'a invité à Varsovie pour des pourparlers et qui m'a à présent de facto interné.

Déposant la plus résolue protestation aux Grandes Puissances de la violence commise envers moi par le Gouvernement Polonais, je m’adresse au du Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne à Votre Excellence avec prière de me prêter de douze millions de blancs-ruthéniens, qui souffrent sous le double joug des occupations bolcheviste et polonaise.

Président du Conseil des Ministres et
Ministre des Affaires Etrangères,

Signé : A. Loutskievitch.
Pour copie conforme : Colonel Ladnoff

53

Copie.

Aux Ambassadeurs de France, d'Amérique ,d'Angleterre d'Italie et de Roumanie auprès du Gouvernement Polonais à Varsovie.

Pendant mon séjour à Paris comme Président de la Délégation du Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne à la Conférence de la Paix, j'avais une entrevue avec l'ancien Président du Conseil des Ministres de Pologne - Monsieur Paderevski au sujet des rapports entre les Etats de la Pologne et de la Ruthénie-Blanche, liés avec l'occupation d'une partie du territoire de la Ruthénie-Blanche par l'armée polonaise.

Le résultat de ces pourparlers fut l'invitation de venir à Varsovie, qui m'a été transmise par l'Ambassade polonaise au nom de Monsieur Paderevski, parti de retour à Varsovie. J'ai reçu cette invitation vers le I5 Août I9I9.

L'Ambassade polonaise conformément à l'ordre donné par Monsieur Paderevski a posé le visa diplomatique sur mon passeport diplomatique, donné par mon Gouvernement.

Après avoir obtenu les visas français, suisse et tscheco-slovaque, je suis parti à la fin du mois d'Août en Pologne.

54

A Varsovie pendant l'entrevue avec le sous-secrétaire d'Etat - Monsieur Skrzynski, remplaçant alors Monsieur Paderevski retourné à Paris, ainsi que pendant quelques audiences officielles chez le Chef d'Etat Monsieur Pilsoudski, je continuais les pourparlers, commencés avec Monsieur Paderevski.

A la dernière audience le 3 Janvier 1920 au Belvedère Monsieur Pilsoudski m'a déclaré, qu'une réponse positive aux questions posées par moi, il ne pourra me donner qu'après le retour de Paris du nouveau Ministre des Affaires Etrangères - Monsieur Patek, qui devait arriver vers la mi-janvier. Après cette audience j'ai reçu un télégramme urgent de la Délégation Blanche-Ruthénienne à la Conférence de la Paix, qui me rappelait à Paris et apprenant en même temps, que l'arrivée de Monsieur Patek se retarde, j'ai résolu de retourner à Paris le plus tôt possible.

Le 9 Janvier Monsieur le Ministre de France à Varsovie a posé le visa diplomatique après avoir reçu l'autorisation de son Gouvernement.

Je me suis adressé ensuite au Ministère des Affaires Etrangères de Pologne pour obtenir le visa polonais, mais sous divers prétextes on me remettait de viser mon passeport ou de me donner un document équivalent.

Enfin le 5 février après le retour de Monsieur Patek

55

le Ministère m'a déclaré, qu'il refuse absolument de me donner la permission de quitter la Pologne.

Ce refus du Gouvernement Polonais, ayant évidemmet pour but de me priver de la possibilité d'éclairer les Gouvernements de l'Entente sur la question blanche-ruthénienne à la veille de sa solution, ne peut être considéré que comme une provocation et abus de confiance envers moi du Gouvernement Polonais, qui m'a invité à Varsovie pour des pourparlers et qui m'a à présent de facto interné.

Déposant la plus résolue protestation aux Grandes Puissances de la violence commise envers moi par le Gouvernement Polonais, je m'adresse au nom du Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne à Votre Excellence avec prière de me prêter protection et me donner la possibilité de défendre les intérêts de douze millions de blancs-ruthéniens, qui souffrent sous le double joug des occupations bolcheviste et polonaise.

Président du Conseil des Ministres et
Ministre des Affaires Etrangères,

Signé: A.Loutskievitch.

Pour copie conforme: Colonel Ladnoff

RA, ERA. 957.11.274, p. 53-55.

***Lettre de creance***
**аб прызнанні незалежнасці Эстонскай Рэспублікі, складзенае В. Ластоўскім, К. Езавітавым і А. Вальковічам (7 красавіка 1920 г.)**

REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE
DE LA RUTHENIE — BLANCHE .
CONSEIL DES MINISTRES.

Le 7 avril 1920.
No. 143.

L E T T R E DE C R E A N C E.

Par la présente le Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne, au Nom du Peuple Blanc-Ruthénien , reconnaît l’ Indépendance de la République Démocratique Estonienne et veut sincèrement de la prospérité à l’ Etat Estonien, en exprimant l’ assurance, que deux Peuples voisins d’ Estonie et de la Ruthénie-Blanche pour toujours conserveront les rapports les plus amicaux.

( signé ) W. Lastouski
Président du Conseil des Ministres de la République
Démocratique Blanche-Ruthénienne.

( signé ) K. Jezouvitov
Ministre des Affaires Etrangères.

( signé ) А. Вальковіч
Chef temporaire de la Chancellerie du Conseil des Ministres.

RA, ERA. 1622. 1. 68, p. 1.

**Паўнамоцтва старшыні Рады Народных Міністраў і часовага міністра замежных спраў Ластоўскага прадстаўнікам Беларускай Народнай Рэспублікі на Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў за 29 ліпеня 1920 г. (Рыга)**

République Démocratique
de la Russie Blanche.
Ministère des Affaires Etrangères.
Le 29 juillet 1920.

No. 376.

Mnisieur [Monsieur] le Président ,

Le Gouvernement de la République Démocratique de la Ruthénie Blanche a chargé M. M. J. Tcherepouk , le dicteur V. Pigoulevsky , l'ingénieur-mécanicien S. Mints et l' ingénieur A. Golovinsky de représenter la Ruthénie-Blanche à la Conférence des Etats Baltiques à Riga .

En le portant à votre connaissance, le Gouvernement de la République Démocratique de la Ruthénie Böanshe croit que la Conférence des Etats Baltiques, se composant de représentsnts de tous Etats amis et voisins , ayant pour but la défence des intérêts communs et se basant sur le droit de la Justice reconnaitra et soutiendra la volonté du Peuple Blanche-Ruthénie à sa souveraineté et l'indépendance politique.

Veuillez agréer Monsieur le président, l'expression de ma plus haute considération.

Signé : Lastovski.

Président du Conseil des Ministres et remplaçant
du Ministre des Affaires Etrangères .

A Monsieur le Président
de la Conférence des
Etats Baltiques à Riga.

RA, ERA. 957. 11. 672, p. 7.

## Дэкларацыя Літоўскай дэлегацыі на Канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў адносна беларускіх прадстаўнікоў (19 жніўня 1920 г.)

Deklaration der litauischen Delegation
betreffend weissruthenische Vertreter.

In Anbetracht dessen, dass Weissruthenien noch keinende facto existierenden Staat gebildet hat und dass die angebliche weissruthenische Regierung, deren Namen der Antrag zu zur Aufnahme in die Konferenz der baltischen Staaten gestellt worden ist, nur al seine politische Gruppe, keinenfalls aber als eine Regierung de facto existierenden Staat zu betrachten ist, — ist die litauische Delegation nicht imstande für die Aufnahme der weissruthenischen Delegation in die Konferenz der baltischen Staaten zu atimmen.

19/VIII.1920.

(gez.) Dr. J. Şaulys [*Jurgis Šaulys*]

16

Deklaration der litauischen Delegation
betreffend weissruthenische Vertreter.

In Anbetracht dessen, dass Weissruthenien noch keinende facto existierenden Staat gebildet hat und dass die angebliche weissruthenische Regierung, in deren Namen der Antrag st zur Aufnahme in die Konferenz der baltischen Staaten gestellt worden ist, nur als eine politische Gruppe, keinenfalls aber als eine Regierung de facto existierenden Staate zu betrachten ist, – ist die litauische Delegation nicht imstande für die Aufnahme der weissruthenischen Delegation in die Konferenz der baltischen Staaten zu stimmen.

19/VIII.1920.

(gez.) Dr.J.Saulys.

RA, ERA. 957. 11. 672, p. 16.

***Полацк у святле станаўлення гістарычных і нацыянальных форм беларускай дзяржаўнасці (IX-XX стст.): манаграфія*, Д. Дук і інш., Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2019, 132 с.: іл.**

Сучасная навуковая камунікатыўная рэчаіснасць у галіне гісторыі, на жаль характарызуецца тым, што частка навуковага прадукту трапляе да адмыслоўцаў са спазненнем. Яскравым прыкладам з'яўляецца калектыўная манаграфія па гісторыі Полацка IX-XX стст., падрыхтаваная і надрукаваная ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Аркадзя Куляшова ў 2019 годзе. Прачыталі мы яе толькі летась, праз тры гады. Калектыў аўтараў складаецца з двух вядомых асоб у беларускай навуцы (Ігар Марзалюк і Дзяніс Дук) і іх непасрэдных вучняў — кандыдатаў гістарычных навук: Яны Рыер (навуковы кіраўнік І. Марзалюк), Аляксандра Агароднікава і Юрыя Кежы (навуковы кіраўнік Д. Дук), а таксама будучых абароненых Аляксея Коца і Аляксандра Салаўёва (навуковы кіраўнік Д. Дук).

Аўтары калектыўнай манаграфіі даволі цікава і актуальна паставілі навуковую праблему і мэту — «характарыстыка ролі, статусу і значэння Полацка ў працэсе развіцця гістарычных і нацыянальных форм беларускай дзяржаўнасці на прыкладзе ключавых падзей, асоб і ўвасобленых гэтымі асобамі сімвалічных практыках, адлюстраваных у пісьмовых крыніцах і матэрыяльных аб'ектах гісторыка-культурнай спадчыны» (с. 3). І яшчэ — «(...) гістарычная памяць, традыцыі ўладных інстытутаў на працягу сярэдневякоўя (самая знакамітая — «старыны не рухаць, навіны не ўводзіць») і ідэнтычнасць насельніцтва Полацка ў новы і найноўшы час (да 1991 г.) — усё гэта з'яўляецца прадметам нашага даследавання» (с. 4). Паглядзім наколькі атрымалася аўтарам выканаць свой амбіцыйны праект. Адразу адзначым, што аўтары рэцэнзуемай манаграфіі трымаюцца квазінавуковага тэрміну «дзяржаўнасць» (распрацаваны ў ІГ НАН Беларусі). Нібы, «дзяржаўнасць — гэта ўнутраная патэнцыйная магчымасць этнанацыянальнай супольнасці і яе эліты, якая забяспечвае права і магчымасць працяглага самастойнага гістарычнага існавання і развіцця» (с. 3). Для сучаснай беларускай акадэмічнай і ўніверсітэцкай навукі вельмі характэрна выдумванне і ўжыванне размытых і неканкрэтных дэфініцый/паняцяў кшталту «дзяржаўнасць», які апісвае рысы характэрныя для дзяржаўных утварэнняў, але не сведчыць пра існаванне «дзяржавы».

Манаграфія складаецца з *Уводзінаў* (аўтар Дзяніс Дук), пяці глаў і *Заключэння* (аўтар Дзяніс Дук) ды *Бібліяграфічнага спісу.* У рэцэнзуемай

кнізе так шмат спрэчных, галаслоўных і не пацверджаных высноў, меркаванняў і сцвярджэнняў, банальных факталагічных і антрапанімічных памылак, што рэцэнзія пераўтварылася б у адмысловую кнігу з пытаннямі, абвяржэннямі і папраўкамі, не меншую па аб'ёме. Таму наша ўвага будзе скіравана на высвятленне агульных тэндэнцый і не дапушчальных для навуковых тэкстаў памылак. Ужо ў першай спасылцы аўтары калектыўнай манаграфіі вызначаюць, што для іх «паняцці „Русь" і „Руская зямля" з'яўляюцца канфесіонімамі (прыналежнасць да Рускай [Кіеўскай] мітраполіі) і палітонімам (дзяржаўна-генеалагічная агульнасць, створаная Рурыкавічамі)», абапіраючыся на высновы з кнігі І. Марзалюка «Людзі даўняй Беларусі: Этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X-XVII стст.)» (Магілёў 2002). Але чамусьці ўвесь час ужываюць не навуковы і спрэчны тэрмін «Старажытная Русь»[1].

Глава 1 — *«Станаўленне дзяржаўнасці: прастора, асобы і грамадства Полацка і Полацкай зямлі ў IX-XIII стст.»* падзяляецца на пяць падраздзелаў. Першы — 1.1. «Пачаткі і фарміраванне дзяржаўнай прасторы на тэрыторыі Беларускага Падзвіння» (аўтар Дзяніс Дук). Назва падраздзела не адпавядае зместу, які нагадвае сваёй мовай нейкае выступленне на мітынгу альбо публічным грамадскім сходзе. Для падмацавання сваіх «лозунгаў» аўтар амаль кожны абзац канчае спасылкамі на свае ранейшыя ўласныя тэксты. Асабліва ўражваюць наступныя словы — «у выніку развіцця пасадаў у сярэдзіне XI ст. плошча Полацка павялічваецца больш чым у дваццаць разоў і складае 200 гектараў. ***«Полацк у XI ст. пераўтвараецца ў буйнейшы горад на тэрыторыі Усходняй Еўропы і займае плошчу, якая пераўзыходзіць на той час па памерах усе гарады Старажытнай Русі. Полацк становіцца сталіцай магутнага дзяржаўнага ўтварэння — Полацкай зямлі»*** (вылучана аўтарам Д. Дукам). У падраздзеле так часта гаворыцца пра Полацкае княства (зямлю) «як першую беларускую дзяржаву», «магутнае дзяржаўнае ўтварэнне» і падобнае, дык думаем, варта было б напісаць, а чытачу было б цікава ведаць пра тое, што памеры Княства Рагвалода сярэдзіны X ст. складалі больш за 40 тыс. кв. км, а тэрыторыя

[1] Пра „Старажытную Русь" і „старажытнарускую народнасць" як ідэалагічныя канструкцыі збудаваныя ў СССР пад час дыктатуры Іосіфа Сталіна гл.: Н. Юсова, *„Давньоруська народність": зародження и становлення концепції радянській історичній науці (1930-ті — перша половина 1940-х рр..: Монографія*, Київ 2006; Г. Семянчук, *Ці існавала старажытнаруская народнасць альбо пра „калыску" беларускага народу?*, „Спадчына", 2003, № 6 (154), с. 9-22; ён жа, *Czy istniała narodowość staroruska?*, „Prace Komisji Wschodnioeuropejskiej PAU", Kraków 2010, t. XI, s. 57-70.

Полацкай зямлі ў канцы XI ст. была больш за 100 тыс. кв. км (памеры вызначаныя Генадзем Семянчуком[2]).

Другі падраздзел — 1.2. «Полацк: ад „града” да „горада”» (аўтар Дзяніс Дук). У дадзеным тэксце мы зноў сутыкаемся з практыкай складання наратыву з фрагментаў ранейшых публікацый аўтара. Адсюль пэўны хаос і алагічнасць, шмат паўтораў, нават з тэксту папярэдняга падраздзела. У прынцыпе, прапанаваная Д. Дукам візія сацыяльна-тапаграфічнага развіцця Полацка ўяўляе сабою агульнапрынятую канцэпцыю, якая распрацоўваецца ад часоў Аляксандра Ляўданскага беларускімі і расійскімі археолагамі (Леанід Аляксееў, Георгі Штыхаў, Сяргей Тарасаў), праўда, прызнаем на значна больш багатым археалагічным матэрыяле, выяўленым у прыватнасці аўтарам падраздзела ў апошнія дзесяцігоддзі.

Наступныя падрадзелы — 1.3. «Сімвалічныя аспекты рэпрэзэнтацыі ўлады полацкіх князёў Рагвалодавічаў» (аўтары Дзяніс Дук і Юры Кежа) і 1.4. «Абрад інтранізацыі полацкіх князёў Рагвалодавічаў: агульнае і адметнае» (аўтар Ю. Кежа) — з’яўляюцца перапрацаванымі і дапасаванымі да канцэпцыі калектыўнай манаграфіі фрагментамі кандыдацкай дысертацыі Юрыя Кежы[3]. Трэба прызнаць і з удзячнасцю адзначыць, што падобныя крокі далучэння шырокай навуковай публічнасці да высноў даследаванняў маладых навукоўцаў вельмі правільны і варты пераймання крок. Але такі шляхетны крок не забараняе крытычна прачытаць прапанаваныя тэксты. Мы не адмаўляем універсальнасць падобных важных і значных сацыяльных і сімвалічных з’яў як «рэпрэзэнтацыя ўлады» і «інтранізацыя ўлады» князёў Рагвалодавічаў у раннім сярэднявеччы. Толькі па прачытанні дадзеных тэкстаў засталося адчуванне пераймання думак і другаснасці высноў звязаных з памылковымі на наш розум метадалагічнымі і гістарыяграфічнымі пастулатамі савецкай пазітывісцкай і марксісцкай навукі.

Мы не адмаўляем магчымы варыянт падобнага практычнага выкарыстоўвання палітычных і сімвалічных дзеянняў і практык на Русі і ў прыватнасці ў Полацкім княстве. Але перакананыя, што пошук

[2] Г. Семянчук, *Пачатковы этап фарміравання тэрыторыі Полацкай зямлі (IX-X стст.)*, «Весці Акадэміі Навук БССР. Серыя грамадскіх навук», 1991, № 3, с. 66-74; ён жа, *Полацкае княства ў XI ст.: фармаванне дзяржаўнай тэрыторыі*, «Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў», 2016, № 2, с. 30-62.

[3] Ю. М. Кежа, *Станаўленне і развіццё княжацкай улады ў Полацкай зямлі X-XII стст.*: 07.00.02, Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі, Мінск 2017, 26 с., Бібліягр.: с. 21-23 (21 назв.).

параўнанняў ці аналогій на больш шырокай геаграфічнай прасторы (Польшча, Венгрыя, Чэхія, скандынаўскія каралеўствы — Данія, Нарвегія, Швецыя і нават дзяржавы на Брытанскіх астравах) прынамсі дазволілі б Дзянісу Дуку і Юрыю Кежы выявіць і паставіць новыя пытанні пра сацыяльна-палітычны лад Полацкага княства і яго функцыянаванне ў перыяд Русі. Адзначым таксама, што па-за ўвагай аўтараў дадзеных раздзелаў застаўся ўнікальны факт у гісторыі Полацкай зямлі — перыяд кіеўскага княжання Усяслава Брачыславіча.

Апошні раздзел — 1.5. «Еўфрасіння Полацкая і яе спадчына ў святле археалагічных даных» (аўтары Дзяніс Дук і Аляксей Коц). Ён уяўляе сабою спалучэнне фрагментаў і высноў з ранейшых тэкстаў аўтараў. Усё ў дадзеным раздзеле вельмі добра, сапраўды, выдатна рэпрэзентаваныя вынікі новых даследаванняў (дарэчы яны абсалютна змяняюць традыцыйныя ўяўленні па архітэктурнай планіроўцы Спаса-Праабражэнскай царквы), апісаныя і ўведзеныя ў навуковы зварот унікальныя артэфакты (пячаткі Еўфрасінні Полацкай). Але, варта адзначыць факт паводзінаў з боку беларускіх аўтараў дадзенага падраздзела, якія характарызуюцца словамі «адсутнасць навуковай этыкі». Здзіўляе, што сёння на Беларусі існуе практыка замоўчваць (ці скрываць) інфармацыю, што апошнія шэсць гадоў вельмі плённа, на самым сучасным навуковым узроўні разам з беларускімі археолагамі (галоўным чынам з Полацкага ўніверсітэта) археалагічныя даследаванні ўнікальнай Спаса-Праабражэнскай царквы Свята-Еўфрасіннеўскага манастыра праводзяць спецыялісты аддзела старажытнарускай архітэктуры Дзяржаўнага музея «Эрмітаж». Кіруе і непасрэдна ўдзельнічае ў дадзеных раскопках кіраўнік названага аддзела Яўген Торшын. Таму ў бібліяграфічным спісе калектыўныя артыкулы на дадзеную тэму пазначаны «Д. Дук [і інш.]», «И. В. Магалинский [и др.]»[4]. У выніку знаёмства з дадзенымі артыкуламі

[4] У дадзенай спасылцы мы свядома захавалі арыгінальнае біяграфічнае апісанне цікавых для нас пазіцый, як яны апісаны ў рэцэнзуемай манаграфіі: Д. Дук, *Спасціжэнне першапачатковай задумы архітэктара Полацкай Спаса-Прэабражэнскай царквы: па выніках даследаванняў 2015 года*, Д. Дук [і інш.], «Беларускі гістарычны часопіс», 2016, № 7, с. 5-16; И. В. Магалинский, *Предварительные результаты археолого-архитектурных исследований на территории Спасо-Преображенского храма Спасо-Евфросинниевского монастыря в городе Полоцке в 2018 году*, И. В. Магалинский [и др.], [у:] *Актуальные проблемы архитектуры Белорусского Подвинья и сопредельных регионов*, Новополоцк 2018, с. 45-50. І толькі адзін калектыўны артыкул інфармуе нас пра ўсіх аўтараў: Я. Торшын, Д. Дук, П. Зыкаў, А. Коц, *Спаса-Прэабражэнская царква ў Полацку: вынікі архітэктурна-археалагічных даследаванняў 2017 года*, «Беларускі гістарычны часопіс», 2019, № 2, с. 28-34.

атрымалася высветліць асоб, якія хаваюцца пад таямнічымі «інш.». Сааўтарамі Дзяніса Дука з'яўляліся Яўген Торшын, Алег Іаанісян, Пётр Зыкаў (усе з Санкт-Пецярбурга) і Аляксей Коц (Полацк). У сумесным артыкуле сааўтарамі Ігара Магалінскага з'яўляюцца Аляксей Коц (Полацк), Яўген Торшын і Пётр Зыкаў (з «Эрмітажа»). Буду шчырым — я сумняваюся, што сёння ў беларускай археалогіі знойдуцца спецыялісты падобнага ўзроўню, якія валадоюць адпаведнай кваліфікацыяй і вопытам даследаванняў культавай архітэктуры Беларусі раннехрысціянскага перыяду, выкарыстоўваюць сучасныя тэхнічныя і метадычныя сродкі. З кожным, хто гатовы аспрэчыць мае апошнія словы, адкрыты да навуковай дыскусіі.

Высновы да якіх прыйшлі аўтары главы 1-ай рэцэнзуемай манаграфіі не задавальняюць. Мы сцвярджаем, што нічога новага аўтары не прапануюць. Вось прыклады — «Працэс станаўлення Полацка як цэнтра дзяржаўнага ўтварэння на беларускіх землях пад назвай „Полацкая зямля" з IX ст. праходзіў на мясцовай славянскай (крывіцкай) аснове». Сёння толькі ў беларускай навуцы (дзе адсутнічае паняцце і культура дыскусіі) абсалютызавана як догма славянская прыналежнасць крывічоў. Па-другое, — дзяржаватворчых утварэнняў у IX ст. ва Усходняй Еўропе не існавала, адбываліся толькі працэсы, пацвярджэнне якіх прасочваецца ў археалагічным матэрыяле і лапідарных і няясных паведамленнях летапісных тэкстаў, напісаных у першым дваццацігоддзі XII ст.[5] Таксама, не задумваючыся (альбо свядома) аўтары прапагандуюць старамодны і антынавуковы «антынарманізм».

Чарговая выснова — «Полацк у XI ст. стаў найбуйнейшым горадам на тэрыторыі Усходняй Еўропы» — падобныя характарыстыкі вельмі спрэчныя. З кім параўноўваем, якія тыя абшары Усходняй Еўропы? Усё гэта нагадвае хваравітую «мегаламанію». Калі падобныя сцвярджэнні з'яўляюцца на старонках манаграфіі, якая прэтэндуе на навуковую, дык гэта больш нагадвае фармалізм і абыякавасць аўтараў. Яны пішуць дзеля таго, каб спадабалася альбо было зразумелым «апекунам» з адпаведных арганізацый і інстытуцый.

Яшчэ адзін прыклад — «полацкія князі Рагвалодавічы ў XI-XII стст. захавалі выключнае права кіравання Полацкай зямлёй і шанавалі калектыўную памяць пра родапачынальніка дынастыі — скандынаўскага князя Рагвалода (правільна конунга — Г. С.), князёў Брачыслава Ізяславіча і Усяслава Брачыславіча, пры якіх Полацкае княства як самастойная

[5] Г. Семянчук, *Пачаткі дзяржаватворчых працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў IX — пачатку XI ст.*, «Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў», Warszawa 2015, № 1, с. 14-44.

ўсходнеславянская дзяржава зведала найвышэйшы росквіт». Пакінем па-за ўвагай чарговую спрэчную дэфініцыю «самастойная ўсходнеславянская дзяржава» адносна Полацкага княства. Праўда, шкада, што надалей не выкарыстоўваецца беларускімі навукоўцамі вельмі трапная характарыстыка Полацкай зямлі часоў ранняга сярэднявечча, як *квазіімперыя*, дадзеная ў свой час польскім медыявістам Гэнрыхам Лаўмяньскім. Таксама, нам падаецца, што ў беларускай гістарыяграфіі трэба адыходзіць ад патроніма «Рагвалодавічы», абразлівага імяnaслова на полацкіх князёў, які з'явіўся пад час лютага і гвалтоўнага паходу кааліцыі Яраславічаў на чале з Мсціславам Уладзіміравічам Манамахавічам на Полацкае княства ў 1127 годзе[6]. Справа ў тым, што для сярэднявечча называць дынастыю «па кудзелі» было адступленнем ад нормы, прыніжэннем прайграных і пераможаных. Толькі «Ізяславічы», толькі гэтая радавая галіна паўнавартасныя ўладары Полацкага княства ў сярэднявеччы.

Таксама пытанне, чаму толькі ў XI-XII стст. полацкія князі захоўвалі выключнае права на кіраванне сваёй дзяржавай; а ў наступныя стагоддзі яны гэтае права згубілі? Але тады алагічным і не да месца ў рэцэнзуемай калектыўнай манаграфіі выглядае наступная другая глава (аўтар Яна Рыер).

На жаль, аўтары першага раздзела так і не вызначыліся — ці Полацкае княства гэта «самастойная ўсходнеславянская дзяржава», ці «першае дзяржаўнае ўтварэнне на беларускіх землях», альбо першая БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА. Пра апошняе слова аўтары нібы і не ведаюць, бо гэта не стасуецца і выпадае з канцэпцыі «дзяржаўнасці на беларускіх землях», распрацаванай у нетрах ІГ НАН Беларусі і прадстаўленае ў першым томе шматтомнага выдання пад назвай «Основы Белорусской государственности», напісанай на рускай мове.

Наступная, глава 2 — *Полацк у складзе ВКЛ: уладары і грамадства ў XIII-XV стст.* (аўтар Яна Рыер). Пасля знаёмства з аўтарэфератам кандыдацкай дысертацыі аўтара[7] мусім сцвярджаць, што гэта прыстасаваны да калектыўнай манаграфіі фрагмент дадзенай дысертацыі.

6 А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Два рассказа о Рогнеде, дочери Рогволода Полоцкого*, [в:] А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени у русских князей в X-XVI вв.*, Москва 2016, с. 335-354; Г. Семянчук, *Полацкая трагедыя 1127-1131 гадоў*, «Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў», Warszawa 2019, № 5, с. 6-29.

7 Я. А. Риер, *Правитель и общество на белорусских землях в XIII — первой трети XV вв.: основные механизмы политогенеза, легитимизации и сакрализации власти*: 07.00.02, Могилёв. гос. ун-т им. А. А. Кулешова, Могилёв, 2018, 27 с., Библиогр.: с. 23-24 (14 назв.).

Вельмі добра, бо часта тэксты дысертацый застаюцца толькі ўзбагачэннем фондаў адпаведных навуковых бібліятэк. Але высновы і палажэнні адносна Полацкага княства, якія аўтар (абараніла як патрабаванні да дысертацыі) і прадставіла ў рэцэнзуемай калектыўнай манаграфіі выклікаюць пытанні і заўвагі, а некаторыя вартыя большай увагі і новых абгрунтаванняў. Напрыклад, аўтар абапіраючыся на меркаванні Васіля Вароніна, сумняваецца ў даце 1307 год, як час падпарадкавання Полацкага княства ці ўваходжання яго ў склад ВКЛ (на нашу думку сумненні слушныя). А на яе думку канчаткова Полацкае княства згубіла сваю самастойнасць толькі ў 1396 годзе, калі вялікі князь Вітаўт прызначае першага полацкага намесніка Мантыгірда. Праўда, застаецца пытанне аб межах і магчымасцях так званай «самастойнасці» Полацкага княства ў складзе ВКЛ на працягу XIV ст.

З іншага боку шэраг высноў не пераконваюць. Адна з прычын гэта тэрміналагічная блытаніна. У адным месцы чытаем «на працягу XIV-XV стст. Полацк з'яўляўся цэнтрам буйнага ўдзельнага княства ў складзе ВКЛ» (с. 44); далей — «лавіраванне Ізяславічаў паміж рознымі вялікімі княствамі прывяло да таго, што, прызнаючы вярхоўную ўладу Гедымінавічаў, захоўваюць частку сваіх радавых зямель» (с. 47); і нарэшце — «нягледзячы на тое, што Андрэй Полацкі ідэнтыфікаваў сябе як вярхоўнага правіцеля, па сутнасці, суверэннай дзяржаўнай адзінкі (...)» (с. 50).

Дазволім сабе вялікую цытату агульнай высновы дадзенай главы (мова і стылістыка аўтара Яны Рыер): «Полацкае княства з першых этапаў фарміравання ВКЛ вылучалася ў параўнанні з астатнімі землямі Русі, якія сталі складанай часткай новай дзяржавы. Валоданне Полацкай зямлёй лічылася сучаснікамі самым каштоўным здабыткам. З князямі Полацка часоў ВКЛ даводзілася лічыцца не толькі новым літоўскім уладарам, іх прызнавалі і заходнія суседзі. Несумненна, што прычыну дадзенага феномена трэба шукаць у глыбокай гістарычнай традыцыі ўспрымання насельніцтвам беларускіх зямель Полацка як галоўнага культурнага і адміністрацыйнага цэнтра, вядомага з «даўніны», а яго ўладароў — сваімі абаронцамі. Легітымнасць іх праўлення, а таксама наяўнасць асаблівага статусу сярод іншых князёў не аспрэчвалася» (с. 57).

Трохі лагічных практыкаванняў — колькі было першых этапаў фармавання ВКЛ і якая іх храналогія; якімі рысамі Полацкае княства вылучалася ў параўнанні з астатнімі (дарэчы, якімі канкрэтна) землямі Русі. Шкада, не падкрэсліваецца факт, што князі Полацка часоў ВКЛ — гэта Гедымінавічы і Альгердавічы, прамыя нашчадкі літоўскага кунігаса Гедыміна, таму «новыя літоўскія ўладары» гэта родныя і зводныя

браты, а таксама пляменнікі полацкіх князёў, а заходнія суседзі — Тэўтонскі Ордэн і магістрат Рыгі, Рэвеля і іншых Ганзейскіх гарадоў. Праўда, у тэксце Яны Рыер няма ніводнага слова пра «ўсходніх суседзяў», так званыя Цвярскае, Маскоўскае і нават Смаленскае княствы. Гэта значыць, што яны не лічыліся з полацкімі князямі. І апошняе, як раз з XV ст. пачынаецца актыўны працэс (які скончыўся паспяхова ў сярэдзіне XVI ст.) ініцыяваны дзяржаўнымі каталіцкімі элітамі ВКЛ змінімалізаваць гістарычную памяць і зліквідаваць гістарычную традыцыю адносна Полацкага княства часоў Усяслава/Усяславічаў і св. Еўфрасінні. Па прачытанні і пераасэнсаванню тэксту дадзенага раздзела сапраўды з’яўляецца жаданне не крытыкаваць аўтара, а прабачце, адукоўваць, звычайна па-настаўніцку і цярпліва.

Глава 3 — *Полацкая ідэнтычнасць ва ўмовах трансфармацыі геапалітычных рэалій XVI-XVIII стст.* (аўтар Дзяніс Дук) падзяляецца на два раздзелы: 3.1. «Ля вытокаў новай ідэнтычнасці: Францыск Скарына»; 3.2. «Полацк пасля Лівонскай вайны: фарміраванне новай ідэнтычнасці». Зноў мусім канстатаваць, што назвы раздзела і падраздзелаў не адпавядаюць зместу. Вартыя і сапраўды адпаведныя рэальным гістарычным працэсам дэфініцыі — «новая ідэнтычнасць», «полацкая ідэнтычнасць», на самой справе ў рэцэнзуемым тэксце аказаліся толькі прыгожымі навуковымі словамі. Гэтыя смелыя, інавацыйныя словы выклікаюць зацікаўленасць і спадзяванні на новыя даследаванні. Аднак, татальнае расчараванне. Аўтар раздзела, сутыкнуўшыся з новымі вельмі важнымі і цікавымі археалагічнымі матэрыяламі, зрабіў кампілятыўныя, ужо даўно вядомыя высновы. Нават справядлівае сцвярджэнне пра навучанне Францыска Скарыны ў школе пры кляштары Бернардзінаў у Полацку, не змяняюць агульнага скептычнага ўражання ад прачытанага. Як і папярэднія главы і раздзелы, напісаныя Дзянісам Дуком, дадзеная таксама складаецца з фрагментаў яго тэкстаў, якія былі раней надрукаваныя ім у манаграфіях і артыкулах.

Пад час чытання кінуліся ў вочы нейкія вельмі дзіўныя лічбы пра колькасць насельніцтва Полацка ў XVII-XVIII стст. прадстаўленыя аўтарам (с. 58); (дарэчы, дадзены абзац перакачаваў з манаграфіі Д. Дука «Полацк і Палачане (IX-XVIII стст.)» (Наваполацк 2010, с. 71). У першай палове XVI ст. пражывала больш за 11 тыс., у першай палове XVII ст. — больш за 10 тыс., у 1654 годзе, у час ваеннага ліхалецця, засталося 700 чалавек, у 30-40-я гады XVIII ст. пражывала 3-4 тыс., па даных з 1792 г. — 2195 чалавек, па даных 1801 г. — 3837 чалавек, а ў 1805 г. — 2991 чалавек. Шчыра, нічога не зразумела, а калі сур’ёзна, дык дадзеныя дэмаграфічныя характарыстыкі не дазваляюць казаць пра Полацак як буйны і значны гарадскі цэнтр, прынамсі ў XVIII ст.

Аўтар дадзенага раздзела Дзяніс Дук выкарыстоўвае савецкі тэрмін «Лівонская вайна». Ужо даказана, што для гістарычнай рэчаіснасці ВКЛ і РП у другой палове XVI ст., зафіксаванай у крыніцах — дыпламатычная перапіска з Масковіяй і іншымі краінамі, асабістая перапіска паміж Радзівіламі, Хадкевічамі, Валовічамі, нарацыйныя тэксты, гэта была «вайна за Інфлянты», «Інфлянцкая вайна»[8]. Таму для нашага беларускага гістарыяграфічнага наратыву трэба ўжываць апошні тэрмін, які адпавядае мове крыніц і тагачаснаму кантэксту.

Нельга не пагадзіцца з аўтарам, што Полацак і Полацкае ваяводства не былі выключэннем у ВКЛ і, сапраўды, былі поліканфесійнымі, поліэтнічнымі і мультыкультурнымі. Шкада, што не знайшлося месца на старонках главы для грэка-каталіцызму (уніяцтва), яго ролі ў развіцці Полацка і яго ўплываў на свядомасць і культуру насельніцтва. Тым больш, што ўжо былі даступныя ў друкаваным выглядзе некалькі актавых кніг Полацкага гарадскога магістрата за XVII-XVIII стст.[9], дзе шмат дакументаў і фактаў пра значную ролю вернікаў уніяцкага абраду ў сацыяльным, палітычным і штодзённым жыцці Полацка.

Наступная, глава 4 — *Полацкая дзяржаўнасць у гістарычным наратыве XIX — пачатку XX ст. і новыя рэаліі Полацка ў складзе Расійскай імперыі*, падзяляецца на два раздзелы: 4.1. «Вобраз полацкай дзяржаўнасці ў беларускім гістарычным наратыве XIX — пачатку XX ст.» (аўтар Ігар Марзалюк); 4.2. «Фарміраванне «новай» гарадской прасторы і матэрыяльнай культуры насельніцтва Полацка ў складзе Расійскай імперыі» (аўтар Аляксандр Салаўёў).

Тэкст аўтарства Ігара Марзалюка гэта дакладны перадрук яго артыкула са зборніка па выніках канферэнцыі з 2012 год (адзначым, што былі

8 А. Янушкевіч, *Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558-1570 гг.: манаграфія*, Мінск 2007.

9 Да гэтага часу былі надрукаваны наступныя кнігі магістрата горада Полацка: *Актавая кніга полацкага магістрата 1650 г.: зборнік дакументаў* (склаў і падрых. да друку М. Ю. Гардзееў), Мінск 2006; *Акты книги полоцкого магистрата за 1656-1657* гг. (составитель — М. Ю. Гордеев, подготовка к печати — А. Б. Довнар), [у:] *Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX-XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV-XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке*, Минск 2012, с. 545-700; *Кніга магістрата места Полацка 1727 г.* (падрых. А. М. Латушкін, М. Д. Макараў), Вільня — Беласток 2012. Заўважым, што першае і другое выданні актавых кніг полацкага магістрата не з'яўляюцца поўнымі і дакладнымі (бо праігнараваныя дакументы на польскай мове), а таксама не да канца адпавядаюць сучасным патрабаванням археаграфічнай і эдытарскай практык.

ўнесены адзінкавыя рэдактарскія карэкты ў стылістыку нарацыі)[10]. Адпаведна навуковай этыкі папросту інфармуецца чытачоў, што гэта перадрук і падаецца першакрыніца з'яўлення дадзенага тэксту. Але, чамусьці ні асабіста аўтар, ні ўкладальнік ці рэдактар не палічылі патрэбным дадзенае адзначыць. Калі звярнуцца непасрэдна да тэксту І. Марзалюка, дык заўважым, што няма нічога заганнага і дзіўнага, што пачаткі будучай «беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі» сягаюць творчасці Восіпа Турчыновіча і Міхаіла Каяловіча, якіх без усялякай абразы адносяць да «заходнарускага» накірунку ў інтэлектуальным жыцці Расійскай імперыі сярэдзіны — другой паловы XIX ст. Іншай, папросту, не існавала.

Вельмі цікавы і варты ўвагі тэкст аўтарства Аляксандра Салаўёва прысвечаны фарміраванню «новай» гарадской прасторы Полацка ў часы Расійскай імперыі, напісаны пераважна на падставе археалагічных матэрыялаў. Знаёмства з ім яшчэ больш пераканала, што ўрбаністычныя навацыі XIX — пачатку XX ст. адпавядалі горадабудаўнічай палітыцы і практыцы, якія існавалі і рэалізоўваліся ў Расійскай імперыі. Яны, на жаль, не былі скіраваны на захаванне сярэдневяковых і барочных рыс горада. У выніку да канца XIX ст. Полацк ператвараўся ў тыповы расійскі правінцыйны горад. Праўда, развіццё капіталізму ў Расіі спрыяла тэхналагічнаму і прамысловаму развіццю населенага пункта, ператварэнню яго ў адзін з важных лагістычных цэнтраў на Заходняй Дзвіне, што натуральным чынам паўплывала на пашырэнне гарадской прасторы і з'яўленню новых архітэктурных аб'ектаў прамысловага і грамадзянскага характару, а таксама новых элементаў і прадметаў штодзённага жыцця.

Апошня, глава 5 — *Вяртанне да вытокаў: гістарычная спадчына Полацка ў сацыяльна-эканамічным развіцці горада ў XX ст.* (аўтар Аляксандр Агароднікаў)[11]. Змест тэксту дадзенай главы, на жаль, не адпавядае назве, як таксама не зразумела месца і роля «гістарычнай спадчыны» ў сацыяльна-эканамічным развіцці горада Полацка (заўважым, як кожнага іншага горада) у часы СССР. Праўда, варта пагадзіцца з высновай аўтара, што «справа захавання гісторыка-культурнай

[10] І. А. Марзалюк, *Вобраз полацкай дзяржаўнасці ў беларускім гістарычным наратыве XIX — пачатку XX ст.*, [у:] *Полацк у гісторыі і культуры Еўропы: матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Полацк, 22-23 мая 2012 г.)*, Мінск 2012, с. 52-60.

[11] Адзначым, што тэкст дадзенай главы гэта фрагменты дысертацыі аўтара. Гл.: А. А. Огородников, *Социально-экономическое развитие Полоцка в 1917-1991 годах*: 07.00.02, Могилёв. гос. ун-т им. А. А. Кулешова, Могилёв, 2018, 26 с., Библиогр.: с. 22-23 (13 назв.).

спадчыны Полацка ў савецкі перыяд (1917-1991 гг.) вылучалася супярэчлівасцю: гэта быў час незаменных страт, але ў той жа час і значных здабыткаў». Калі з «незаменнымі стратамі» ўсё зразумела — савецкая ўлада на тэрыторыі Беларусі мэтанакіравана знішчала ўнікальныя культурныя, мастацкія і архітэктурныя помнікі. Напрыклад, у Полацку ў студзені 1964 г. знішчылі Свята-Мікалаеўскі сабор (былы езуіцкі касцёл св. Станіслава) з некаторымі будынкамі былога Полацкага калегіюма. Але пісаць пра «значныя здабыткі» на прыкладзе двух фактаў — стварэнне Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка і рэстаўрацыі Сафійскага сабора ў яго барочнай версіі з XVIII ст. (бо будынак першапачатковага сабору з сярэдзіны XI ст. быў знішчаны яшчэ расейскім царом Пятром І, нібы праваслаўным і так шанаваным да сённяшняга дня ў пераважнай частцы беларускага грамадства, пра што аўтары манаграфіі маўчаць) трохі не сціпла.

У *Заключэнні* (аўтар Дзяніс Дук) у пяці пунктах, адпаведна колькасці «глаў» манаграфіі зроблены канкрэтныя высновы (а так, шчыра кажучы, паўтораныя з апошніх абзацаў кожнай главы). Праўда, захоўваецца пачуццё, што мы маем як у студэнцкім дыпломным праекце абавязковыя высновы ці галоўныя палажэнні, якія аўтар (тут аўтары) павінны абараніць перад камісіяй. Нарацыйна тэкст заключэння ўспрымаецца вельмі цяжка з-за яго размытасці і нелагічнасці. Але праўда ў тым, што гэта сапраўды тыя высновы, да якіх прыйшлі аўтары рэцэнзуемай калектыўнай манаграфіі.

Асобна звернем увагу на *Бібліяграфічны спіс*. Высвятляецца, што ў ім адсутнічаюць наступныя аўтары, якія прысвяцілі свае даследаванні мінуламу Полацка — Васіль і Валянцін Булкіны, Іван Ерамееў, Андрэй Дварнічэнка (Санкт-Пецярбург), Мікола Ермаловіч, Генадзь Семянчук, Аляксей Шаланда, Алесь Жлутка, Андрэй Янушкевіч, Мікола Плавінскі (Беларусь), Марыя Філіповіч (Украіна), ніводнага польска- і нямецкамоўнага аўтара. Такім чынам аўтары не толькі паказваюць сваю навуковую абыякавасць да папярэднікаў і сучаснікаў, але падобнай пазіцыяй вызначаюць праблемы і аспекты полацкай гісторыі, дзе іх не цікавяць альтэрнатыўныя думкі і меркаванні. Аўтары рэпрэзентуюць своеасаблівы навуковы «эгацэнтрызм», упэўненасць і даказанасць сваіх поглядаў, канцэпцый і высноў. Для падмацавання ўласных высноў у бібліяграфіі прадстаўлены 27 тэкстаў Дзяніса Дука, 13 тэкстаў Аляксандра Салаўёва, 4 тэксты Ігара Марзалюка і 3 тэксты Юрыя Кежы. А якая навуковая вартасць 11 тэкстаў з газеты «Полацкі веснік». Цяжка зразумець значнасць для навуковай манаграфіі тэкстаў з «Энцыклапедыі Брокгаўза і Эфрона» — «Керасін-Коайе» і «Паровые котлы».

Нават фармальнае афармленне пазіцый у *Бібліяграфічным спісе* ўтрымлівае неахайнасць і жудасныя памылкі: адсутнічае аўтар артыкула «Борьба за Полоцк в „Новой прусской хринике” Виганда Марбурского» (а гэта Вера Іванаўна Матузава); для саліднасці два разы прадстаўлены артыкул Юрыя Кежы «Да пытання аб станаўленні ўлады Рагвалодавічаў у Полацку» з 2014 года; справаздача Вольгі Кукуні, прадстаўлена як навуковы тэкст — артыкул; няма ў прыродзе манаграфіі на 743 старонкі аўтараства Вольгі Ляўко «Древнейшие города Беларуси: Полоцк», выдадзенай у 2012 годзе; навошта два разы ў спісе «Іпацеўскі летапіс», выдадзены ў 1908 і ў 1962 годзе. Толькі аўтары «манаграфіі» ведаюць аўтара і наступнае выданне: Янінаў В. Л. Берасцяныя граматы аб абароне Наваградскага рубяжа ў 13 стагоддзі / В. Л. Янінаў // Князь Аляксандр Неўскі і яго эпоха: матэрыялы і даследаванні. — СПБ., 1995. — с. 128-133. (пададзена на мове арыгінала з *Бібліяграфіі* — Г. С.).

Навацыяй у навуковай практыцы і агульнапрынятых бібліяграфічных апісаннях з’яўляецца інфармацыя хто знайшоў той ці іншы дакумент: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. — Фонд 1430. Воп. 1. — спр. 39497. — арк. 17. (дакумент знойдзены І.П. Водневай, загадчыкам краязнаўчага музея — філіяла РПГЛЗ; выкарыстаны ў падрыхтоўцы артыкула «Віцебскія старажытнасці» да 100-годдзя Віцебскага абласнога краязнаўчага музея; знаходзіцца ў друку); Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. — ф. 2602. Воп. 1, — спр. 46. — арк. 5 (дакумент знойдзены Ю.А. Аўчыннікавай, магістрам гістарычных навук, загадчыкам навукова-рэстаўрацыйнага аддзела Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка).

Некалькі слоў адносна мовы рэцэнзуемай калектыўнай манаграфіі — велізарная колькасць арфаграфічных, лексічных, стылістычных і пунктуацыйных памылак папросту, як гаворыцца, зашкальвае. Пераклады на беларускую з мову з ранейшых рускамоўных тэкстаў некаторых аўтараў (Яна Рыер, Аляксандр Агароднікаў, Аляксандр Салаўёў) нібы выконваліся з дапамогай камп’ютарнай праграмы GOOGLE TRANSLATE, а перадрукаваныя фрагменты беларускамоўных тэкстаў (Дзяніс Дук, Ігар Марзалюк) звычайна не вычытаныя. Як часта бывае апошнія дзесяцігоддзі — аўтары, рэдактары, карэктары, рэцэнзенты забыліся на шанаванне і павагу да роднай мовы.

На заканчэнне з’явілася жаданне выказацца, што вобраз нашага роднага беларускага і еўрапейскага горада Полацка, які з’яўляецца пачаткам беларускага радаводу, на жаль, некаторымі аўтарамі рэцэнзуемай калектыўнай манаграфіі прадстаўлены (Дзяніс Дук, Ігар Марзалюк) з элементамі абыякавасці, з вялікай колькасцю агульных слоў

і неабгрунтаваных высноў. З іншага боку частка тэкстаў, асабліва напісаныя маладымі навукоўцамі (Юры Кежа, Аляксей Коц, Яна Рыер, Аляксандр Салаўёў, Аляксандр Агароднікаў) вартыя ўвагі, дапаўняюць нашыя веды новымі фактамі і заклікаюць да новых меркаванняў адносна мінулага горада Полацка.

**Генадзь Семянчук**

# Księgarnie prowadzące ciągłą sprzedaż publikacji BTH

*Białystok*
AKCENT, ul. Rynek Kościuszki 17

*Warszawa*
Główna Księgarnia Naukowa im. B. Prusa, ul. Krakowskie Przedmieście 7
LIBER, ul. Krakowskie Przedmieście 24
LIBER, ul. Dobra 56/66 (gmach Biblioteki Uniwersyteckiej)

*Poznań*
Poznańska Księgarnia Naukowa „Kapitałka”, ul. Mielżyńskiego 27/29

*Mińsk (Białoruś)*
www.knihi.net; tel. 643 57 33; Кнігі поштай, 220 050 Мінск, п/с 333

# Publikacje Białoruskiego Towarzystwa Historycznego

„Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі Гістарычны Зборнік”, nr 1-50, Białystok 1994-2016 — red. J. Kalina (nr 1-4), E. Mironowicz (nr 5-50); **nr 1, 2, 3, 13 — sprzedane**; **nr 4-12, 14-55 cena 20 zł + koszt wysyłki**

Wiesław Choruży, *Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990*, red. E. Mironowicz, Białystok 1994, ss. 148, il. **sprzedana**

Irena Matus, *Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej*, red. O. Łatyszonek, Białystok 1994, ss. 234, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim*, red. A. Mironowicz, Białystok 1995, ss. 193, il. **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923*, Białystok 1995, ss.273, il. **cena 30 zł + koszt wysyłki**

*Białorusini i stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyźnie 1944-1956*, tom I: sierpień 1944 — grudzień 1946, część 1: sierpień 1944 — grudzień 1945, opr. S. Iwaniuk, Białystok 1996, ss. 256, **cena 15 zł + koszt wysyłki**; część 2: styczeń — grudzień 1946, Białystok 1998, ss. 233, **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Helena Głogowska, *Białoruś 1914-1929. Kultura pod presją polityki*, Białystok 1996, ss. 238, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Orla na Podlasiu. Dzieje Cerkwi, miasta i okolic*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1997, ss. 194, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Teodozy Wasilewicz, archimandryta słucki, biskup białoruski*, Białystok 1997, ss. 71 **sprzedana**

*Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych*, oprac. A. Mironowicz, Białystok 1997, ss. 201 **sprzedana**

*Pieršy zjezd biełarusaŭ svietu (8-10 lipienia 1993 h., h. Minsk). Materyjały i dakumienty,* układalnik H. Surmač, Minsk, 1997, ss. 335, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Życie monastyczne na Podlasiu*, Białystok 1998, ss. 118 **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski*, Białystok 1998, ss. 127 **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Parafia Ryboły*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1999, ss. 210, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Aniela Katkovič, Vieranika Katkovič-Klentak, *Uspaminy*, red. Ł. Hłahoŭskaja, V. Charužy, Biełastok 1999, ss. 142, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Kossow, biskup białoruski, metropolita kijowski*, Białystok 1999, ss. 144 **sprzedana**

„Naš Radavod. Kniha 8. Biełarusy i palaki: dyjałoh narodaŭ i kultur. X-XX st.", redaktary: D. Karaŭ, A. Łatyšonak, Hrodna — Biełastok 1999 (2000), ss. 628 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Polityka narodowościowa PRL*, red. O. Łatyszonek, Białystok 2000, ss. 285 **sprzedana**

Irena Matus, *W Puchłach, Stawku, Trześciance. Z dziejów oświaty ludu białoruskiego na Podlasiu*, red. D. Wysocka, Białystok 2000, ss. 176, il. **sprzedana**

Małgorzata Moroz, *"Krynica". Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu*, red. E. Mironowicz, Białystok 2001, ss. 230 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Pasynki i okolice*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2001, ss. 282, il. **sprzedana**

Marjan Pieciukievič, *Kara za słužbu narodu. Abrazki ssylnaha žyćcia*, Biełastok 2001, ss. 200, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

*Piotr Sierhijewicz 1900-1984. Ze zbiorów prywatnych*, Gdańsk — Sopot — Gdynia 2002, ss. 24, katalog wystawy. **sprzedana**

Jan Tarasiewicz/Jan Tarasievič, *Pieśń miłości. Utwory na fortepian pod redakcją Ihara Ałoŭnikava / Piesnia kachannia. Tvory dla fartepijana pad redakcyjaj Ihara Ałoŭnikava,* Minsk — Biełastok 2002, ss. 132 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Józef Bobrykowicz, biskup białoruski*, Białystok 2003, ss. 214 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Mikoła Škialonak, *Biełaruś i susiedzi*, Biełastok 2003, ss. 300 **sprzedana**

Aniela Kotkowicz, Weronika Kotkowicz-Klentak, *Od Budsławia do GU-Łagu*, red. H. Głogowska, W. Choruży, Białystok 2003, ss. 140 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Czetwertyński, biskup białoruski*, Białystok 2004, ss. 158 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Cina Kłykoŭskaja, *Sajuz Biełaruskaj Moładzi. Viartańnie z zabyćcia*, Biełastok 2004, ss. 228 **sprzedana**

Marjan Pieciukievič (Marian Pieciukiewicz), *Listy. Listy (1956-1982)*, Biełastok 2005, ss. 156, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Szczyty. Dzieje wsi i parafii*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2005, ss. 434, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Kościół prawosławny w Polsce*, Białystok 2006, ss. 918 **sprzedana**

Viktor Stachwiuk, *Siva zozula*, Biłostuok 2006, ss. 196, il.
**cena 15 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Serafion Połchowski, władyka białoruski*, Białystok 2007, ss. 166 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Piotr Chomik, *Kupiatycka Ikona Matki Boskiej. Historia i literatura*, Białystok 2008, ss. 128 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Anton Miranovič, *Pravasłaŭnaja Biełaruś*, Biełastok 2009, ss. 352 **sprzedana**

*Wizytacje cerkwi unickich dekanatu nowodworskiego diecezji supraskiej*, opr. P. Borowik i G. Ryżewski, Białystok 2009, ss. 184 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Jazep Najdziuk, *Paznavajma historyju biełaruskaha narodu*, Biełastok — Inaurocłaŭ 2010, ss. 316 **cena 25 zł + koszt wysyłki**.

Siarhiej Dubinski, *Bibliohrafija pa archieolohii Biełarusi i sumiežnych krain (spadčyna archieołaha)*, Biełastok 2010, ss. 338 **sprzedana**

*Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny*, opr. M. Kondratiuk, Białystok 2011, ss. 372 **cena 40 zł + koszt wysyłki**

Łarysa Geniusz, *Ptaki bez* gniazd, Białystok 2012, ss. 331 + audiobook: Łarysa Hienijuš, *Ptuški biaz hniozdaŭ* (w języku białoruskim), **cały nakład został rozdany**

Danuta Kuczyńska, *Łuka nad Narwią. Pamięć jest skarbem bezcennym*, Białystok 2013, ss. 72, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Barbara Tomczuk, *Białoruskie Towarzystwo Historyczne. XX*, Białystok 2013, ss. 200; książkę można bezpłatnie otrzymać w siedzibie Białoruskiego Towarzystwa Historycznego w Białymstoku (ul. Proletariacka 11)

*Historia Białorusinów Podlasia,* red. S. Iwaniuk, O. Łatyszonek, Białystok 2016, **cena 50 zł + koszt wysyłki**

Michał Sierba*, Radziwiłłowskie dobra Orla (1585-1695),* red. O. Łatyszonek, Białystok 2017, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej,* red. O. Łatyszonek, Białystok 2017, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, Iryna Matiash, Dorota Michaluk, *Iwan Kraskowski (1880–1955). W służbie Białorusi i Ukrainy,* Białystok 2019, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

Helena Głogowska, *„Za Białorusią świata nie widział". Rzecz o Teodorze Iljaszewiczu — białoruskim poecie, historyku i działaczu,* Białystok 2021, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, Iryna Matiash, Dorota Michaluk, *Iwan Kraskowski (1880–1955). W służbie Białorusi i Ukrainy,* (drugie wydanie) Białystok 2022, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

**Publikacje, których Białoruskie Towarzystwo Historyczne było współwydawcą**

Krystyna Mazur, Doroteusz Fionik, *Bielsk Podlaski — miasto pogranicza*, Białystok 2003, ss. 144 **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Od Rusinów Białych do Białorusinów*, Białystok 2006, ss. 388 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, ss. 296 **sprzedana**

**Publikacje BTH można zamawiać drogą elektroniczną**
kamunikat@kamunikat.org **albo** bzh@neostrada.pl
**lub faksem:** + 48 (85) 744 61 11

## Падпіска на „Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі Гістарычны Зборнік”

кошт №№ 3 — 16 / 12 зл./ асобнік
№№ 17 —34 / 15 зл. асобнік
№ 35 і наступныя / 20 зл. — паўгадавая падпіска (1 нумар)
40 зл. — гадавая падпіска (2 нумары)

Вышэйпададзеную суму, у якую ўлічаны ўжо кошт пасылкі, трэба пералічыць на рахунак Беларускага Гістарычнага Таварыства: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Bank Pekao S.A. Oddział w Białymstoku, ul. Rynek Kościuszki 7, 15-950 Białystok
70 1240 5211 1111 0000 4930 2882

## Адрас Беларускага Гістарычнага Таварыства

15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, Polska tel.: (+48) 85 744 61 11; e-mail: bzh@neostrada.pl
**У Інтэрнэце пра выданьні Беларускага Гістарычнага Таварыства**
http://kamunikat.org/bzh.html
http://bzh.kamunikat.org